

# 7

ЛІПЕНЬ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ
ЧАСОПІС



# МАЛАДОСЦЬ

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ



Выдавецтва ЦК КП Беларусі



Заснаваны ў 1953 годзе



Вокладка **Я. Раманоўскага.**

Шмуцтытулы **Ю. Зайцава** (стар. 3) і **В. Ждановіча** (стар. 105).



# ПАЭЗІЯ

- Рыгор БАРАДУЛІН
- Васіль ВІТКА
- Таіса БОНДАР
- Сяргей ЗАКОННІКАЎ



- Уладзімір КАРПАЎ
- Мікола МАЛЯЎКА
- Эдуард ЯРАШЭВІЧ
- Хаім МАЛЬЦІНСКІ
- Вадзім БОЙКА

# ПРОЗА





рыгор барадулін

*

ПАЭЗІЯ

*

## Вязынка

Вязынка.
Адсюль вёз
Янка,
Сын Даменіка,
Каб навекі
пагарда знікла
Да роднай мовы,
Да роднага краю,
Вёз
праз крумкачовую зграю
Вязанку
галінак надзеі,—
Каб зямля маладзела,
Каб яе не мінала нядзеля!
Светлай хвіліны
Няма ані.
Чорныя рукі...
Чорныя дні,
Як чорныя ночы...
На рукі
Хапае мукі.
Адно без прынукі
Блакітам дзяліліся
З небам вочы...
Згарэла знічкай
Сляза скупая
На небасхіле
Вачэй Купалы.
Маланкі гневу
Яго асвецяць.
Крывёй варожай
Свабоду свенцяць!
Даволі цемры!
Начэй даволі!
Дрэвы—да сонца,
Людзі—да волі
Цягнуцца праз усе стагоддзі.
Хамут абразы
Цягнуць нам годзе!
Даволі гнуцца
Вярбінай ніцай.
Нам час напіцца
З чыстай крыніцы—
Яна прагоніць
Усю знямогу,
Напоўніць верай
У перамогу!
Дарэмна
Імперыя злая,
Вязынка,
Мела сына твайго
За пасынка!
Стаў ён
Найлюбым сынам свету.
Вязынка,
Дзякуй табе за гэта!
Вязынка,
Ты з вечнасцю
Славай Купалы звязана.
Зоры бяссмерця
На Янкаву хату ўглядаюцца.
Калыска пад столлю
Зорным каўшом
Гайдаецца...

■

Яе Няўмольнасць Хімія
Штодзень бярэ разгон.
Далей, мядзведзі-схімнікі!
Бары, палеткі сінія—
Ну чым не палігон?!

Навошта ёй баласт такі,
Як песня жаўрука,
Як шчабятанне ластаўкі?
Сып, шчодрая рука!

Няхай сабе пад кручамі
Драчы кустоў праз пяць
Будзільнікі падкручваюць—
Світанне б не праспаць!

Кустоўнікі алешніку —
Галоўны корань зла—
Знішчаюцца паспешліва.
Была ці не была!
Драчоў, як душы грэшныя,
Абсыплюць з-пад крыла!

А калі план даведзены—
Выконваць будзь ласкаў!
Паляны ўсе аб'едзены,—
Нібыта на агледзіны
Пажар хутчэй скакаў.

А поплаў будзе марніцца—
Пярэч ці не пярэч!
Пчала-самаахвярніца,
Ад медуніцаў прэч!

Запэўнілі вучоныя,
Што крохкі штучны лёд,
Духмяны лес капронавы
І сінтэтычны мёд!..

## *Прыпар*

*Алегу САЛТУКУ*

Ні рыбакоў,
Ні лайдакоў,—
Сягоння ў адгуле
Возера Павулле.
І ўся,
Ад пят да макаўкі,
У сене вёска Якаўкі.
Зімой быць хочаш з малаком,
Мянціць не будзеш языком!
Мянці касу,
Будзі расу!
Займай пашырай паласу!
З пагодай не кажы да трох.
Цвялі касу,
Валі мурог.
Абы цябе мурог
Не змог!
А не накосіш мурагу,
Аб тым карове ні гу-гу!
Машынкі рэдакцыйнай стук
Забудзься,
Друг каханы,
Шчырэй з касой,
Алег Салтук,
Далёкі цёзка хана!
Са школы помніш,
Што Кальцоў
Быў не апошні між касцоў!
Тапчэўскі Фелікс,
Твой зямляк,
І ў гэтай справе ведаў смак.
Адбілася вада ад рук.
Урочышча,
Як вулей.
Ляціць з балота цецярук
Напіцца у Павуллі.
Там ценям чаратоў
Кулік
Вядзе дакладнейшы падлік.
Над польным морам чаіца
Сама з сабой спрачаецца.
Валун адлежвае бакі,
Як пастамент,
Чакае,
Хто стане на яго такі?
Ці ёсць патрэба тая?
А ноччу,
Млоснай ноччу
Стагам даверац вочы
Ён і яна,
Яна і ён.
І да відна
Забудуць сон.
І песню ранішняй тугі
Пачуюць зноўку берагі:
— Ах, мой смутак,
Ну чаму так
Я журыцца змушана?
Толькі рута
Не кранута,
Грушына
Не рушана...



■

Клапоты па баку!
Вясёлым дзецюком
Праходжу па Баку
З Яўгенам Лецюком.

А ў бераг хваля цюк,
Паспаць рэкамендуе.
Пяе Яўген Ляцюк
Пра поўню маладую.

Чаго ж мой друг зачах?
Чаго туга ў вачах?
Чаго туга такая?
Ці не хапае нечага?
Раўнівая Данеччына
Яго не адпускае.

Ён падпісаў мне кнігу
«Трэцяе вясло»,
Каб човен нашай дружбы
Плыў роўна—ўсім назло!

Я песню ўспамінаю,
Спявала маці мне:
Па сінім Дунаі
Плыў месяц у чаўне.

Прайшлі гады —
Тады,
Як прыязджаў дадому,
Пыталася знаёма:
— А што ж цябе прынясло,
Ці чаўночак,
Ці вясло?..

■

Метэазвàдам рад,
Толькі б мне зноў напрарочылі
Чэрвеньскі белы град,
Босыя ногі дзявочыя...

Мокры лясок, пясок.
Вочы, як мары, сінія...
Бліскаўкі паясок
Гоніцца за гаспадыняю.

Хмары цяжкой абвал,
З перуном заручонай ліўнямі.
Нерваў аголеных пал—
Высакавольтная лінія!..

Толькі таго й было:
Беглі сляды ласіныя...
Сіваваронкі крыло...
Вочы, як мары, сінія...



васіль вітка

# ДАРОГІ ПЕСНЯРА

## АПАВЯДАННІ З ЖЫЦЦЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

● Мал. У. Пашчасцева.

## КАЗКА

Як любіў ён летнія ночы ў лесе! Толькі ляжа на зямлю вячэрні прыцемак, і малы Янка пачынае ўпрошваць бацьку:

— Татачка, вазьмі мяне з сабою.

Пры начлежным вогнішчы столькі цікавага расказваў бацька. Звычайна маўклівы ўдзень, ноччу пры агні ён ажываў душою, рабіўся такі гаваркі, што, здаецца, слухаў бы і слухаў.

Сёння незвычайная ноч — купальская, у якую хлопчык нарадзіўся. Таму і назвалі Янам. Сёння ён не засне. А што, калі праўда гэтай ноччу зацвітае лясная папараць?

У лес яны прыехалі, калі ўжо дагарала вогнішча, а вакол яго, напрацаваўшыся за дзень, спалі моцным сном начлежнікі.

Толькі спуталі коней і пусцілі на пашу, Янка падбег да вогнішча і па сухой галінцы пачаў падкідаць у агонь. Вогнішча радасна ажыло. Успыхнулі вясёлыя выбліскі полымя, і ўсё навокал заварушылася ў таямнічым святле.

Зашумелі ў верхавінні высокія сосны. Затрапяталі лісцем палахлівыя асіны. І цяжка, на ўсе грудзі, уздыхнуў стары адзінокі дуб.

Янка ведае, што бацька разгаворыцца не адразу. Няхай адпачне, пасядзіць, памаўчыць, падумае. Сын не хоча быць назолаю.

Дамінік Луцэвіч, услухаўшыся ў начную таямнічасць лесу, сам пачынае здалёк і няўпэўнена:

— Хто яго ведае, можа і праўда...

Янка здагадваецца, якія думкі трывожаць бацькаву душу, і каб патрапіць у іх плынь, паціху пытаецца:

— А ці шукаў хто, татачка?

— Дзіва што, шукалі,— уздыхае бацька.

— І не знайшлі? — нецярпліва пытаецца Янка.

— О ты, Ясю, яшчэ не ведаеш пушчы. Яна можа нагнаць на чалавека такога страху, што калі хто і знойдзе тую кветку, дык пакіне і ўцячэ...

Янка ўсхопліваецца з месца. Ён выпростваецца на ўвесь свой дзіцячы рост. У голасе пачулася няўрымслівая адвага. Бацька, сумеўшыся, паглядзеў на сына і ласкава сказаў:

— Рана табе, Ясю... Паглядзі коней ды кладзіся спаць. Заўтра на цямочку павязем збожжа ў млын...

Захінуўшыся ў доўгі кажух, Дамінік Луцэвіч адварочваецца ад агню.

Янка адышоўся ад вогнішча. І адразу ж цемра асляпіла яго. Але паступова вочы пачалі прывыкаць да ляснога мораку. Вось ён намацаў нагамі сцежку, стаў заўважаць і дробны зараснік паміж дрэў. Але чым далей у лес, тым вусцішней і трывожней. Невядомая сіла ўжо запаланіла ўсю істоту. Так і вабіць, так і цягне ісці далей і далей.

Расхінаючы рукамі голле, Янка ўваходзіць у самую глыб пушчы. Вакол насцярожаная цішыня. Толькі чуваць, як патрэсквае сухое ламачча. Сонная спалоханая птушка ўспырхвае з-пад самых ног. Хістанула цяжкай лапай замшэлая яліна. Сцежка канчаецца. Трэба пераразіць цераз паваленае старое дрэва. Хлопчык хапаецца за яго сухія сукі. Яны трашчаць і ломяцца ў руках. Чым далей у лясныя нетры, тым гусцей папараць. Цэлыя лясы густой высокай папараці. Цяжка прабівацца праз яе гушчыню. Буйнымі халоднымі кроплямі сыплецца раса. Янка не заўважае, што вопратка на ім прамокла. Ён прадзіраецца праз нетры папараці. Знянацку мільгануў агеньчык. Але што за дзіва: ён не гарыць, а блішчыць кволым, халодным святлом.

Янка нагінаецца, разграбае прэлае лісце, падымае крохкі кругляччок, сціскае яго, і збуцвелая пацяруха сыплецца паміж пальцаў. Над галавой, над цёмнымі ялінамі пачынае займацца золак...

Начлежнікі яшчэ спалі, калі ён вярнуўся да агню. Не спаў толькі ўстрывожаны Луцэвіч. Убачыўшы вымаклага, прадроглага і зняможанага Янку, ён здагадаўся, чаго сын блукаў па лесе ў гэтую ноч. Ён зняў з Янкі мокрую світку, разапнуў яе на галіне, падкінуў у агонь сушняку і ўхутаў хлопчыка ў свой кажух.

— Грэйся.

— Тату, а ты верыш? — няўпэўнена спытаўся сын.

— Без веры, Ясю, нельга жыць.

— Толькі ты не кажы нікому, татачка...— паціху папрасіў Янка і, памаўчаўшы, дадаў: — Засмяюць...

— А навошта казаць,— супакоіў бацька.— Не ты адзін...



— І ты шукаў, татачка? — у здзіўленым узрушэнні падняў галаву Янка.
— Я ўсё жыццё шукаю, сыночак...
Хлопчык дапытліва паглядзеў на бацьку. І толькі цяпер ён зразумеў, што не папараць-кветка займае думы старога. У жыцці ёсць больш цяжкі клопат.

## ЖАЛЕЙКА

Разбітая каляасьмі гразкая дарога. Паўзуць дзве фурманкі, нагружаныя хатнім скарбам: Луцэвічава сям'я едзе на новае прыстанішча. На першым возе — бацька з сынам, на другім — маці з дочкамі.
Восень. Голыя палі. На прыдарожных дрэвах трымціць зжоўклае лісце. Чырванеюць арабіны.
Дзень хмурны, імжыць дождж. Па іржэўніку разбрылася чарада кароў. Каля іх снуе малы пастушок, склікае статак.
Янка доўга ўглядаецца ў падпаска, тулячыся да бацькі.
— Тата, куды мы едзем?
— На чужую зямлю, сынку.
— А сваёй мы ніколі не мелі?
— Мелі некалі, даўно, калі я быў вось такім, як ты. Але князь Радзівіл сагнаў з зямлі майго бацьку. Сагнаў і хату, гняздо наша, раскідаў, каб і зачапіцца душою не было за што...
— Як жа гэта? І ніхто не заступіўся? — падняў на бацьку здзіўленыя вочы Янка.
— Хто заступіцца,— махнуў рукою Луцэвіч.— Іх сіла, іх і права. У суд быў падаў бацька. Ды хіба з багатым беднаму судзіцца? Пакуль з багатага пух, то з беднага дух. З таго часу і бадзяемся, шчасця шукаем,— дадаў ён з горкай усмешкай у голасе і паварушыў лейцамі: — Н-но, весялей, браток! Хутка прыедзем.
Душа хлопчыка поўніцца няяснай трывогай. Што іх чакае на чужым хутары? У горадзе бацька купіў быў свайго каня і ездзіў рамізнікам. Янка навучыўся грамаце. Ён так любіць чытаць, што кожнай кнізе радуецца, як вялікаму шчасцю. Ці давядзецца яму зноў пабачыць кнігу?
Плача, галосіць берасцяная жалейка. Янка ўслухоўваецца ў яе самотныя гукі. Малы падпасак подбегам спяшаецца да дарогі. За ўвесь доўгі і нудны дзень гэта ўсё ж падзея — едуць у свет людзі, усёй сям'ёй. Дзіцячая дапытлівасць і цікаўнасць так і свецяцца ў вачах пастушка. Ён стаіць пры самай дарозе, басанож, на жытнім іржышчы. Вопратка на ім — лата на лаце, вышмарганая шапка-стаўбун ссунулася на самыя вушы.
Захутаны ў стары кажух, Янка не зводзіць вачэй з падпаска.
— Цяжка яму, маломy,— гаворыць ён бацьку.
— Гора, сынку не пытаецца — цяжка ці лёгка,— адказвае Луцэвіч і глыбока ўздыхае.
На руках у маці плача малое дзіця.
Паўзуць адна за другой фурманкі. Далёка ўжо астаўся пастушок, але Янка ўсё яшчэ глядзіць у той бок: лёс малога парабка не дае спакою яго думкам.
Бязлітасны вецер, налятаючы на прысады, зрывае лісце і кідае яго на дарогу, у глеістыя каляіны, пад самыя калёсы.



Амаль да зямлі прыгінае віхар і малады дубок, што стаіць н адзіноце. Але той упарта не паддаецца, і як толькі мінае навала, а разу ж выпростваецца і стаіць — гнуткі і стромы — і, радуючы перамозе, зноў пацíху шуміць над дарогай.

## ЛІРНІК

Карчма на дарожным скрыжаванні. Тут заўсёды поўна людзе што шукаюць работы: парабкі, цесляры, пільшчыкі, грабары, фу маншчыкі.
— Ці ёсць хто з-пад Барысава? — пытаецца ў гурце мужчын Д мінік Луцэвіч.
— Я з-пад Барысава,— адказвае селянін з сякерай за поясам.
— Чуў, лясы ў вас пад поле карчуюць. То як там зямля родзіць
Селянін махае рукой:
— Ты лепш спытай — на што яна нас саміх на свет нарадзіла. А ў цябе, чалавеча, які клопат?
— Ат, браце,— толькі свайму ворагу пажадаць.
— Бяда, мабыць, якая.
— А такая, што хоць ты жыўцом у пятлю лезь,— горка ўздыха Луцэвіч.— Учора пазваў мяне пан і загадаў выбірацца. Не сплаці кажа, арэнды — вон з хаты. Вон і вон, як на сабаку валацужнага. Такі, брат, іх закон і праўда...
Стары Дамінік змаўкае. Маўчыць і яго субяседнік, які, відац таксама нямала зазнаў у жыцці, таму і ведае, што бядзе словам н вельмі паможаш.
— А сям'іска вялікае маеш?
— Сямёра, а гэта — самы большы, памочнік мой,— паказва Луцэвіч на Янку, што стаіць воддаль у кутку.— Да навукі горнецц без кнігі жыць не можа, такі цікаўны і здатны. Вучыцца б яму А я яго з дзіцячых год у ярмо ўпрог... І спосабу іншага няма... Ня жо ж і дзецям нашым такая, братка, доля, як і нам?..
Невыказная крыўда і адчай сціснулі горла. Луцэвіч ужо не мож вымавіць слова...
Ля сцяны, у цёмным куце, прытуліўся жабрак, абвешаны торбам На каленях у яго ліра. Ён круціць корбу і ні то спявае, ні то ра казвае:

А той слаўны Кастусь,
Той адважны Каліноўскі:
— Жыві, кажа, народзе,
Жыві ў шчасці, свабодзе,
І часам успомні пра Яську свайго,
Што загінуў для дабра твайго,
А калі слова пяройдзе ў дзела,
Тады за праўду станавіся смела...

Падлетак Янка прагна ўслухоўваецца ў апавяданне лірніка, п тым нахіляецца і пытае:
— А каб цяпер, дзеду, усе людзі сабраліся ды на паноў?..
Лірнік спалохана перапыняе:
— Што ты, што ты, хлопча...
— А Каліноўскі не збаяўся,— стаіць на сваім Янка. І ў голас яго чуецца горды выклік.

Лірнік ласкава бярэ хлопца за руку, садзіць каля сябе. І паціху, ужо толькі яму аднаму, расказвае далей:

— Не збаяўся, голубе. Не збаяўся. І на вісельню ішоў з паднятай галавой. Пасярод горада вешалі, у Вільні. Народу збеглася. Што там рабілася! Жандары, як звяры — так і шныраць вачыма. Пад шаблямі вывелі яго на памост, а ён глянуў на нас — малады, прыгожы,— пакланіўся ўсім і кажа: — Стойце, людзі, за праўду, праўда заўсёды верх возьме!

## ГОРА

Задзірванелае ляда ледзьве паддаецца сашніку. Па разоры за плугам ідзе Янка — босы, у палатнянай, наросхліст, сарочцы. Вецер блытае валасы. Араты з усяе сілы налягае на плуг, каб памагчы зняможанаму каню.

— Но, мой браце, но, мой мілы...

Твар залівае пот, сохнуць, смягнуць губы. З канца палетку, насустрач аратаму, у павязанай нізка на самыя вочы белай хусціне, спяшаецца дзяўчынка. Нядобрае прадчуванне сціскае сэрца Янкі. «Няўжо?» — выблісквае, як маланка, думка.

Янка ўжо даўно ўбачыў, што бяжыць да яго сястра Лёдзя. Перад сабой яна трымае цяжкую дубовую біклагу. Добра глынуць халоднай вады, асвяжыцца. Янка аблізаў засмяглыя губы. Але тая трывога, што кранула сэрца, раптам сціснула вострым болем усю істоту, калі ён зблізку ўбачыў твар сястры. Араты спыніў каня. Хоць дзяўчынка і адводзіла вочы і, не могучы аддыхацца ад хуткае бягі, яшчэ не вымавіла ніводнага слова, брат ужо здагадаўся, што ў хаце зноў жахлівы госць. Зусім нядаўна памёр бацька — без пары, без часу. Надарваўся на гэтым вось панскім полі, карчуючы расцяробы і варочаючы каменне. А неўзабаве зноў няшчасце — увалілася шкарлятына. Злеглі ўсе дзеці. Заўчора памёр Казік. Ледзь падняліся Маня, Анця і вось Лёдзя. Сабіна і Гэля ляжаць плазам. Раніцай, калі ён выязджаў у поле, сёстры былі ў непрытомнасці.

— Чаму ты маўчыш? — у трывозе пытаецца Янка.

Малая, усё яшчэ цяжка дыхаючы, падае яму біклагу.

Араты, адкінуўшы назад галаву, прагна п'е ваду, якая льецца па змарнелым твары, па грудзіне, па чорнай ад поту сарочцы.

— Чаму ты маўчыш? — перапытвае ён і падымае на сястру насцярожаныя вочы.

Лёдзя раптам заходзіцца плачам.

— Няма ўжо, братка, іх. Памерлі Сабіна і Гэля...

Калі Янка прыбег дадому, малыя нябожчыцы ляжалі ўжо на стале, накрытыя белым паркалем. Над імі стаялі заплаканыя сёстры, слабыя, знясіленыя хваробай. Ломячы ў роспачы рукі, галасіла маці:

А вочанькі ж мае ясныя,
Як рана вы закрыліся;
А ножанькі ж мае лёгкія,
Як рана вы стаміліся;
А ручанькі ж мае белыя,
Як рана вы счапіліся...

— Нех бэндзе пахвалёны...— пачулася з парога. У хату ўвайшоў ксёндз. Ніхто яго не зваў. Ён сам не мог мінуць такога здарэння. Па



нуднаму абавязку ён хрысціць нябожчыц, потым Янку, сёстраў, гаспадыню.

— За што нам такая кара? — пытаецца маці.— За што?

Слуга божы не асабліва зважае на гора і адчай маці. Сам ён далёкі ад чужое бяды. Робячы засмучаны выгляд, ён моршчыць лоб, намагаючыся нешта разлічыць і ўзважыць, потым падыходзіць да Янкі:

— Пахаванне вам абыдзецца ўдвая даражэй...

Да маці яшчэ не дайшоў сэнс гэтых жахлівых слоў. Яна чакае спагады, спачування ў сваім невыказным горы, але ксёндз спакойна тлумачыць:

— Адна плата за адну галаву, а за дзве...

Янка ўвесь аж скалануўся:

— Тут не кірмаш! — ледзь стрымаўся ён ад абурэння.

— Нех бэндзе пахвалёны...— прамармытаў ксёндз, адступаючы да дзвярэй, і па той бок парога пагразіў пальцам:

— Пабойся бога!

## БРОВАР

Зноў дарога... З клункам за плячыма, з арэхавым кійком ідзе Янка. Лета ў самай сваёй гарачай пары. Цяжкі, глухі стогн разлягаецца над сенажаццю. Звон мянташак, посвіст кос — і нацятая, як струна, цішыня спякотнага поўдня: усё зліваецца ў адвечнай песні, сэнс і лад якой зразумелы толькі таму, хто сам з малых год зазнаў гаркоту і радасць, пакуту і асалоду працы.

Ад дарогі разбягаюцца вузкія палосы вяскоўцаў. Стрыміць на жытнім палетку без пары збялелы колас. Сям-там ужо стаяць першыя снапы. Па каліву ловіць сярпом свой вузкі загон жанчына. Пры ёй на козлах у начоўках заходзіцца з плачу дзіця. Двое мурзатых малых сядзяць у прыдарожным пяску і дапытліва глядзяць на вандроўніка.

Янка здымае шапку і вітаецца з жанчынай.

Усё знаходзіць сваё месца ў яго душы: і самотная жняя, і гурт касцоў на лузе, і палявая дзічка на мяжы, і тужлівая калыханка, якую спявае маці.

Высокім комінам дыміць панскі бровар. Увайшоўшы ў вароты, па дзядзінцы, зарослым густым трыпутнікам, Янка паварочвае ў кантору. Не сустрэўшы нікога з прыказчыкаў, пастукаў у дзверы. Па грозных выкрыках, якія чуліся адтуль, ён зразумеў, што крычыць, пэўна, той, хто распараджаецца. Яму ж якраз і патрэбен распарадчык.

Але адчыніўшы дзверы, Янка сумеўся ад неспадзяванасці. За сталом стаяў сам гаспадар маёнтка, а перад ім у зашмальцаванай, закапцелай тужурцы — броварны качагар. У гнеўным узрушэнні памешчык нават не звярнуў увагі на староннягa, а можа палічыў за канторшчыка.

Раз'юшаны ад злосці, памешчык размахваў лістком паперы, час ад часу падносячы яго да твару качагара:

— Чыя работа? — ужо не валодаючы сабой, закрычаў ён.

Узяўшы лісток, качагар доўга разглядаў, доўга чытаў па словах рэвалюцыйныя заклікі, паварочваў лісток у розныя бакі, нават падняў і праверыў на святло.



— Чыя? — нецярпліва перапытаў гаспадар.
— Ваша,— спакойна сказаў качагар.
Памешчык падхапіўся і грукнуў кулаком па стале:
— Ты людзей бунтуеш?
— Голад бунтуе,— сказаў качагар. І на твары яго не скранулася ні адна жылка.
Памешчык выбег з-за стала. Ён ужо страціў уладу над сабой.
— Дык што,— закрычаў ён прарэзліва на ўсю кантору,— я павінен садраць з сябе апошнюю кашулю і аддаць табе?! Н-на! — і ў ашалелай злосці ўхапіўся за каўнер, які трэснуў і астаўся ў руцэ.
Качагар весела зарагатаў. Не вытрымаў і Янка. Убачыўшы, нарэшце, што гэта не канторшчык, памешчык шпурнуў дадолу свой белы каўнерык і ўтаропіўся вачыма ў Янку:
— Табе чаго?
— Чуў, работа ёсць.
— Адкуль? Чый?
— Іван Луцэвіч завуся. А адкуль — і сам не ведаю,— горка ўсміхнуўся ён.
Памешчык на хвіліну задумаўся, нешта ўспамінаў:
— Луцэвіч? Можа сын таго, што ў мяне на арэндзе жыў?
— Сын.
На твары пана паявілася ні то цікаўнасць, ні то здзіўленне. Можна падумаць, што яму прыемна бачыць сына свайго колішняга арандатара.
— Ай, яй, яй, як час ляціць,— дзівіцца памешчык.— Ну, а сам Луцэвіч?



— Памёр бацька.
— Добра,— пераходзіць ён адразу ж на гаспадарскі тон.— Ёсць работа. Я пастаўлю цябе прыказчыкам. Будзеш глядзець, каб парадак быў...— і кідае гнеўны пагляд на качагара.
— Не,— рашуча гаворыць Янка.
— На чорную работу! — злосна крыкнуў памешчык і павярнуўся да дзвярэй.
— Ну, што ж,— сказаў Янка.— Дзякуй і за чорную. Толькі б сумленне было чыстае...

## МУЖЫК

У цеснай бакоўцы трымціць агеньчык газоўкі. Пры яе цьмяным святле Янка схіліўся над спісаным лістком паперы.
Ноч. Усе даўно спяць. Добра ў цішыні. Думкі бягуць адна за адной — лёгка і вольна.
Незаўважна ў пакойчык уваходзіць маці.
— Ты не спіш, мама? — здзіўлена пытаецца Янка.
— Кагадзе ўстала, сынок. Світае ўжо.
— А я і не згледзеў, як ноч мінула.
— Усё кнігі чытаеш?
— Кнігі, мама, вучаць, як жыць. Паны і падпанкі нас за людзей не лічаць, але яны яшчэ ўбачаць — хто мы. Ты паслухай, мама:

Што я мужык, усе тут знаюць,
І як ёсць гэты свет вялік,
З мяне смяюцца, пагарджаюць,—
Бо я мужык, дурны мужык...

У цеснай баковачцы звініць малады, смелы і горды голас:

Але хоць колькі жыць тут буду,
Як будзе век тут мой вялік,
Ніколі, браткі, не забуду,
Што чалавек я, хоць мужык.

Маці, падпершы рукой твар, ловіць кожнае слова — такое блізкае і зразумелае. На вачах яе выступаюць слёзы.

І кожны, хто мяне спытае,
Пачуе толькі адзін крык:
Што хоць мной кожны пагарджае,
Я буду жыць—бо я мужык!

— Хто гэтак напісаў пра нас, сынку?
Сумеўшыся ад нечаканага запытання, Янка пераводзіць пагляд на подпіс, які пастаўлены пад вершам, і паціху гаворыць:
— Янка Купала, мама.
— Харошы чалавек,— сказала маці.— Яму можна верыць...

## БУРА

У цёмным бараку сабраліся рабочыя бровара, парабкі. Сядзяць на нарах, на лавах, а некаторыя доле.
За сталом з тоўстых, негаблёваных дошчак броварны качагар і мясцовы настаўнік Андрэй Посах.

Пры свечным агарку Янка чытае, а ўсе, стаіўшы дыханне, слухаюць. Мужныя, смелыя словы гучаць у няўтульных, закапцелых сценах:

— «Буря, скоро грянет буря!»

Доўга ніхто не адважваецца парушыць цішыню. Кожнае слова глыбока запала ў сэрца кожнаму, але трэба, каб яно там прырасло, каб пасля ўжо ніхто не змог яго вырваць.

Аддаючы Посаху кнігу, Янка пытаецца:

— У вас ёсць яшчэ кнігі Горкага?

Настаўнік глядзіць на качагара, а той, усміхнуўшыся, адказвае:

— Ёсць. Горка будзе ім, панам. Ой, горка,— і, акінуўшы ўсіх паглядам, пытаецца: — Як вы думаеце, хлопцы, пра якую гэта буру нам гавораць людзі добрыя?

Янка адхінае край посцілкі, якою завешана акно. Барак залівае зыркае святло.

— Вось пра якую буру! — вымаўляе ён, устрапянуўшыся ўвесь ад нечаканага відовішча.

Усе заварушыліся, кінуліся да акна.

У чорнае неба біла густое полымя.

Гарэў панскі маёнтак.

## МАНІФЕСТ

Стары Мінск. Па Захараўскай вуліцы ледзь паўзе па рэйках вагон трамвая. Яго валакуць стомленыя, зняможаныя коні, якія цяжка дыхаюць запалымі бакамі. У натоўпе снуюць, надрываючыся ад крыку, газетчыкі:

— Свабода!.. Свабода!.. Маніфест гасудара-імператара!..

Людскі натоўп спяшаецца на вакзальную плошчу.

Азызлы, з адвіслым падбародкам пан стаіць на прыступках вакзальнай лесвіцы, чытае маніфест. Расчулены, давячыся словамі, выцірае слёзы:

— Божьей милостью мы, Николай Вторый...

На плошчы перад уваходам у будынак вакзала — самы разнастайны зброд: чыноўнікі, жандары, афіцэры, чуллівыя дамы з каляровымі парасонамі, у шыракаполых капелюшах — усіх аб'яднала ўдзячнасць «дараванай свабодзе».

А тым часам на Захараўскую хлынула новая людская хваля. Над галовамі ў восеньскім ветры запалыхаў чырвоны сцяг. Спынілася конка. Стаяць пустыя вагоны. Па вуліцы цячэ шырокая плынь рабочага люду.

У гэтым патоку ідзе і малады паэт. Ён прагна ўбірае ў сябе ўсё, што бачыць і чуе.

На фасадах дамоў надпісы — казённыя і прыватныя, грозныя і вясёлыя, ціхія і ўладарныя. На знаёмым будынку шыльда сарвана, хістаецца на адным цвіку: «Редакция газеты «Северо-Западный край». Гэта дарагая для яго газета. Пяць месяцаў таму назад яна надрукавала яго верш «Мужык». Дзякуй добрым, харошым людзям. Але газету ўжо грозяцца забараніць.

— Свабода!.. Свабода!.. Свабода!..

На плошчы адзін другога змяняюць прамоўцы. Мільгаюць абліччы — потныя, сытыя, самазадаволеныя.

На трыбуне зноў той — азызлы, з адвіслым валлём:





— У гэты ўрачысты і радасны дзень...— захліпаецца ён.

Дэманстрацыя рабочых і рамеснікаў ужо шуганула на плошчу. Яе магутны прыбой адкінуў і пацясніў тых, хто акружыў важных чыноў. Трыбуна хістанулася. Прамоўца падавіўся словам.

— Свабода! — чуе Янка зноў гэтае слова, але ў знаёмым голасе — горкая іронія. Янка паварочваецца і пазнае качагара, з якім працаваў на бровары:

— Дзядзька Сцяпан! — радасна гукае ён. А качагар, як бы працягваючы перапыненую гаворку, паказвае рукой на войска і на жандараў, што стаяць напагатове ў завулках, закрыўшы ўсе выхады:

— Вунь якая іх свабода!..

Паміж людзей пракацілася абурэнне. Некаторыя кінуліся адціскаць варту. Пачалася штурханіна, валтузня, пачуліся пранзлівыя крыкі, свіст нагаек, лаянка.

Раптам прагучалі залпы. Яны здаліся як бы пустымі, несапраўднымі. Але вось на брук упалі забітыя, параненыя. Стралялі па загаду, па камандзе. Яшчэ залп, яшчэ...

Жудасна застагнала, заенчыла плошча.

Жанчына без хусткі, з валасамі, якія закрылі ўвесь твар, у адчаі падае на грудзі забітага мужа, мужчына, не разбіраючы дарогі, бяжыць, тулячы да сябе параненага хлопчыка.

Цераз жалезную агароджу лезе перапалоханы прамоўца, які толькі што крычаў аб свабодзе. Пераваліўшыся на той бок, ён хапаецца за нагу, садзіцца на перон і гладзіць голае калена, на якім матляецца разадраная калашына. Усхапіўшыся, кідаецца наўцёкі.

Янка вядзе няшчасную жанчыну, у якой забілі мужа. Высока падняўшы над сабой, рабочыя нясуць нябожчыка.

Качагар намагаецца зламаць жалезную агароджу, каб даць выхад натоўпу. Пад націскам сотні людзей агароджа падае. Людская плынь прарываецца на той бок вакзала. І ў гэтую хвіліну жандары хапаюць качагара.

— Цябе якраз мы і шукаем, галубчык,— самаздаволена гаворыць чырванаморды, вусаты жандар, скручваючы арыштаванаму рукі.

— Свабода,— здзеклiва гаворыць качагар у твар жандару.— Свабода!

## У ЛЮДЗІ

Гэтую карчму на гасцінцы Янка памятае з дзіцячых год. З бацькам яны спыняліся тут, каб перабыць ноч. Сюды сыходзіцца розны люд, каб напытаць работу, пачуць, што робіцца на свеце. Суботнім вечарам, ідучы да маці, Янка не мог мінуць даўняга прытулку.

Яшчэ з парога ён убачыў постаць сівога жабрака, што сядзеў з ліраю на каленях. Па тым, як стары белымі застылымі вачыма глядзеў перад сабою, Янка зразумеў, што лірнік аслеп. Пры ім сядзеў малы хлопчык. Ён быў дзеду за павадыра. Але сляпы меў, відаць, чуйны слых. На кожны скрып дзвярэй паварочваў галаву і паціху пра нешта пытаўся ў хлопчыка. Старому цікавы быў кожны прышлы чалавек.

— Добры вечар, дзеду,— падыходзячы да лірніка, прывітаўся Янка.— Даўно-даўно вас тут не было...

— Дзіва што, свет вялікі...— няпэўна адказаў стары.

— А я ж вас яшчэ малым хлапчуком слухаў,— сказаў Янка.— І, нахіліўшыся, дадаў: — Пра Каліноўскага расказвалі...

— Што ты, голубе?.. Што ты?..— спалохана зашаптаў сляпы жабрак,— ніякага Каліноўскага я не бачыў і не знаў.

Пачуўшы Янкаву размову з жабраком, з лавы падняўся пажылы, трапяткой натуры, чалавек.

— А я ж чуў, браткі...— і сумеўшыся, спыніўся.— Не ведаю, ці казаць...— і, пачухаўшы патыліцу, дапытліва паглядзеў на Янку.

— Кажыце, дзядзька Раман...— сказаў Янка.

— Чуў я, браткі, што зноў павяленне было, ад самога гасударагімператара — маніхвест. Ты, Іван,— граматны, то ці праўда?

— Быў маніфест,— сказаў Янка.

— А божа ж мой! — пляснуў рукамі Раман і аж закалаціўся ўвесь.— То гэта зноў будуць страляць?

— Каго? — падаў з кутка спалоханы голас павадыр.

— За што? — абступілі Рамана ўстрывожаныя падарожнікі.

— А жыцця б яны не ведалі, за што...— сказаў Раман.— Гэта ж яшчэ, як той першы маніхвест выйшаў, дык колькі людзей у Мінску палажылі...

Загаварыў, нарэшце, і лірнік, які ўвесь час маўчаў.

— Чуў і я, людцы, пра гэта,— вымавіў ён і, крануўшы корбу, паціху заспяваў:

Чуў, як у Мінску было бліз вакзала:
Крыві нямала зямля папівала;
Трупаў, калекаў няшчасных без ліку
К зямлі прыпала, а з енку і крыку
Вокал гудзела, як дзе на пажары,
Аж нават сонца схавалася ў хмары.



Вось тут пазнай, ці свабоду нам далі,
Ці ашуканствам у бойню загналі...
Цяпер жа ўсякі па-свойму тут судзе:
Адны талкуюць, што горш яшчэ будзе,
Што цяпер стрэльбы грымяць каля хатаў.
Будуць жа потым паліць і з гарматаў,
А іншы кажа, што цар нацарыўся,
Што досыць крыві ён нявіннай напіўся...

Янка ўжо не можа схаваць свайго ўзрушэння.

— Ну вось,— гаворыць ён паціху самому сабе,— ну вось, і я пайшоў, па сваёй зямлі... Дзе вы ўзялі гэтыя словы, дзядуля?

— Між людзей наслухаўся, дзеткі. Семдзесят год хаджу па свеце. Што чую, пра тое і расказваю.

«Досыць крыві ён нявіннай напіўся...» — шэпча нечаканыя, страшныя словы дзядзька Раман, але ранейшага страху ўжо няма ў яго вачах. Давер за давер, шчырасць за шчырасць — і ён ужо ўсёй істотай горнецца да людзей, каб выказаць усё, што не дае спакою.

— А я ж і яшчэ чуў...— пошапкам вымаўляе ён і азіраецца наўкола.

Цікаўныя абступаюць Рамана.

— Што ты чуў? — нецярпліва перапытвае барадаты мужык, трымаючы перад сабою ў лубках пілу.

— Яно мо і няпраўда,— не адважваецца Раман.— Боязна і казаць.

— Тут усе свае людзі,— падбадзёрвае Янка.

Пераходзячы зусім на шэпт, Раман, нарэшце, давярае сваю тайну.

— Чуў я, мужчынкі, што законнага цара ўжо няма...

Збіты з панталыку такой неспадзяванкай, карчомны люд на нейкую хвіліну нямее. Чуецца невыразнае мармытанне, здзіўленыя перамовы, потым нецярплівыя галасы:

— Як няма?

— А дзе ж ён?

— Здырдзіўся! — упэўнена адрэзаў Раман, горды, што адным махам унёс поўную яснасць...

— Айца і сына і святога духу,— зашаптаў спалохана барадаты пільшчык.

— Ты пачакай хрысціцца,— перапыніў раптам пасмялелы Раман,— пачакай. Ён яшчэ не гэтае... не зусім, але ўжо недалёка ад гэтага. Кажуць, як пачалося ў Пецярбурзе і па ўсёй Расіі, як запалалі ўсюды панскія маёнткі, дык ён галавою памуціўся і адно пасабачаму дзень і ноч брэша: гаў-гаў-гаў!.., а той, што цяпер Мікалай, цар усяе Русі, дык ніякі ён не Мікалай...

— А хто? — пачуўся дзіцячы голас хлопчыка-павадыра.

— Ніякі не Мікалай, а Кузьма, адстаўны хведхвебель, ды і таго міністры ледзьве ўгаварылі, каб ён на прастоле сеў,— выклаў, нарэшце, сваю навіну Раман і яшчэ раз акінуў паглядам людзей, многія з якіх убачылі ўжо, што вясёлы гаварун проста рашыў пацешыць іх.

— Мікалай ці Кузьма, а жыцця нам няма,— уздыхнуў лірнік.

— Марочыш галаву, аж моташна слухаць,— сказаў пільшчык.

— А ты чаго хацеў? — накінуўся на яго Раман.— Каб я дзень і ноч плакаў? Трасцы! Няхай ворагі мае плачуць. А яны яшчэ паплачуць, ой, паплачуць. Цярпеў, цярпеў, браткі, мужык, ды цярпенне лопнула. Усе думаюць — дурны мужык, нічога не цяміць, а ён дурны, дурны, ды як скажа такое, што вочы на лоб павылазяць. «І кожны, хто мяне спытае, пачуе толькі адзін крык, што хоць мной кожны

пагарджае, я буду жыць — бо я мужык!» Чулі? Вот гэта — мужык! Янка Купала завецца.

Шырока адкрытымі вачыма, поўнымі радаснага здзіўлення, Янка глядзіць на дзядзьку Рамана, потым устае з лавы, бярэ яго цяжкую, нязвыклую да шчырага сяброўскага поціску руку.

— Дзякуй вам, дзядзька Раман, дзякуй. За харошыя душэўныя пачуцці... Каб вы ведалі, як гэта дорага для мяне...

Цяпер ужо сам Раман сумеўся ад нечаканасці. Адразу ён ніяк не можа ўцяміць, што адбылося. Калі сэнс падзеі, нарэшце, даходзіць да свядомасці, ён у здзіўленні доўга глядзіць на Янку. Не рашаючыся наблізіцца, ён, наадварот,— яшчэ далей адыходзіць і здалёк зноў, як бы па-іншаму ўжо глядзіць на хлопца:

— Ты?

— Я,— паціху адказвае з вінаватай усмешкай Янка.

— Купала? — перапытвае Раман.

— Ціха, дзядзька, ціха,— разгубіўшыся і пачырванеўшы ад сораму, просіць Янка.

Але людзі пачулі ўжо дарагое імя мужыка, які сказаў пра іх такія смелыя словы.

Заварушылася ўся карчма, здзіўленая нечаканай навіной.

— Янка Купала! — пачуліся радасныя выклікі.

— Дзе?

— Каторы?

— Во гэты?

— А братачка!..

— Я ж думаў ён далёка, аж ён тут...

— Гэтакі, як і мы...

— Такі пра нас усю праўду скажа! — з гордасцю вымавіў пільшчык. Цяпер ужо і дзядзька Раман упэўнена падышоў да Янкі, моцна стукнуў па плячы і шчасліва засмяяўся:

— Янка Купала! — горда сказаў ён, потым хітравата з дакорам дадаў: — А казаў, Іван завешся. Дальбог, мне даўно ў галаву цюкнула, што ты не Іван...





***таіса бондар***



ПАЭЗІЯ



## Вясновая ноч

**Ноч на сыходзе,**
**а садам не спіцца:**
**то смеху ціхі ўсплеск,**
**то салавей.**
**Вясна.**
**У кожнай сцежкі—таямніца.**
**У кожным сэрцы —**
**радасці паўней.**
**Цяжкую**
**росную галінку злёгку**
**кранеш—і звон**
**абудзіць цішыню.**
**У валасах,**
**пазблытваных і вохкіх,**
**як зоркі,**
**кроплі сіняга агню.**
**І хораша...**
**Аднекуль ціхі смутак.**
**Чаромха лье густы п'янлівы чад...**
**Так гулка б'ецца сэрца.**
**У сінечы**
**растала ноч. Адны мы:**
**я і сад.**

■

**Свет летуценняў, лёгкі, трапяткі,—**
**ў ім столькі фарбаў,**
**новых і дзівосных.**
**Трывожачы, гукаюць цягнікі**
**у сінія, нябачаныя вёсны.**
**Спяшаешся.**
**Не азірнешся нат**
**на згорбленую хату пад ігрушай.**
**Шукаеш—**
**дзесьці ёсць ён!—горад-сад,**
**агні прычала**
**ў бухце ранак тушыць.**
**І ні турбот штодзённых,**
**ні трывог...**
**Наіўная! Я гналася за ценем.**

Варочаецца мора каля ног:
не спіцца, мусіць, мулка
на каменнях.
А я далёка,
Там, дзе бор стары
ад ціхіх слёз святлее перад золкам,
і кожнай ноччу,
быццам ліхтары,
гайдаюцца, зіхцяць на соснах зоркі.
Дзе з вузкай кладкі
у густую сінь
ныралa я за сонцам,
і лілеяй,
яго пасля ўплятала ў валасы...
Чаму так доўга
мы душой сталеем?

■

За вокнамі ад капяжоў звінелі
дні, да краёў налітыя святлом.
Сады страчалі птушак,
бы ад хмелю,
п'янелі ад цяпла і ад вятроў.
Святлелі зоры.
І баян падоўгу
аб нечым даўнім з песняй сумаваў.
Чаромхаю прапахлы ўвесь,
з трывогай,
як хмарка, лёгкай,
лета май чакаў.
Яно прыйшло.
Зямля цяжарнай стала.
Пакрылі ўсходы ўгрэтую раллю.
Дзе ранак зерне кінуў—
рунь густая.
А я
шчэ толькі-толькі адтаю...

■

Усё часцей я сумую.
Не толькі у працы,
а ад дум
не знаходжу збавення і ў сне.
Не хацела я, край мой,
цябе адцурацца,
калі колісь за любым
паехала ўслед.
Я вярнуся.
Хоць толькі,
каб тварам прыпасці
да зямлі,
да рук маці—
даруюць ці не,
што іх колісь пакінула
ў пошуках шчасця,
быццам можна без іх
быць шчасліваю мне?
Быццам можна спяваць
не на матчынай мове,
перакрэсліўшы тое,
што найдаражэй.
Беларусь —
як надзеяй жыву гэтым словам...
Колькі шчэ у разлуцы нам?
Дні
ўсё цяжэй...





*сяргей законнікаў*

*

ПАЭЗІЯ

*

■

Партызаны прыйшлі да магіл дарагіх...
Па маршчынах бліШчаць вельмі горкія
слёзы,
І глядзяць устрывожана сёстры-бярозы
На братоў пасівелых, маўклівых сваіх.
Ані слова ніхто не прамовіць услых,
Бо зязюля і тая маўчыць, нібы камень,
А дубы засланілі аблічча рукамі...
Партызаны прыйшлі да магіл дарагіх...

■

На небе, як сняжынкі, зоркі
таюць,
Ад цішыні хмялее галава.
За лесам коні ходзяць
па атаве,
Хрумсціць ледзь чутна на зубах
трава.
Прайдзі праз бор па маладой ігліцы—
І ўбачыш, толькі ціхенька пастой,
Як жарабя цікаўнае ў крыніцы
Спрабуе звонкі месяц капытом.

## *Мама пячэ дранікі*

Раздзімае старанна
вугольле раніца,
Тупае ў блакітным фартуху.
Мама пячэ дранікі...
«А ты, сынок, паспі
яшчэ крыху...»
Сквірчыць на патэльні
падмазка,
Нібыта ешчы галодны
вяпрук.
А патэльня
па загнеце ляскае,
Вавёркай вырываецца
з рук.
Пах такі, што, дальбог,
у скокі
Ад нецярплячкі зараз
пойдзеш.
Агонь сарокай у печы
сакоча,
І дранік
выплывае поўняй.
У акно халоднымі пальцамі
стукае
Чарада заінелых
празрыстых бяроз.
У вуглах мароз глуха б'е,
як у ступе,
Гарачых хоча паспытаць
мароз.
На бліны і ў яго вочы
загараюцца,
Як на шуструю мыш
у ката.
Мама пячэ дранікі...
«Ну, як?»
«Смаката!»







*уладзімір карпаў*

# З КНІГІ «ПРЫЗНАННЕ Ў НЯНАВІСЦІ І ЛЮБВІ»

● Мал. **В. Шрамякова.**

## СТРАШНАЯ РАДАСЦЬ

Ну, ну, смялей, хлопчык! Гэтаму вучыцца не трэба. Вось так. Правільна, дарагі мой! Ты думаеш, мне не козытна? Козытна, хлопчык. Але ой як добра, што ты сапеш ля сэрца. Млявы, цёпленькі. Што маё малачко цячэ ў цябе цурком. Ну, смакчы, смакчы, любы.

Табе і неўпрыцям, як гэта нітуе нас. Што ты з кожнай хвілінай робішся даражэйшы, найдаражэйшы, немаўлёнак мой! Хоць куды ўжо, здаецца?

Ну, добранька! Тады давай пагаворым трошкі. Скажы вось, напрыклад, мне, хто нас запіша? У якую кнігу? Як будуць пісаць? Ну, вядома, бацька, маці. Гэта ёсць. Знойдзем і хросных. Але дзе той ЗАГС? У штабе? Як запоўніць графу «месца нараджэння»? Няўжо—лясны лагер? От здорава! Адзін будзе хваліцца—я масквіч. Другі—я гамяльчанін. А ты як скажаш? Лесавічанін? Ха-ха-ха!

І наогул... Калі ты нарадзіўся? Трыццаць першага? Не, лесавічанін мой, гэтым днём я цябе ўжо не запішу. Скажу: нарадзіўся ў ноч на першае студзеня сорак чацвёртага. От як. Бо каму трэба, каб з-за некалькіх гадзін ты старэйшым на цэлы год аказаўся? Мы з табой спрактыкаваныя ўжо. Недарэмна столькі перажылі. Так, лесавічанін?

Эдзік, падыдзі, глянь на сына! Ён жа выліты ты. Чэснае камсамольскае. Гэтак жа і грымаснічае, калі штосьці не да спадобы...

Ну, на першы раз досыць. Пераясі

яшчэ. Бачыш, адрыгаецца. Дай хусцінку, Эдзік, яна на тваіх нарах, пад падушкай, і бяры ўжо свайго аніку-воіна. Ды асцярожна. Хопіць—і так паспытаў, пачым фунт ліха. Глянь толькі, ці не дзьме з акенца. Шыбы, нібы ў казцы пра снежнае царства — з лёду.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чаго ты прачнуўся чуць свет? Няўжо есці ўжо захацеў? А мо напурыў зноў? Давай перапаўю. Цяпер пакуль гэта самае важнае для нас. І ціха, ціха. Не разбудзі бацьку. Прачнецца — а-та-та дасць. Ён толькі што з задання вярнуўся. Ледзь не пад самы Мінск хадзілі. Знясіліўся зусім.

І-і, хлопчык!.. Сёння ранічкай камбрыг заглядаў. Калі расказала яму пра гаворку з табой, смяяўся. Казаў, што ты—лесавічанін, вядома, але не чысты. Бо жыць пачаў у горадзе і там жа баявое хрышчэнне прыняў...

Мы з тваім таткам напрадвесні пабраліся. І таксама без усякага ЗАГСа. Нават у розных месцах жылі. Я ў драўляным доміку за калючым дротам, а ён з тваёй бабуляй за некалькі кварталаў ад мяне... На Беламорскай вуліцы... Гаротная вуліца, хлопчык! Пра яе цэлую гісторыю можна напісаць. Як і пра Драздоўскі лагер. Хоць той і праіснаваў усяго з месяц...

Твая мамка з татам вучыліся да гэтага. У політэхнічным, трэці курс канчалі. Мала што і заўважалі навокал сябе. Стыпендыю выдатнікам давалі, ну і гналі «пяцёркі». Вайна як гром сярод белага дня для нас выбухнула. Мяне з аднакашніцамі на аэрадром зараўноўваць узлётныя дарожкі паслалі. А татку твайго—лавіць нямецкіх дэсантнікаў. Многа іх пераапранутых скідалі. Ля парку Чалюскінцаў, ля аэрадрома, навокал горада.

А неўзабаве і танкі іхнія ўварваліся... Нашых лаўцоў разам з другімі мужчынамі ў канцэнтрацыйны лагер засадзілі. У той самы Драздоўскі... Расстралялі Ізю Махліса—быў сярод нас такі весялун, балака. Тыя, што былі бялявыя, з блакітнымі вачыма, пачалі свае пашпарты аддаваць, каб ратаваць таварышаў...

Нам, дзяўчатам, пашанцавала болей—мы асталіся на волі. Я, Вера Раманоўская, Ніна Галубенка ў разбураным хлебазаводзе знайшлі цеста. У пакарэжаных цыстэрнах на чыгуначных пуцях алей. Узяліся пячы перапечкі. Напёкшы, беглі ў Дразды. Пішчом лезлі за калючы дрот... Колькі радасці, хлопчык, тады было! Як яны елі гэтыя перапечкі!

Калі ж удалося выбавіць іх адтуль, наша студэнцкая сям'я зноў сабралася. Ты, канечне, і не ўяўляеш, што такое студэнцкая дружба. Асабліва пры выпрабаваннях. Кажуць, гэта—узаемавыручка, падтрымка адно аднаго. Не-е! Наша дружба была паветрам, якім мы дыхалі, сонцам, якое саграvала нас.

А рашучасць, хлопчык!.. Сярод нас была Ліда Сысоева. Дыпламантка, камсамолка. Калі нейкі фрыц паспрабаваў прыставаць да яе, яна проста плюнула яму ў зрэнкі. А калі той стаў здзекавацца—наматаў яе касу на руку і тузануў направа-налева—прыгразіла: «Здзекуйся, гад, здзекуйся, але помні—табе і твайму Гітлеру ўсё роўна капут!» І гэта калі яны пад Масквой былі... Расстралялі, вядома, Ліду. Без суда, на месцы... І каб ад мяне гэта залежала, я пасля перамогі помнік бы ёй ля нашага політэхнічнага паставіла. За чысціню, за гонар...

Праўда, інстытуцкі інтэрнат немцы пад шпіталь занялі. Разбрыліся мы, хто куды. Але купкамі. Некалькі чалавек, у тым ліку і я, перасяліліся ў дом Белдзяржпраекта. На Акадэмічную вуліцу. Ды і





адтуль нас хутка пратурылі. Уначы проста. Прыехалі на аўтамашынах, забегалі па лесвіцах. У дзверы загрукалі: «Вег, вег!»

Добра, што на двары пусты домік былой пажарнай аховы стаяў.

Аказалася—гэта авіяштаб нейкай лётнай групы прыбыў. Аблюбаваў сабе дом і рашыў атабарыцца ў ім. Так што, калі будынак абгарадзілі калючым дротам, мы таксама асталіся за драцяной агароджай. Нават пад аховай вартавых. І, вядома, не так сабе. Дзяўчат-студэнтак прымусілі мыць кухонную пасуду ў сталоўцы. Студэнтаў—калоць дровы для кухні. Праўда, за гэта, як узнагароду, выдавалі кацялок супу, а часам і іншыя недаедкі.

Новы год адсвяткавалі мы дзёрзка—на злосць тым, хто банкетаваў у сталоўцы. Хлопцы расстараліся шнапсу, мы сцібрылі на кухні цыбулі, хлеба. Седзячы за бяседным столікам, спявалі колішнія песні. І паслухаў бы ты, хлопчык, што за пачуцці ўкладвалі мы ў словы! Якім цудоўным, невымоўна дарагім здавалася адабранае ў нас! Гэта праўда—каб як след ацаніць што-небудзь, яго спачатку трэба страціць...

Я не ведаю, як склаўся б наш лёс, каб у горадзе не з'явіўся Верын бацька—Сяргей Антонавіч Раманоўскі. Яго, старога камуніста, па-мойму, знаў кожны дзесяты мінчанін. Апошняе, можа, найбольш і ўразіла мяне. Што гэта было? Спакойная ўпартасць? Гатоўнасць служыць справе, не думаючы ні пра сябе, ні пра сваіх дзяцей? Успомніўся і твой дзед—ён партызаніў у грамадзянскую вайну.

Трывожнае хваляванне ахапіла мяне. Нібыта разам з гэтым спакойным, упэўненым чалавекам прыйшло прывітанне аднекуль. Мне, асабіста.

Мы і раней строілі розныя планы. Але былі яны нейкія беспрадметныя. Ім бракавала дзелавой сур'ёзнасці, а нам—пачуцця адказнасці за падзеі, а значыць—і той неабходнай сілы, з якой пачынаецца справа... Мы ненавідзелі чужынцаў. Сваю нянавісць выказвалі ўголас. Дэманстравалі яе, адзначаючы святы... І перад сабой, такім чынам, аставаліся сумленнымі. І во гэтае адчуванне, як ні дзіўна, дазваляла... растрачваць запал і нянавісць абы-як.

З'яўленне Раманоўскага быццам працверазіла нас, забараніла жыць як набягала.

Твой татка і я сустрэліся з ім на ягонай кватэры—у доме па Слясарнай. Адказваць на пытанні стараліся з выглядам спрактыкаваных падпольшчыкаў. Аднак толькі тут—у пакойчыку са светлымі абоямі, разгалістым фікусам і просценькай мэбляй—самі даведаліся, што нумар лётнай часці, у размяшчэнні якой мы жылі, 31537, што гэта—часць цяжкіх бамбардзіроўшчыкаў. Дальняга дзеяння.

Чуеш, як я загаварыла, хлопчык?.. Ха-ха-ха!..

І яшчэ скажу, хоць разумею: і гэта не для цябе. Выйшлі мы з доміка Раманоўскіх з адчуваннем, што ў нас займае дух... Ростам я, бачыш, быццам дзяўчынка, ды наогул... Але ведала: татка твой і дасюль кахаў мяне. Аднак каб паказаць гэтае, прызнацца—ні-ні! А тут, ледзь збочылі па пратаптанай дарожцы ў руіны, схапіў маю руку і прыпаў вуснамі. Я ж, недатыка, вырвала яе, злавіла ягоную руку і таксама пачала цалаваць. А потым, укленчыўшы, абняла таткавы ногі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Побач з нашай зямляначкай, хлопчык, майстэрня ёсць. Зброевая. У ёй такія рабацягі працуюць, што з вінтовачнай рулі ды жалезнага ламачча аўтамат робяць. Во яны тваймў бацьку і змайстравалі прыладу. Бачыш, як клапоцяцца? А ён ужо начовачкі выдзеўб. Праўда, не дужа гладкія. Але нічога. Мы ў іх полку пасцелем і пакупаемся не горш, чым у купленых. А потым абсушым і сянца пакладзем. От калыска будзе—любата!

Пачакай адно, каб у зямлянцы пацяплела. Печка ўжо гарачанькая. Вада закіпела. Давай пакалышу трошачкі і далей раскажу. Яно ж толькі начынаецца ўсё. А я—балбатуха, люблю расказваць.

Зрабіліся мы з таткам разведчыкамі. Ты слухай, слухай. Ён у атрад, каб паказацца камандаванню, схадзіў. Вярнуўшыся, праінструктаваў і мяне. Падзел працы ўвялі. Я выкінутыя ў смецце загады па штабу стала падбіраць, скарыстаную капіравальную паперу з машыннага бюро... А татка падсумоўвае здабытае. На папяроснай паперы піша. А пасля скруціць хітранька рулончыкам—і ў адтуліну алоўка, замест грыфеля.

Вера Раманоўская прыйдзе быццам пагуляць да нас, забярэ алоўкі і новае заданне пакіне.

Так і балансіравалі на лязе нажа...

А тут раптам ты яшчэ заявіў аб сабе!.. Несла я раз пасля банкету паднос бруднай пасуды на кухню, пераступіла парог, і на табе — штурхель у бок. Ледзь не ўпусціла я сваю ношку. Во зарабіла б! Уяўляеш?..

Але павер мамцы, наўрад ці былі ў мяне чысцейшыя, шчаслівейшыя дні, як тыя. І хоць жыццё неяк завастрылася адразу, мы нібыта на крылах лыталі. Татка мяне любіў, я—яго. Ён мяне імкнуўся засланіць сабою, я—яго. Дый справа спорылася. Што яшчэ трэба? Кожнаму па дваццаць аднаму, кожны кахае, стараецца на сябе большы



цяжар узваліць, у заўтрашні дзень верыць. Страшна, вядома, але радасна затое...

Ну вось, зараз налью ў начовачкі вады, праверу тэмпературку локцем. Мая мама кнопкай мяне звала. Крычала, калі я, дзівячыся, вочы тарашчыла. Але сур'ёзныя гаворкі ўсё-такі вяла. Дык яна казала, што лепшага за локаць градусніка наогул, пэўна, няма. Так, так... Не верыцца? Але пабачыш сам, калі мы з табою будзем куп-куп рабіць... Што, прыемненька? Ну вось. Гэта толькі спачатку страшна!

І слухай, слухай. Пад восень заўважыла я—у штабе нейкі неспакой. Ад'язджаюць, прыязджаюць. І ўсё—«Курск, Курск!» Сёе-тое пакаваць узяліся.

«Ага,— думаю,— ясна!..»

Татка на веласіпед—і зноў у атрад...

Ці здагадваліся мы, як і куды ўсё выкіруецца? Так, лесавічанін-мінчанін, здагадваліся. Але даруй нам, дарагі, не маглі іначай паступіць. Яны ж тылавыя, гэта значыць мірныя гарады бамбілі. Да Масквы прарываліся! Колькі такіх, як ты, немаўлят, забілі і маглі яшчэ забіць!.. Дай я ружовую пятачку пацалую...

Да таго часу пагрубела я ўжо, жывот узняўся. Раіліся мы з таткам, як лепей усё зрабіць, і, чэснае камсамольскае, плакалі...

Калі Вера паведаміла, што з атрада прыбылі міны, пайшлі на Слясарную. Удакладнілі ўсё з Сяргеем Антонавічам. Дамовіліся—узрываць станем у час вячэры. Бо снедаць і палуднаваць афіцэры мелі права ў любы час. А вось вячэраць мусілі роўна ў дваццаць нуль-нуль.

Да гэтай пары ніхто нават не садзіўся за стол—чакалі начальства.

Дакладна за хвіліну ў залу па дывановай дарожцы ўбягаў генеральскі сабака. За ім непаспешліва ступаў сам генерал—лысаваты, бравы. Грымела «Хайль!». І толькі пасля ўжо ўсе займалі свае месцы адпаведна ваеннаму рангу.

Паглядзеў бы, хлопчык, як важна яны садзіліся. З якім гонарам. Я нават разглядала іх—карцела зразумець: а як жа з сумленнем? Куды яны яго падзелі? Здаецца, людзі як людзі. Няўжо ёсць сіла, здольная зусім асляпіць чалавека, вытруціць з яго пачуццё справядлівасці, чалавечнасці? Зрабіць сляпым выканаўцам?

Я неяк трапіла ў склад, які непадалёку ад нас знаходзіўся. Аказалася—туды эсэсаўцы звозілі рэчы ахвяр. Не верыцца проста! Асобна акуляры, асобна грабеньчыкі, асобна дзіцячыя чаравічкі... Усё растасавана, падлічана, запрыходавана!

А як гэтыя афіцэры распісвалі свае палёты! Асабліва, калі ўдавалася наляцець знянацку, пакінуць горад у агні. Калі пасля кожнай новай хвалі можна было пачынаць бамбіць ад паласы пажараў...

Ну, ладна! Затое і мы прыдумалі... У зале яшчэ з зімы чыгунная печка стаяла. Вырашылі замініраваць яе—няхай і асколкі будуць.

Праўда, непакоілі таварышы, з якімі я жыла ў доміку. Але прыдумалі, як засцерагчы ад небяспекі і іх...

Што я мусіла рабіць? У спецыяльна сшытым поясе пранесці міны ў сталоўку. Улучыўшы момант, выкруціць з іх вочкавыя затычкі, укруціць у адну ўзрывальнік, у другую—дэтанатар і падкласці міны пад дно печкі... Дык вось, затычкі я павінна была знарок пакінуць у кішэнях рабочага халата як рэчавы доказ... Ну і, вядома, трэба было забараніць таварышам заходзіць да нас, не раскрыўшы прычыны... Гэта таксама цяжка было...

Напярэдадні, за суткі, татка вырваў чаку з узрывальніка. Мы замерлі аж. Пачалося! І помню — нейкае казытлівае халаднаватае адчуванне апанавала мяне... Нібы і ў нас пачало адбывацца такое ж, як і ў узрывальніку.

Без асаблівых ваганняў пайшлі да бабулі. Стомленая хатнімі клопатамі,— цэлы дзень на нагах,— яна ўжо ў ложку ляжала.

— Мама,— сказаў твой тата,— заўтра раніцой вы павінны пайсці з Мінска. Пойдзеце па Слуцкай шашы да вёскі Мякота. Зразумелі?..

У тую ноч мы не заснулі. Усталі з сонцам. Зноў паўтарылі маніпуляцыю з затычкамі і ўзрывальнікам... Старанна падперазалі мяне тым поясам і доўга правяралі, ці не ўгадваецца ён за складкамі шырокага плацця, якое я цяпер насіла.

Да авіяштаба ішлі марудна—у мінах быў грымучы жэлацін. Дроцік ва ўзрывальніку, што праз пэўны час мусіў парвацца, усё танчэў... Набліжаўся і сам момант... Але клянуся, хлопчык, ваганні і тады не мучылі мяне. Быў, вядома, страх. Былі думкі... Я ж таксама мела маму, горад, дзе нарадзілася. Я, як і другія, вучылася ў школе, насіла кароценькія сукенкі, уздыхала, купалася... Ну, зразумела, і ты... Але, клянуся, я дасюль не ведаю, ці лягчэй мне было б, каб не было цябе... Чэснае камсамольскае, не ведаю. Усё-такі ўдваіх...

Раніца выдалася шаўкавістая, ясная. Здаецца, раней такой і не бачыла ніколі. А сонца сляпучае, вялікае. І ўсё навокал чыстаечыстае.

Прамаршыравала каманда салдат. На процілеглым тратуары, адказыраўшы адзін аднаму, размінуліся два афіцэры. Папраўляючы на хаду рамень, прайшоў паліцай у чорным шынялі.

«Няшчасны!—нават пашкадавала я.— Не мог астацца чалавекам!».

Здалося, навакольнае святло хлынула ў мяне, і я нібы захліпнулася ў ім. Дый наканаваны лёс здаўся не такім ужо небяспечным. З-за гордасці ў той момант я, відаць, нават не змяняла б яго ні на які іншы.

Не падыходзячы да варот з вартавым, мы развіталіся. І ўсё ж, хлопчык, гэта можа і было самым цяжкім. Перад тым, як ісці з дому, Эдуард рашуча сказаў: «Не бойся, Славачка, я побач». Але чым ён мог памагчы зараз? Чым падбадзёрыць? Я разумела яго становішча і, каб не цягнуліся секунды, адвярнулася і пайшла: яму выпала чакаць мяне па другі бок будынка— туды выходзіў балкон з кухні і адтуль я павінна была падаць яму знак, што ўсё ў парадку.

У запасе ў мяне былі мінуты. На работу я магла прыйсці, ну, на паўгадзіны раней за другіх «вольнанаёмных». У такую рань на кухні звычайна завіхаўся толькі повар Эрых. Астатнія яфрэйтары і оберяфрэйтары, якія абслугоўвалі сталоўку і жылі паверхам вышэй, прыходзілі пазней, хвілін праз пятнаццаць. Вось за гэтыя пятнаццаць хвілін я і мусіла ўправіцца.

Дзверы мне адчыніў Эрых—няўмыты, заспаны. Зыркнуўшы касымі вачыма, моўчкі паклыпаў да водаправоднай ракавіны.

Я надзела рабочы халат, узяла паднос і падалася ў сталовую залу.

Маскіровачныя шторы на вокнах учора апусцілі, і ў зале было цёмна. Я запаліла святло—не шкодзіла праверыць, ці не спіць тут у крэсле хто-небудзь з яфрэйтараў, якія любілі пасля вячэры дапіваць рэшткі з афіцэрскага стала. Сабіраючы на паднос чаркі, фужэры, абышла залу — не, нікога не было.

Як на спутаных, чужых нагах наблізілася да чыгуннай печкі. Паставіла паднос на рог бліжэйшага стала. Прыслухалася. Але ў скронях стукала—і нічога нельга было пачуць. Каб супакоіцца, перавяла дыханне. Так і ёсць,—у кухні ўжо збіраліся—данёсся бразгат пасуды.



Хутка развязала пояс, паклала міны на падлогу. Потым узялася выкручваць вочкавыя затычкі. Намаганнем волі перасіліла дрыжыкі ў руках. Але зноў захвалявалася, калі стала падкладаць міны пад дно печкі. Другая ніяк не лезла — перашкаджала першая. А тут я яшчэ выразна пачула крокі—нехта ішоў сюды па калідоры. Пот заліў мне вочы. Помню толькі, што металічны цок—міна прыліпла да міны—супаў са скрыпам дзвярэй.

І раптам ты, хлопчык! Знячэўку ўздрыгануў, пацягнуўся і застукаў у бок. Я не ведаю, была тут сувязь аднаго з другім, толькі я імгненна, быццам апаленая здагадкаю, схапіла за край паднос і рванула яго на сябе. Крыштальныя ашкалёпкі пырснулі і разляцеліся па падлозе.

Потым мяне скаланула радасць—я ўбачыла, як круглеюць, налiваюцца шалам Эрыхавы вочы. Значыць, хутчэй за ўсё, увагу ён звярнуў не на печку! Ха-ха-ха-ха!

— Русіш швайн!—зайшоўся крыкам, не могучы ад абурэння пераступіць парог.

Ён крычаў на нас часта. Асабліва, калі хапала работы. Бачачы, што мы не дужа завіхаемся, шпурляў у нас абы-чым—гарачымі патэльнямі, мокрымі анучамі. Вочы тады ў яго касілі яшчэ больш. Але мы не надта баяліся гэтага шаленца, бо ведалі яго слабінку. Повар-яфрэйтар гандляваў усім—і сваім і чужым. Ён не даважваў афіцэрам порцыі масла, недадаваў кавалачкаў мяса і, не саромеючыся, пры нас збываў крадзенае «налева». Паглядзеў бы ты, якім трыумфам свяціліся яго косыя вочы, калі ён набіваў грашыма кашалёк і трос ім над галавой.

Аднак цяпер была іншая сітуацыя... Я паднялася і стала перад ім, згодная і на тое, каб ён выцяў мяне. Я ж ратавала цябе, сябе.

— Я пастараюся заплаціць вам спаўна, гер Эрых,— мармытала, прысягаючы.— Мне паможа муж, свякруха. Дальбог...

Ці то маё абяцанне, ці то мой выгляд маленькай нехлямяжай цяжарнай жанчыны зрабілі сваё—рукі ён не падняў.

— Падбяры!—гаркнуў.

Вось і ўсё, радасць мая. Падмяла я венікам ашкалёпкі, ссыпала іх у памыйнае вядро і выйшла на кухонны балкон. На, Эдзік, глядзі, якія мы!.. А цяпер давай вытрамся як след і ляжам бай-бай.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Фу, які ты! Як ні купай цябе, аказваецца, усё роўна пад пахамі патнічка. Бачыш, аж пачырванела. Мая мама ра́дзіла некалі прысыпаць яе пыльцой ад дзеразы, якой нават парэзы і раны гояць. Але дзе ты знойдзеш дзеразы ўзімку...

Ды нічога. Неўзабаве, пэўна, у нас з табой лепшыя лекі знойдуцца. Расстараемся пудры. А мо і талькі сапраўднай! Гэта ж усётакі Масква. Во як будзе! У яселькі цябе ўладжу. Сама, як абяцаюць, зноў за навуку вазьмуся. Цуд ды і толькі! Зноў за «пяцёркамі» давядзецца ганяцца, каб стыпендыю апраўдаць. Але, зразумела, ужо не адным гэтым жыць буду. Шкада толькі — з бацькам, мінчанін ты мой, прыйдзецца разлучыцца. Вайна ж не скончылася, ён тут яшчэ патрэбен. Ніколі яшчэ не было, каб яна ўсім шчасце прыносіла. Дай пацалую... Ды і нам з табой яшчэ цераз лінію фронта пералятаць... Што, страшна?..

## ПАЧУТЫ СТОГН

Гы-ы!..

Няўжо, калі я збочыў, ён шыбануў каменем? Ад злосці. Ад таго, што не вытрываў. А мо проста, каб паваліць на зямлю... Глядзі, Валодзя! Глядзі! Давай за вугал вунь той шалудзівай каробкі.

Ён, вядома віжаваў даўно. Мо з самага ранку. І тады, калі я адпраўляў людзей у атрад. І тады, калі заходзіў у аптэку да Юркі. Айяй! У яго ж падвале — бланкі, пашпарты, шрыфт, медыкаменты... З лішкам хопіць, каб павесілі...

А гэты, безумоўна, выявіў сябе толькі, калі спалохаўся, што можа ўпусціць мяне. Калі здалі нервы ў сволачы!

Хто ён? Немец? Сынок белагвардзейца? Наш бобік? І як высачыў? Зноў нешта не дагледзелі? Ці зноў здрада?

Стоп! Думай, Валодзя! Можа ён яшчэ не паведаміў пра грузавік, і пагоні не паслалі. Можа не ўправіўся перадаць пра аптэку...

Ісай Казінец смяяўся, калі гаварылі, што ёсць прадчуванне. Кпіў звычайна і Гена. Гена, Гена!.. О, як добра было б, каб ты пачуў мяне зараз!

Ці не занадта мы рызыкавалі? Ці не занадта былі захоплены адным? Штодзень. З самага пачатку.

Помніш прыёмнік? Помніш—у квартале немцы не жылі, і яго адключылі ад электрасеткі? Ужо тады ішлі напрапалую—поначы праводзілі сваю асобую лінію ад радыёзаводскай. І гэта пад носам у немцаў! Прыёмнік жа схавалі ў тайніку... пад этажэркай! І слухалі, запісвалі, лежачы на падлозе. Во канспірацыя!

Стоп! А ці не бравіруеш ты трошачкі, Амельянюк, каб падбадзёрыць сябе? Цэ ж було та за вадою пішло... Не, не! Азірнуцца назад ніколі не шкодзіць. Той не чалавек, хто ацэньвае толькі другіх. А раптам?..

Ну, ну!.. Прыйшлі Воранавы. Так? Два Міхалы—сын і бацька. Помніш, Гена? Электраманцёр і начальнік друкарскага цэха. З'явілася «хатняя друкарня» на вуліцы Рымарнай. Сыпанулі лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро... харчовыя карткі для падпольшчыкаў. Зусім іншы каленкор!

Але і гэта былі не газетныя габарыты... Як і чакалі, яшчэ знайшлі хлопцаў... Натрапілі на Барыса Пупка. Слаўнага, чарнявага, бы жук. З Ліды. Як пачалася вайна, я расказваў табе пра гэта, ён адразу рвануў на ўсход, але пад Мінскам перанялі. Загналі ў Драздоўскі лагер, адтуль—у турму. А калі спатрэбіліся паліграфісты, перавялі ў друкарню. Жывучы ў пакойчыку, побач з ратацыйным цэхам,— ні рабочы, ні вязень,— так і працаваў, пасмейваючыся з сябе і з усіх... Не, па-мойму, тут усё ў парадку...

Праўда, далей адкрыліся дзве магчымасці. Мы яшчэ спрачаліся з табой. Пашыраць «хатнюю друкарню» і тым часам ствараць рэзервовую? Або, як прапанаваў Воранаў-старэйшы, набіраць газету ў Доме друку, а друкаваць дома? Камітэт схіліўся на апошняе—так было хутчэй.

Бо сапраўды— як ты будзеш чакаць, калі навокал гарлапаняць, агатукаюць і немцы і падпявалы. Самым ходкім словам зрабілі «капут». Выхваляюцца сілай. На розныя лады смакуюць хуткую перамогу. Распісваюць царства нябеснае, што прыйдзе, калі настане «капут». «Ales ist Kaput».



Да таго ж уначы вахманы стаяць толькі ля брамы і галоўнага ўваходу. Унутры Дом друку не ахоўваюць. Праўда, на другім паверсе жыве шэф з сям'ёю. На чацвёртым—чорнарабочыя—палонныя і вартавыя. Але пры пэўных захадах набор начамі можна рабіць. Асабліва—у зацішным складзе для шрыфтоў... І ў домік Воранавых падпольнымі пуцявінамі паплылі гранкі, заціскачкі, вярстаткі, друкарская фарба, ручныя валікі, папера...

О як працавалася тады! Невядома адкуль браліся сілы. Ты ведаеш... Гадзіны праводзіў з навушнікамі. Сустракаўся з партызанскімі сувязнымі. Не стамляючыся, апытваў—пра баявыя справы, пра зверствы захопнікаў. Стосік блакнотаў рос.

Аднак побач, як з вады, вырастала і бяда...

Ы-ы-ы! Не, Валодзя, гэта не камень. Далей ты, мабыць, не пабяжыш... Прытуліся да сцяны і думай, думай! Толькі так можна перамагчы слабасць. Думай і сачы. У цябе, пэўна, астаецца адно—сустрэцца і страляцца. Ён, безумоўна, паявіцца неўзабаве...

Відаць, з тых, што перакінуліся і наняліся нядаўна. Бач, як старанна вёў... Да здрады баязлівец быў; а такі пасля часцей са скуры лезе, каб выслужыцца. І не толькі таму, што баіцца новых гаспадароў. Знарок распальвае сябе. Шалее, каб ва ўласных вачах узняцца...

Памятаеш метамарфозу «тройцы» з ваеннага савета, з якой напрадвесні пачаўся правал.

Амбітныя, з бравадаю. Дзейнічалі без аглядкі, як бы гуляючы ў вайну і ваенных. Склікалі нарады, назначалі дзяжурствы ў штабе, страчылі загады... А як праваліліся, ураз скіслі. Пачалі тыцкаць пальцамі адзін на аднаго, а потым і на другіх... Бо ніхто не падпіраў іх, бо не пусцілі карэнняў у зямлю.

Затое потым узяліся актыўнічаць. Выдалі Казінца, Сямёнава... Душа зашчымела ад агіды. І, бадай, не менш, чым ад небяспекі, што насунулася на падполле.

Успомні Жудро, Сашу Макарэнку—камісара «Чатырыста пятага»! Прымчаў з лесу— да іх, аказваецца, таксама дапяў адзін з «тройцы»,— паслала СД. І калі паднаціснулі, укленчыў, прызнаўся, назваў астатніх.

Другая бязвольная ануча — адкуль і спрыт з'явіўся! — прывяла гестапаўцаў на кватэру да Жудро. Перш чым страляць у замкнутыя дзверы, пераконвала «Васёк, адчыні, свае!» Там аказаўся і Саша—пагарджаючы небяспекай, яшчэ арганізоўваў вывад тых, каго маглі выкрыць.

Другі паверх, адзіныя дзверы... Скакалі ў акно. Саша звіхнуў нагу. Як ён адступаў, як адстрэльваўся?!. І апошнюю кулю пусціў сабе ў сэрца!.. Цалюсенькую добу валялася цела на вуліцы. Чакалі— а раптам хтось прыйдзе, а раптам хтось будзе бедаваць... Жудро ж пашэнціла больш—Саша адцягнуў увагу на сябе. Але пры перастрэлцы ў пакоі паранілі і яго. Праўда, мама з сяброўкамі схавала ў надзейным месцы. Ды высветлілася—раны цяжкія. І хоць было позна, пераправілі ў бальніцу. Але і туды прывяла ануча сваіх новых гаспадароў... Во якая актыўнасць!..

Балюча і шкада таварышаў! І можа зараз мацней, ніж калі на Нямізе, слухаў маму, якая прынесла горкую навіну. Калі, шукаючы слоў, пісаў пра іхнюю пагібель і, бегаючы па сваёй каморцы, абураўся: чаму гінуць лепшыя? Іменна лепшыя!.. А пасля прасіў у самага рашучага з нас: «Жан, пакарай здрадніка!.. Пад сонцам не павінна быць брыды. Барацьба ідзе ў імя вялікага, светлага. І нам, апрача ўсяго, наканавана вынішчаць дзікае мяса...»

З «Маладосць» № 7—1972 г.

А дзе ж выжлятнік? Схаваўся і пільнуе? Няўжо аказаўся хітрэйшы і разгадаў мой план? Незразумела толькі, чаму не свістаў дасюль? Пэўна, меркаваў: у паніцы нараблю глупстваў, кінуся хавацца куды да сваіх... Няўцям было—могуць памагчы, як не раз памагалі, руіны... Але чаму не свішча ён цяпер? Спадзяецца справіцца сам? Не хоча дзяліць славы? Ну, ну!..

Горка і горна!.. Нядаўна ў аблаву трапіў і тата... Не ўбярог і яго. А гэта ж, таксама нядаўна, адпраўляў чарговую партыю за Дзяржынск. А пра тату і не падумаў... Эх, Валодзя! Эх, Амельянюк! Толькі цяпер прыгадаў: родны твар ужо бялеў ад старасці... Дый занадта шмат хто ведаў яго ў горадзе...

Добра хоць — у барацьбы свае законы. Кроў, пралітая за справядлівую справу, мацуе яе. А той, хто загінуў, астаецца сумленным, дарадцам жывых. У гэтым, пэўна, запарука, што жыццё рухаецца наперад.

Па даручэнню гаркома з сэрцам, якое крываточыла, узяўся за пісьмо Цэнтральнаму Камітэту. Помніш, ты яшчэ памагаў мне, Гена?

Прысягалі ад імя мінчан: беларускі народ быў і астанецца верным дружбе савецкіх народаў. Ён ганарыцца працай сваіх пабрацімаў у тыле, іхняй мужнасцю на фронце. Запэўнівалі — і яны могуць ганарыцца нашай барацьбою. Успаміналі Жудро, Макарэнку... І зноў прысягалі: мы з гонарам пройдзем праз нягоды. Так было, так будзе!..

І хоць набліжаўся новы жахлівы майскі дзень — калі ў скверах і на рыначных плошчах зноў наважылі караць лепшых, мы пачалі збіраць подпісы пад пісьмом. І сабралі! Насуперак...

Стоп!.. Але не — і тут, па-мойму, усё ў парадку... Інакш нельга было...

Толькі чаму ляцяць думкі? Чаму падкошваюцца ногі? Цягне зямля? Руіны быццам хістаюцца і сонца пячэ вочы? Касматае, сляпучае!.. Трымайся, трымайся, Валодзя! Чаго б гэта ні каштавала. Бо як жа іначай ты дастанеш з кішэні пісталет? Як будзеш страляць, калі бахнешся на зямлю? Ты ж абавязкова тады на міг зробішся бездапаможным. А потым... калі нават і ўдасца выцягнуць свой ТТ, шпік—гэта відаць па ўсім!—проста наступіць на тваю руку. Нябось, вышкалены, стараецца. А раз наступіць — ты ў ягонай уладзе. А самае галоўнае — не абясшкодзіш ужо...

Пачакай, што ты хацеў дадумаць? Дзе пралічыліся? Хто мог прадаць?

Так, так... Гарком прыспешваў і з газетай.

Ухваліў назву — «Звязда». Законнік Вася Жудро яшчэ раней абгрунтаваў: «Вядома! Хай свеціць, як і дасюль».

І вось!.. Не спяшайся... Назва набраная даваенным шрыфтам. Хай мацней б'юцца сэрцы! Побач — зварот: «Таварышы! З сённяшняга дня... пішыце!..» О-о! Затым — перадавая «Шырэй барацьбу!» Безумоўна — «Весткі з франтоў» і «Партызанскія навіны». І, само сабой, гумар — жывем і не кашляем!..

Да скону не забудуцца ноч, калі вычытваў карэктуру, дзень, калі газета выйшла... Да скону?.. Мама плакала ад радасці і гладзіла мяне, як барадатае дзіва...

Але навошта, як і раней, за мной аставаўся Дзяржынск? Хоць цяпер можна прызнацца... я любіў гэтую «нагрузку». Колькі мне? Дваццаць пяць. Не так ужо многа. Але я... маладзец, Гена!..

Калі я апошні раз пабываў у вас? У пачатку месяца. Выбраўся





з руін і... захмялеў. Над галавой — неба, хмурынкі. Полем на край свету крочаць слупы. У жылах прыдарожных бяроз — сок. Вунь адзін камель надсеклі і між карэнняў, прыкрыўшы яловаю лапкай, паставілі вышчарблены гляк... А злева — прасторы адкрытай вады. Там, дзе мелка,— лотаць. Жоўтыя кветкі, як матылі, якія вось-вось успырхнуць. Праз дзень-два ўзарвуцца набрынялыя пупышкі, зеленаватае воблака ахіне дрэвы, і па пералесках пакоціцца зялёны шум.

Каюся, я нахлябтаўся чужога халоднага соку... Нават збочыў з дарогі да пянька. Сядзеў, аслеплены навакольным святлом, аглушаны птушыным шчэбетам, а потым, спяшаючыся, мусіў галасаваць і ехаць у кузаве з панурым вахманам. Што за дзяцінства?..

Але што такое? Я і цяпер, здаецца, п'янею і... падаю. Потарч, не заплюшчваючы вачэй... Дый болю няма. Толькі на момант гарачым абдало грудзі. Ці магу я хоць варушыцца?

Стоп! Не панікуй, Валодзя! І сачы, сачы!.. Не забывайся на тое адно, што асталося... Бо выдаў, факт, хтось з тых, каго адпраўлялі ў лес. Бо ты сам дапусціў памылку. Стаяў, пазіраў збоку, ці ўсё будзе добра, а потым расчуліўся — памахаў таварышам у грузавіку. О як трэба перадаць гэта Жану!.. Прызнацца: нам наогул бракавала вытрымкі. Мы пагарджалі небяспекай, празмерна давяралі... І гэта, калі супроць выступала цэлая вымуштраваная плойма.

Хоць... Пачакай!..

А ці не мог уратавацца, скажам, Сямёнаў? Мог. Калі яны з'явіліся ля брамы, ён ужо бег па калідоры. Спагадлівая суседка, схапіўшы за руку, уцягнула яго да сябе. З тайніка ён вылез, калі ўзнятая ў доме калатнеча ўжо кончылася... Ды не сцярпеў — захацелася паглядзець з-за фіранкі ў акно. Глянуў — і сустрэўся позіркам з эсэсманам, які клыпаў па тратуары ззаду ўсіх.

А Ісай Казінец? Сам Славік! Сабраны заўсёды, як спружына. Разважлівейшы з разважлівых. Хіба варта было яму ісці на яўку з партызанскаю праваднiцай, раз у горадзе аблавы і павальныя арышты? Калі, наадварот, трэба было стаіцца, як патрабаваў ад другіх. А вось узяў дый пайшоў... А галоўнае — адчыніў брамку, падняўся на ганак, не паслаўшы перад сабой сувязную, якая была з ім... І ступіў ужо не ў сенцы, а ў гестапаўскі засценак...

Калі «Звязда» трапіла ў СД, адтуль, натуральна, нарынулі на Дом друку. Але выручыў шэф — цаніў Пупка за спрыт — той умеў набіраць і па-беларуску і па-нямецку. Назаўтра друкарская прыбіральшчыца, якая, дарэчы, памагла яму выбрацца са склада, на ліхі выпадак куды яго ўсё-такі схавалі, праз загадзя выламаную дзірку ў плоце вывела на Ціхую вуліцу. Але, успомніўшы тут, што ён без пінжака, Барыс неспадзеўкі заўпарціўся. «Хоць наапашкі накіну!..» І як не маліла прыбіральшчыца, вярнуўся. І, зразумела, толькі адчыніў дзверы свайго катуха, як улез у нерат...

Што гэта? Пралікі? Ліхацтва? Магчыма... Але ці не проста, Валодзя, барацьба? Яе эпізоды? Сведчанне: чалавек перад усім створаны для працы, а не вайны. Ён жыве мірам. І калі ваюе, дык дзеля таго ж міру... Хіба мы не вучыліся ваяваць?..

Дзяржынск!.. Няўжо ўсё гэта было? Былі чырвоны гальштук, камсамольская работа, інстытут журналістыкі, дружба з табой, Гена?..

Што ты робіш цяпер, кіжавец мой? Рыхтуеш лістоўку? Панёсся на веласіпедзе ў нядаўна створаны атрад? Ма-лай-чына!.. Калі я стараўся ўявіць сабе чыстую цягавітую сям'ю, я ўспамінаў вашу. Чэснае партыйнае. Надта ўжо лёгка дыхалася ў вас, хораша думалася, і самому карцела быць лепшым. Недарма мой сын — твой цёзка. Недарма навокал цябе згуртаваліся хлопцы са «Штампоўшчыка». Урастай, урастай, Гена, у рабочых! Яны падкажуць, як і што рабіць. А калі прыйдзецца туга, схаваюць... Помніш, як яны слухалі расказ пра падзеі ў Мінску? Як пасля ў вашым садзе дзівіліся на зорнае неба, пачуўшы гул ІЛ-4, што ішлі на бамбёжку?..

Мяне заўсёды інтрыгавала ў казках, як, жадаючы даведацца, ці не далёка пагоня, уцекачы кідаюцца на зямлю і прыпадаюць да яе вухам. Неяк здарылася: я не правяраў гэтага. Слухаў, як гудуць тэлефонныя слупы, як дрыжаць і гудуць рэйкі, калі набліжаецца цягнік, а зямлю не слухаў. Цяпер жа хочаш не хочаш — слухай. І дзіва!.. Я выразна чую крокі! Нехта бяжыць да мяне. Аж спатыкаецца. Бліжэй, бліжэй... Нават не адзін. А два, тры. З розных бакоў. Хтось з іх, безумоўна — той. Хто астатнія? Сябры? Ворагі? І каторы падбяжыць першы?..

Не, навошта ашукваць сябе? Хто б яны ні былі, ратунку, Валодзя, няма. Помніш, казаў Казінец: «Можаш — змагайся да апошняга. Не можаш, каб не брыдзіць у сабе чалавечага,— памірай».

Але цяжка прыняць адзіноту і цемру. Нялёгка развітвацца з сябрамі. З сонцам! Пад ім і боль не боль... Крыўдна: ёсць... былі яшчэ сілы. Душа прагне змагацца. Мрояцца кнігі, напісаныя сумленна, душой... Горка: новае гора дабавіцца маме. Страціла дачку, унукаў—трапілі недзе ля За́мбрава пад бамбёжку. На дарогах вайны загубілася мая Ліда з Генкам. Закатавалі ў засценках тату. Пагналі ў Германію брата. Гіну і я... Адна астаецца! З вялікай сям'і!.. Шкада: адбіраюць і другое — «Звёздачку»...

Не, мамо, мы ўсё-такі часам былі наіўныя. Але... але не ведаю, ці зрабілі б мы больш, каб былі іншымі...

Ы-ых!

## ТАК ТРЭБА

— Вы хочаце, каб я расказала пра Ваню? Ну што ж...

Твар у яе — стомлены, як у чалавека пасля вялікай бяды, што яшчэ мучыць яго,— перасмыкнуўся. Са злосных зеленаватых вачэй выкаціліся слёзы. Яна крыва ўхмыльнулася і злізала іх языком ля куткоў рота.

— У чыгуначнікаў,— з намаганнем сказала яна,— свая дысцыпліна. Вайна для іх, як і для пагранічнікаў, пачынаецца адразу.

Вы знаеце, няшчасце прыйшло ў нядзелю. Ваня з кампаніяй збіраўся на адкрыццё возера. Хацеў пакупацца, пагуляць у валейбол. І вось пагуляў... А ў сераду ўжо затрымаў дыверсанта. Спяшаўся на работу і напароўся. Сыценькі, ва ўсім новым — чырвонаармейскім. Не павітаўшыся, пачаў распытваць, ці ёсць у горадзе магазіны... А праз колькі гадзін і бамбёжка ўсчалася — давялося везці сем'і чыгуначнікаў і бежанцаў з Заходняй да Оршы.

Вось як, адразу ў мясарубку. І гэта — Ваню, мірнаму, добраму хлопцу, які ва ўсім любіў пэўнасць.

А тут, вы таксама ведаеце, што за парадак быў... Апошнім днём чэрвеня Ваня трапіў у Смаленск. Ва ўпраўленне Беларускай чыгункі. І што, думаеце? Атрымаў разам з другімі заданне — кіравацца

назад, аднаўляць Мінскі вузел. Добра, што ў Оршы пераняў той самы, потым славуты Заслонаў...

Уразіла, як казаў, і наступнае заданне — калі паслалі весці састаў з цыстэрнамі ў бок Лепеля. Даехалі да Камарова. Ёсць такая станцыя. А там грыміць усё. Пыл, дым. Гараць дамы. Танкі без гаручага стаяць. Кончылася. Але адну цыстэрну толькі і апаражнілі. Адкуль ні вазьміся нахапіліся нямецкія самалёты. І каб не суxенькі дзядок, невядома як бы ўсё павярнулася. Падышоў да танкістаў і павёў. За хмызняком, рукой падаць, аказваецца, знаходзіліся рэзервуары з бензінам. І яшчэ казаў Ваня... Калі хапіліся, каб падзякаваць старога, яго і след прастыў, ой, як спадабалася гэта Ваню!

Сумленнасць, дысцыпліна ў яго ў крыві былі. Пачне расказваць, абавязкова — дата, дзень, месяц. Акуратыст. А мо і да справаздачы рыхтаваў сябе. Ведаў: праверка павінна быць.

Дванаццатага ліпеня, у суботу, зноў рушыў на Смаленск. На дарозе паяздоў хоць гаць гаці. Сотню кіламетраў чохаў паўтыдня. А калі дачохаў,— во ліха! — і тут, на гарадскіх ускраінах, немцы. Вакзал абстрэльваюць. Дыспечар, зразумела, загадаў — паваррочваць аглоблі. Давялося прарывацца праз ахопленую полымем станцыю, пад агнём самім пераводзіць стрэлкі, зашытыя чамусьці ў тупікі.

Аднак пашчасціла дабрацца да Каладні, узяць кірунак на Вязьму. Ды перад мостам пад Ярцавам зноў стоп. Пробка на некалькі кіламетраў. Немцы, аказваецца, высадзілі дэсант, і той трымае пад абстрэлам мост.

Дзесяць дзён стаялі. Ні ўзад ні ўперад. Нельга ж было без загаду кідаць народнае дабро! Дый спадзяваліся: дэсант з гадзіны на гадзіну даб'юць.

Але на адзінаццатыя суткі паўз эшалоны прапылілі нямецкія танкі. Паваліла мотапяхота — рвалася на Маскву. Паязды, вядома, акружылі. Знялі з паравозаў брыгады.

У лагеры пад Духаўшчынай і ўбачыў Ваня на свае вочы, што ўяўляюць сабой гітлераўцы.

Дваццаць шостага, за поўдзень, над лагерам разгарэўся бой. Дзень выдаўся мглісты, бой завязаўся на вялікай вышыні, і цяжка было адрозніць, дзе чый самалёт.

Знячэўку адзін з самалётаў задыміў. Вахманы ў радасць: «Русіш капут!» Але калі, падаючы, ён наблізіўся, стала відаць свастыка на борце. Потым і з другім такая ж аказія здарылася. Ахова асатанела. Трасе кулакамі над галовамі, слінаю пырскае: «Донерветэр! Донерветэр!» Адзін з нашых усміхнуўся быў і, паверыце, тут жа асеў на зямлю. Таварыш яго схіліўся над ім і не то што з дакорам, а са здзіўленнем спытаўся толькі: «За што гэта вы яго? Га?» І таксама асеў. Ну і пачалося...

Потым уцалелых пастроілі ў калону. Пад узмоцненай аховай пагналі ў Віцебск. Але Ваня ўжо рашыў: трэба ўцякаць — інача сапраўды капут.

Трэба! Ён дзівак. Яму толькі сказаць гэта самому сабе...

Дамовіўся з двума — таксама нашынскімі, мінчанамі — і стаў пільнаваць зручны момант.

Пад Віцебскам, калі калона ўвайшла ў прыдарожнае сяло, усе кінуліся да калодзежаў. Зноў узнялася страляніна.

Скарыстаўшы гэта, Ваня з таварышамі шмыгнулі ў бліжэйшы падворак. Адтуль — у хату. Жанчыне, на якую наткнуліся ў сен-





цах, загадалі, каб схавала. Узабраўшыся на гарышча, зашыліся за ляжак. Калі ж калатня ў сяле скончылася, гаспадыня — мажная, у падаткнутай спадніцы — выцягнула з печы вялізны, на добрую арцель, чыгун.

Але вось дзіва — глядзяць, а ў печы яшчэ большы стаіць. Навошта? І высветлілася: жанчына штодзень гатуе свой боршч такімі порцыямі. Бо што паробіш — ідуць людзі і ідуць. Да вечара адзін чыгун пусцее, а да раніцы — другі. А яна ўсё стараецца і стараецца. У Вані неяк ручны гадзіннік захаваўся, дык ён і яго пад скацерку сунуў...

Толькі адзінаццатага жніўня дапалі яны да Мінска. Прыбіліся, канешне, ушчэнт.

Вось тады ўпершыню і сустрэлася я з Ванем. Бачу — пляцецца па вуліцы Машыністаў лабаты, худы, але паголены хлопец. Я не з жаласлівых, мо наадварот нават, а тут шкада зрабілася. Дый нейкім простым, адкрытым ліху здаўся ён мне.

Азірнулася кругом — нікога. «Была не была,— думаю.— Давай, Ліпа!..» Не падыходзячы, пацікавілася, адкуль і куды шкандыбае. Прапанавала: калі хоча — знайду прытулак. І толькі пасля зразумела, чаму ён як бы спалохаўся, спахмурнеў — былі і такія, што першага папаўшага тады бралі ў прымы... Але запомніў, стаў нават потым шукаць...

Многае, як прызнаўся пазней Ваня, здзівіла яго ў Мінску. Чыгуначны вузел працаваў. На некаторых паравозах — рускія брыгады. І кіруе імі былы начальнік дэпо. Паспеў ужо! Мабыць, таму, хто патрымаў у руках лейцы, мулка без іх. Прыкметна ажывіліся і пазадкі. Нехлямяжы, пануры Захарэўскі, які аціраўся пры паваротным крузе, і той падняў галаву, пачаў, ледзь што, гразіць паль-

цам, цыгана-токара выдаў... Нават Балашоў Апанас — машыніст, член партыі, які некалі з Ванем жыў разам, без сакрэтаў, усё папалам — таксама пры сустрэчы параіў:

— Мы, Івашчонак, паравознікі. І хоць паравозы па рэйках ходзяць, кіраваць імі — нам... Пaступай! Хочаш не хочаш, а пачынаць з нечага трэба... Схадзі на таварную станцыю, паглядзі...

Ваня адшукаў таварышаў, з якімі прыдыбаў у Мінск. Пацягнуў на таварную і аж разгубіўся. Запасныя, дэпоўскія пуці забіты саставамі. Адных паравозаў мо сотні тры.

Што рабіць?

Але пачынаць працаваць — не ўцякаць з палону. Уцякаючы, ты ратаваў сябе і адначасна выпраўляў ранейшы свой грэх — не меў ты права здавацца ў палон. А тут што? Наадварот — не маючы права наймацца на службу да ворага, ты сваім одумам збіраешся наняцца служыць яму.

Але во праява, зноў усё вырашыла ўсведамленне — **трэба**. Трэба было жыць, а значыцца — нешта рабіць. Трэба было — нельга ж інача! — уключацца ў барацьбу, хоць цябе ніхто і не запрашаў у баявыя рады. Падпірала перакананне — бачыш ты гэта ці не, а барацьба ідзе. Яна не можа не ісці. І не так ужо важна, як ты прымкнеш да яе. Важна прымкнуць, важна, каб ты ўносіў у яе сваю долю. Недарэчна думаць аб пакараннях ці ўзнагародах, калі зямлю дратуюць чужынцы.

На работу іх прынялі без усякага — памог былы начальнік. Стараўся, відаць, забяспечыць фашысцкую чыгунку кадрамі. Ваню далі паравоз, памочнікам прызначылі Карзюка Есіпа, і — калі ласка, ішачце.

У першую паездку, як потым я даведалася, яны «прыцірaліся». Знаёміліся і з парадкамі заведзенымі. Прыглядаліся да попкі, які ехаў з імі для кантролю. Чулі: некаторыя з такіх разумеюць паруску і трохі кумекаюць у спецыяльнасці машыніста, хоць і не паказваюць выгляду.

А вось другі раз Ваня рашыў ужо рызыкнуць. Зразумеў: Карзюк — свой у дошку, а попка — ні бэ, ні мэ. Сядзіць з павешаным на шыю аўтаматам і зыркае наўкол.

Поезд вялі да Асіповіч. Мінулі Пухавічы. Ваня ўзяўся тлумачыць «кантралёру», што наперадзе — цяжкі ўчастак і трэба падрыхтавацца, пачысціць топку. Той зыркнуў на Ваню, потым на лес абапал, але кіўнуў — згодзен, значыцца.

А нашым толькі гэтага і трэба. Спынілі цягнік, замітусіліся, забегалі.

Ціск у катле падае, вады меншае. А час ідзе. Праўда, попка неўзабаве занерваваўся. Тыцнуў аўтаматам у акно — партызаны, маўляў, могуць нахапіцца. Затыцкаў цераз плячо — рух, маўляў, на перагоне застапорыцца. А Ваня адно рукамі разводзіць. Паслухаўся, толькі калі аўтамат наставіў. Але і тады папярэдзіў: ну, глядзі — калі што якое, сам адказвай... Ледзь дабраліся да Асіповіч. А там прыйшлося паравоз гасіць — спалілі топку, бо не пачысцілі як след.

Наступны раз выйшла яшчэ мудрэй. Праехалі ўсяго да Сцяпянкі. Ваня, праўда, перад гэтым зацiснуў клінам поршневы падшыпнік, змазаў зверху яго мазутай і прысыпаў пяском — чыркануўся, маўляў, аб кучу баласту. Ну, вядома, падшыпнік і выплавіўся... І зноў давялося ставіць састаў на бакавы пуць у лесе, а самім падавацца ў дэпо на рамонт...



Дзейнічаў Ваня напару з памочнікам, але, па сутнасці, саматугам. Дзейнічаў па нейкай інерцыі, ці што. Трэба — і ўсё тут.

К гэтаму часу мы пасябравалі. Праўда, я тады дзяўчом была, якой дзявоцкасць — і гонар і слава. Сабе і сваім косам служыла, як нявольніца, не заглядаючы наперад. Дый жыць дужа хацела.

Пасля каменданцкага часу хадзіць па вуліцах было забаронена. Туляўся Ваня ў знаёмых, у якіх па тры-чатыры душы ў пакоі. А што за сяброўства-каханне без начных спатканняў або прагулак? Яму лішнія не толькі чужыя вочы, а часам і позіркі адно аднаго. Можа і наогул нішто так не збліжае, як праведзеная сам-насам ноч. Яна тут — як цёплы дождж для траўкі.

Было і яшчэ адно, што перашкаджала нам. Я з-пад Пухавіч, з вёскі. Татка, мамка жывыя яшчэ. А галоўнае — мне здавалася, што і вайна там у іх не вайна, што болей зацішнага кутка наогул на свеце няма. І я жыла як бы і там, і там. Вось і не здолела я адразу раскусіць Ваню, прымірыцца з ім...

Нават не задумалася над тым, чаму гэта ён, калі пачынаў вучыцца, адразу ў два прафтэхнічныя вучылішчы паступіў. І толькі калі дырэктары выпадкова на агульнагарадской нарадзе сустрэліся, разгаварыліся, кінуў адно з іх.

Мусіць, таму наша сяброўства мала змяніла ў нашым жыцці... Я, вядома, здагадвалася пра сёе-тое, але не надавала гэтаму вялікага значэння. Падумаеш — трэба! А ён... ён таксама не надта разумеў мяне і, відаць, захоплены сваім, шукаў ва мне апору.

Шкодзіў немцам, вядома, Ваня не адзін. Гітлераўцы пачалі прымаць меры. Паспрабавалі вывучаць прычыны аварый.

Падсадзілі правершчыка і да Вані.

Толькі гэта яны з Карзюком, прыняўшы паравоз, узяліся рыхтаваць яго да паездкі, як заявіўся немец. Высокі, горды, са скручаным коўдрай пад пахай. Стаў раскіракаю непадалёку і сочыць. А нашы — нуль увагі. Падышоў слесар. Як прынята, спытаўся, ці патрэбна дапамога. Але Ваня і тут назнарок адно рукою махнуў — абыдземся, самі з вусамі.

Немец ухмыльнуўся. Счакаўшы, важна палез у кабіну — ну што ж, пабачым. Загадаў «тапіць» паравоз і, захутаўшыся ў коўдру, усеўся на месца машыніста. Ад самаўпэўненасці людзі спакайнеюць. Мароз быў люты, ад топкі цягнула цеплынёй, і ён задрамаў.

Каля самага Барысава, як вядома, дарога пакатая. Поезд, якім не кіравалі, набраў хуткасць. Небарака прачнуўся. Убачыў чырвонае вока блізкага семафора. Пашарэў, узяўся тармазіць. Але тармазы не схапілі — пастараліся нашы. Ваня з Карзюком на падножкі ўжо сталі. Ды пуць аказаўся свабодным. Тады, скеміўшы, Ваня адштурхнуў немца і ўключыў тармазную сістэму састава. Ну, як і трэба было чакаць, скаты ў паравоза заклініліся, ён пайшоў юзам.

Так праскочылі яны праз усю станцыю. Спыніліся за мостам цераз Беразіну. І, вядома, на скатах метал злізала, як наждаком.

Прыбеглі эсэсаўцы. Кінуліся да Вані, потым да свайго недарэкі. Схапілі яго, павалаклі, загадаўшы «асадзіць» поезд назад. Але Ваня і новую акалічнасць скарыстаў — і гэта пабываўшы на валаску ад смерці! Узяў дый пагнаў састаў так, што рэйкі ад выбоін на колах пачалі лопацца. А паставіўшы паравоз каля дэпо, «забыўся» зліць ваду... І ажно ўлетку бачыў яго там жа...

Тады я, канешне, не ведала гэтага. Не здагадвалася і пра другі Ванеў клопат... Перад вайной я таксама прафтэхнікум скончыла. Атрымала дыплом памочніка машыніста. Але, зразумела, пры нем-

цах мусіла працаваць рознарабочай. Ды ўсё роўна верыла ў сваю зорку — жыла як набягала, не дужа прыглядаючыся да таго, што адбываецца навокал...

А ў дэпо тым часам траплялі лістоўкі. На вугальным складзе ні з таго ні з сяго ў крана зламалася страла. На вагона-рамонтным заводзе раз за разам выходзілі са строю станкі, маторы, абсталяванне. Некуды таемна знікалі знаёмыя чыгуначнікі, і звычайна пасля нядзелі — базарнага дня. Пад новы год парвалася водаправодная сетка — вузел астаўся без вады. Паравозы гасілі або гналі да Свіслачы, на мост, і налівалі бруднай вадою. Сапсавалася вадакачка і ў Пятроўшчыне — нехта заваліў паветраныя трубы чорт знае чым... А Ваня як быў, так і астаўся аддадзеным самому сабе.

Гэта, безумоўна, мучыла яго, хоць ён цвёрда і спадзяваўся: не сёння — заўтра ўсё роўна напаткае, сустрэне каго. Або, калі спатрэбіцца, самі прыйдуць да яго.

І, вядома, прыйшлі. Усё той жа Балашоў. Патрымаўшы нейкі час пры сабе, адвёў Ваню на Вірскую вуліцу да... былога начальніка дэпо. Во было смеху і радасці!.. Як малыя...

Зіма прынесла новыя клопаты. Нехавала паліва, солі, хлеба. Падпольная арганізацыя рашыла памагчы мнагадзетным сем'ям франтавікоў і партызанаў. Пачалі збіраць грошы, адзенне, прадукты... Клопаты аб паліве ўзяў на сябе Ваня. Ён папярэджваў жанчын, каб яны прыходзілі туды ці туды, і скідаў ім вугаль. Аднойчы яны з Карзюком ледзь не палову тэндара раскідалі ад Бетоннага моста да пераезда на вуліцы Талстога. Прыносілі вугаль у сумках і дадому. Спачуваў Ваня людзям. Нельга, мусіць, ненавідзець адных, не любячы другіх...

Упершыню раскрыўся ён перада мной толькі напрадвесні — расказаў, як вадзіў паравоз з пустымі вагонамі на станцыю Мінск-Паўночная.

Прыбыў на галоўны пуць, спыніўся. Але падбеглі немцы і замахалі рукамі — трэба было прапусціць поезд з Маладзечна. Ну, вядома, давялося ўбірацца назад. Але толькі Ваня набраў хуткасць, як убачыў метраў за дзвесце грузавік з прычэпам — коціць, разагнаўшыся, па Апанскай да пераезда. Ага! І замест таго, каб прытармазіць, прыбавіў пары. Праўда, з будкі выбегла ахова. Але грузавік ужо за шлагбаумам. А тут яшчэ Ваня даў свісток. Шафёр завіляў, з'ехаў пярэднімі коламі з насцілу. Карацей кажучы, перакуліў Ваня той транспарт з цэглай.

Пакуль выцягнулі з-пад машыны шафёра з нейкім ваенным чынам, пакуль адцягнулі з палатна пакарэжаны грузавік, падабралі раскіданую цэглу — прайшло з гадзіну. А тут, як на тое, у Ваневага паравоза пагнуўся поршневы шток. Прыйшлося чакаць другога паравоза, потым, не вельмі спяшаючыся, здымаць дышла, гасіць топку...

Каб не нарвацца на бяду, па вуліцах мы не гулялі. Тым болей у скверах — улюбёным месцы салдатаў, шлюх ды падшывальцаў, якія чысцілі боты. Да таго ж немцы панастаўлялі там вітрын для загадаў і розных плакатаў, якіх Ваня цярпець не мог. Таму гулялі ў бязлюдных кварталах, сярод руін. Сядзелі на ганках, што ўцалелі ад будынкаў. Я з заціснутымі рукамі між кален, Ваня — чырачы палкаю па рудым снезе.

Не дужа вясёлымі былі нашы спатканні. Падбухторваючы Ваню, я звычайна скардзілася: на рабоце прыстае, ліпне Захарэўскі, немцы з аховы таксама прыстаюць, каб пераходзіла ў сталовую афіцыянткай. Ваня слухаў і болей маўчаў. А калі гаварыў, дык пра адно — бяду, што звалілася на людзей, народ. Грэў мае рукі ў сваіх, абдымаў, але, як здавалася, не аддаючыся гэтаму ўвесь, не прагнучы большага, не перастаючы аб нечым думаць... Калі не пяройдзена мяжа, мы, дзяўчаты, болей разважлівыя. Дый наўрад ці ўласная разважлівасць каго цешыць з нас. Ванева стрыманасць крыўдзіла мяне. Мае чары аказваліся як бы бяссільнымі.

— Сёння мне пашанцавала, Ліпа!..— пачаў ён тады.

— Ну-ну,— падагнала я, нібы не зусім верачы.

Ён прыглядзеўся да мяне.

— Раніцой угробіў аўтамашыну, двух фрыцаў і свой паравоз,— дакончыў жорстка.

— Ты ў сваім розуме?

— Ага...

— Падвучылі, значыцца? Хто?.. І выкруціўся? — з'яхіднічала я, хаваючы, што сэрца ў мяне спынілася і заныла.

— Выкруціўся? Шкада,..— уздыхнуў ён і пастараўся перавесці гаворку на іншае: — Я там ехаў па галоўным пуці і гаспадаром быў. Няхай на сябе наракаюць... Табе, значыць, не падабаецца гэта?

У мяне хапіла розуму прамаўчаць.

— З'едзем адсюль, Ваня!

— Навошта? Куды?

— Ды хоць бы да нас...

Над руінамі вялі свае гульбішчы крумкачы. Насіліся з крыкам, кулдыкаліся, як над лесам, нібыта і тут шукалі месца для гнёздаў. Мне стала страшна. І страх перашкодзіў здагадацца, што гэта — праверка мне, Ваня вагаецца, і яму самому нялёгка... Паглядзелі б, як разгубіўся ён, калі я аднаго разу заспявала ў руінах!.. Адкуль мне ведаць было, што ў яго паявілася новая сіла—адказнасць перад таварышамі? Што там, у былога начальніка дэпо, прыняў ён прысягу падпольшчыка, пакляўся не выдаваць сакрэтаў. Дый калі б і ведала, ці захацела б зразумець яго?

Праўда, мне і цяпер не ўсё ясна. Чаму ён так упарта таіўся перада мной? Ну, скажам, спачатку адзіночкай быў. Але ж пасля і ягоным клопатам стаў рост падполля. Значыцца, шкадаваў? Так? Але ж чаму тады прыцягнуў да падпольнай работы гаспадара сваёй кватэры? У таго ж—жонка, трое дзяцей, бабуля сямідзесяцігадовая... Мяне засцерагаў, ахоўваў, а іх?..

Не, даруйце, я ўсё-такі трошачкі хлушу. Кожнаму хочацца выглядаць лепшым. Ваня, безумоўна, прыкмячаў за мной такое, што не давала яму адкрыцца зусім, зрабіць мяне паплечніцай. Я быццам аслепла і знаць нічога не хацела, апрача сябе ды яго. Мяне абурала— што, я і сабой не магу ўжо распараджацца?.. «Трэба!» А потым і таго горш. Убіла ў галаву — Ваню самога неабходна ратаваць.

У сакавіку падполле спасціг правал. Начальнік з Балашовым і другімі хлопцамі некуды зніклі. Казалі, трапілі ў лапы гестапаўцаў. Ад іх не вельмі ўцячэш... І Ваню прапанавалі ўзначаліць падпольную арганізацыю дэпо. Увялі ў састаў толькі што арганізаванага райкома. Вунь як ацанілі!.. А я?.. Я на сваім стаяла. Адчувала — разам з тым, як Ваня расце, ён аддаляецца ад мяне. Ну і баранілася, вядома... Злавала само бяссілле што-небудзь змяніць. Не было ж даўней такога. Калі хацелася, вяроўкі віла з хлопцаў...

Лета і ў руінах лета. Помню — нядаўна адгрымела навальніца. На зямлі—лужыны. У іх валтузяцца ўскудлачаныя вераб'і. Сям-там на пачырванелым друзе трава. І руіны як вымытыя светлай вадой.

Пасля навальніцы прыбывае сілы. Яе адчуваеш грудзьмі. І хочацца рабіць нешта харошае сабе...

Трымаючыся за рукі, прапускаючы пад імі лужыны, мы блукалі па знявечаным квартале. Я ўскідвала галаву, касілася на Ваню. Ён, схуднелы, сумны, пазіраў сабе пад ногі, і, здавалася, думкі яго былі далёка адсюль.

Спыніліся, як заўсёды, каля руін, у якіх захаваўся ганак. Але прыступкі былі мокрыя, і сесці не было як. Я паглядзела на Ваню і здзівілася. У добрых вачах яго стыла ўжо ўпартасць. Дый галаву ён трымаў набычана—нібы перад бядой або наступам.

— Чаго ты? — спыталася я.

— Чакаю ад цябе слова,— не ўзняў ён вачэй.

— Я не жадаю, каб ты падстаўляў галаву пад абух.

— Мне нельга іначай, Ліпа... Я рабочы...

— Ну і што? Разумнейшыя даўно ўцяклі з горада. Добра ім!..

— Каму?

— Тым, хто кожны дзень пасылае цябе на смерць.

— Мяне пасылаюць, бо я павінен ісці. У мяне ёсць абавязкі.

— Не церпіцца, як твайму былому начальніку, трапіць на шыбеніцу? Тады будуць табе абавязкі!

Ён адступіў ад мяне і ўтаропіўся, як на дзіва.

— Адкуль ты такое ўзяла?— усміхнуўся нядобра.— Гэта ж правакацыя. Ці не Захарэўскі падкінуў?

Яго ўсмешка вывела мяне з сябе. Госпадзі, як малахольны! Ім даражыш, за яго баішся... Няўжо не даходзіць, што ў маіх турботах— любоў, абяцанне стаць ягонай? Няўжо мала гэтага? Прапануеш сябе, шукаеш паратунку!.. А ён нешта хавае, не слухаецца. Ну, ладна! Не дурнейшая за цябе!

— Навошта мне твае кепікі?—выгукнула.— Думаеш — баба перад табой? Цану гэтай бабе ўстанаўліваеш? Узважваеш, ці падыдзе? Хто табе даў права патрабаваць ад мяне тое, чаго табе хочацца?

— Гэта ж — распуста, Ліпа! — перапыніў ён.— Значыць...

Але я не дала яму дагаварыць. Сама сыпнула, як з мяшка. Бесхрыбетным — і гэта Ваню! — назвала. Абвінавацілa: усе, каму хочацца, папіхаюць яго, ягонымі рукамі жар заграбаюць. А ён адно рад старацца—трэба, дык трэба!.. Ну, няхай—жыць дзеля другіх яшчэ можна: сёе-тое і самому дастанецца. Але галаву пад абух самахоць падстаўляць?.. Усё роўна потым ніхто дзякуй не скажа. А калі і скажа, што з таго? Каму карысць? Бацькам ягоным? Дык яны ў зямлі даўно. Дзецям? А дзе яны? Мне? Але навошта ён мне з раструшчанай галавою, калі я і галавы тае як след не гладзіла і наглядзецца на яе не паспела. А што да яго начальніка — у дэпо ўсе ведаюць: злавілі як міленькага і павесілі...

Ён моўчкі выняў з-пад пінжака зачытаную газетку і, працягнуўшы мне, адвярнуўся.

Пазней я па крупінцы збірала ўсё, што датычыла Вані, і шмат чаго дазналася. Правал, нямецкая шуміха наўкол яго разварушылі пазадкаў. Яны расперазаліся. І каб было не панадна, іх рашылі прыструніць. Ваня ўзяў на сябе Захарэўскага. Прыдумаў план—праязджаючы паўз паваротны круг, скіне камлыгу вугалю. Але тут «Звёздачка» надрукавала зварот былога начальніка дэпо, дзе той паведамляў: ён у лесе і, выкрываючы нямецкую хлусню, заклікаў чыгуначнікаў узмацніць барацьбу. Тут жа пайменна пералічваліся нямецкія прыслужнікі, іх «заслугі». Абяцалася і адплата. «Звёздачка» трапіла ў кішэню Захарэўскаму. А трапіўшы, так ашаламіла, што ён загаворвацца пачаў... Лепшай нагляднай агітацыі цяжка прыдумаць, і Ваня адклаў прысуд... А я?

Пасля я здзіўлялася... Здзіўляюся і цяпер—якая патрэбна вытрымка, каб, ведаючы ўсё гэта, сказаць усяго два-тры словы? А потым, калі я заікнулася, узваліла на яго яшчэ цяжару—няхай выбірае: ехаць да маіх у вёску або не сустракацца болей,—госпадзі!— толькі глыбока, з прыхліпам уздыхнуць і пакрочыць прэч.

Апошнія месяцы падпольшчыкі вузла дзейнічалі яшчэ актыўней. Вялі разведку. Раздабывалі зброю. Перапраўлялі ваеннапалонных-уцекачоў у партызанскія атрады, развозілі «Звёздачку». З лесу Апанас Балашоў і другія сувязныя прыносілі магнітныя міны, тэрмітныя шарыкі. Шмат у якія паязды траплялі іх «гасцінцы» і абвальвалі паязды пад адхон. Але Ваню здавалася: мала, мала — на фронце вунь як ваююць!

Збіраліся райкомаўцы рэгулярна—праз тыдзень, па нядзелях, калі немцы і паліцаі звычайна пілі. Для сустрэч абралі кватэру члена райкома ад службы пуці і вагоннага ўчастка. На Правадной вуліцы. Пратаколаў не пісалі—навучыў вясновы правал. Абмяркоўвалі справаздачы, намячалі, што будуць рабіць заўтра. Але, калі паступала тэрміновае заданне ад гаркома, праводзілі і нечарговыя пасяджэнні.

Шчыры, цягавіты Ваня дасюль не раз браўся за выкананне такіх раптоўных заданняў. Сам, асабіста. Цяпер жа ён проста, быццам нешта даводзячы мне, як бы рваўся ў пекла. Працуючы на манеўрах, падахвоціўся скласці план размяшчэння ваенных складаў, паркаў, уваходных і выхадных пуцей, месц, дзе найбольш збіраюцца паязды... Гойсаў на манеўровым паравозе і занатоўваў... А пасля са сваім нязменным Карзюком напрасіўся ўзарваць наліўныя цыстэрны ў Асіповічах. Мінска, бач, яму стала замала! Паехалі на чужым паравозе, з поснымі тварамі, нібыта на хаўтуры—хаваць Карзюкову маці. Парадкі ім вядомыя. Знаюць, як і што. Прыехаўшы, прыкінуліся вагоннікамі-рамонтнікамі і пайшлі па станцыі аглядаць составы... Кажуць, вухнула, дык вухнула!..

Ясна, да чаго гэта павінна было прывесці.

Не сустракаліся мы з месяц. Праўда, мяльком я бачыла яго—то ў дэпо, то ля паваротнага круга. І кожны раз сэрца падала, замірала, хоць я і ўскідвала галаву. Аказваецца, можна кахаць і чалавека, які абразіў, выракся цябе. Дый часам мацней, чым пакорлівага, адданага. Бо мала хто адразу мірыцца з паражэннем, не стараецца ўзяць свайго.

Хутка я ўжо не валодала сабой. Была гатова пайсці невядома на што, абы засланіць Ваню сабой, вярнуць сабе. Я ў думках размаўляла з ім на самоце, сніла ў сне, строіла неверагодныя планы. Нарэшце, падпільнаваўшы, калі вяртаўся з работы, спыніла і сказала, што мне трэба з ім пагутарыць.

Ён збялеў, пацёпнуў плячыма, але на спатканне прыйшоў. Пэўна, асцерагаўся, што іначай нараблю глупстваў. А мо сапраўды паверыў.

Сонца садзілася, на руінах ляжаў яго барвовы водбліск. Да камендацкага часу аставалася нямнога.

— Заўтра будзе вецер,— сказаў ён, падаючы руку.— Што здарылася, Ліпа?

Так, значыцца, ён спадзяваўся: я скажу яму нешта такое, што, магчыма, стане мосцікам да прымірэння. Меркаваў: месяц разлукі абразуміў мяне, прымусіў задумацца. Бо сапраўды—калі такі падонак, як Захарэўскі, пачаў заікацца і загаворвацца, дык няўжо для

мяне ўсё хоць бы што—прайшло стараной, не зачапіла? І сябелюбства, слепата аказалася мацнейшай за розум?

Але так мне здаецца цяпер. Тады здалося іншае—ён звярнуўся да мяне, назваўшы па імені, праз сваю слабасць. «Ага, адступае!» — падумала.

Я ўзрадавалася.

Узяўшы падручку, віснучы на ягонай руцэ, пацягнула да знаёмых руін з уцалелым ганкам. «Пачакай, пачакай!»—гразілася, падбадзёрваючы сябе.

Мы селі на ганак, прыступкі якога былі як дагледжаныя.

— Я не магу без цябе, Ваня! — прызналася, баючыся, што ён зноў спытаецца, што я хацела яму сказаць. Каб апярэдзіць яго, пусціла ў ход свой выпрабаваны сродак—пачала сыпаць словамі.

Я дакраналася да ягонага пляча, кудлаціла і прыгладжвала яму валасы. Як ніколі дасюль—цёрлася шчакою аб яго грудзі і цалавала, цалавала то ў пераноссе, то прама ў вусны.

Але мае ласкі, мусіць, не краналі яго — ён не адказваў на іх. Калі ж я абвіла шыю, і, сціскаючы ўсё мацней, прыпала да яго ўсім целам, Ваня лёганька адхіліў мяне.

Няўжо—о ліха!—ён прачытаў мае думкі? Я жахнулася. Дамагацца свайго, спакушаючы, каб пасля спекуляваць на Ваневай сумленнасці?.. Але выхад знайшла. Закрыўшы далонямі твар, упала яму на калені, затрэслася ў плачы. І сама не ведаю, што гэта было. Роспач? Просьба даравацъ? Раскаянне?

Потым, не могучы ўжо быць з ім, ускапілася і пабегла, няясна адчуваючы, што гэта — здрада...

Праз нейкі час Ваню арыштавалі. Прама на паравозе. Трымалі спачатку ў СД—у карцары. Потым у турэмных камерах нумар дзесяць, нумар трынаццаць, нумар восемдзесят сем. На сто дзевяты ж дзень разам з другімі вязнямі пагрузілі ў двухвосевы вагон і адправілі ў Асвенцім. А на мяне спусцілася ноч...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Мы сядзелі на пяньках, пад елкамі з акоранымі камлямі. Паміж яловых, сасновых і бярозавых ствалоў віднеліся лагерныя, з удзірванелымі дахамі, зямлянкі, куды, пятляючы, прабіраліся сцежкі, на якіх выступалі нібы напухлыя карэнні.

Дзень быў поўны сонца. Камары, па-мойму, упершыню таўклі мак. Узацяжку спявалі дразды. Пахла прэлым лісцем, ігліцаю, нагрэтай карой. З аранжавых шышак, што гронкамі звісалі з калматых галін, раз-пораз вылятала крылатае насенне. Шышкі быццам стралялі ім, і яно, адляцеўшы, спускалася на зямлю, круцячыся леечкамі.

Ліпа сядзела згорбленая, прытуліўшы вінтоўку да пляча. Яна перастала плакаць і глядзела перад сабой, як невідушчая, без ахвоты варушачы вуснамі. Калі над намі пралятаў «фоке-вульф», які кружыў ужо з гадзіну, я не чуў яе слоў. Але яна не заўважала гэтага.





***мікола маляўка***



## паэзія



■

Не час перунам загрымець,
Адскочыць лісточку, травінцы.
На лесасецы мядзведзь
Зайздросціць брату ў звярынцы.
Ад шуму матораў аглух,
Прагаладаўся ў сумётах.
Здаецца, апошні кажух
Аддаў бы за лыжачку мёду.
Асунуўся ён ад трывог.
Спужаў леснікову бабу.
І ў прысак ад вогнішча лёг—
Смактаць адубелую лапу.

■

Я ў свет выплываў.
І маўчаў,
І кляўся пад ветразем алым:
«Пакуль агонь у вачах—
Не здраджу сваім ідэалам».
Не раз палохала даль,
Сядзеў без грошай на мелі.
І ветразь не дыхаў амаль—
Чырвоныя нітачкі млелі.
Я плыў,
Я выплочваў даўгі,
Чарнеў ад сумненняў і болю—
А ветразь у колер другі
Не перафарбоўваў ніколі.
І стане крэпам—блакіт,
Магіла—апошнім прычалам—
Мяне павязуць у нябыт
Пад спушчаным ветразем алым.

## Рана на Івана

«Ой, рана на Івана...»
Я уздыхнуць баюся,
Як быццам нечакана
Прачнуўся недзе ў лузе.
Гарыць касцёр далёкі,
Чуваць гармонік дзесьці.
Ляжаць вянкі, аблокі
На плыні ціхай песні.
Чаруюць словы-знічкі:
«Ой, рана на Івана...»
Даўно не піў з крынічкі—
Усё з-пад крана.
Прапаў, прабіўся квола
І зноў без слоў, без хвалі
Перасыхае голас,
Вянкі завялі...
А ў мой пакойчык цесны
Сплываюць хмаркі, знічкі—
Прагнала смагу песня—
Глыток вады з крынічкі.

## Зялёны шум

Я абхапіў рукамі хвою
І так стаю ў лясной глушы.
Зялёны шум над галавою,
І шум зялёны—у душы.
Трымаю ліст, што ты прыслала,
Прыпаў шчакою да кары.
Не чую, як назад на гала
Мяне гукаюць тапары.
«Люблю»—па-рознаму дзяўчатам
Сказаць паспелі сябрукі—
На мове зор, дыханнем частым,
Губамі, поціскам рукі.
Я напішу табе пра хвою,
І будзем разам у глушы
Мы слухаць шум над галавою
І шум зялёны—у душы.





эдуард ярашэвіч

# ДЗЕНЬ ДАЛЁКІ І БЛІЗКІ

## АПОВЕСЦЬ

● Мал. П. Лысенкі.

### 18

Алег чакаў Юрку. Сам ён выйшаў з аўдыторыі з адзнакай «выдатна» ў заліковай кніжцы. Як жа здасць «начарталку» Юрка? Пацеў недзе Юрка, як пацеў заўсёды, рашаючы задачы. І ці шкадаваў аб тым, што ён, Алег, ніколі не спяшаўся падсоўваць яму сшытак з гатовымі рашэннямі?

Усё менш і менш заставалася хлопцаў каля высокіх, пабеленых дзвярэй. Тыя, хто здаў «начарталку», збіраліся дадому, перабіралі на падаконніку падручнікі, шукаючы свае.

Юрка нарэшце выйшаў. Як з лазні. На твары стомленасць і спакой. У заліковай кніжцы—«добра». Працягнуў Алегу руку.

— Дзякуй... Я сёння не снедаў. Коцім да мяне. Ніякіх сталовых, да мяне.

Валянціна Пятроўна карміла іх і ўсё распытвала, ці цяжкія былі задачы, ці не мучыў іх экзаменатар, што будзе з тымі, каторыя не здадуць экзамены...

— А куды ж ты, Юра?—спытала Валянціна Пятроўна, калі той следам за Алегам стаў апранацца.

— Сёння брацца за англійскую? Сёння я здольны чытаць... хіба што афішы.

— Тады адпачніце,— згадзілася Валянціна Пятроўна.

— Я сёння хачу выпіць,— сказаў Юрка на вуліцы.— Зойдзем хіба куды?

— Не. Паеду да Галі... Я ж табе гаварыў, што было пасля сустрэчы Новага года.

Заканчэнне. Пачатак гл. «Маладосць» № 6.

Юрка паморшчыўся.

— Яна ў цябе... Адным словам, першакурсніца.

— Ты лічыш, потым пераменіцца?

— Паразумнее.

Алег прымоўк. Галя цяпер не такая ласкавая, як раней. Пасля тае гутаркі, якую ён штодня згадвае, Галя мала падабрэла.

Алег ускочыў у тралейбус.

«Ты сам Маі падабаешся,— у думках працягваў Алег размову.— З ёю ў цябе сапраўды лягчэй. А калі я так рабіцьму, як ты — Галя не захоча мяне ведаць».

Ён захваляваўся, убачыўшы ў асветленым акне Галіну постаць. Галя зацягнула шторы—квадрат святла раптам знік.

Адчыніла яму Зоя. На твары ў яе адбіўся цень расчаравання. «Сашу чакала»,— здагадаўся Алег.

Яна спытала:

— З чым павіншаваць?

— Завал, Зоя.— Алег стрымліваў усмешку.

— Яшчэ што!?

— Факт.— Алег уздыхнуў.

— Галка, ты чуеш,— амаль крычала Зоя, ідучы наперадзе Алега,— гаворыць, у яго завал. Так я і паверыла! Спытай ты.

Ён не спяшаўся даставаць з кішэні пінжака заліковую кніжку. Яму трэба было ўбачыць, наколькі цікавіць Галю, як ён здаў экзамен. І адно гэта пытанне ён убачыў, у яе позірку, нецярплівым, як калісьці на плошчы, дзе сустрэліся яны пасля здачы першага ўступнага экзамена. І ён дастаў заліковую кніжку. Галя раскрыла яе, а ён узіраўся ў яе твар. Раптам Галіны шчокі паружавелі—так яны ружавелі не толькі, калі яна сердавала, але калі і радавалася. Яна падала кніжку.

— А чаму не пытаеш, як мы здалі?

— Не сумняваюся—не горш. Каб вы ды горш!

— Правільна. А я сумнявалася...

Апошнія словы Галі датычыліся яго, і ў голасе яе было штосьці чужое.

— Ты сёння абедаў?

— Толькі што.

Пачуўся званок. Зоя кінулася да дзвярэй. Быў чуваць Сашаў голас.

— Яшчэ адзін студэнт да нас,—сказала Галя, падаючы Сашу руку.

— Сёння я сапраўды толькі студэнт.— Усміхаючыся, Саша прывітаўся з Алегам.— Заўтра ў мяне бой—фізіку здаю. Пра дзяўчат ведаю тое-сёе, а як ты, Алег, змагаешся?

Саша не спяшаўся сесці, сказаўшы, што толькі адарваўся ад стала, ад падручнікаў. Ён пахаджваў па пакоі.

Загаварылі пра тое, што скора ў студэнтаў канікулы.

— Хутчэй бы... Так хачу дамоў,— вымавіла Галя.

— А ты?—глянуў Саша на Зою.

— Мяне ўжо чакаюць.— Зоя ўсміхалася.— І мама, і бацька, і Валька, пяцікласніца наша. А што будзе, як прыеду...— Зоя прыклала далоні да шчок, паківала галавой.

— Што будзе?—кінуў Саша.

— Паўвёскі збярэцца ў нас! Цётка Наста з дзядзькам Ігнатам, дзядзька Ахрэм з цёткай Верай... Усе нашы сваякі збягуцца, і гавары ім усім адразу і слухай усіх адразу!



Зою было ўжо не спыніць. У думках яна была там, у сваіх Чарніцах, яна расказвала пра сваякоў. Дзяўчаты сабраліся правесці іх. Спыніліся ўсе каля пад'езда.

— Заўтра прыйсці?—спытаў Алег, узіраючы на Галю.

— Прыйдзі,— вымавіла яна, і ў яе голасе хавалася ласкавасць, дабрата..

**19**

І сёння, як кожны дзень, Алег пазваніў ёй.

— Ты адна дома?

— Адна. А ты?

— З сястрычкамі. Прыйшлі ўжо са школы. Не сумуеш?

— Не! Я ж дома. А ведаеш, хачу сёння ў лес.

— Я верны рыцар. Буду. Чакай.

Галя паклала тэлефонную трубку. І зноў у пакоі стала ціха-ціха. Летам бы хоць аса ці муха гудзела, а цяпер чутно, як цікае наручны гадзіннік, што ляжыць на стале. Цішыня... Пад гэтую цішыню добра спаць. Добра чытаць. Узяла ў бібліятэцы камплект «Раман-газеты» і чытае раман за раманам. І добра пад гэтую цішыню думаць. Пра Алега... Дома ён перамяніўся. Даглядае сястрычак, мые падлогу, ходзіць у магазін і купляе ўсё, што накажа маці, нават нейкую там соду і лаўровы ліст. І расказвае пра гэта не раздражнёна, як было летам, а пасмейваючыся. Пэўна засумаваў па доме, па гэтым дробным клопаце.

Сумавала і яна... І цяпер не заседжваліся дома. Была з Алегам у школе, пагаварылі з настаўнікамі. Хадзілі на танцы ў Дом культуры, там сустрэліся амаль што з усімі аднакласнікамі, што прыехалі на канікулы. Часта хадзілі вечарам у кіно...

І ў лесе ўжо былі.

Неўзабаве пачуліся галасы на двары. Галя падскочыла да акна і ўбачыла дзве пары лыжаў каля ганка. Хто ж з Алегам?

У пакой услед за ім увайшла Святланка, вельмі падобная на Алега дзяўчо, з вялікімі карымі вачыма. Святланка пазірала на Галю крыху вінавата:

— І я хачу ў лес.

— Добра! Як жа мы без цябе?

Выправіліся з дому. На вуліцы, каля брамы, сталі на лыжы.

— За мной, жаночая рота!—скамандаваў Алег і рушыў уздоўж тратуара па сыпкім, скрыпучым снезе.

Галя прапусціла наперад сябе Святлану. Святлане ўсяго дванаццаты год, а хадзіць на лыжах умее—недарэмна патрэніраваў яе Алег.

Лес быў недалёка, з усіх бакоў абступаў гарадок. Паехалі далей уздоўж дарогі з тым, каб у лесе павярнуць управа і прайсці да ракі.

Сцяна лесу набліжалася, расла. Вось і першыя яліны, доўгія цені ад іх падсінілі снег. Ветру не чуваць, дрэвы стаяць маўкліва, застылі. Голле, здаецца, ледзь-ледзь трымае на сабе ўзвалы снегу—чапі— і ён спаўзе долу, і тады лёгка, вольна ўскінецца ўгору зялёная, колкая лапа.

Стала горача. Выбраліся на вузкую дарогу, што збягала ў лагчыну, і Алег памчаўся, не адштурхоўваючыся палкамі. Галя пастаяла, далёка адпускаючы Святлану, і затым разагналася сама. Ужо не выступалі, не плылі, а ляцелі насустрач і нібы імкнуліся зачапіць яе голлем гэтыя яліны, бярозы, маладыя хвойкі. Потым церабіліся па глыбокім снезе і выбіліся ўрэшце на рачны бераг.

Знаёмай Галі і Алегу была гэта мясціна. На тым беразе—высозныя, магутныя сосны. Рака ад берагоў засыпана снегам, на сярэдзіне—чысты лёд. Алег пранёсся да лёду. Пастукаў па ім вострым канцом палкі.

— Сякерай не праб'еш... Каціце сюды,— гукнуў ён Галю і Святлану.

Лёд быў тоўсты і амаль што чорны; дзе-нідзе, нібы капейчыны, свяціліся ў ім пухіркі паветра.

— Глыбока тут... Пайшлі далей,— сказаў Алег.

Яны і не агледзеліся, як лес па левым беразе застаўся ззаду, а па правым адступіў ад ракі, займаючы шырокі, да самае шашы, абшар. Тут лёд быў скрозь чысты ад снегу. Воддаль, каля моста, каталіся на каньках хлапчукі. Праз прыбярэжны лазняк, полем яны падаліся да шашы. Галя зіркала ў бок ракі, на хлапчукоў, якія каталіся на каньках там, дзе летам яна плавала. Чамусьці лёгкім сумам адгукнуўся ў ёй успамін пра тыя спякотныя дні...

Спыніліся пры самай шашы. У метры ад кювета—укатаная лыжня.

Алег узіраўся ў дзве роўныя, як нацягнутыя струны, каляіны.

— Я прабягуся...— Ён паспешліва зняў з рукі гадзіннік.—Трымай. Засякай час.

Алег ірвануўся наперад. Гулка зашахцелі лыжы, імклівым, шырокім быў яго крок. Між кюветам і лыжнёй—то блізка, адна пры адной, то праз шырокі прагал—у рад стаялі бярозы. Постаць Алега то трапляла ў цень, то асвечвалася сонцам і нарэшце знікла за пагоркам. А на шашы ў тым жа кірунку імчалі машыны—нібыта з імі кінуўся Алег навыперадкі.

Сумятлівыя думкі ахапілі Галю. Колькі б ні была яна з Алегам побач, заўжды знаходзіла ў ім штосьці прыемнае, жаданае, радаснае ёй—то ў позірку, то ў слове, то і ў маўклівасці яго. І цяпер ахапіла яе хваля замілавання: яна бачыла Алега рашучым.

Галя глянула на гадзіннік: прайшло дванаццаць мінут, як Алег узяў старт. Яе пачынаў даймаць холад. І Святлана ледзь не дрыжала, хоць апранута была як належыць. Не стаяць—варушыцца ім трэба.

— Даганяй мяне, Святлана!

Галя шаснула ад дзяўчынкі ўбок, тая зразумела, што гэта гульня, і кінулася за ёй. Яны кружыліся вакол бяроз, узбіваліся на гурбы пры паласе ельніку. Разгарачоныя, убачылі воддаль Алега і спыніліся. Ён набліжаўся павольна, хоць крок шырокі, размашысты. Ён рэзка спыніўся каля Галі, глянуў на гадзіннік, які трымала Галя ў працягнутай руцэ. Дыхаў ён стомлена, цяжка, па твары разбеглася палаючая чырвань.

— Ну што, Алег?—спытала Галя.

— Да трэцяга... не дабраў.

— Да трэцяга разраду?—перапытала яна.

Ён кіўнуў.

— Слаба,—сказаў як сабе.— Не думаў... Ну, няхай.

Дамоў дабіраліся ўскраіннымі вулачкамі горада, дзе ляжаў нечапаны снег. Настрой у Алега пагоршаў, і ён не хаваў гэтага. Развітваючыся, толькі і сказаў Галі.

— Я пазваню табе.

Яна пастаяла каля брамы, пазіраючы ўслед яму і Святланцы.





«Ах, Алег, Алег...»

Яна чакала яго званка, падняла трубку і пачула голас Алегавай маці, Ніны Паўлаўны:

— Галачка, прашу цябе, падыдзі да мяне ў аптэку. Мне трэба з табой пагаварыць...

«Пра Алега?»—гадала Галя, ідучы ў аптэку.

Ніна Паўлаўна выйшла да яе не ў белым халаце, а з пуховай хусткай на галаве і ў паліто. Чорнае, з чарнабуркай, паліто было пашыта вельмі зграбна, неяк маладзіла Ніну Паўлаўну. І крок яе па-маладому хуткі, лёгкі.

— Вось і добра, Галачка. Рабочы дзень у мяне закончыўся, мы і пагаворым. Я цябе магла б паклікаць да нас, але лепш яно тут...

Але тут, на вуліцы, таксама не вельмі пагаворыш. Людзі амаль безупынку віталіся з Нінай Паўлаўнай, а яна заўважала і тых, што выходзілі з магазінаў, з будынка народнага суда, з рэдакцыі раённай газеты. І загаварыла Ніна Паўлаўна, калі павярнулі ў сквер, дзе было не гэтак людна:

— Я, Галачка, вось пра што хачу спытаць... Мы з Іванам Міхайлавічам вельмі рады вашым поспехам у вучобе. Я веру, што і далей Алег будзе вучыцца не горш. Але адчуваю, што са мной ён не такі шчыры, як раней. Нешта ён утойвае, не дагаворвае... Ці ўсё добра ў яго там, у Мінску?

— Не ведаю, што сказаць, Ніна Паўлаўна... А што Алег утойвае ад вас...

Галя збянтэжана замоўкла. На гэтае пытанне, ці ўсё ў яго добра, Алег павінен быў адказаць Ніне Паўлаўне сам.

— Ніна Паўлаўна, вам не трэба хвалявацца. Алег сапраўды вельмі добра здаў сесію, я нават не чакала...

— Ён здольны... Памяць, як у бацькі—адразу ўсё схопіць,—уздыхнула чамусьці Ніна Паўлаўна.

— А калі што не так, на тое... мы сябры,— закончыла сваю думку Галя.

— Галачка, а хто ў цябе сябры, акрамя Алега?

Цяпер можна было разгаварыцца: пра Зою, Лену, Сашу.

Але Ніна Паўлаўна, відаць, была не вельмі давольная гутаркаю. Ціха развіталася з Галяй, калі яны выйшлі са сквера. Галя завярнула назад і па другім баку плошчы ўбачыла маці і бацьку. Яны вярталіся з работы, і таму, мусіць, разам, што маці зайшла па бацьку—яна гэтак робіць часта... Галя паскорыла крок.

— Добры вечар!— і ўзяла з матчыных рук сумку.

— Дзе гуляла, дачушка?—Маці рада гэтай іх стрэчы.

І ў бацькі вочы пасвятлелі. А твар стомлены, нават змрочны.

— Татка, ты як з цяжкага падарожжа...

Бацька памаўчаў, адно пільна зірнуў на яе. І Галя адчула, што ён зараз пра штосьці раскажа.

— Зноў машыны?

— Машыны як машыны, дачка, а вось людзі... З імі цяжэй...— Бацька ступіў на палоску лёду, паслізнуўшыся, згубіў раўнавагу, паспеў ухапіцца за Галіна плячо і ўтрымаўся на нагах. Быў сёння на нарадзе ў райвыканкоме,— працягваў ён.— Падыходжу пасля нарады да нашай прахадной, чую, «зіс» наганяе. Азірнуўся, бачу: кузаў злева асеў, дым з-пад яго... За рулём Чэрнік. Зноў ён! Тры месяцы ўсяго як працуе на аўтабазе і ў трэці раз рэсоры пабіў! Ну што ты скажаш? Цэглу вазіў, яму хутчэй бы ходку зрабіць, калдобіны яму нішто...



— Прагнаў бы такога адразу! — кінула маці.

— Вось і прагані... Абы́цае чалавек: будзе ўважлівы. Нізавошта ўжо, ніколі... Ну і думаеш —загаворыць жа нарэшце сумленне.

— Было яно там,— махнула рукой маці.— Яны і спадзяюцца на тваю добрую душу, а ты верыш.

Такое маці гаварыла не раз—бацька толькі ўсміхаўся, а цяпер нахмурыўся ён.

— Татка, а ўсё ж ці загаворыць сумленне ў таго... Чэрніка?— спытала Галя. Ёй чамусьці важна было гэта ведаць.

— Загаворыць... Заўтра сход, пашукаем... сумлення. Было ж яно ў чалавека!—ужо гучней кінуў бацька.

Дома, хвілінай, калі ні бацькі ні маці не было ў зале, Галя пазваніла Алегу:

— Паслухай, я чагосьці не сказала табе. Вось дзень хаджу і адчуваю, што мы з табой не дагаварылі... Дык слухай. Нічога не позна! Апошні месяц зімы? А чаму ён павінен прайсці без карысці? Не трэба адкладваць на наступны год... Алежка, я зусім перакананая: задуманае нельга адкладваць нават на адзін дзень! Ты чуеш мяне?

— Чую!—данёсся Алегаў голас.— Скора будзем у Мінску, там пабачым...

## 20

І зноў пакой інтэрната з чатырма ложкамі пры сценах і сталом ля акна, за якім усё той жа заўсёдны гул-звон трамваяў—моцна раздражняў іншы раз гэты гул-звон, а сёння ён здаўся нават мілагучны. І радасна было Алегу зноў бачыць хлопцаў, без якіх нельга было ўявіць сябе ў гэтым пакоі. Ніхто ў гэты вечар нікуды не пайшоў, гаманілі да ночы пра тое, хто як адгуляў канікулы. Барыс у ахвоту папрацаваў на трактары, больш ён нічога пра сябе не гаварыў, адно адпускаў рэплікі, слухаючы Слаўку і Стука. Слаўка таксама папрацаваў—на тралёўцы калгаснага лесу: ён доўга расказваў пра сваіх вяскоўцаў, маладых і старых. А Стук з'ездзіў у Маскву да сваякоў...

Добра спалася, і ўстаў раніцой Алег бадзёра. І зноў усё было яму ў радасць: і дзелавітая мітусня ў пакоі, і першы глыток марознага паветра, і хуткая хада па вузкай заснежанай алеі ад інтэрната да вучэбнага корпуса. Побач крочылі хлопцы, гаманілі, ды размова не займала яго, Алега, так, як учора: ён ужо ўяўляў сустрэчу з Юркам. Вось па ім сумаваў, яго ўспамінаў часта, з ім сустрэча найбольш жаданая— і хіба ён вінаваты, што менавіта Юрка яму самы блізкі сябар?

Заняткі пачыналіся з агульных лекцый—самая вялікая аўдыторыя гула мноствам галасоў. Знаёмыя твары, на каго ні зірні, а дзе тут Юрка? Ды хто вунь, як не ён, махае Алегу рукой? На Юрку прыгожы карычневы пулавер, такога ж колеру гальштук, пад якім белая нейлонавая кашуля, густыя валасы прычасаны, ён стрыманы ў рухах—такога Юрку Алег бачыў заўсёды, але яшчэ не бачыў, каб Юрка так вось радаваўся стрэчы.

Яны паспелі да пачатку лекцыі крыху пагаварыць. А лекцыя была не тая, калі можна дазволіць сабе напаўголасу размаўляць. «Слабакоў тэарэтычная механіка бярэ за вушка—і на праспект»,— згадаў Алег Слаўкава папярэджанне. І Юрка быў повен увагі да выкладчыка — з гучным голасам і мажнай постаццю штангіста.

На перапынку выйшлі ў калідор. Юрка закурыў, спытаў:
— Як ты з Галяй? Мір?
— Мір. А чаму пытаеш? З Маяй у цябе штo не так?
— Ды не, па-ранейшаму... Сустракаемся. Гэтыя дні дык і часта... І прайшлі б канікулы на «выдатна», але... Пасеяў я, Алег магнітафон. Каб свой, а то чужы...
— Як?
— У сераду ў Маі збіраліся. Ніна яшчэ была, ну і мы з Мішам. Гульнулі, раніцай я за магнітафон—і дамоў... У тралейбусе паклаў збоку, а выйшаў без яго... Апамятаўся, дагнаў тралейбус, пытаю: хто бачыў магнітафон «Арбіта»?.. Ніхто не бачыў. Тралейбус ужо тры прыпынкі прайшоў... Прыхапіў нехта.
— А чыя «Арбіта»?
— У Маркіна браў... З нашага дому ён. Сказаў яму, што грошы аддам, каб пачакаў трохі... Ніякіх: вяртай яму магнітафон, і ўсё! Новы купляй і аддавай. А каштуе амаль дзве сотні. Ну, бацьку гавару. Зноў крык... Даў восемдзесят, а больш ні капейкі. Астатнія шукай, дзе хочаш. Каб пачакаў гэты Маркін, то стыпендыямі набраў бы. Дык не, штодзень ловіць у пад'ездзе—ці скора...
— Слухай, я крыху прывёз з дому... Яшчэ пазычыш у каго...
— Гэта, Алег, не выйсце. Вазьму, а з чаго жыць будзеш?
— А ў Марата пытаў?
— Пытаў. Марат даў бы... Але ён мэблю ў сябе абнавіў, сам пазычае.
Алег пацёр далонямі шчаку.
— Не перажывай... Прыдумаем што...
— Выйсце ёсць. Калі ты згодзішся...
— Гавары. Яшчэ сумняваешся!
— Мішка казаў, калі б ты пайграў з імі, то за некалькі вечароў і набралася б грошай.
Алег адразу падумаў пра Галю: чым гэта абернецца? Але нельга было раздумваць вось цяпер, перад Юркам.
— Добра!
Званок паклікаў іх у аўдыторыю.
Адна і тая ж думка вярталася да Алега і на лекцыях, і на перапынках: як паглядзіць на ўсё Галя. Не ведаў ён горшага часу, як тыя два тыдні, калі Галя крыўдавала на яго. Яе зацятае маўчанне, дакорлівы позірк, кплівасць... Свет яму быў добры толькі тады, калі Галя была добрай, ласкавай. А як паставіцца яна да таго, што зноў ён будзе іграць з хлопцамі?
Думаў Алег, і чым больш думаў, то ўпэўніваўся, што знайшлося выйсце не толькі Юрку, але і яму самому. Ён хацеў бы жыць па-ранейшаму: і з Галяй, і з хлопцамі быць у найлепшых адносінах. Дык вось так і скажа Галі: Юрку трэба памагчы. Няўжо не зразумее?
Пасля заняткаў Юрка пацягнуў яго да сябе—паабедаць. Абед, вядома, абедам, але ж у Юркі пакінуў ён, ад'язджаючы на канікулы, свой акардэон. З хваляваннем уяўляў, як возьме акардэон у рукі, кране клавішы—столькі дзён не іграў!
Дома ў Юркі нікога не было. Пакуль Юрка ўвіхаўся на кухні, Алег узяў у рукі акардэон, прабег пальцамі па клавішах.
— Выдай што-небудзь!—крыкнуў з кухні Юрка.
Алег зайграў «Карусель» Шахнова — знарок самае цяжкае са свайго рэпертуару. Як падумаў, так і здарылася: пальцы дзе-нідзе «спатыкаліся». Часцей трэба іграць, часцей...



Абедалі не спяшаючыся. Юрка расказваў пра канцэрты, на якіх пабываў, пра спевакоў і спявачак.
Выйшлі ў гасцiную. Юрка закурыў, падаўся да акна, каб адчыніць фортку, і тут жа паклікаў Алега:
— Зірні на яго! Метэор.
Па двары нёсся Міша. Праз нейкае імгненне ён ужо быў у кватэры.
— Ха! — здзівіўся Міша і, распасцёршы рукі, кінуўся да Алега.— Колькі летаў, колькі зім, Алег?
Міша кінуў на крэсла шапку, чырвоны шалік, кароткае чорнае паліто.
— На двары горача, як у лазні.— І зірнуў на Юрку:— Ну, казаў?
— Гаварыў. Алег згодзен,—кінуў Юрка.
— Парадак!—усклікнуў Міша.— Выручым цябе, стары!
— Дзе іграеш?—спытаў Алег.
— Дзе? Ты мне, Алег, нож у пяту ўсадзіў.— Міша скрывіў свой паўнаваты ружовы твар у пакутлівай міне.—У сваім клубе іграем. Танцы ў сераду і суботу. І гамон.
— Чаму?
— Трое ўсяго нас... Дзве гітары і ўдарнік. Лезуць розныя ў кампаньёны, спрабуем сыгрconsidered—ніяк! У нотах ні бум-бум. Так што сур'ёзныя прапановы не прымаем пакуль. З Маратам некалькі разоў гастральнулі— і канцы. Яму няма як з рэстарана ўцячы. Дык іграем, Алег?
— Дзе? Калі?
— Вяселле. У суботу. І вечар у нашым Доме культуры. Трэст нейкія там вынікі за год падводзіць. Паакампаніруем спевакам, потым танцы. На̀ пяць, Алег,— працягнуў Міша руку.— Аж лягчэй дыхаць стала.
«Мне пакуль дыхаць не лягчэй»,— падумаў Алег і сказаў:
— Усё б добра... Але трэба пагаварыць з Галяй.
— Пра што?—здзівіўся Міша.
Алег маўчаў. Юрка прайшоўся па пакоі, павярнуўся да яго:
— Скажаш, напрыклад, што паехаў з інстытуцкімі артыстамі ў калгас. І ўся праблема,— штурхануў яго Юрка.
— Святое ашуканства. У імя бліжніх,— засмяяўся Міша.
Юрка сказаў на поўным сур'ёзе:
— У мяне з Маяй так: ніякіх справаздач.
Алег перасіліў сябе, вымавіў бадзёра:
— Дык дзе сустракаемся ў суботу?
— Збяромся ў мяне.

## 21

Яны падыходзілі да галоўнага корпуса ўніверсітэта хуткім, спорным крокам, як заўжды, паддаўшыся ранішняму рытму, што панаваў наўкол: не затрымліваліся на прыпынках цяжкія аўтобусы і тралейбусы, імкліва, з уласцівай ім грацыёзнасцю, несліся легкавушкі, і спяшаліся, спяшаліся, спяшаліся людзі...
Усё было звыклае вачам, і можа таму Галя звярнула ўвагу на дзяўчыну ў сінім паліто, што ішла наперадзе—дзяўчына ішла так

павольна, што на яе той-сёй ледзь не натыкаўся. І па гэтым сінім паліто, і па ўсіх іншых прыкметах Галя пазнала дзяўчыну.

— Зоя, ты бачыш: Рая Зубіч!

— Рая,— пацвердзіла Зоя.— Вось, а ты хвалявалася.

— Ой, мусіць, мая праўда... Калі б і ездзіла куды Рая, то не стала б спазняцца на занятні аж на два дні.

Яны нагналі Раю, шумна павіталіся з ёю.

Рая адказала—кволы быў у яе голас. І бледнай, вельмі бледнай была яна.

— Рая, зноў ангіна?—прагаварыла Галя.

— Не зусім... Спачатку грып, потым запаленне лёгкіх.

— І ты ўсе канікулы прахварэла?

— Акрамя першага дня.

— Чаму ты не паехала са мной?—не ўтрымалася ад папроку Галя.— Колькі я цябе ўгаворвала! У нас бы ты не хварэла.

— У вас там клімат лепшы?—усміхнулася Рая.— Дзякуй, Галя. Можа летам у цябе пабываю.

— А потым я вас забяру ў Чарніцы,— загаварыла Зоя.— Будзеце ў мяне, як на курорце. Сам лес—хіба не курорт?

Рая не запярэчыла Зоі, яна думала аб чымсьці сваім, самотным. У аўдыторыі яна крыху павесялела. Ніна Гайчук, Казанец, Лена Санеева абступілі яе з роспытамі, як яна правяла канікулы, ды мусілі самі ёй пра тое расказваць—Рая не хацела гаварыць пра сябе. І здалося Галі, што ёй цяжка гаварыць. Рая часта кашляла, прыкрываючы рот рукой.

Думка гэта набегла сама сабой... Закончылася лекцыя, выкладчык падаўся з аўдыторыі, навокал загаманілі—Галя падышла да Раі, села побач.

— Рая, не дзівіся таму, што я скажу... Я лічу, табе трэба пабыць у студэнцкім прафілакторыі. Можа, хваробы не будуць прыліпаць да цябе. Ты сама не думала пра гэта?

— Нейк думала.

— Дык чаму маўчала?

— Мне добра, як ёсць.

Рая нахіліла галаву, падціснула вусны: ці варта пра гэта гаварыць...

— Ну, тады я сама ўсё зраблю,— сказала Галя.

Перш за ўсё ёй трэба было гаварыць з праформгам групы. Клава Раманчук з ахвотай пайшла ў суседнюю, пустую аўдыторыю, куды Галя яе паклікала.

— Што, таварыш камсорг?—спытала Клава, тонам даючы зразумець, што яна чакае нейкай інтымнай размовы. Яна, Клава, звыклася, што некаторыя з дзяўчат расказваюць ёй пра свае адносіны з хлопцамі—як старэйшай, здольнай нешта параіць.

У Клавіным позірку хавалася нецярплівасць і паблажлівасць: вось і ты, Юрэвіч, звярнулася да мяне, а я гатова дапамагчы табе, май гэта на ўвазе і не сакрэтнічай вельмі...

— Клава, трэба памагчы Раі Зубіч...

Цень расчаравання адбіўся на Клавіным твары. «Не вельмі цікава, але я слухаю»,— сказала яна позіркам.

— Рая часта хварэе, ёй неабходна пабыць у прафілакторыі.

— Яна сама просіць?

— Ёй гэта трэба.

— Значыць, ты, Галачка, сама за яе вырашыла. Не спяшайся.



Рая індывідуалістка, якіх свет не бачыў. У такіх уласнае здароўе перш за ўсё. Калі б яна лічыла, што ёй патрэбен прафілакторый, адбыла б ужо там не адну змену! Такія ўсё сабе вырвуць! — Клава абедзвюма рукамі адкінула з вачэй свае доўгія валасы. І была дэманстратыўнасць у гэтых хуткіх рухах яе рук.

— Ніна Гайчук здала ўсе экзамены... Яна без Раі не здала б. Без індывідуалісткі, як ты кажаш...

— Раіна міласць! — кінула Клава.

— Цэлы месяц займацца з Нінай — гэта ты лічыш міласцю?

— Ну, каб ты не папрасіла... Яна ж толькі з табой і лічыцца!

— Мне такая выключнасць, Клава, не патрэбна. Ды і няма яе, ты перабольшваеш... Я хачу, Клава, каб ты зразумела. Рая лічыла, што да яе нікому няма справы...

— А хто ёй вінаваты? Хто?

— Не адна яна... І калі ты бачыш, што Раі цяжка, а ты магла б гэта заўважыць, то, мусіць, не адварочвацца трэба ад яе...

Клава памаўчала. Потым, ужо цішэй, вымавіла:

— Добра. Што ад мяне трэба?

— Як ад праформга... Пагавары ў прафбюро наконт пуцёўкі ў прафілакторый для Раі Зубіч. Чым хутчэй. Вось пакуль і ўсё.

Яны моўчкі выйшлі з аўдыторыі.

## 22

Алег яшчэ ніколі ў сваім жыцці не быў на вяселлі. Сказаў пра гэта хлопцам — яны паспачувалі яму. «Нават калі не ўлічваць інтарэсы фірмы, на такім спектаклі, як вяселле, варта пабываць!» — ўсклікнуў Міша.

Прымяшалася была і прыкрая думка пра сябе: «Вось нанятыя прыехалі...» Ды апынуўшыся ў гэтай вялікай зале, прыбранай, з накрытымі сталамі, з мноствам гасцей, Алег ужо ніколькі не шкадаваў, наадварот, быў адно рады бачыць усё, што адбывалася перад вачыма. Урэшце, яны, чацвёра музыкантаў, былі не апошнія тут людзі, яны ці не ў першую чаргу стваралі для ўсіх атмасферу весялосці, урачыстасці.

Самае цікавае — яшчэ наперадзе. Вось-вось у залу павінны зайсці маладыя, якія сустракалі ў вестыбюлі гасцей. Госці пасталі перад дзвярыма ў два рады, утварыўшы як бы калідор, сцішыліся ў чаканні.

— Прыгатавацца, урэжам туш! — скамандаваў Міша.

І яны «ўрэзалі», як толькі маладыя ступілі ў залу. Алег не зводзіў з іх позірка. Гэты высокі, гадоў дваццаці пяці, хлопец і ўся ў белым, з кароткай фатой, дзяўчына былі прыкметна ўсхваляваны. Алег адчуў іх усхваляванасць: яму раптам падумалася, што вось такое адбудзецца некалі і з ім і Галяй. І ён быў поўны асаблівай прыхільнасці да маладых, якіх ніколі раней не бачыў, не ведаў.

Адгрымеў туш, сціхлі апладысменты. Маладым паднеслі шампанскае, пажылы, сівы мужчына сказаў словы віншавання, маладыя выпілі шампанскае і кінулі келіхі на падлогу — шкло востра дзінькнула, рассыпалася на аскалёпкі. І тады госці пачалі ўсаджвацца за сталы.

Да іх, музыкантаў, падышоў паўнаваты, гадоў пад сорак, мужчына — брат маладога. Звалі яго Іван Іванавіч.

— Хлопчыкі, прашу за стол. Падмацуйцеся, работы вам сёння будзе.

Ён пачакаў, пакуль яны ўселіся за стол, і адышоўся. Насупраць іх сядзелі мужчыны і жанчыны, пажылыя і сярэдніх гадоў, а там, бліжэй да маладых, было многа дзяўчат, паглядаючы на якіх, Міша прыцмокваў языком. Туды ж паглядалі Альберт і Стась.

— Пачакайце,— сказаў Міша,— яны ўсе будуць нашы. Самыя фраеры тут — мы! Джазмэны! Адно гора: усе піць будуць, а нам цярпі.— Міша зірнуў на Алега.— Акрамя шампанскага, цяпер нічога не п'ём. Па каньяку ўдарым пазней.

Над сталамі чуліся стрэлы: адкаркоўвалі бутэлькі з шампанскім. І потым настала цішыня. Першы тост у гонар маладых узяўся сказаць шыракаплечы, рыжаваты, з паўнаватым тварам хлопец. Потым быў тост за бацькоў маладога і маладой, і пасля гэтага за сталамі стала шумна, гаманліва.

— Падабаецца спектакль? — павярнуўся Міша да Алега.

— А хто тут артысты?

— Хто ж? Маладыя...

Алег пацісну́ў плячыма.

Яны пасядзелі за сталом каля паўгадзіны, потым пабралі інструменты і падаліся ў суседнюю залу, дзе меліся быць танцы. Размясціліся ля высокага зашторанага акна, пад цяжкай навіссю лісцяў фікуса — лісце ільснілася, адбівала святло люстраў.

Пачуўшы музыку, у залу пачалі заходзіць хлопцы і дзяўчаты. З'явіліся маладыя і пацягнулі за сабой усё застолле. У зале стала людна.

Алег і тут больш, як за кім, назіраў за маладымі — іх звалі Павел і Людміла. Яны танцавалі вальс, усміхаючыся адно аднаму. Яны зноў падабаліся Алегу: яму не хацелася бачыць іх маўклівымі, з застылым выразам на твары.

Адразу пасля вальса маладыя падышлі да музыкантаў.

— Дзякуй вам,— сказалі яны ў адзін голас. І потым Павел дадаў:

— Я сам іграю на акардэоне. Дазволіце? Крыху пазней?

— Калі ласка,— сказаў Алег. І спытаў, каб, мусіць, выказаць ім сваю ўвагу: — Што яшчэ хочаце танцаваць?

— Што-небудзь спакойнае,— сказала Людміла і засмяялася: — Інакш горача ўсім будзе.

Быў яе твар прывабны не ад прыгажосці, а нейкай асаблівай, радаснай узбуджанасці. І нельга было ўявіць побач з ёй кагосьці іншага, не гэтага вось зусім сталага з выгляду хлопца з глыбокімі, цёмнымі вачамі, які не хаваў, не ўтойваў свайго шчасця.

— Танга іграем,— сказаў ім Алег.

Ён час ад часу паглядваў на хлопцаў. Стась іграў на ўдарных, як заўсёды, крыху адкрыўшы рот і закаціўшы вочы,— гэта азначала, што іграў ён з ахвотай. Альберт сачыў за кімсьці ў зале — напэўна, яго ўжо ўзяла ў палон нейкая дзяўчына. Міша іграў больш чыста, як Альберт, выдатна іграў, то нахіляючыся над гітарай, то адкідваючы галаву.

— Ну і ты,— кінуў Міша Алегу, калі закончылі іграць танга.— На нявесту загледзеўся... Я ледзь з рогату не паехаў.

— Ды пакінь. Проста яны абое такія... закаханыя!

— Закаханыя! Гэтаму жаніху надакучылі інтэрнаты, паляваў за такой, каб кватэра была, і ўпаляваў. Уласную жылплошчу займеў. Лічыць, недзе, задарма, ён жа за гэтую плошчу ўсё жыццё будзе жонцы плаціць. Штомесяц усё да капейкі — ёй! Вось такі бізнес.— Міша смяяўся.

— Інакш бы жартаваў, Міша.



— Якія жарты? Што я, не ведаю?

Не, мусіць, ён жартаваў... А калі не жартаваў? Калі Міша не жартаваў...

Алег адагнаў ад сябе непрыемнае пачуццё.

Але яно набягала час ад часу і не знікла зусім і тады, калі маладыя, усё такі ж вясёлы, шчаслівы, папрасіў у яго, Алега, акардэон.

— Патанцуйце цяпер вы,— сказаў ён.

Міша адразу схіліў галаву перад маладой. Ёй было горача, яна махала перад сваім тварам батыставай насоўкай. Але не адмовілася танцаваць з Мішам.

Купка дзяўчат стаяла паблізу. Альберт і Стась не марудзілі з запрашэннем. Алег не стаў выбіраць — сустрэўшыся позіркам з рослай светлавалосай дзяўчынай, ён ступіў да яе:

— Прашу.

Яму хацелася размаўляць хоць з кім, хоць аб чым, абы не думаць пра тое, пра што не хацелася думаць. У дзяўчыны была моцная рука, шыракаватыя плечы, яна была паўнаватая, але рухалася ў танцы лёгка.

Яна загаварыла першай:

— Вы добра іграеце.

— Дзякуй. Стараемся. А вы добра танцуеце.

— Чаму б не? — згадзілася яна.— Любім. Асабліва вальсы.

— А твіст, шэйк?

— Умеем.

— Нешта я ўжо ведаю пра вас. А магчыма, і ўсё астатняе... Ваша любімая песня... «Давай ніколі не сварыцца»?

— Памыляецеся,— засмяялася дзяўчына.— Любімая «Ох ты, ночка лугавая».

— Прыемнае супадзенне. Паставім кропкі? Мяне завуць Алегам.

— А мяне Валя.

Дзяўчына падабалася яму. З ёю можна было гаварыць, але сціхлі гукі «Дунайскага вальса», і Алег мусіў пакінуць яе. Павел перадаў акардэон у яго рукі. Падышлі Міша з Людмілай, Альберт і Стась.

— А твая хоць куды,— сказаў Міша Алегу, калі маладыя адышлі.— Люблю такіх, моцных. Не выпускай з рук. Вечар яшчэ вялікі.

— Змоўкні,— толькі і сказаў Алег.

Вяселлю не было відаць канца. Неўзабаве ўсе зноў кінулі танцаваць, пайшлі да сталоў, на якія афіцыянткі ставілі ўсё новую закусь. Ведаючы ўжо, што будуць спяваць, Алег падаўся ў банкетную залу з акардэонам. Яму не хацелася больш сядзець побач з хлопцамі, ён пашукаў вачыма Валю. Выпадкова ці не выпадкова, але яна пазірала на яго.

— Я да вас,— сказаў ён.

— Мы рады — побач з музыкай,— Валя ўсміхнулася яму.

— Мне цікава, яны доўга сябравалі? — спытаў Алег, паказваючы вачыма на маладых.

— Павел і Люда? Гады са два...

— Вы працуеце разам з ёю... Людай?

— Разам. У аддзеле тэхнічнага кантролю. На шарыкападшыпнікавым. А Павел на аўтазаводзе. Ён слесар-наладчык,— з гатоўнасцю адказвала Валя.

— Яны абое мінчане? Ці прыехалі адкуль?

— Мінчане.

— Дык чаму вяселле не дома ў каго з іх?

— А колькі запрошаных — бачыце? Больш за сто чалавек. Цес-

на было б у кватэры. Хоць у іх, у Паўла, і тры пакоі. А цяпер многія спраўляюць вяселле ў рэстаране ці ў сталовай.

Алег зірнуў на Мішу: той сядзеў воддаль побач з дзяўчынай-бландзінкай, плёў ёй штосьці смехатлівае... Што скажаш, Міша?

Некалькі галасоў зацягнулі «Падмаскоўныя вечары». Алег узяў у рукі акардэон, стаў падыгрываць. Людзям хацелася спяваць, адразу за «Падмаскоўнымі вечарамі» дзве дзяўчыны высокімі галасамі заспявалі пра Янку і Алёну, застолле падхапіла песню.

Алег убачыў, што Міша ўстаў з-за стала і падышоў да дзвярэй, закурыў, прыхінуўшыся плячыма да сцяны. Застолле ўжо нацешылася песнямі, Алег пакінуў акардэон на сваім крэсле, сказаў Валі, што хутка вернецца, і падышоў да Мішы.

— Яна ў цябе жывая,— паказў Міша вачыма на Валю.— Не разгубіся, глядзі...

— ...А між іншым, Міша, у маладога нішто сабе ўмовы. Кватэра — тры пакоі.

— Магчыма. Дык што з таго?

— Як што? Версія твая не праходзіць.

— Ты лічыш? Дзівак ты, Алег.— Міша зрабіў адну за адной дзве зацяжкі, пашукаў вачыма, куды кінуць акурак — зазірнуў у танцавальную залу і шпурнуў акурак у кут.— Ты дзівак, Алег. Яму не трэба хата? Дык, значыць, у яе таты ёсць «Масквіч». Няма «Масквіча» — то недзе за горадам дача...

— Не ведаю, хто з нас дзівак...

— Я ведаю. Пайшлі за стол.

— Ідзі. Я пастаю... Горача.

Ён правёў Мішу позіркам. Прыкра, агідна стала на душы...

І, мусіць, не думаў бы пра яго. Але Галя... «Памажы Юрку. Толькі памятай. Я хачу аднаго. Каб ты заставаўся самім сабой. Каб яны бачылі, што ты — гэта ты». Ён памятаў гэтыя яе словы. І было адчуванне, нібы яна бачыць яго, Алега, нібы дакарае: «Ты змоўчаў?»

Лепш выпіць. І адпадуць усе прыкрыя думкі. Каго тут яшчэ такое займае? Людзям вунь добра, а чаму яму павінна быць горш?

Ён падышоў да Валі. Сказаў:

— Хачу выпіць. З вамі.

— А чаму вы нейкі... сумны?

— Я зайздроснік. Зайздрошчу вунь тым...

— Паўлу і Людзе? Ім можна,— гаварыла Валя, разумеючы, што ён жартуе.— Значыць, вып'ем за тое, каб у кожнага было такое шчасце.

Ён кіўнуў — згодзен. Выпілі. Апусціў рукі на калені, прыхінуўся плячыма да спінкі крэсла. З усмешкай пазіраў на Валю.

— Я вас смяшу нечым? — Яна, збянтэжаная, кранула рукамі валасы, потым павярнулася да дзяўчат, папрасіла люстэрка, агледзела свой твар і тады супакоілася.

— А я ўжо думала...

— Я проста чакаю, калі закруціць у галаве,— сказаў ёй Алег.— Не круціць. Толькі горача.

— Мне і самой... Хоць на мароз бяжы.

— Ідэя. Усё жыццё люблю есці снег.— Алег устаў.— Валя, а вам снегу не хочацца? Магу прынесці.

— Я сама...

Яны выйшлі на ганак. Ціха сыпаўся густы снег. І Валя засталася стаяць на ганку, Алег жа падышоў да бліжэйшага дрэва, узяў з галля жменю снегу і вярнуўся да Валі.



— Частую...

— Не-не!

Ён укінуў усю жменю снегу ў рот. Валя засмяялася.

— Нармальна,— сказаў Алег.— І лепш зайсці ў вестыбюль, інакш вы прастудзіцеся.

Яны сталі ў вестыбюлі ля акна. Валя моўчкі пазірала на сняжынкі, што ляпіліся да шыбаў.

У яе позірку было штосьці замілаванае... «Дзяўчына крыўдзіцца не тады, калі яе кранеш, а тады, калі не дакранешся да яе». Хто гэта сказаў — Міша ці Альберт? Факт, часам не толькі глупства кажуць...

Алег не стрымаў сябе. Паклаў рукі на Валіны плечы — яна не скінула іх. Наблізіў да сябе яе твар — яна не адхінулася. Пацалаваў...

## 23

Яны спыніліся пад балконам. Яны маглі б зайсці ў кватэру, але навошта турбаваць лішні раз бабку Марылю?

— Пачакай, зараз нас заўважаць,— сказаў Алег.

— Ты верыш у тэлепатыю,— жартаўліва кінуў Юрка.— Я даўно гэта заўважаў.

— Не ў тэлепатыю, у біятокі я веру! — засмяяўся Алег.

Яму пакрысе перадаваўся Юркаў настрой. Юрку было чаго радавацца: ён, Алег, прынёс яму раніцой той канверт з грашыма, які ўчора на вяселлі ўручыў ім, музыкантам, удзячны Іван Іванавіч. «Адчаплюся нарэшце ад Маркіна»,— узрадаваўся Юрка. Магазіны сёння не працавалі, і толькі таму ён не пайшоў шукаць магнітафон «Арбіта». І вось яны тут, пад балконам з зялёным шчытом. На Юрку таксама спартыўны касцюм. Ледзьве Алег нагадаў быў яму, што дамовіўся з Галяй пахадзіць сёння на лыжах, як Юрка сказаў: «І я з вамі». Гэта было дзіўна, што Юрка не стаў раздумваць, як правесці дзень — што з яго ўзяць? Усё ад настрою... Алег адчуў сябе горш: не забывалася Валя, пацалункі з ёю. «Навошта былі тыя пацалункі?..»

Яны паглядалі на вокны, і ў правым, над балконам, раптам паказаўся Галін твар, на якім адбілася здзіўленне: чаму топчацеся там? Алег махнуў ёй рукой: выходзь!

Выйшла Галя не адна. За ёю з пад'езда высыпаў гурт: Зоя, Саша, Лена.

— Мы сядзім чакаем, а яны тут прагульваюцца,— з дакорам сказала Галя.

— Не думалі, што вас многа,— адгаворваўся Алег.— А хто тут каго не ведае? Знаёмцеся.

Саша, а за ім Лена працягнулі Юрку руку. Яны, як Зоя і Галя, таксама былі апрануты па-спартыўнаму.

Алег перахапіў Юркаў позірк: што гэта з ім? Юрка, які звычайна ставіўся да незнаёмых дзяўчат паблажліва, а то і звысака, пазіраў на Лену, як на цуд, на дзіва. А мо яму, Алегу, гэта падалося? У наступны момант на Юркавым твары ўжо быў выраз спакою, стрыманасці.

Да парку Чалюскінцаў яны прыехалі на аўтобусе. Пакуль ехалі, пакуль ішлі па алеях парку, Алег раз-пораз лавіў на сабе позірк Галі. Хіба яна магла аб чым здагадвацца? Сёння ёй было хораша, ёй усё падабалася і ёй было прыемна бачыць яго побач... А ён не мог пазбавіцца ад думак пра ўчарашні вечар, ад пачуцця вінаватасці перад

Галяй... Чаму так здарылася? Хіба ў яго адносінах да Галі нешта змянілася? Нічога не змянілася. Валя, якую ён цалаваў учора, была ўжо далёка ад яго, так далёка, што як бы і не існавала — толькі таму, што зноў ён быў з Галяй.

Ля будынка, дзе выдаваліся напракат лыжы з чаравікамі, было людна, шумна. Таты, мамы, дзеці, дзяўчаты і хлопцы — усе тут спяшаліся накіравацца ў падарожжа, няхай недалёкае, няхай па замкнутым коле, але на лыжах!

Іх гурту хапіла і лыжаў, і чаравікаў адпаведных памераў, і калі яны гатовы былі рушыць, Алег сказаў:

— Давайце махнём куды-небудзь далей, за парк.

— Туды, дзе пагоркі ёсць,— прапанаваў нехта.

І яны, пераехаўшы дзіцячую чыгунку, полем падаліся да прыкметнага зводдаль пагорка, парослага хмызам. Галя і Лена стаміліся больш як хто, пакуль даехалі сюды, але з радасцю азіраліся наўкол. Схілы пагорка былі не крутыя, дрэвы — елкі, сосны, асіны — стаялі не так густа, каб нельга было з'ехаць адсюль.

— Пік узяты, чаму не крычым «ура»? — спытаўся Юрка.

Саша засмяяўся:

— Мусіць, не той пік... А звычайна тут бывае народ, сёння мы першыя. І давайце пашукаем, ці ёсць дзе трамплін.

Было прыемна адштурхнуцца палкамі, пакаціць уніз па прагаліне і, не з'язджаючы на роўнядзь поля, пайсці кругом і зноў, ужо з другога боку, узабрацца на пагорак. Ніякага трампліна, хоць самага невялічкага, не знайшлі.

Смеючыся, усе падаліся на самы верх пагорка. Ганяліся адзін за адным, лавіруючы паміж дрэў, з'язджалі ўніз, падымаліся зноў угору.

А нагнаўшы Галю, Алег ухапіў яе за руку:

— Стой!

Яна і рада была спыніцца, бо крыху стамілася, дыхала на ўсе грудзі. Паставіла палкі збоку, зняла з галавы белую, з сінім паскам, вязаную шапачку, абіраючы з яе снег, зірнула ў вочы Алегу доўгім-доўгім позіркам. Памыляўся ён альбо не — яму здалося, што ў гэтую хвіліну яна кахала яго, у позірку яе было абяцанне чагосьці незвычайнага, што прыйдзе, што будзе належаць ім, як гэты шчаслівы, сонечны, снежны дзень. Ён узіраўся ў яе твар замілавана і аддана, ён гатовы быў вось тут, вось цяпер цалаваць яе яркія, як рабінавыя ягады, вусны, цалаваць гарачую чырвань яе шчок, і чорныя тонкія бровы, і густыя, выгнутыя вейкі, а потым зноў углядацца ў гэтыя сінія, добрыя, разумныя вочы.

— Не пазірай на мяне так. Будзе бяда,— вымавіў Алег.

— Якая? Няхай будзе!

Галя смяялася, і ён пацалаваў яе ў вусны. Кароткім быў пацалунак, за якім ён адно паспеў падумаць: «Што Валя?.. Што ўсё тое?..» Не было ўжо нічога, акрамя Галі, акрамя чыстых, радасных думак аб ёй.

— А дзе ўсе астатнія? — спахапілася Галя.

Яны паехалі туды, адкуль несліся галасы і смех. Дагналі Юрку з Ленай.

— Ну і ты! Біць цябе мала... Ведаў, што ёсць такая дзяўчына, і мне — ні слова,— улучыўшы момант, калі Галя з Ленай трохі ад'ехаліся, упікнуў Юрка.

— Не бачыў раней — цяпер убачыў. Ды я і не думаў, што трэба дакладваць.



— Ну, лепш позна, чым ніколі... Ах і Лена,— зачаравана выдыхнуў Юрка.— І ёсць жа такія... А скажы, Алег, хто там у яе?

— Бацька, маці... І, мусіць, табе карысна будзе ведаць, што ў Лены ёсць хлопец. Вучыцца ў мараходным...

— У мараходным? Гэта добра,— кінуў Юрка.

— І, напэўна, табе карысна будзе ўспомніць, што ў цябе ёсць Мая.

— Няхай будзе,— па-ранейшаму безуважна сказаў Юрка.— Пакацілі да іх...

Яны вярнуліся ў парк, калі забавелае сонца спаўзло за лес. Здалі лыжы, пераабуліся і пайшлі. Калі да праспекта заставалася каля сотні метраў, з бакавой алеі пачуўся голас:

— Санееў!

Голас належаў высокаму, гадоў трыццаці, мужчыну.

— Пачакайце мяне там,— сказаў Саша, маючы на ўвазе, што ўсе затрымаюцца на тратуары.

Размова яго з мужчынам зацягвалася.

— Алег, пакліч яго,— папрасіла Лена.

Вакол былі людзі, і Алег не стаў гукаць Сашу. Падыходзячы да яго, зразумеў, што размова ў Сашы непрыемная. Мужчына трымаў адну руку ў кішэні, другой размахваў, было штосьці жорсткае ў прадаўгаватым, сухім твары яго, у звужаных халодных вачах.

— Пачакай, я табе вось яшчэ што скажу,— рэзка, адрывіста гаварыў мужчына.— Я рызыкую, табе гэта ясна? І хопіць з мяне. Ты не бачыў! Нічога не бачыў і не будзеш бачыць. Не лезь у бутэльку. Змоўчыш — і будзем сябрамі.

— Не выйдзе. Не па адрасу ты, Шугай. Мяне чакаюць,— сказаў Саша.

— Ну, глядзі... Пашкадуеш,— кінуў мужчына і, сцяўшы збялелыя вусны, пакрочыў у глыбіню парку.

— Што за тып? — занепакоена спытаў Алег.

Саша закурыў і, ідучы, адказаў:

— З нашага ўчастка гэты... тып.

— Што яму трэба ад цябе?

— Перашкодзіў я яму... рухавік «пазычыць».

— Які рухавік? — здзівіўся Алег.

— Звычайны. Належыць заводу. Асінхронны, трохфазны, на чатыры кілаваты...

— Навошта яму?

— Збыў бы... Хутчэй за ўсё, паабяцаў некаму.

Яны падышлі да дзяўчат і Юркі.

— Праз каго гэта мы тут, Саша, мерзнем? — з дакорам вымавіла Лена.

— Сапраўды мерзнеце? Ці прытвараецеся? Прапаную зайсці ў кафэ,— сказаў Саша.— А на правах старэйшага абмяркоўваць прапанову не дазваляю: сказана — зроблена.

Кафэ было непадалёк, на тым баку праспекта. Туды і рушыў звонкагалосы, шумлівы гурт.

## 24

Юрка захапіўся Ленай не на жарт. Ён жадаў аднаго: хутчэй убачыцца з ёй. На трэці дзень пасля лыжнай прагулкі ён рашуча сказаў Алегу:

— Едзем ва ўніверсітэт.

Заняткі ў іх у гэты дзень заканчваліся лекцыяй па фізіцы. На другую гадзіну лекцыі яны не пайшлі. Быў час, каб забегчы да Юркі, якому зарупіла надзець замест курткі паліто, і паспець ва ўніверсітэт раней, чым апусцее корпус геаграфічнага факультэта.

Яны падыходзілі да корпуса геафака нават зарана. Алег ведаў Галін расклад заняткаў: да апошняга званка заставалася яшчэ каля чвэрткі гадзіны. Юрка пазіраў навокал з цікаўнасцю. Прастора між карпусоў была астраўком зацішша. Дарожкі нагадвалі сабой хады зносін па перадавой з фільмаў пра вайну: абапал высокімі ўзваламі ляжаў адкінуты з іх снег. Дрэвы стаялі самотна, нібы ў дрымоце — дзень быў бязветраны, з лёгкім марозам.

Яны спыніліся ля ўвахода ў корпус, пад высокімі разгалістымі дрэвамі.

Прайшла маладая жанчына з ярка нафарбаванымі вуснамі. Пазіраючы пад ногі сабе, пратупаў стары з партфелем. І больш нікога паблізу... Алег зноў зірнуў на Юрку, паглыбленага ў свае думкі. Юрка быў без шапкі, каўнер кароткага шэрага паліто настаўлены. На руках — скураныя пальчаткі. Моцны з выгляду Юрка, і твар у яго такі, што запамінаецца. Вочы пільныя, нос прамы. Востры падбародак...

— Слухай, Санча Панса, хачу спытаць... Ты Маю кахаеш?

— Пытанне веку... Чаму цябе гэта хвалюе?

— Лічыў, што кахаеш. Па вашых адносінах. А цяпер не ведаю, што думаць.

— Ну, не быў бы Дон-Кіхотам... Яшчэ раз — не хвалюйся. Ніхто не будзе пакутаваць.

Юрка стаў пахаджваць упоперак дарожкі, збіваючы чаравікам выступы снегу.

Неўзабаве данесліся гукі званка, і хутка з корпуса пачалі выходзіць студэнты — спачатку адзін за адным, потым гуртамі, потым пацягнулася непарыўная плынь. Галя, Зоя і Лена выйшлі разам, яны заўважылі Алега і Юрку і, прыкметна ўзрадаваныя, памкнуліся да іх. Віталіся шумна, ніхто з іх, дзяўчат, нібы і не здзівіўся таму, што з Алегам быў Юрка.

— Ой, хлопчыкі, каб вы яшчэ білеты ў кіно здагадаліся ўзяць, было б цудоўна! — прагаварыла Зоя.

Ішлі праспектам, раячыся, у які падацца кінатэатр.

Алег назіраў за Юркам... Юрка нічым не нагадваў сабой тых весялуноў, што стараюцца прыкаваць да сябе ўвагу. Юрка не спяшаўся выказаць сваю дасведчанасць, хоць і не ўтойваў яе. І можа, толькі тое, што Юрка трымаўся бліжэй да Лены і ў буфеце, і потым у фае, і тое, што ў зале ён сеў побач з Ленай, магло ёй аб чымсьці сказаць...

Фільм быў вясёлы — камедыя з удзелам трох вядомых артыстаў. У вясёлым настроі і выйшлі ўсе з кінатэатра. Глянуўшы на Лену, Юрка прапанаваў прайсціся яшчэ па горадзе.

— Хто можа, гуляйце, таварышы,— нахмурылася Лена.— А мне ніяк не выходзіць. Я ж адказваю за падрыхтоўку курсавой самадзейнасці. Гэта ўжо скора, вечар прысвячаецца Міжнароднаму жаночаму дню. Прыходзьце, палітэхнікі, паглядзіце, чаго варты нашы старанні.

— Прыйдзем,— не марудзячы паабяцаў Юрка.

За Ленай заспяшаліся дадому Галя і Зоя.

— Мы запрошаны на вечар. Гэта ўжо нешта...— Не без ноткі самазадаволенасці прагаварыў Юрка.

— Я заўважаю, між двух агнёў ты апынуўся,— штурхнуў яго Алег.— А нібы радуешся...



— А чаму б не? Між двух — значыць, абодва грэць будуць.

— Цікава...

— Па-твойму, я павінен усё крышыць, ламаць? Навошта? Мая ў мяне была і будзе...

— Не разумею, што табе ў такім выпадку трэба ад Лены. Навошта прытварацца...

— Якое прытворства? Яна мне таксама падабаецца.

— А калі ты скажаш пра гэта Маі?

— Ну, дзівак, хто так робіць? — паблажліва вымавіў Юрка.

Алег успомніў вяселле, Валю, пра якую Галі не сказаў ні слова. Сам ці лепшы... Але з Валяй у яго так атрымалася выпадкова і больш нічога не будзе, а Юрка... Юрка ведае, што робіць. Ён зусім не выпадкова хлусіць Маі і гэтак жа гатовы хлусіць і Лене. Не тое ўсё гэта, не тое...

Рыхтаваліся да заняткаў у Юркі, потым пайшлі да Марата — без асаблівае прычыны, проста пабачыцца з ім. Марат быў дома. І не адзін: Міша Ананіч пахаджваў па пакоі з часопісам у руках. Відаць было, начытаўся чагосьці смешнага.

— Супакойце яго, хлопцы,— сказаў Марат, узяўшыся дапрасоўваць касцюм.— А то я пачынаю баяцца за лепшага гітарыста «Каметы».

— Не трэба супакойваць! Хто многа смяецца, той доўга жыве.— Міша пачаў гартаць старонкі часопіса.— Парагатаць хочаце? Зараз качацца будзеце. Фельетон называецца «Свістун ажаніўся». Пачытаць?

— Лепш скажы... што там,— кінуў Юрка.

Міша пачаў расказваць пра нейкага Свістуна, што меў аж чатырох жонак. Пры гэтым сам Міша рагатаў, і Алег пасміхаўся не стольхі са зместу фельетона, колькі з нястрымнае Мішавай весялосці.

— Падумайце, чым браў Свістун! Кожнай прызнаваўся ў каханні. І клююць! — смяяўся Міша.— Гэта ж глупства ў квадраце: адно — што вераць жанатаму, а другое — у каханне яшчэ вераць! Ну і людзі!..

— Не сказаў бы, што гэта глупства — верыць у каханне,— прагаварыў Марат, не адрываючыся ад свайго занятку.

— Ат, было яно...— Міша раптам стаў сумна-злосны.— Адны словы... Усе дзейнічаюць па прынцыпе: ты мне — я табе. І называюць гэта каханнем. Мана, ніякага кахання на свеце не было і не будзе!

— Спытаў бы ў Алега, Міша, калі не ведаеш,— кінуў Юрка.

Алег сціснуў вусны — Юрка нібы і не кпіў, але навошта такія арыенціры?

— Пачынаў бы лепш з сябе, Юрка.

— Ах, выбачай... Я думаў, падкажаш чалавеку.

— Падкажы сам. Што можна кахаць адну... і другую таксама. Адначасова.

Юрка заставаўся спакойным:

— А дзе гэта напісана, што такое немагчыма? Хто як умее... У Турцыі вунь...

Марат засмяяўся:

— Ну, у Турцыі па-турэцку. Пласты вякоў... А што чую — ты, Юрка, за новай дзяўчынай прыўдарыў?

Юрка зацята маўчаў. Алег не без кплівасці вымавіў:

— Хто як, а Юрка гэта ўмее.

Юрка паморшчыўся:

— Можа хопіць?..

## 25

Па-над заснежанымі палямі і лясамі, па-над скаванымі лёдам рэкамі прыйшла-прабралася ў горад вясна. Тут, на вуліцах, яна хутка ўпраўлялася з рэшткамі снегу, усміхалася першымі кветкамі ў дзявочых руках, звінела песнямі.

Алег штодня заўважаў прыкметы вясны на вуліцах. Ён памятаў: і год, і два назад такой парой быў у яго незвычайны, узнёслы настрой. Тым пачуццям не было слоў, а жаданням і марам — мяжы, і не ведаў ён, калі і што збудзецца, а быў шчаслівы ад чакання, ад лёгкасці і чысціні думак.

Той ранейшай, жаданай узнёсласці цяпер не чуў у сабе Алег. Гарачая радасць як хутка набягала, так хутка і знікала. Калі б ён адчуваў сябе гаспадаром сваіх думак... Не было такога адчування. Думкі яго нібы прасейваў Юрка. І было цяжка з імі, і нельга было адкінуць іх: Юрка ведаў, што гаварыў.

Раніца гэтага дня была шэрая, хмарная, з дробным дажджом. Алег сустрэў Юрку перад уваходам у галоўны корпус інстытута. Яшчэ не паспелі прывітацца, толькі зірнулі адзін на аднаго, а зразумеў Алег, што Юрка мае нешта сказаць яму. Адышліся, прычэсваючы мокрыя валасы, ад гардэроба, і Юрка не марудзіў:

— Прывітанне табе ад Маі. І запрашэнне... Сёння ёй дзевятнаццаць. Сказала, каб я абавязкова з табой прыехаў. З Галяй не дамаўляўся наконт сустрэчы вечарам?

— Не.

— Ну і парадак. У сем вечара махнём да Маі.

— Хто там яшчэ будзе?

— Яшчэ — толькі Ніна. І я паабяцаў, што з табой прыкачу. Падводзіць адзін аднаго не будзем?

Ніна... Уміг згадаў Алег выпадковыя сустрэчы з Нінай, пры якіх яна не прамінала выказаць сваю цікавасць, увагу да яго. «Вось каму я там патрэбны». Але Юрка паабяцаў... Распарадзіўся ім. Зрэшты, няхай... Будзе весялей, чым аднаму са сваімі думкамі.

Раніца была хмарная, а падвечар праяснілася, і дом, у якім жыла Мая, Алег убачыў у апошніх праменнях сонца. Ён з нечаканай для сябе радасцю разглядаў гэты стары, драўляны дом — тут, у Мінску, яму яшчэ не даводзілася быць у такім вось доме, без суседзяў над столлю, за сценамі, пад падлогай. У гэтым доме, мусіць, незвычайная цішыня, калі не лічыць таго, што паблізу аэрадром.

Ім адчыніла Мая. Яна была ў парчовай блакітнай сукенцы, на галаве — высокая прычоска.

— О, хлопчыкі!

— Мы. Салют. І вось, калі ласка,— працягнуў Юрка ёй мімозы, якія яны купілі па дарозе.

— Ой, якія вы харошыя! — Мая прыклала кветкі да твару і гукнула: — Ніна, ідзі глянь, што тут у мяне! І хто!

Алег павесіў ужо на вешалку свой плашч, калі Ніна з'явілася ў прыхожай. Яна зірнула яму ў вочы з задзірліва-самаўпэўненай усмешкай. Белая, паўпразрыстая кофтачка, кароткая спаднічка, падмаляваныя, з пікамі-вейкамі, вочы, маленькія завушніцы з рубінавым, пад колер лаку на доўгіх пазногцях, каменьчыкам — усё ўбачыў Алег.

Прайшлі ў залу, дзе болей было святла, дзе ўсё сведчыла: тут сёння свята. Чысціня ў гэтым вялікім, абклееным ружовымі шпалерамі пакоі была проста неверагодная, падкрэслівала яе тое, што кожная рэч біла ў вочы бляскам: і паліраваная мэбля, і люстра, і вазачкі, і статуэткі.



Стол быў накрыты, і Юрка з Алегам паставілі на стол да двух бутэлек і свае дзве. А Мая наліла ў вазачку вады, і кветкі занялі месца ў цэнтры стала.

— А цяпер буду цягаць цябе за вушы,— ступіў да яе Юрка.— Колькі табе?

— Старая зусім. Толькі не трэба,— узмалілася Мая, прыкрыўшы вушы рукамі.

Алег кінуў позірк на Ніну, якая сядзела на тахце і маўчала. Падсеў да яе.

— Як жыццё?

Твар Ніны ажыў, бліснулі вочы.

— Не скардзімся! Працуем, самі сябе гадуем.

Мая паправіла перад люстэркам сваю прычоску і запрасіла ўсіх да стала.

— Больш нікога не будзе? — знарок спытаў Алег.

— У бацькі рэйс на Маскву, у маці начное дзяжурства,— адказала Мая.

Юрка ўзяўся адкаркоўваць бутэльку з шампанскім. Бутэлька стрэліла. Мая і Ніна ўскрыкнулі — Алег усміхнуўся з іх прытворнай палахлівасці. Разліўшы віно, Юрка сказаў:

— А тост за табой.

— Магу,— згадзіўся Алег.

— Дык вось... У жыцці адзін раз бывае дзевятнаццаць год, сёння табе, Мая, роўна дзевятнаццаць, дык няхай адзін раз будзе і роўна сто! А паміж гэтымі датамі няхай табе жывецца шчаслівa, так, як ты сама жадаеш.

— Так і будзе. Дзякуй, Алег,— Мая нахілілася да яго, цмокнула ў шчаку.

— А я не хачу жыць да ста год. Хадзіць па зямлі скурчанай у тры пагібелі? Не! — закруціла галавой Ніна.

— Займайся, Ніна, гімнастыкай,— параіў Юрка.

Пілі, елі, размаўлялі, пакуль не надакучыла сядзець за сталом. Мая нікога не пусціла да радыёлы, сама паставіла пласцінку і ўсклікнула:

— Увага!

З радыёлы паліўся высокі, падобны на авечае бляянне, мужчынскі голас:

> Жил в горах целый век человек
> С большой бородой по имени Шейк...

Юрка і Алег ускочылі з крэслаў, гатовыя танцаваць.

І завагалася пад столлю люстра, заскакалі на стале фужэры, сподкі, талерачкі, відэльцы — чатыры пары ног загрукалі па падлозе. Ужо праз хвіліну Юрка і Алег знялі пінжакі: пілаваць дровы было б лягчэй, як танцаваць шэйк. Алег паглядаў на Ніну, яна танцавала добра, ён імкнуўся нешта пераняць, ды не ўдавалася. «Не гіпнатызуй!» — крыкнуў ён, а яна ўсё роўна не зводзіла з яго чорных вачэй.

Знямоглыя, паселі хто дзе, а перадыхнуўшы, танцавалі зноў — вальсы, танга. Музыка падабалася Алегу, яе нельга было не слухаць, яна гушкала на сваіх хвалях, клікала ў бязмежнасць нечага пяшчотнага, ласкавага.

У нейкую хвіліну ён як бы збоку зірнуў на сябе... І падумаў, што гэтым адчуваннем жыць зусім нядоўга,— пакуль ён з Нінай, пакуль

бачыць яе. Згадаў вяселле, Валю... І там была гульня, і тут. Усяго гульня, нічога сур'ёзнага... Тым больш, што яна, Ніна, наўрад ці ставіцца да яго ўсур'ёз.

— Ты так змяніўся,— мружачы вочы, гаварыла яна.

— У які бок?

— У лепшы. Я думала, ты нікога не хочаш больш ведаць, акрамя адной...

— А можа і не хачу нікога больш ведаць.

— Так нельга!

І Мая завяла размову з ім аб тым жа.

— Ты стаў зусім сучасны хлопец, Алег.— Яны танцавалі танга, Мая ледзь-ледзь перастаўляла ногі. Яна адхінулася, каб бачыць яго твар.

— Мусіць, не зусім,— адказаў ён.— Пярсцёнкаў на пальцах у мяне няма. Бразготак на штанах таксама. І прычоска ў мяне... звычайная «канадка».

— Так! Ды і навошта табе розная мішура? Але цябе ўжо не спалохаеш... нічым! Памятаеш, як ты ў рэстаране адмовіўся танцаваць са мной? — Мая засмяялася.— Ты ўжо не той! Малайчына.

Ён ведаў аб сабе больш, чымсьці яны. Але навошта ім, Маі і Ніне, ведаць пра яго тое ж? Яны не жадаюць бачыць яго іншым. І не ўбачаць...

Недзе апоўначы Алег спытаў: ці не пара гасцям дамоў? Прыгадаў, што раніцой трэба ў інстытут, на заняткі, ды яму не дазволілі і ўстаць з крэсла. Яшчэ не надта позна, яшчэ трэба дапіць, што ў бутэльках засталося, а пераначаваць можна тут, у кватэры,— гаварыла Мая. Юрка сказаў коратка:

— Кіньце дэбаты. Нікуды Алег не паедзе.— І потым, калі дзяўчаты адхінуліся, дадаў: — Чаго ты баішся? У інстытут раніцой паспеем.

«Усё так, усё так,— з нечаканым сумам падумаў Алег,— ды лепш паехаць у інтэрнат». Ён не разважаў там з сабою, чаму лепш, ён адчуваў гэта.

Потым, калі паселі за стол, сум знік. Яму, Алегу, захацелася спяваць, абдымаць і Юрку, і Маю, і Ніну і бясконца гаварыць...

— Ну, дзе я тут буду спаць? — раптам успомніў ён.

Павекі ацяжэлі, яго крыху вадзіла з боку ў бок... Мая і Ніна завялі яго ў спальню.

— На маім ложку будзеш, Алег, спаць. Пабачыш, прысніцца добры сон,— гаварыла Мая.

Дзяўчаты пакінулі яго аднаго. А праз хвіліну, калі ён ужо ляжаў у ложку, дзверы зноў адчыніліся, і да яго хуценька прытупала Ніна.

— Дзе два, там трэці лішні,— сказала яна.— Ты яшчэ не спіш? — Яна пакудлаціла пальцамі яго валасы.

— Хто лішні? — няўцямна спытаў Алег, ухапіўшы яе руку.

— Я... я там лішняя,— Ніна села на край ложка...

Ён прачнуўся сярод ночы — штосьці казытала яго твар. Гэтая самая рука... Ён расплюшчыў вочы. Побач ляжала Ніна. Ляжала, павярнуўшыся сваім тварам да яго, вадзіла сваёй мяккай рукой па яго шчацэ.

— Выспаўся? — спытала шэптам.

Ён нібы не верыў...

Шэрым ранкам яны з Юркам выходзілі з дому. Алегу здавалася, што Юрка надта марудзіў, доўга апранаў паліто, доўга прычэсваўся, закурваў. А яго, Алега, штосьці прыспешвала, гнала адсюль, ад Ніны, што спала ці прытварылася, што спіць, ад Маі, якая з нявіннымі вачыма ўгаворвала іх папіць чаю. Яму здавалася, што чым далей апынецца ён ад гэтага дома, тым скарэй спаўзе з душы нешта цяжкае, прыкрае...



— Паслухай...— глуха спытаў Юрка.— Ты што тут згубіў? Што ўрэшце змянілася?

Юрка не разумеў... Не разумеў, што бачыў сябе ўжо зусім іншым пад гэтым сінім небам, на гэтай па-вясноваму адкрытай зямлі...

Яны падыходзілі да плошчы перад аэравакзалам. Разводдзе гукаў неслася з аэрадрома, раптам іх заглушыў магутны і шырокі гул— самалёт з разведзенымі, як у ластаўкі, крыламі набіраў вышыню. Алег правёў яго позіркам. «Паляцець бы куды»,— з тугой і горыччу падумаў ён.

## 26

Сёння хлопцаў у пакоі няма. Сёння субота, і ўсе яны адразу пасля заняткаў паехалі дамоў. Гэта добра — быць аднаму ў пакоі. Нікуды не хочацца ісці, нікога не хочацца бачыць. А калі стане невыносна тужліва, тады можна дастаць з партфеля бутэльку... Гэта ён ведае: памутнее ў галаве — думкі даймаюць менш... Але не трэба спяшацца, трэба яшчэ раз пашукаць выйсця.

Пражытыя дні — як сон? Хто сказаў? Сон так лёгка забыць...

Як заўжды ганарыўся ён сваім каханнем, употай, але ганарыўся — перад Юркам, перад усімі знаёмымі і незнаёмымі людзьмі! Каханне як бы ўзносіла яго над імі, узвышала. Ён адчуў гэтую чысціню пачуццяў да Галі, бо ўсё: і кроплі ранішняй расы, і аблокі ў вячэрнім небе, і звычайны зялёны лісток на галінцы дрэва — гаварыла яму пра Галю, было Галяй, было ім самім.

А цяпер?.. Ён стаў роўны Юрку, Мішу... Ён пераступіў мяжу, якая была паміж імі. Мяжа праляглa цяпер паміж ім і Галяй. На той строме, на якой ён заўсёды ўяўляў сябе і Галю, яна засталася адна.

І што цяпер рабіць яму? Хлусіць ёй і насіць штодня цяжар гэтай хлусні ў сабе? Ён будзе выдаваць сябе за таго, ранейшага. Выдаваць... Як агідна...

Тры дні ўжо не быў у Галі. Яна ўжо недзе хвалюецца... І як ісці да яе, пра што гаварыць?

Хтосьці пастукаў у дзверы. Алег падхапіўся, сеў. «Галя?» — ёкнула сэрца. Пастукалі зноў — ціха, нясмела. Прыгладзіўшы рукамі валасы, Алег пайшоў да дзвярэй, павярнуў ключ.

Галя стаяла перад ім. Яна пазірала на яго і радасна і ўстрывожана. Пыталася спярша толькі вачыма: што з табой здарылася?

Ён нібы скамянеў. Дзівіўся з сябе: чаго спалохаўся? Ён бачыў Галю, і ўжо адно гэта раптам нібы скінула з яго вялікі цяжар. Быць з ёю — гэта шчасце. Толькі б не думаць, забыцца пра тое...

— Праходзь,— нарэшце вымавіў ён. І дапамог ёй зняць паліто, правёў да стала.

Галя села, пільна ўзіраючыся на Алега.

— Ты не хворы?

Няхай так і будзе. Няхай Галя лічыць, што яму нездаровілася.

— Адна я не хварэю,— усміхалася Галя.— Нават Зоя загрыпавала. Бабка сама адляжала, цяпер лечыць яе. Зёлкамі ды мёдам. А аб табе няма каму і паклапаціцца?

Гэтая Галіна даверлівасць, гэта шчырасць азвалася ў ім болем. Ён паморшчыўся, пацёр пальцамі скроні.

— Баліць галава? — зазірнула ў вочы Галя.
— Крыху...
— Я бачу, ты ляжаў? І паляжы. А я пасяджу каля цябе. А стане лягчэй, пройдзем, пагуляем. Згода? — сказала яна.
Ён згадзіўся, паддаўся на яе клопат. Было ў гэтым штосьці асабліва кранаючае: ён ляжаў, а Галя сядзела на крэсле блізка-блізка, нахіліўшыся да яго, гатовая забаўляць яго, нібы малога.
— Алежка, Рая Зубіч прывітанне табе перадавала.
— Дзякуй. Як яна маецца?
— Ведаеш, Рая неяк перамянілася. Павесялела, стала больш адкрытая. Раней яна толькі мяне запрашала да сябе дамоў, а ўжо і Зоя была ў яе, і Лена, і Казанец.
— Які ім гонар...
— Ды не! Рая сама ўпрошвала іх паехаць да яе... Казанец такі ўжо шчаслівы... Цяпер яны часта разам...— Галя абвяла вачыма пусты пакой, спыталася: — А дзе твае хлопцы?
— Недзе гуляюць. А з Юркам бачыліся ў інстытуце...
— Юрка твой...— Голас у Галі раптам перамяніўся.— Я доўга не ведала, што думаць аб ім. А цяпер ад яго загадкавасці нічога не засталося.
— Як гэта?
— Сам сябе паказаў... Лена абыходзілася з ім, як з чалавекам, а ён...
— Што? — нецярпліва кінуў Алег.
— Дала яму аплявуху. Вось і ўся загадкавасць.
Юрка, значыць, хлусіў яму? Алег разгублена ўсміхнуўся — гэта было адкрыццё... Юрка ніколі знарок не гаварыў яму няпраўды. А здолеў вось... Чаму? Сорамна было прызнацца, што атрымаў аплявуху? Ды не, мог бы сказаць пра тое, са смяшком, з паблажлівасцю да дзявочых замашак. І, мусіць, сказаў бы, калі б не было яму сорамна пры гэтым... Не інакш: Юрка не пажадаў паказаць, чаго варта яго ўпэўненасць, яго пераконанасць у тым, што і Лена не з іншых людзей, чым ён сам...
Юрка атрымаў належнае... І можна пасмяяцца з яго.
Алег маўчаў. Усё, што сказала Галя, несла яму, Алегу, і штосьці горшае, як крыўду на Юрку. А што гаварыць пра сябе?.. Калі скажа ён праўду, хіба даруе Галя? Не даруе, не павінна дараваць... То застаецца адно. Яна стане зусім блізкай яму — і роўнай... І адпадзе, адыдзе ад яго гэтае невыноснае адчуванне прыніжанасці.
— Мусіць, пара святло запаліць? — паднялася Галя, шукаючы вачыма, дзе ўключальнік.
— Не трэба, яшчэ хто зойдзе... А я хачу быць толькі з табой.
— Табе не лепш?
— Лепш. Але пасядзі. Я цябе потым правяду.
Галя ціха села на край ложка.
— Я ўжо нікольк не хворы. Ну, хіба я хворы? — Усхапіўшыся, Алег асцярожна абняў яе.
Не цалаваў, гладзіў рукамі Галіны плечы, прыхінуўшыся шчакой да шчакі. А сэрца білася ўсё мацней, і думкі гублялі цвярозасць. «Трэба... Трэба цяпер... І потым усё будзе інакш».
— Ты мая? Мая? — шаптаў ён, усё мацней прыціскаючы Галю да сябе.
— Твая... Чыя ж яшчэ... Толькі ты шкадаваў бы мяне... І лепш мне, Алежка, пайсці.
— Не, не... Я не пушчу цябе...— Ён знайшоў вуснамі яе вусны, цалаваў доўга, потым спытаў: — Ты піць не хочаш? У нас штосьці ёсць... У Слаўкі быў дзень нараджэння,— прыдумваў ён,— і крыху адзначылі.. Без мяне, але маё пакінулі. Слаўка добры, за яго варта... Згодна?
— Што ты гаворыш, Алег? Што з табой?
«З віном усё прасцей»,— прыгадаў ён чыесьці словы. Але дарэмна... Галя паспрабавала вызваліцца з яго абдымкаў. Ён крыху паслабіў рукі, але не выпускаў яе.
— Алег...
— Не хочаш віна, не трэба... Ёсць вада... Таксама не? Ну як хочаш, толькі не ўцякай... Не ўцякай, бо я пакрыўджуся. Табе не добра са мной?
Галя маўчала, і ён цалаваў яе. І раптам спахапілася:
— Алег, што ты? Пусці мяне!
— Навошта табе ісці?.. Ты ж са мной... Не бойся... Я кахаю цябе... Як ніхто нікога. Верыш?..
— Перастань, Алег. Пусці!
«Злуецца так, напаказ...» Гэта казаў Міша.. Нельга здавацца, будзе горш...
— Галя, не бойся... Мы ўжо дарослыя... Я хачу, каб ты была мая... Зусім мая... Чуеш?
— Пусці! Як ты можаш, Алег?!
Ён не пазнаў яе голас. Гэта быў чужы, не Галін, пагардлівы голас.
— Даруй, Галя... Я не думаў...— Ён ужо не абдымаў яе, толькі спрабаваў утрымаць яе руку ў сваёй...
Яна вырвала руку. Імкліва пайшла да дзвярэй, зняла з вешалкі паліто. І тады ён кінуўся да яе.
— Галя, даруй... Не крыўдзіся... Я табе ўсё раскажу... Я сам не ведаю, што раблю... Застанься, я ўсё раскажу...
— Я нічога не хачу, толькі пайсці адсюль...
Упала на вочы паласа святла, усяго на імгненне — дзверы са стукам зачыніліся, і зноў у пакоі стала цёмна...
Здалося, не вытрымае, закрычыць услед: «Галя!..» Але хтосьці ішоў па калідоры.

## 27

Ужо некалькі чалавек прайшло ў прахадную завода. Ніхто з іх не звярнуў асаблівай увагі на Алега — стаіць хлопец на пляцоўцы перад прахадной, чакае некага... Па каменных прыступках узбег на пляцоўку зусім малады хлапчына, ці не аднагодак яму, Алегу. Алег спыніў яго:
— Выбачай, ты не ведаеш Сашу Санеева?
— Ведаю. А што?
— Ты мог бы сказаць яму, што яго тут чакаюць? Скажы, Алег чакае... І больш нічога. Каб ён толькі ведаў, што я тут.
— Я бягу падмяніць друга... Трэба яму сарвацца. Але скажам, што ты тут. Калі патрэбен табе Санееў, то скажам.— І, дакрануўшыся рукой да чорнага берэта, што блінам сядзеў на макаўцы, хлопец памчаўся ў прахадную.
Пра Сашу Алег успомніў яшчэ раніцой. Адчуванне адзіноты было нясцерпным, і да каго яшчэ мог ён з гэтым адчуваннем пайсці? Да Юркі? Да Мішы ці Альберта? Пахадзіў з імі, а куды зайшоў? Юрка

пазаікаўся сёння, непрыемна было глядзець на яго. Прабачэння прасіў за хлусню пра Лену.

З Сашам лягчэй, з ім можна быць шчырым. Сёння то не лёгка будзе сказаць яму ўсё...

Ах, хутчэй бы вырвацца з гэтай твані, у якой апынуўся. І каго хацеў пацягнуць за сабой?.. Галю. Што яна можа думаць цяпер аб ім? Хіба даруе? Яму толькі марыць, каб даравала. Марыць аб тым, што было і што дзень за днём страчваў...

Нідзе яму не пазбавіцца ад сваіх думак. На лекцыях не мог прымусіць сябе слухаць выкладчыкаў, на семінары па агульнай хіміі не чуў ні пытанняў, ні адказаў... І гэта шумная, людная вуліца, па якой хадзілі трамваі, нічым не магла прыцягнуць увагу настолькі, каб забыцца хоць на хвіліну...

Ён як не ўздрыгнуў ад голасу над вухам:

— Прывітанне, Алег!

Саша, у сінім камбінезоне, у чорным берэце, як і той хлопец, усміхнуўся яму і моцна пацiснуў руку.

— Я да цябе... Проста пасля заняткаў... Я пачакаю, пакуль закончыцца змена,— сказаў Алег.

— Пайшлі са мной... Я ж табе некалі абяцаў паказаць завод.

Яны затрымаліся ля бюро прапускоў, дзе спатрэбіўся Алегаў пашпарт, і неўзабаве выйшлі з прахадной на заводскі двор.

— Ты быў калі на вялікім заводзе? — пытаў Саша.

— Ніколі. Практыка яшчэ будзе...

— Праз чатыры гады на такім працаваць будзеш! Пара, пара на свае вочы ўсё пабачыць! — дружалюбна-паблажліва гаварыў Саша.— І паслухаць завод, і падыхаць ім!

Алег змоўчаў. Не з такім бы настроем трапіць яму на завод...

Але жыла ў ім і прабілася цяпер цікаўнасць да ўсяго, што паўставала перад вачыма. І ён трымаў у сабе гэту цікаўнасць, знайшоўшы ў ёй ратунак ад балючага хоць на нейкі час.

Зайшлі ў цэх. Ён быў шырокі і доўгі, са шкляной столлю, з двума радамі станкоў. Саша не спыняўся ля іх, адно называў:

— Фрэзерны... А гэта ўжо зубафрэзерны... Шліфавальны...— І заўважыўшы, што Алег пазірае на рабочых, сказаў: — Усе свае хлопцы, ведаем адзін аднаго. Пазнаёміў бы цябе, але цяпер ні ім, ні нам не выпадае...

Саша спяшаўся ў глыбіню цэха. Раптам моцны гул, падобны да сігналу машыны, прымусіў Алега азірнуцца. Саша засмяяўся.

— Тут аўтобусы не ходзяць. Вышэй глядзі...

Проста над праходам, на вышыні, кран нёс шасцярню. Шасцярня была ў дыяметры метры паўтара, калі не ўсе два.

— Куды яе такую? — спытаў Алег.

Саша прыжмурыў вочы:

— У гадзіннік паставім — і будзе працаваць! — І дадаў сур'ёзна: — Станок недзе вышынёй у два паверхі, вось і шасцярня такіх габарытаў. З кавальскага цэху сюды трапіла.

— А што тут з ёй рабілі?

— Растачылі, шліфанулі, шпоначны пас прарэзалі... Работы з ёю было. Але пойдзе ўжо на сваё месца!

Яны ішлі, абыходзячы то аўтапад'ёмнік, то аўтакар.

— Вось і мой участак,— сказаў раптам Саша, спыняючыся.

Тут па абодва бакі ад прахода таксама стаялі станкі. Маўклівыя станкі... Яны не гулі, не спявалі ні звычна, ні напаўголасу — яны ў параўнанні з тымі станкамі, што працавалі, здаваліся нежывымі.



— Што, сумнаватая карціна? — спытаў Саша.

— Крыху не тое,— вымавіў Алег.

— Зажывуць! Мы ім тут душу ўстаўляем.— Саша паказаў вачыма на два станкі, якія стаялі блізка адзін ад аднаго: — Учора іх нам падкінулі, яшчэ, бачыш, не разбіралі... Ну, паглядзім, што там хлопцы паспелі. Мне засталося металарукаў зазямліць ды кранштэйн асвятлення паставіць.

Ля станка, да якога накіраваўся Саша, увіхаўся невысокі, паўнаваты, сярэдніх гадоў мужчына.

— Іван Сцяпанавіч, слесар наш,— сказаў Саша, ведаючы, што той чуе.— Больш з гэтым станком, ім слесарам, няма чаго рабіць.

Іван Сцяпанавіч зірнуў на Сашу, крыху даўжэй затрымаў позірк на Алегу, і Алег прывітаўся з ім — у адказ Іван Сцяпанавіч адно кіўнуў галавой. А закончыўшы сваю справу, ужо ўважліва глянуў на Алега, спытаўшы ў Сашы:

— Сваяк хіба?

— Таварыш. Вучыцца ў політэхнічным. На работу нашу захацеў глянуць.

— І што ж бачыш? — спытаў Іван Сцяпанавіч, прыклаўшы да мясістага носа замурзаную насоўку. Дзьмухнуў у насоўку, хітравата пазіраючы на Алега.

— Людзей... цэх бачу, —адказаў Алег.

— Кіно яно табе ўсё пакуль. Кіно... Але іншых і ў кіно не цягне,— дадаў Іван Сцяпанавіч і гэтым як ухваліў Алегаву цікаўнасць. І кінуў Сашу: — Ну, канчай тут...

Алег правёў Івана Сцяпанавіча позіркам. Той кіраваўся да двух хлопцаў, што ўвіхаліся ля разабранага станка.

— А з тым станком... многа работы? — спытаў Алег.

Саша прасачыў за яго позіркам.

— Хопіць! Станіну прашліфаваць, шасцяронкі замяніць, валы, матор таксама...

Саша дастаў з кішэні камбінезона пласкагубцы, сказаў:

— Хочаш, пабудзь тут ці прайдзіся па цэху, пакуль я ўпраўлюся.

Алег спачатку паназіраў, як Саша працуе. Саша зіркаў раз-пораз на яго, штосьці тлумачыў, ды ён як не чуў... Яго зноў займала тое, дзеля чаго ён прыйшоў сюды. Як жа раскажа ён Сашу пра сябе? Думаў пра гэта і потым, калі выходзіў з завода. Супроць самога Сашы, супроць усяго, што бачыў у цэху, супроць гэтых стомлена-спакойных і ўзрушана-вясёлых людзей, з якімі зноў прайшоў праз прахадную, адчуў сябе ён, Алег, гэтак жа прыніжаным, як перад Галяй. І не хацеў ужо, каб Саша заўважыў, што яму сёння як ніколі сумна, тужліва.

— А чаму ты, вучачыся на аўтатрактарным аддзяленні, працуеш электрыкам? — загаварыў ужо каля аўтобуснага прыпынку.

— Таму, што мне і адно і другое падабаецца,— не задумваючыся, адказаў Саша.— Але ў электрыках мне ўжо быць нядоўга. Вось закончу курс, і трэба будзе на аўтазавод ці трактарны пераходзіць... Ага, а якія ў цябе ўражанні ад экскурсіі?

— Я быў думаў, што ты мяне водзіш па цэху, як па сваёй кватэры... І неяк лішнім сябе адчуваў — людзі працавалі.

Саша засмяяўся:

— Дзіва што, як па кватэры... А лішнім ты сябе адчуваў... Зусім нармальнае, здаровае адчуванне, лічу. Дык вось такая, Алег, наша работа. Яна будзе часам і ў пячонках сядзець, але і сэрца радаваць.

Станеш працаваць, то адчуеш нешта такое... У аўдыторыях таго не выседзіш. Гэта, брат, галоўнае — нешта выдаваць з сваіх рук!

«Не, сёння не магу гаварыць з ім,— падумаў Алег, не адважваючыся зірнуць Сашу ў вочы.— Ды, можа, і не трэба. Адзін знайду выйсце. Сваім розумам».

## 28

Быў пагодны дзень. Рэдкія ярка-белыя аблокі павольна плылі над горадам, і сонца то хавалася за імі, то зноў залівала праспект святлом — тады ўміг усё наўкол прыгажэла, святлелі шэрыя камяніцы, безліччу водблескаў ззялі машыны. Алега нішто не займала. Ён углядаўся ў аўтобусы, у адным з якіх магла ехаць Галя. Ён марна прастаяў тут і ўчора, і пазаўчора, і сёння. Галя магла затрымацца ва ўніверсітэце ці сесці ў аўтобусе недзе за людзьмі, але пакуль была надзея ўбачыць яе, нішто не змусіла б яго пакінуць гэтае месца.

Ён убачыў яе. І спачатку не паверыў, што гэта Галя, ды тут жа пераканаўся, што гэта яна — калі аўтобус прайшоў блізенька каля яго. Галя сядзела пры акне, яна таксама ўбачыла Алега, і ў гэтае імгненне штосьці зварухнулася ў яе твары, спакойна-задуменным, але яна не павярнула галавы. Яму здалося, што твар яе спахмурнеў, але няхай, важней за ўсё было вось тое, што яна будзе памятаць яго і з гэтага дня, з гэтай кароткай сустрэчы.

За палёгкай, якую адчуў Алег у сабе, з якой вярнуўся ў інтэрнат, хутка надышла новая хваля болю, адчаю. Галя нешта думае аб ім, і няўжо ён стаў зусім не патрэбны ёй? Не павінна гэтак быць, не павінна... А калі інакш, то чаму ніякага знаку з яе боку, што хацела б штосьці змяніць? Калі б усміхнулася яна, хоць трохі, калі б пасвятлеў яе твар...

Надвячоркам Алег выйшаў з інтэрната, ускочыў у трамвай... Зайшоўшы ў знаёмы двор, спыніўся ля пад'езда. Не, у кватэру ён не пойдзе, але хоць праз гадзіну, праз дзве, ды тут ён стрэнецца з Галяй сам-насам. Няхай гляне яму ў вочы, няхай зразумее, што без яе яму жыццё—не жыццё...

Пачынала цямнець, калі Алег убачыў бабку Марылю. Яна ішла ці не з магазіна — трымала ў руцэ гаспадарчую сумку. Ён прывітаўся.

— Ты, Алік? — прыпынілася на міг старая.— Добры вечар табе.

— Галя... дома?

— Да Ленкі яна з Зойкай паехала. Бачыць хацеў? — Бабка ўздыхнула.— Чаго ж у вас згоды няма? Нядобра... Вясна вось... Мірыся. Прасіся, калі вінаваты.

— А яны скора вернуцца?

— Казалі, запозняцца. Справы нейкія ў іх... Хіба заўтра падыдзі.

Ён развітаўся з бабкай, падаўся на вуліцу. Думаў: лёгка бабцы сказаць «заўтра». Наперадзе яшчэ вечар, і ноч, потым раніца, доўгія гадзіны заняткаў у інстытуце — і ўсё трывай, цярпі гэтую тугу, адзіноту... А чаму не паехаць туды, да Сашы? Ці не ўсё роўна, дзе сустрэцца з ёю?

Ён сеў у аўтобус, сышоў ля паштамта, і толькі калі да дома, у якім жыў Саша, заставалася метраў дзвесце, замарудзіў крок. Якія словы ён скажа Галі? Слоў у галаве многа... Падступіла тое хваляванне, ад якога калацілася сэрца.



Нешырокая, з рэдкімі ліхтарамі вуліца агарнула цішынёй. Наперадзе, у змроку, штосьці адбылося. Алег бачыў: мужчыну, які ішоў перад ім, абкружылі трое, пачуліся глухія ўдары і голас:

— На!.. І ты!.. Гадаўё!..

Алег пазнаў голас. «Саша!»

Кароткае імгненне спатрэбілася Алегу, каб усвядоміць сваю ролю ў гэтай сітуацыі. Ён рушыў наперад, з нейкай асалодай адчуў у сабе тую непахісную рашучасць, якой заўсёды так неставала яму. Крыкнуў:

— Трымайся, Саша!

Тыя трое кінуліся прэч. Адзін з іх, што бег апошнім, здаўся Алегу знаёмым.

— Альберт?! — уражаны, не стрымаўся ён ад воклічу.

Хлопец уцякаў не азіраючыся. Алег нахіліўся над Сашам, які спрабаваў падняцца.

— Саша, дзе цябе?.. Саша?..— ён узяў яго пад руку.

— Нічога, Алег... Калена вось...— Саша падняўся, ступіў крок, хапіўся рукой за правую нагу.— Чакай, зараз як-небудзь...— тручы далоняй калена, Саша зірнуў у той бок, куды пабеглі трое. Спытаў: — Што за Альберт? Знаёмы?

— Падалося,— адказаў Алег, таксама ўзіраючыся ў шэры змрок вуліцы... «Ці мала такіх высокіх, белагаловых»,— падумаў. І разам з тым не мог ён упэўнена сказаць сабе, што бачыў кагосьці іншага, не Альберта.

Саша зноў паспрабаваў ісці і раптам ухапіўся Алегу за плячо.

— Памагай, дабяромся як-небудзь...

Задыхаліся абое, пакуль брылі па двары і ўзышлі на трэці паверх. Дзверы адчыніла Сашава маці, спалохана зірнула на яго:

— Што з табою?

«Зараз убачу Галю»,— падумаў Алег. Чакаў, што яны, Лена, Галя, Зоя выйдуць услед за Кацярынай Трафімаўнай, але ніхто больш не паказваўся.

Ён падтрымліваў Сашу, пакуль не зайшлі ў гасціную. Саша апусціўся на тахту, цераз сілу ўсміхнуўся, глянуўшы на маці, на Алега.

— Вось такая... размінка,— вымавіў ён.

— Сынок, хто яны? Што ім ад цябе трэба? — Кацярына Трафімаўна стаяла перад ім разгубленая, усхваляваная.— Пакажы, што з нагою...

— Каб я ведаў, хто яны... Чаравікам адзін... Знарок па назе...

Убачыўшы, як апухла калена, Кацярына Трафімаўна ўздыхнула:

— Ой, Саша, каб хаця не пералом які. Я выклічу хуткую дапамогу.

— Чакай, не трэба. Адсяджуся ды паспрабую прайсці. Тады будзе ясна, што рабіць... А ты, Алег, да нас ішоў?

— Я Галю шукаў. Сказалі, што ў вас яны.

— Яны ва ўніверсітэт пайшлі,— сказала Кацярына Трафімаўна. І зноў зірнула на Сашу: — Трэба ж во нарвацца на хуліганаў... А мо ты бачыў іх калі? Мо яны ведаюць цябе?

— Не бачыў. А ведаюць яны мяне альбо не — гэта і мне цікава,— вымавіў Саша.

— Успомні, мо каго зачапіў? — ціха кінула Кацярына Трафімаўна.— Ты ж у нас такі,— з лёгкім асуджэннем дадала яна.

— Што значыць — зачапіў? — узгарэўся Саша.— Калі сказаць у вочы праўду — зачапіць, то так я магу. І сёння на сходзе не адна-



го зачапіў. Камсамольскі быў сход, пагаварылі як трэба. І каб хто надумаўся гэтак помсціць... проста смешна! Людзі мы!

— Каб усе — людзі...

— Ну, трапляюцца розныя... Памыцца я хацеў бы...— Саша ўстаў, паморшчыўся ад болю, зрабіў адзін крок, другі. Алег і Кацярына Трафімаўна кінуліся яму памагчы, але ён закруціў галавою: — Дакульгаю сам.

— Я пайду,— сказаў Алег, разумеючы, што Сашу цяпер не да яго.— Зайду да вас як-небудзь.

Саша падаў яму руку.

— Заходзь, Алег. І вось што... Даведайся наконт гэтых... Памыліўся ты ці не.

— Абавязкова.

Поўны сумятлівых думак, ішоў Алег да праспекта... Галя ва ўніверсітэце. Пайсці, чакаць яе каля чытальнай залы? А калі не загаворыць з ім? І Зоя, Лена будуць тое бачыць?

Алег адчуў раптам стомленасць. Недасыпаў ён, недаядаў, і раптам захацелася яму адно — хутчэй кінуцца ў ложак. Ён выйшаў на праспект і адразу сеў у тралейбус.

Перад уваходам у інтэрнат як не аслупянеў ад нечаканасці: дарогу яму заступілі Міша, Альберт і Стась. Альберт. Світар, штаны — усё на ім чорнае, як і на тым хлопцы, што ўцякаў ад Сашы.

— Здароў, Алег!

За Мішам кожны пацiснуў яму руку. Хлопцы ўглядаліся ў яго, чакалі чагосьці, на іхніх тварах, матавых ад святла ліхтароў, была нейкая ўзбуджанасць.

— Хацелі там цябе пачакаць, ды на ўсякі выпадак змыліся... Ты, Алег, не прагаварыўся? — вымавіў Міша.

— Гэта былі вы?!

— Ну, мы. А ты... і комік жа! — Убачыў і клікаць. Дадумаўся! — за ўсмешкай Альберта хавалася раздражнёнасць, як не злосць.

— Алег, чуў? — напомніў пра запытанне Міша.

— А што я мог сказаць? Альберта пазнаў, ды і то думаў, што памыліўся,— адказаў Алег.

Стась курыў, слухаў гутарку з нейкай вялай цікаўнасцю, разглядаў дзяўчат-студэнтак, што заходзілі ў інтэрнат.

— Ну, тады парадак! Калі будзе пытацца, гавары — памыліўся,— сказаў, як загадаў, Міша.— Мы бачылі, ты яго ў кватэру павёў. Знаёмы табе?

— Яшчэ як! З восені... А чаго вы на яго, што ён вам зрабіў?

— Ды мы яго ведаць не ведалі.— Міша паморшчыўся, пацёр пальцамі шчаку.— Але трэба было...

— Вы яго не ведалі? — перапытаў Алег.

— Проста заступіліся за аднаго... А што нам,— прамармытаў Міша.

— Заступіліся... А прозвішча таго... ці не Шугай? — Алег згадаў раптам сонечны лютаўскі дзень, парк, Сашаву гутарку з мужчынам.

— А ты адкуль гэта ўзяў? — плюскаў белымі вейкамі Альберт. І зірнуў на Мішу:

— Гэта горш. Калі Алег здагадаўся, то і Санееў зразумее. Факт, датумкае.

Міша адказаў:

— І няхай! А доказаў ніякіх! Якія ў яго доказы, што тут Шугай прымешаны? Абы нас не ведаў. А Шугай не выдасць.

— Дык Шугай папрасіў, і вы памаглі? — вымавіў Алег, звяртаю-

чыся перш за ўсё да Мішы, які заўсёды быў яму бліжэй, як Альберт ці Стась.— Хто ён вам, Шугай?

— Альбертаў брат стрыечны... Ну, сказаў Альберту, Альберт нам... Так і атрымалася...— Міша крывіў твар у сумным роздуме. І раптам спытаў, апраўдваючыся: — А ты сам хіба адмовіўся б?

— Я? Я, Міша, не стаў бы біць чалавека ні па чыёй просьбе,— сказаў Алег. І нібы ўдарыў гэтымі словамі і Мішу, і Альберта, і Стася. Яны пазіралі на яго моўчкі, здзіўлена — з той цікаўнасцю, з якой можна было пазіраць на нешта малазнаёмае, незвычайнае.

І позіркі іх ударылі па ім, Алегу. Гэтыя хлопцы, значыць, не ведалі яго, яны толькі цяпер у нейкай ступені адкрывалі сабе Алега. Яны лічылі, што ён такі, як яны.

— Ну, так дык так... Бывае... Што там...— загаварыў Міша, каб парушыць маўчанне.— Хопіць канцы шукаць. Пайшлі з намі, Алег. Да Юркі зойдзем, вып'ем, каб весялей было. Яшчэ не позна, пайшлі?

— Не. Спаць хачу,— вымавіў Алег, чуючы ў сабе ўсё тое ж нясцерпнае жаданне кінуцца ў ложак, хоць ненадоўга забыцца пра ўсё.

Яго не ўгаварылі. І ўжо на развітанне Міша кінуў:

— Дык галоўнае, Алег, маўчок! Язык — вораг наш, памятай.

Хлопцы пайшлі. Алег стаяў не зварухнуўшыся. Яму яшчэ штосьці трэба было асэнсаваць... Ён раптам убачыў сябе і хлопцаў як бы збоку.

Быў красавіцкі вечар, было падсвечанае агнямі горада неба. І людзі навокал. Яны спяшаліся, яны праходзілі нетаропка, стаялі, размаўляючы, і іх галасы, усмешкі, напоўненыя адчуваннем прыгажосці вечара, вясны, жыцця, былі так далёкія таму, аб чым гаварыў Алег з хлопцамі.

Вострым і гнятлівым было гэтае пачуццё... Алег здрыгануўся, нібы ў жаданні скінуць з сябе ўсё, што прыніжала яго, і пайшоў да дзвярэй, якія ў гэты момант хтосьці адчыняў.

## 29

— Алег, пад'ём!

Яго будзіў Слаўка. Навошта будзіў? Яму хацелася спаць, яму лепш бы яшчэ хоць крыху паспаць... За голасам Слаўкі ў свядомасць адразу прарвалася ўсё, што было ўжо явай.

— Слаўка, пачакай...

— Што, Алег? Кажы мігам, бо мне пара!

Слаўка спяшаўся ў сталовую. Ён стаяў каля дзвярэй у цёмнабарвовым спартыўным касцюме — значыць, не пойдзе на стадыён. Любіць ён свае скачкі ў даўжыню...

— Ну, нічога... Ідзі, Слаўка...

— Не, ты скажы,— Слаўка прыклаў руку да грудзей.— Толькі хутчэй!

— Потым.

Слаўка памахаў рукой і знік за дзвярыма.

Ці ж так раптам скажаш... І зрэшты, як гаварыць нават са Слаўкам? Ніхто ў гэтым пакоі — ні Слаўка, ні Барыс, ні тым большランальд Стук — не ведалі па-сапраўднаму, як жыў ён, Алег. Ён не быў маўклівым, але пра сябе ніколі не гаварыў многа.

Патаемнае давяраў толькі Юрку. Не было б Юркі ў яго — напэўна, самым блізкім сябрам стаў бы Слаўка. Але так не выйшла. І, можа, к горшаму...



Ён не пайшоў у сталовую, выпіў шклянку кефіру і падаўся на заняткі. Пазіраў на высокае, чыстае неба, на дрэвы, што поўнілі паветра жывым, мякка-гаркаватым водырам, і ад набегшае тугі, роспачы займала дыханне, нясцерпна хацелася перавярнуць усё, зрабіць так, каб адчуў ён сябе шчаслівым. Здавалася, даравала б усё яму Галя — і астатняе зрабілася б простым. А можа не? Што ён скажа Сашу? Як жа быць? Дзе выйсце?..

Юрка зайшоў у аўдыторыю на якую хвіліну пазней за Алега. Паціснуў яму руку. Знешне спакойны, а ў вачах — хваляванне.

— Адыдзем, ці што? — кіўнуў Юрка галавой у бок акна.

Аўдыторыя была вялікая, каля акна ім ніхто не перашкаджаў гаварыць.

— Моцна яны... Сашу? — Юрка звёў бровы, прымружыў вочы — ад напружання, што адбілася на твары, ён зрабіўся падобны на Сашу.

— Білі, як маглі...

— Позна... Ужо не паправіш. Дык Саша не ведае іх?

— Не ведае... Але чакае, што скажу я. Знаёмыя гэта мае ці не. Прасіў дазнацца...

— Тое і скажаш,— кінуў задуменна Юрка.

— Што? — коратка, як стрэл, прагучала Алегава пытанне.

Юрка зірнуў на яго здзіўлена.

— Не разумееш? Вы ж учора дамовіліся: ты іх ніколі не сустракаў. І яшчэ яны прасілі... Спытаеш у Сашы, ці падаваў ён у міліцыю. Па адных прыкметах не надта зловіш, але... Гэта ім важна ведаць.

Алег маўчаў. А што было гаварыць? Юрка застаўся Юркам... Ён не здагадваўся, што сёння Алег чакаў ад яго большага. Ты, Юрка, хвалюешся за сяброў, ты ім спачуваеш, гатовы зрабіць усё, каб іх не пакаралі, але чаму ты не скажаш, якія яны, твае сябры? Чаму ў цябе няма ні слова супроць іх подласці? Ці ты не бачыш яе?

Юрка, сказаўшы сваё, быў ужо спакойны. І, мусіць, болей не чапіўся б, каб Алег не маўчаў так зацята.

— Ну, што, ты яшчэ не дакумекаў? — з прыкрасцю кінуў Юрка, калі яны выйшлі з аўдыторыі пасля занняткаў.— Усё ясна, як божы дзень... І трымай сябе ў руках, каб Саша і думкі не дапусціў...— Юрка раптам як апамятаўся.— Ты гэта... можа з-за Галі? Бачыўся з ёю?

— Бачыў.

— Гаварыў?

— Не.

— Пераплёты,— крыху вінавата працягнуў Юрка. Памаўчаў, закурваючы, і спытаў зноў: — Дык зараз... да Сашы?

— А ты не хочаш са мной?

— Не. Не хачу з Ленай сустракацца. А то пайшоў бы.

Выйшлі на вуліцу і накіраваліся да аўтобуснага прыпынку. Юрка гаварыў:

— Каб мне ці табе сказалі чувакі гэтыя, за кім палююць, быў бы парадак. Ніхто б Сашу не крануў. Збег акалічнасцяў... Ну, валі ад Сашы да мяне. Буду чакаць.

Цесна было ў аўтобусе. Спіны, патыліцы, густы пах парфумы... Алег памалу ціснуўся да пярэдніх дзвярэй, усе думаючы пра адно і тое ж: што ён скажа Сашу... Нарэшце выйшаў з аўтобуса, пакрочыў па тратуары. Воддаль, злева, быў галоўны корпус універсітэта. Універсітэт... Галя... Два словы азначалі яму штосьці адно, дарагое. Галя і не ўяўляе, што яшчэ яму давядзецца перажыць. Каб сказала хоць яна, што яму рабіць. Хлопцы ўпэўнены, што ён іх не падвядзе. А Са-

шу — можна? Галоўнае — яго, Алегава, павага — на Сашавым баку. І гэта павага павінна проста ўжыцца з хлуснёй. Ці ўжывецца?..

«Збег акалічнасцяў, выпадковасць»... А ці так, Юрка? Выпадковасць у тым, што хлопцам натрапіўся Саша. Менавіта Саша... Але ніякай, калі падумаць, выпадковасці ў тым, што яны пайшлі біць чалавека, якога ніколі не бачылі ў вочы, якога зусім не ведалі...

Алег не прамінуў Сашаў дом. Падымаўся на трэці паверх у неразшучасці, поўны сумненняў, аддаўшы сябе той апошняй хвіліне, якая ўсё вырашыць.

Адчыніла яму Лена.

— Я да Сашы,— сказаў ён, прывітаўшыся.

— Дома ён. Заходзь,— Лена пазірала на яго спакойна, як ведала, што ён павінен прыйсці. Потым, засаромеўшыся, сказала:

— Выбачай, наводжу ў сябе парадак.— І пастукала ў дзверы гасцінай: — Саша, да цябе Алег!

Яна падалася ў свой пакой. А ён пайшоў насустрач Сашу, які падняўся з-за стала, працягнуў руку. Як бы адчуваючы, пра што Алег павінен спытаць, Саша загаварыў:

— Кульгаю яшчэ, Алег. Пасяджу і заўтра дома, а там паспрабую на завод...

— А што ўрачы сказалі?

— Быў у паліклініцы, на рэнтгене... Ніякага пералому. На мове медыкаў — удар, што канстатуюць у даведцы.— Саша паказаў вачыма на паперку, што ляжала на стале збоч ад кніг.— Бачыш, час дарэмна не трачу, налягаю на падручнікі.

Саша, прыхапіўшы са стала папяросы, перасеў на тахту. Павёў рукой перад Алегам: сядай побач альбо на крэсла. Алег апусціўся на крэсла. Саша пільна зірнуў на яго:

— Алег, не ведаеш іх?

Саша чакаў адказу... Столькі павагі было ў гэтым чалавеку да яго, Алега. Юрка лічыў, што схлусіць будзе проста... Не, няпроста, і ён не можа хлусіць, не жадае хлусіць наогул, а тым больш Сашу.

— Ведаю,— сказаў Алег.

— Хто яны? — ужо ўзрушана спытаў Саша.

На новае пытанне адказаць было ці не цяжэй, бо трэба гаварыць, што гэтыя хлопцы амаль што сябры яму, ну, не сябры, то прыяцелі, з якімі сустракаўся даволі часта, з якімі разам іграў... Саша не вельмі здзівіўся, што ён, Алег, так блізка ведаў хлопцаў. Спахмурнеў, вымавіў:

— Я пра Шугая думаў, ці не яго падсобныя...

— Ты не памыліўся.

— Але ж трэба! — Саша ўхапіўся, прыпадаючы на правую нагу, прайшоў да стала, спыніўся, абапёршыся на стол рукамі. Узіраўся ў акно.— Разумееш, Алег, Шугай сволач, ён здольны на ўсё, а дзе мазгі ў гэтых?.. Гітарысты... Каб кожны, хто з гітарай, быў чалавекам! Добра, Алег. Як іх прозвішчы? Будзе ўрок і Шугаю, і ім.

Алег разгублена зірнуў на Сашу: што хавалася за словам «урок»?

— Дарэчы, ты не супраць, каб я ведаў іх прозвішчы? Цябе можа што палохае? — раптам спытаў Саша.

— Нішто мяне не палохае, Саша...

...Ён ішоў па зацененым баку вуліцы, ахоплены адным пакутлівым пытаннем: як яшчэ інакш ён мог гаварыць з Сашам? Напаткаць бы такога суддзю, які расклаў бы ўсё, як на палічках...

Ён успомніў пра Марата. Ішоў, ехаў, зноў ішоў і апынуўся, нарэшце, перад домам, у якім жылі Марат і Юрка. Юрка недзе чакаў



яго, але няхай пачакае... Ён глянуў на Юркавы вокны — глухата за імі — і пайшоў да наступнага пад'езда.

Яму давялося прасіць прабачэння ў Марата: разбудзіў яго. Ледзь прыкметны цень нездаволенасці мільгануў на твары ў Марата і знік.

— Нічога, Алег. Хопіць, перадрамаў крыху... Хіліць часам сярод дня на сон.

Марат зірнуў на сябе ў люстэрка, прыгладзіў валасы. Быў ён у саколцы, штанах, босы. Адчыніў акно, пацягнуўся, на ўсе грудзі ўдыхнуўшы свежага паветра.

— Дзянёк хоць куды... Будзе сёння людзей на праспекце...— І, не паварочваючыся, Марат спытаў: — Дык што там чуваць, Алег? Былі ў мяне хлопцы ўчора, пахваліліся.— Ён пазяхнуў і тады ўжо зірнуў на Алега.

Нешта хавалася за гэтым Маратавым спакоем.

Марат зняў са спінкі крэсла белую кашулю і, апранаючы яе, паўтарыў пытанне:

— Дык як, Алег? Ціха?

— Я быў у Сашы... І... сказаў яму, хто яго біў.

— Як гэта — сказаў? Навошта? — Уражаны, Марат апусціўся на крэсла. Глядзеў на Алега, як не верачы пачутаму.

— Інакш нельга было, Марат.

— Ну і ну... Нішто сабе...

Марат сцяў вусны, задумаўся. Твар яго спахмурнеў, і Алег зразумеў, чаму Марат да гэтага быў спакойны... Ды яшчэ не ўсё, не трэба спяшацца з вывадамі.

— Марат, я прыйшоў да цябе, каб расказаць табе пра ўсё... Я зрабіў так, як падказала сэрца.. Магчыма, я недзе памыліўся.

— Давай,— не тоячы расчаравання, кінуў Марат.— Гавары.

— Галоўнае я сказаў. Я паважаю Сашу... Я ведаю яго з восені. Ён служыў у арміі, цяпер працуе на заводзе і вучыцца. У політэхнічным, на вячэрнім... Ён добры да людзей, але ні перад якім гадам не адступіць...

— Магчыма,— Марат устаў, пачаў зашпільваць гузікі на кашулі.— Да хлопцаў, значыць, павагі ў цябе мала?

Алег пачырванеў:

— Ты гаворыш, Марат, нібы забыўся, за што яны пайшлі біць Сашу... Яны ж ведалі, што ён Шугаю красці перашкодзіў.

— Красці ці не красці, а галоўнае ім — хтосьці перашкодзіў! Не каму-небудзь, а свайму чалавеку. Мы ўсе спярша сваіх любім, а потым астатніх. Закон прыроды. А могуць вось пагарэць. І здорава! А ты не змог сказаць, што не ведаеш іх! Кінуць, як плюнуць, усяго два словы. Эх, Алег...

Марат скрывіў твар, як ад болю. Утаропіўся за акно, потым выйшаў на кухню і вярнуўся, выціраючы вусны тыльным бокам далоні,— выпіў вады. Ён занерваваўся, ён, канечне, непакоіўся за хлопцаў... Абшчапіў пальцамі спінку крэсла — пальцы пабялелі.

— Марат, я не мог хлусіць Сашу. Разумееш, не мог,— паўтарыў Алег, ведаючы, што больш нічога Марату не скажа.

Марат зірнуў на яго, як на дзівака:

— Хочаш жыць без хлусні? Не пражывеш, Алег. Хлусня, як і праўда, існуе на свеце і будзе заўсёды! Як дзень і ноч.

«Сутнасць у тым, каб умець хлусіць? Каму ты гаворыш, Марат? Я ўжо хлусіў... спачатку сабе, потым Галі. А што атрымалася? Я ніколі не хацеў хлусіць — паспрабаваў... І Саша мне такога не сказаў бы: «Схлусі, Алег». Не магу ўявіць, што Саша гэта сказаў бы... Ішоў

да цябе, а ты мне не суддзя, Марат. Калі ты такі — ты не суддзя...»
Алег устаў:
— Пайду я...
— Чакай... Ды ты ці не пакрыўдзіўся? — Марат цераз сілу ўсміхнуўся, падышоў, паклаў яму рукі на плечы.— Пасядзі, не спяшайся... А як лічыш, Санееў будзе падаваць у суд?
Алег паціснуў плячыма. Марат задумаўся. І загаварыў потым хутка, з важкасцю ў голасе:
— Трэба ж неяк ратаваць хлопцаў. Ёсць думка, Алег. Калі вы добрыя знаёмыя, то трэба табе прасіць за хлопцаў. Каб неяк ужо дараваў Санееў. Сам бы я пайшоў да яго, але я тут збоку-прыпёку, хто я яму? А ты сябруеш з ім. Давай, Алег, не адкладвай. Цісні да яго. Пакуль не позна.
— Калі так, то няхай самі і гавораць з Сашам. Пайду я, Марат. Мне трэба ісці. Не ўгаворвай...
— Ну, добра... Ты не гарачыся, Алег. Яшчэ не ўсё, і невядома, як яно павернецца... Ты дзе будзеш? Дзе шукаць цябе, калі спатрэбіцца?
— У інтэрнаце.— Алег адчыніў дзверы і адчуў нейкую палёгку.

## 30

— Алег, выйдзем. Хлопцы чакаюць.
Роўна прагучаў голас. І на твары ў Юркі ні ценю ўзрушанасці. Магчыма, ён сказаў бы яшчэ што, але у пакоі быў Стук...
Загаварыў Юрка на калідоры:
— Чаму да мяне не зайшоў?
— Хапіла мне Марата.
— Лічыш, мы адно і тое?
— А хіба не? Ці ты раптам перамяніў пазіцыю?
Юрка змоўк. Што хавалася за яго стрыманасцю?
Яны выйшлі з будынка, і Алег адразу ўбачыў хлопцаў: Міша, Альберт і Стась стаялі чамусьці на другім баку вуліцы, блізка ад рэкламных шчытоў. Алег адчуў, якой цяжкой, непрыемнай будзе гутарка з хлопцамі.
Машыны, трамвай, заміналі перайсці вуліцу.
Апынуўшыся, нарэшце, на тратуары, у некалькіх кроках ад хлопцаў, Алег убачыў тое, да чаго ўжо ўнутрана падрыхтаваўся. Сутуліўшыся, непарушна, трымаючы рукі ў кішэнях плашча, стаяў Альберт. Бледны, вузкі твар яго скамянеў ад злосці. Спалох і надзея таіліся ў сініх Стасевых вачах. Напружана пазіраў Міша, ён нібы гатовы быў узяць Алега за грудзі, трасануць. І разам з тым разгубленасць, здзіўленне адбіліся ў яго позірку.
Алег спыніўся перад імі. Хлопцы маўчалі. Нарэшце Міша аблізнуў вусны, выдыхнуў:
— Цябе аб чым прасілі, Алег? Калі б не гаварылі табе, і то павінен быў датумкаць... Як ты мог?
— Дадумаўся!.. Сказаў...— Альберт выцягнуў з кішэняў чырвоныя, разагрэтыя кулакі.— Ты што, не ведаў, што ўсё... увесь наш, можа, лёс ад тваіх слоў залежаў?
Што ён мог адказаць ім? Толькі і вымавіў:
— У мяне самога ўсё вырашалася...
— Што? Ну, дапусцім... У цябе сваё,— загаварыў Міша.— Але ты адзін, а нас крыху болей. І мы можам у турму сесці. А ты будзеш



хадзіць па горадзе, так? І радавацца, так? — Міша каўтаў сліну.— Дык вось. І нам хочацца хадзіць і радавацца. Едзь і ўгавары яго... Як хочаш угавары, каб да суда не дайшло. Хоць на калені там падай, а каб суда не было!
Алег уявіў сябе перад Сашам... Хіба ён можа іх апраўдваць, заступацца?
— Калі падаць на калені... то гэта падыходзіць вам.— Хлопцы як утрупянелі, і ён змякчыў голас: — Я лічу, лепш вам самім з ім і гаварыць.
— Ты не хочаш нам памагчы? — Міша захваляваўся, разгублена зірнуў на астатніх.— Ты пра ўсё забыўся, Алег? Мы табе былі сябры, а цяпер ніхто, так? Прападайце, а я буду жыць, як жыў?
— Дарэмна ты, Міша... Не тое... Саша ніколькі не быў вінаваты перад вамі. Я не ведаю, што змагу сказаць... Ну, не ведаю! — выгукнуў Алег у роспачы.
Яму было шкада і Сашу, і сябе, і гэтых зухаватых «джазмэнаў», што стаялі цяпер, як мокрыя авечкі.
— Алег, для пачатку трэба,— сказаў Юрка. Ён курыў сабе і дагэтуль маўчаў.
Для пачатку?.. Ён зразумеў Юрку, як Юрка пачынаў разумець яго.
— Добра. Я паеду да Сашы. Але разам з вамі.
— Юрка, а можа ты за нас? — умольна працягнуў Міша.— Ты знаёмы з Санеевым, табе прасцей будзе...
— Юрка, сапраўды...— праенчыў Стась.
Юрка кінуў недакурак пад ногі, расцёр яго. Узняў вочы — і адрэзаў:
— Вы ў мяне не пыталіся, калі ішлі яго біць. А лезлі самі, то паспрабуйце самі і выбрацца!
Хлопцы, унурыўшыся, маўчалі. Алег жа адчуў нейкую палёгку.
Вечарэла. Вокны інтэрната зіхацелі залаціста-ружовым бляскам. З тугой пазіраў Алег на будынак-гмах, у якім пражыў ужо сем месяцаў.
— Дык чаго стаім? — панура вымавіў Альберт.
...Яны спыніліся пры ўваходзе ў двор, каля зрэзанай на метры паўтара ў вышыню таполі з густымі, гонкімі атожылкамі. Учора каля гэтага дрэва хлопцы напалі на Сашу. Яны не глядзелі ў той бок, але ў трывозе, непакоі зазіралі ў вочы адзін аднаму — нібы спадзяваліся, што нехта з іх вось-вось знойдзе выйсце.
— Пайду,— вымавіў Алег.— Скажу, што вы тут...
— А калі не захоча і гаварыць? — Стась ледзь не калаціўся ад хвалявання.
— Чакай, Алег,— Альберт крануў яго за руку.— Ёсць ход. Намякнеш там, як не гладка пойдзе, што можам грошай яму даць. Збяром, колькі скажа.
— Факт, колькі скажа! — дадаў Міша.
— Вы... што? — Алег паморшчыўся, махнуў рукой і пайшоў у двор.
Мінаваўшы глухую сцяну дома, павярнуў да пад'езда і ўбачыў на балконе Сашу. Гукнуў яго.
Саша пачуў, спыніўся. Алег паскорыў крок, зблізку нягучна папрасіў:
— Выйдзі сюды.
— Зараз. А што такое? — Саша пераважыўся цераз парэнчу балкона.

— Тут скажу...

Алег сустрэў яго ў пад'ездзе. Саша накульгваў яшчэ даволі прыкметна. У паўзмроку Алег добра бачыў яго твар, засяроджаны позірк, здавалася, зусім чорных вачэй.

— Я вось чаму, Саша. Хлопцы... тыя самыя... тут, на вуліцы. Яны да цябе. Я згадзіўся паклікаць цябе...

— Так, так.— Саша ўсміхнуўся.— Апамяталіся... Прымірэння хочуць. Не навіна на свеце.— Ён абмацаў кішэні, шукаючы папярос.

— Хто ў цябе дома? — спытаў Алег.

— Усе. Маці, бацька, Лена. Ну што ж... Варта было б зірнуць на іх.

Саша памалу ступаў з прыступкі на прыступку, Алег ішоў за ім і не пра хлопцаў думаў — намагаўся ўявіць, што адчувае Саша.

На двары Саша пашукаў вачыма, дзе прыпыніцца. І накіраваўся да лаўкі, пры збітым з дошчак стале, укапаным у зямлю, прызначаным, пэўна, для гульні ў даміно. Сеў на лаўку, сказаў:

— Давай іх сюды, Алег.

Альберт, Міша, Стась падыходзілі да Сашы павольна, як не хаваючыся адзін за аднаго. Алег абышоў вакол стала, спыніўся за спіною ў Сашы. І нібы яго, Сашавымі вачыма, зірнуў на хлопцаў.

Міша... Чарнявы, стройны. Рысы твару па-дзявочы тонкія, мяккія. Напэўна, пры іншых акалічнасцях Міша зрабіў бы нядрэннае ўражанне на Сашу. Ды цяпер невясёлы быў ён, то сціскаў, то аблізваў свае вусны.

Альберт... Самы высокі з іх. Доўгая шыя, доўгія, што закрывалі па бровы лоб, валасы. Калупае наском чаравіка зямлю, паглядае сабе то пад ногі, то на Сашу.

Стась трымаў рукі ў кішэнях незашпіленай курткі, то разводзіў, то зводзіў крыссе, і неяк сцінаў плечы, утуліў галаву і здаваўся слабейшы за Юрку і Альберта.

Ніхто з іх не павітаўся з Сашам — пэўна, палічылі, што брыдка вітацца з чалавекам, якога ўчора білі. І Саша моўчкі разглядаў іх. Нарэшце вымавіў:

— Ну, і чаго вы ад мяне чакаеце?

Альберт і Стась маўчалі. Міша аблізнуў вусны:

— Пamірыцца б трэба...

— І на якіх жа ўмовах? Як вы звычайна... мірыцеся?

Міша ўзняў бровы: не разумеў.

— Хіба вы былі анёламі да ўчарашняга дня? — спытаўся Саша.— Ніколі нікога не зачапілі?

— Здаралася,— угнуў галаву Альберт.

— І значыць, здаралася і мірыцца? Як жа?

— Не вельмі чапалі каго... Калі і было між сабой, то не ўсур'ёз... Што там, пайшлі, выпілі—ды і ўсё,—крыху разгаварыўся Альберт.

— Гэта і мне хочаце прапанаваць?—пацікавіўся Саша.

— Не,— заліўся чырванню Міша.— Мы разумеем... Два дні не на рабоце... Значыць, страты... фінансавыя. Мы вернем...

— А ў што вы ацэніце іншае? Тое, што мне аднаму давялося ад вас трох адбівацца? Што я вось хадзіць па-людску не магу? Што маці і бацька супакоіцца не могуць? У што вы гэта ўсё ацэніце?

— Дык мы,— Альберт збялеў яшчэ больш,— дадзім, колькі скажаце.

— Грашыма? — кінуў Саша.

— А... А чым яшчэ? Ну, колькі скажаце,— з надзеяй паўтарыў Альберт.



— Так, так... А Шугай за якую суму вас купіў?

— Не купіў ён нас. Выпівалі, дык гэта ж...

Саша перабіў Альберта:

— Гэта і ёсць тое, што купляў. Толькі танна... Цяпер вы хочаце купіць мяне? Грошы, па-вашаму, усё могуць? І вас выратуюць? Я і бачу, што вы толькі грошы цэніце. А чалавек для вас вартасць мае? Сказаў бы Шугай старога пабіць — і на старога пайшлі б?

Міша пачынаў пацець, правёў далонню па лбе. У Альберта выступілі на твары чырвоныя плямы, тонкія вусны сцяў так, нібы іх і не было ў яго. Стась апусціў галаву, круціў гузік на куртцы.

— Дык я хацеў бы ведаць. І са старым счапіліся б? — перапытаў Саша.

— Каб не выпілі, нічога б і не было...— загаварыў Міша.

— Старая песня! Пілі вы для адвагі. Каб смялейшымі быць. Ці не так? — усміхнуўся Саша.

Хлопцы маўчалі.

— І рашылі правучыць мяне,— з'едліва кідаў Саша.— Крадзе чалавек — не перашкаджай! Ці не такія і самі, як ваш Шугай? Логіка простая! Вартыя вы таго, каб пасядзець... Там, дзе будзе час падумаць, ці вучыць іншых жыць, ці самім павучыцца.

Спалох працяў і Мішу, і Альберта, і Стася. Яны зразумелі, што разлік іх не апраўдваўся.

— Мы нічога не крадзем,— з ноткай крыўды выгукнуў Міша.— Не злодзеі мы!

— Хапае нам... Зарабляем,— ціха сказаў Стась.

— Верыць ім? — Саша дапытліва зірнуў на Алега.

— Трэба верыць,— шчыра сказаў Алег.

Альберт у гэты момант таксама пазіраў на яго. «Ды скажы ты яшчэ што за нас!» — прасіў, маліў, загадваў вачыма.

— Але ўсё роўна... Чым вы лепшыя за Шугая, калі не супраць, каб ён краў? Якая між вамі розніца? І хочаце, відаць, каб я пашкадаваў вас!

— У мяне... у мяне маці хворая,— ледзь чутна прагаварыў Стась.

Міша памуляўся, відаць, не хацеў гаварыць, ды перасіліў сябе:

— Мне ў армію скора...

Альберт маўчаў. Саша затрымаў на ім увагу:

— Здаецца, па тваёй міласці я вымушаны дома сядзець? Чаму ж гуляеш? З такой сілай?

— Не бяруць у армію... Ёсць прычына,— адказаў Альберт. І з тугой зірнуўшы кудысьці ўдалеч, дадаў: — Не трэба, можа, падаваць на нас... Усё яно... не падумаўшы.

— Без суда хочаце? — вымавіў Саша.— Але суд павінен быць,— дадаў ён.

Здрыганулася сэрца ў Алега... Ды, напэўна, горшае адчулі хлопцы. Прамені нізкага сонца падалі на іхнія твары, яны, жмурачыся, углядаліся ў Сашу, не верачы і верачы пачутаму.

Саша ўстаў, абапёршыся рукой аб стол, закурыў. Потым павярнуўся да хлопцаў:

— Ідзіце. Судзіце сябе самі. Даю вам такую магчымасць. А там пабачым... Бадай, яшчэ сустрэнемся.

Яны стаялі, нібы не ставала ім сілы крануцца з месца. Міша ўздыхнуў:

— А можа мы хоць што вернем? Што страчана...

— Пустое... Вярніце сабе сваё. Ідзіце, я вас не трымаю.— Саша павярнуўся да Алега:

— Застанешся?
— Хацеў бы... Але пайду. Так трэба. Я скора буду ў цябе.
Саша падаў яму руку. Алег моцна пацісну́ў шырокую, гарачую Сашаву руку і пайшоў за хлопцамі. Дагнаў іх на выхадзе з двара.
Яны цяпер не пазіралі адзін на аднаго. Іх нібы займала кожная дробязь на гэтай вуліцы. Але ці бачылі яны дрэвы, ліхтары з няяркімі пакуль агнямі, старога задуменнага дзядка, і маладую пару з блакітнай дзіцячай каляскай, і бразгатлівы самазвал, што нёсся вуліцай. Ці бачылі? Напэўна, штосьці іншае займала кожнага.
— Няхай бы твой Шугай гэта атрымаў,— раптам зласліва кінуў Міша Альберту.— Яму то варта было б.
— А пайшоў ён да д'ябла, Шугай. Не ўспамінаў бы ты,— сярдзіта азваўся Альберт.
— Ага, цяпер ты разумны. А ўчора што? — павярнуўся да яго Стась.— Адразу Шугаю: «Трэба — зробім!» А цяпер — не ўспамінай!
— І хопіць, можа? Памаўчым, можа? — крыкнуў на іх Альберт.
Маўчаў і Алег. Ішоў і чакаў, што хтосьці з хлопцаў загаворыць з ім. Але яны, здаецца, і не заўважалі яго. Што ж, будзе відаць...
Ён раптам як не спатыкнуўся: убачыў наперадзе Зою. Яна ішла насустрач, лёгкай, хуткай была яе хада. Яна трымала ў левай руцэ кветкі, неяк прыхінуўшы іх да грудзей.
— Я зараз,— кінуў Алег хлопцам і заступіў ёй дарогу.
Яна спынілася, здзіўленая сустрэчай, адказала на прывітанне, павяла вачыма на хлопцаў, зноў зірнула на Алега, і зноў — ужо занепакоена — на хлопцаў, якія, заўважыўшы яе, пайшлі далей.
І на яе бялявым, з мяккай ружовасцю на шчоках твары мільгнула задуменнасць.
— Ты ад Сашы?
Алег кіўнуў.
— Хто яны? — Зоя яшчэ раз азірнулася на хлопцаў.— Можа... тыя?
— Ага.
— Што яны хочуць?
— Не варта... Саша табе скажа. А Галя... Дзе яна цяпер? Чуеш?
Зоі спатрэбілася нейкае імгненне, каб змяніць кірунак думак. Чорныя дужкі яе броваў напружана трымцелі.
— Галя... да Раі паехала.
— Даўно?
— Мы разам выйшлі з дому. І Галя... напэўна заначуе ў Раі.
— Ты раскажы мне пра яе...
— Што, Алег, расказваць? Да залікаў рыхтуемся. А хутка і экзамены. Па геадэзіі, глебазнаўству, вышэйшай матэматыцы, а па агульнаму землезнаўству — курсавая. Пабойваемся крыху. Як і тады, у студзені.
— А ўвогуле... як настрой у яе?
— Звычайны...— Зоя памарудзіла і дадала: — Для ўсіх іншых... А калі глыбей... нядобра ёй.
— Ведаю... Я хачу пагаварыць... Толькі ці стане яна слухаць мяне...
— Паспрабуй. А Саша як сёння... Лепш яму?
— Ходзіць памалу...
— Ах, Алег... І тут таксама ты вінаваты.
— Я? Чаму гэта?
— Падумай... Пайду. Кветкі б не завялі...— Зоя дакранулася вуснамі да пялёсткаў, усміхнулася нейкім сваім думкам. І развіта-





лася. Алег з вострай зайздрасцю пазіраў ёй услед... Яна спяшалася да Сашы, а Саша недзе думаў пра яе, чакаў — колькі радасці зараз будзе ў іх абаіх...

«Ты вінаваты...» Не, не і не!!! Быў сябрам, застаўся.

Але... але была праўда ў Зоіных словах. Як была, тая праўда, што ён ніколі па-сапраўднаму не пярэчыў хлопцам, ніколі не паспрачаўся з імі, а толькі моўчкі згаджаўся — і адступаў. Адступаў — і няма іншых слоў — перад іх цынізмам, разбэшчанасцю, непавагай да чалавека.

На гэты раз не адступіў. Як хочаце, а не адступіў... І што ўзамен?

Алег павярнуўся і воддаль, пры скрыжаванні вуліц, убачыў хлопцаў. Яны стаялі. Мусіць, чакалі яго.

«Вось як... Гэта ўжо нешта, калі не пайшлі, калі чакаеце мяне...»

Ён падыходзіў да іх, намагаючыся ўлавіць, што пераважвала ў іх увазе да яго. Жаданне разлічыцца — хоць выгаварыць — ці нейкая павага да гэтай нечаканай яго непахіснасці, цвёрдасці, упартасці?

Ён параўнаўся з імі.

— Хто яна? — спытаў Міша.

— Зоя.— І штосьці прымусіла Алега дадаць: — Саша кахае яе...

— Я ж кажу ім, да яго дзяўчына — не верась! — вымавіў Міша.

— Ну што? — зірнуў на Альберта і Стася.

— Прыгожая,— працягнуў Стась.

Алег не сумняваўся ўжо, што гаварыць з ім хлопцы будуць па-новаму.

## 31

Алег штохвіліны пазіраў на гадзіннік. Як марудна ідзе аўтобус... Праспект шырокі, ды супынак за супынкам, і светафоры часцей гараць чырвоным святлом, чымсьці зялёным.

Ён увесь час паглядае і на светафоры — яны відаць здалёк. На дрэвах яшчэ няма лістоты, якая б прыхоўвала іх. Пакуль што няма... Ды хутка, хутка ўжо зазелянеюць дрэвы. Тады кожны лісток будзе як тое зялёнае вочка светафора — на радасць табе. На радасць, каб толькі была побач Галя, каб яе вочы бачылі наўкол усё тое, што і ты...

Ён не спазніўся на месца ранейшых сустрэч з Галяй—спыніўся пад дрэвамі недалёка ад уваходу ў корпус геафака. Праз лічаныя хвіліны Галя выйдзе з корпуса...

Зводдаль на лаўцы сядзелі двое хлапцоў і дзяўчына. У кагосьці з іх быў у руках транзістарны прыёмнік — даносілася танцавальная музыка. Не чуць бы яе... Як і не згадваць словы з песні: «Не шукай ты мяне... Калі к сэрцу майму ты дарог не знайшоў, не шукай...» Гэтыя словы ўвесь час у памяці насуперак жаданню забыцца пра іх. І цяпер міжволі паўтарыў іх сабе...

І забыўся на сумныя словы. Узіраўся ў дзяўчат, што выходзілі з корпуса. Многа знаёмых твараў, прайшлі амаль усе з Галінай групы. А яе не відаць. Чаму?

Вось і Рая Зубіч — не адна, з Сяргеем Казанцом. Ці варта спыняць іх, мо Галя вось-вось выйдзе?

Ступіў насустрач ім. Прывітаўся.

— Рая, Галя была на занятках?

— Была.— Рая пазірала на яго неяк дзіўна, нібы на незнаёмага.— Галя ў корпусе. Справы ў яе. Там з ёю Лена і Зоя.

— Ага... Ну, пачакаю... Трэба...



Рая не спяшалася ісці ад яго. Сказала Казанцу, які, як і сама яна, раптам спахмурнеў:

— Пачакай мяне...— І калі той адышоў, загаварыла: — Алег, я хачу табе сказаць... Я не з тых, хто любіць даваць парады, але гэта скажу. Ты не крыўдзі Галю. Ніколі не крыўдзі. Яе толькі самы благі чалавек можа пакрыўдзіць...

— Так атрымалася... Доўга, Рая, расказваць...

— Дык памятай, Алег. Вось і ўсё. Я пайду. Выбачай.

Ён правёў Раю позіркам. Хуткім крокам яна падышла да Казанца. Той штосьці сказаў ёй і пайшоў зноў побач — плячо ў плячо.

«Не крыўдзі»,— паўтарыў у думках Алег. Тое ж самае сказала яму Рая Зубіч... Рая, якая нікога і нічога не хацела ведаць...

«Не крыўдзі»... Якую надзею надалі яму гэтыя словы. Галя, значыць, дарue яму? Няхай бы... Але ўжо не з тым Алегам загаворыць яна, не з тым, што гатовы быў вельмі многае даравацьь кожнаму з сваіх сяброў-прыяцеляў, што мог адступіць перад подласцю толькі таму, што подласць яшчэ існуе на свеце. Настаў дзень, калі ён мусіў вырашаць, як жыць сярод людзей, і ён вырашыў...

І настала хвіліна... Услед за Зояй і Ленай Галя з'явілася ў праёме высокіх дзвярэй. Яна прыплюшчыла вочы, кінуўшы позірк на неба, і нейкі момант углядалася ў сінечу яркага дня. Мабыць, яна штосьці сказала б дзяўчатам, ды не паспела — ўбачыла Алега.

І моўчкі ўжо ішлі яны, зусім блізка ад яго. Ён прывітаўся — адказалі. У адно слова. Ён ціха гукнуў:

— Галя...

Крок, другі... Галя спынілася. Сказала:

— Ідзіце, дзяўчаткі.

Алег дагнаў яе — коратка зірнуў у вочы.

— Галя... Галя... Я хачу ўсё расказаць табе.

— Не трэба...

— Чаму?

— Ты, як мне здаецца, усё разумееш сам. І гэтага дастаткова.

Яна крадком глянула на яго. І доўга-доўга маўчала — аж пакуль не выйшлі на праспект. Раптам сказала — як сабе:

— Скора дрэвы зазелянеюць. І будзе лета... Хутчэй бы. Па рэчцы нашай сумую... А ты што ж... Ці не збіраешся паехаць у Крым? На Новы ж год дамаўляўся.

— Куды паеду, пакуль не ведаю. Але паеду. З будаўнічым атрадам. Як ужо выпадзе. Магчыма, у суседні раён, а магчыма, і куды далёка. А ты на практыку? На Нарач?

— Ага.

Ці цяпер пра гэта пытацца? Ды Алег не вытрымаў, спытаў:

— Ты мне тады напішаш?

Галя адказала не адразу:

— Мусіць, напішу.

І ўсміхнулася. Ці то яму, ці то проста гэтаму вясноваму дню, гораду, людзям...





## хаім мальцінскі

*

ПАЭЗІЯ

*

■

На мінулай вайне
За чатыры гады
Наглядзеўся я шмат
І крыві, і жуды.
Дык чаму ж
У мяне рабаціць у вачах,
Калі падае ў лесе
Падстрэлены птах?
Чырванее маленькаю плямкай трава...
І хоць гэта загінула птушка ўсяго,
А ў мяне памутнёна гудзе галава,
Быццам смерць падступае да горла
майго.

■

Я перасеяў глупстваў кашукі.
І гэтак мне глядзець было цікава,
Як драбяза праз сіта выцякала,
Шасцела ціха, як пясок марскі.
Так дзень пры дні
Я сеяў безупынку.
І вось святлом нязвыклае красы
У сіце зіхаціць адна крупінка,
Маленькая,
Як кропелька расы.
О як тады я ўсцешыўся:
Алмаз!
Але агонь вачэй маіх пагас,
Калі крупінку на далоні ўзважыў—
Асколак шкельца простага заўважыў...
І зноўку я нястомнымі рукамі
Пясок у сіта сыплю ўсё ямчэй,
Дапытлівых не зводзячы вачэй:
Калі ж заззяе запаветны камень?

■

Калі я быў бяздумна маладым—
У дні, якія адышлі, як дым,
Усё, што меў маёй душы тайнік,
Адразу ўголас выдаваў язык.
А зараз азірнуся адмыслова
Пяць раз вакол—
Перш, як прамовіць слова.

З яўрэйскай пераклаў
Пятрусь МАКАЛЬ.

■

Спакойна іду між высокіх сасён,
Бадзёры, як ранак над чыстай ракой,
І песеньку з дзятлам пяю ва ўнісон.
Ды сэрца—
вось дзіва!—
згубіла спакой.
Трымціць і стукоча і нібы кляне:
— О, колькі трымацьмеш у клетцы мяне!..

■

Мой санаторый—келля, што ў бары
Затоена, нібы ў манастыры.
І, як святыню, снежны манастыр
Хавае чысціню, спакой і мір.
Мне сцежку месяц асвятліў ярчэй.
Марознае паветра сходна так
З халодным півам. Наглытаўся ўсмак,
І нават ногі робяцца лягчэй.
Якая асалода! Моўчкі тут
Стаю, нібы сваяк любой сасне.
А гэта што? Раптоўны чую стук.
То ж проста дзяцел дзеўбануў у сне.
Яму, руплівцу, позняю парой,
Відаць, чарвяк прысніўся пад карой.
Мой санаторый—келля, што ў бары
Затоена, нібы ў манастыры.
І, як святыню, снежны манастыр
Хавае чысціню, спакой і мір.

■

Нібыта ў сне, з'явіцца клічу
Твой твар, вачэй тваіх святло.
Ды раптам іншае аблічча
Прыйшло і ўсё завалакло.
Жанчына дваццаць год назад
Перада мной мільгнула ў брамцы.
А я пазнаў яе пагляд,
Ды ясна так, нібыта ў рамцы.
Глядзіць з настольнага партрэта...
Чаму? Адкуль? Навошта гэта?

З яўрэйскай пераклаў
Артур ВОЛЬСКІ.

■

Ноччу, калі пачынаюць сціхаць
Дрэвы і гукі,
І хмары нябесны пакінуць прастор,—
Тады пачынаю збіраць
кветкі зор,
Кветкі зор залатых...
Шкада толькі—кошык замалы для іх,
І хутка стамляюцца рукі.

■

Бяссонная ноч.
Тоўпяцца ў памяці вершы,
Як тыя дубы ў Белавежы;
Апошні запомніўся,
Бачыцца першы,—
Схапіў я паперы
Аркушык свежы,
шчаслівы без меры...
Ну, дзе ён, чысцюткі выток?
Каменне, каменне,
Сыпучы пясок,
Такая пякельная праца—
Да песень
Мне дакапацца.

З яўрэйскай пераклаў
Аляксей ПЫСІН.



● Вадзім БОЙКА

# СЛОВА ПАСЛЯ СМЕРЦІ

## Дакументальная аповесць

● Мал. В. Шрамякова.

### IV. АСВЕНЦІМ. ТВАР У ТВАР З ГІМЛЕРАМ

Злавеснае слова Аўсшвітц я ўпершыню пачуў яшчэ ў Кракаўскай турме. Расказвалі, што Аўсшвітц — кодавая назва глыбока засакрэчанага лагера паблізу ад польскага гарадка Асвенцім, лагера, у якім бясследна знікалі дзесяткі і сотні тысяч вязняў...

Слова Аўсшвітц для кодавай назвы лагера прыдумаў сам Гімлер, утварыўшы яго ад «аўсшлісэн» — выключаць, ізаляваць ад грамадства, і ад канчатку польскіх гарадоў і гарадкоў, што размясціліся вакол Асвенціма,— Катавіцы, Свентахавіцы, Мыславіцы, Манавіцы, атрымалася «аўсшвітц», і ўсю вайну лагер называлі гэтым словам. Асвенцімам яго сталі называць пасля вайны...

Асвенцім — назва агульная. Сённяшняя моладзь, відаць, думае, што гэта — адзін лагер. Не, на самой справе гэта быў цэлы вялізны комплекс лагераў знішчэння людзей. Дакладней, яго ўтваралі дваццаць дзевяць лагераў асаблівага рэжыму, якія належалі да трох асвенцімскіх аддзяленняў. Вось іх схема:

Асвенцім-І — цэнтральны лагер камбіната смерці. Тут быў эсэсаўскі гарнізон на дваццаць пяць тысяч чалавек, галоўная канцылярыя, гестапаўскі цэнтр, заводы і фабрыкі, якія працавалі на армію. У Асвенціме пастаянна знаходзіліся ад 24 да 50 тысяч вязняў. На месца тых, хто гінуў, штодзень прыбывала папаўненне. Круглыя суткі працаваў крэматорый пад нумарам 1.

Асвенцім-ІІ знаходзіўся за два кіламетры ад цэнтральнага лагера, на месцы польскай вёскі Бжэзінка (нямецкая назва — Біркенаў). Асноўным прызначэннем гэтага лагера было масавае знішчэнне вязняў у газавых камерах. Да Біркенаў належалі адносна так званыя «працоўныя» лагеры: сельскагаспадарчы — Буда, лагер птушкагадоўлі — Гермезее, лагер, дзе вырошчвалі садавіну і гародніну — Райско. У Біркенаў працавалі таксама хімічныя лабараторыі.

У Асвенціме-ІІ пастаянна знаходзіліся ад 125 да 250 тысяч вязняў. Крэматорыяў тут было чатыры — трыццаць печаў для спальвання трупаў і восем газавых камер.

Гордасцю адміністрацыі Біркенаў была псарня, у якой трымалі больш за сотню спецыяльна выдрэсіраваных аўчарак.

Асвенцім-ІІІ (альбо Буна) быў лагерам, вязні якога працавалі на будаўніцтве прамысловых прадпрыемстваў па вытворчасці сінтэтычнага каўчуку і бензіну. У склад гэтага лагера ўваходзілі невялікія лагеры пры вугальных шахтах у Фюрстэнбурзе, Кенігсхютэ, Явішчовічах, Галешаве.

Асвенцімскі комплекс быў улюбёным дзецішчам нацысцкіх верхаводаў. Асабліва яго любіў галоўны кат гітлераўскай Германіі, рэйхсфюрар Гімлер, які неаднойчы гаварыў, што марыць ператварыць Асвенцім у велізарны горад рабоў. У горадзе гэтым павінны былі пастаянна знаходзіцца 3—4 мільёны вязняў, працягласць жыцця якіх у Асвенціме не перавышала б шасці месяцаў...

---

Працяг. Пачатак гл. «Маладосць» №№ 5—6.

Асвенцімскі канцэрн смерці адыгрываў галоўную ролю ў фашысцкіх планах знішчэння цэлых народаў, у прыватнасці, у справе «канчатковага вырашэння яўрэйскага пытання», у знішчэнні савецкіх ваеннапалонных. Ён павінен быў стаць цэнтрам знішчэння славянскіх народаў.

Месца яго з геаграфічнага пункту гледжання вельмі адпавядала прызначэнню. Яўрэі, у прыватнасці, у масе сваёй жылі на поўдні Польшчы, на Украіне, у Чэхаславакіі і Венгрыі, недалёка ад Асвенціма была і Беларусь — лагер быў размешчаны на скрыжаванні камунікацый з раёнамі, адкуль везлі на смерць мільёны людзей, ён быў апошняй станцыяй жыцця.

Вось на гэтую станцыю я і трапіў.

Блок нумар 2-А, куды мяне прывялі, эсэсаўскае начальства называла ўзорным каранцінным блокам асвенцімскага лагера. «Узорны» парадак у ім падтрымлівалі тры «кіты»: блокфюрар Аўфмейер, блокэльстар немец Паўль па мянушцы Бандыт і старшы пісар блока, фольксдойч з Польшчы Вацэк па мянушцы Плюгавы. Яны ўтваралі жалезны трохкутнік, які падпірала цэлая зграя халуёў-капо, штубавых, пісараў і іншых праміненатаў — прывілеяваных вязняў.

Сярод эсэсаўцаў Асвенціма блокфюрар Аўфмейер быў даволі каларытнай фігурай. Высокі, элегантны, заўсёды акуратны, ён быў зусім не падобны на астатніх эсэсаўцаў — грубых, адкрыта цынічных, тупых катаў. Навічкі маглі падумаць, што Аўфмейер сапраўдная «белая варона», бо ніхто ніколі не чуў ад яго недалікатнага слова, ніхто ніколі не бачыў, каб ён каго ўдарыў, каб здзекаваўся з каго. Але бывалыя вязні ведалі, што гэта за «белая варона». Не варона, а нацысцкая птушка смерці... Ён заходзіў у блок далікатна, спагадліва ўсміхаўся, разглядаў вязняў і раптам, прыгледзеўшыся да каго-небудзь, клікаў да сябе блокавага старасту: «Паўль, ты чалавек ці калода? Ну як табе не сорамна! Душы ў цябе няма, ачарсцвеў? Няўжо ты не бачыш, што ў гэтага хефтлінга брудная шыя? Ён так стаміўся, так змучыўся, бедалага, што не можа памыць шыю. А ты не хочаш яму дапамагчы. У цябе ж стаіць бочка з вадою ў прыбіральні! Хіба ты забыўся, што чысціня — зарука здароўя? Паўль, Паўль, нельга быць такім абыякавым да людзей!»

Паўль прасіў прабачэння і абяцаў дапамагчы бедалагу памыць шыю, а Вацэк тым часам запісваў нумар вязня, якому трэба было дапамагчы, і як толькі за Аўфмейерам зачыняліся дзверы, пачыналася «водная працэдура» — чалавека апускалі галавою ў бочку і тапілі. Часам труп ягоны да самага вечара тырчэў з бочкі... А дабрадушны Аўфмейер гэтага быццам і не ведаў!..

Сам былы крымінальны злачынец, забойца, які здабыў сабе эсэсаўскі мундзір тым, што ў якасці вязня лагера Заксенхаўзен у першыя гады гітлерызму верай і праўдай стаў служыць лагернаму начальству, ён добра ведаў псіхалогію крымінальнікаў, хутка знаходзіў агульную мову з бандытамі, забойцамі, зладзеямі. На іх ён і абапіраўся, унушаючы ім, што яны арыйцы, што іхняе звальненне залежыць ад іх адданасці ідэям нацызму, што яны могуць «выбіцца ў людзі», і прыводзіў у прыклад сябе самога.

І яшчэ ён вельмі ўмела распальваў сярод вязняў нацыянальную варожасць, палякаў нацкоўваў на рускіх, чэхаў на палякаў, а ўсіх разам на яўрэяў.

Такі быў блокфюрар Аўфмейер, і цяпер маё жыццё ў многім залежала ад гэтага чысценькага забойцы. Але яшчэ больш страшны быў блокавы староста Паўль. Паўль-Бандыт. Ён быў страшны і знешне — не чалавек, а гарыла.

Калі пасля нумарацыі і санапрацоўкі нас прывялі да каранціннага блока 2-А, Паўль выйшаў да навічкоў у адных трусах. Вочы ў яго былі наліты крывёю, даўгія валасы ападалі аж на плечы, непрапарцыянальна даўгія рукі звісалі да каленяў. Ён быў тлусты, вялізны, але мяне больш за ўсё ўразіла тое, што гэтая сяміпудовая туша была літаральна ўся пакрыта татуіроўкай. Між іншым, праз гэтую татуіроўку яму была закрыта дарога ў рады СС, хоць ён сваёй службай жорстакага, здольнага на ўсё ката даўно заслужыў амністыю, як заслужыў яе ў свой час Аўфмейер. Татуіроўка была парнаграфічная, а ідэолагі нацызму абвяшчалі сябе маралістамі...

Гісторыя гэтай татуіроўкі была такая. Калі Паўль яшчэ да вайны трапіў за забойства ў адзін з лагераў, ён прайграў у карты розным зладзюгам і такім жа забойцам сваё жыццё. Яму павінны былі адрэзаць галаву. Ён пачаў скуголіць, прасіць літасці. Паўля памілавалі, але за гэта ён павінен быў згадзіцца на тое, каб усё ягонае цела пакрылі парнаграфічнай татуіроўкай, што і зрабіў нейкі мастак, які сядзеў у лагеры. Фантазія ў мастака на парнаграфію была багатая, работа ўдалася на славу, і Паўль зрабіўся «перасоўнай» выстаўкай парнаграфічнага мастацтва. Якіх толькі брыдкіх карцін не было на ягоным целе!

Калі Паўля прывезлі ў Асвенцім, эсэсаўцы разгубіліся, не ведаючы, дзе ж паставіць яму асвенцімскі нумар? Лагерфюрар зрабіў выключэнне: дазволіў Паўлю быць без татуіраванага нумара. Абмежаваліся тым, што нашылі яму на куртку ягоны нумар — 21. Паўль ганарыўся гэтай лічбай. Яна сведчыла, што ён ветэран Асвенціма, што ён перажыў сотні тысяч вязняў. А чаму яму і не перажыць іх, калі ён быў верным памагатым катаў!..



І вось гэты кат звярнуўся да нас, навічкоў, з прамоваю:

— Вы прыбылі ва ўзорны каранцінны блок. Парадак у мяне жалезны. Хто будзе паслухмяны і ціхі, з тым нічога не здарыцца. Ну а хто будзе артачыцца...

І ён паказаў пудовы кулак. Кулак, якім ён забіваў людзей напавал, як дубінкай.

— Майце на ўвазе,— сказаў далей Паўль,— што я чалавек нервовы і лёгка трачу раўнавагу. Таму не трэба мяне нерваваць. Ясна?

Закончыў ён сваю прамову наборам усіх брыдкіх слоў, якія толькі ведаў, слоў фантастычных па сваёй агіднасці, цынізме і брудзе. Мы моўчкі выслухалі прамову, але Паўлю здалося, што нам не хапае энтузіязму, што мы паставіліся да яго без належнай пачцівасці. Ён урэзаўся ў рады навічкоў і пачаў мясіць сваімі кулакамі-кувалдамі ўсіх без разбору. Ягоны памагаты, пісар Вацак Плюгавы, дапамагаў яму, лупцуючы нас гумай: «Раўняй рады!»

Ды вось зараўла сірэна, склікаючы на вячэрні апель. З блока высыпала тысячы дзве вязняў. Яны ўмомант пасталі ў рады, утварыўшы дваццаць квадратаў па сто чалавек у кожным: дзесяць у глыбіню, дзесяць у шырыню. Дваццатая сотня была няпоўная. Тыя, каго не хапала, памерлі «натуральнаю» смерцю, трупы іх ляжалі ў туалетным пакоі...

Пасля апеля нас завялі ў блок. У блоку — чатырохпавярховыя нары, на якіх ляжаць папяровыя матрацы, напханыя саламянай трухой або стружкай. Кожны матрац разлічаны на чатырох вязняў, а каб яны маглі на ім умясціцца, ужываецца няхітры спосаб: спяць «валетам папарна». Драўляны абутак — гольцшугі — загорнуты ў робу і кладзецца пад галаву. Гэта, па-першае, падушка, а па-другое — гарантыя, што ты не згубіш ні робу, ні абутак. Калі згубіў — заб'юць...

Распранутыя вязні ўяўлялі сабою жахлівае відовішча. Гэта былі самыя сапраўдныя шкілеты, грудная клетка кожнага нагадвала пральную дошку, так выпіналіся рэбры. Тырчэлі ўсе косткі, відаць быў кожны пазванок на хрыбціне, скура ва ўсіх жоўтая, нібы пергамент.

Блок дзяліўся на дзве штубы (аддзяленні), у кожнай па тысячы чалавек. Штуба ўяўляла сабою залу для спання і некалькі пакойчыкаў для праміненатаў, для капо, штубавых, пісарчукоў. Блокавы староста меў вялікі пакой, дзе была і добрая мэбля, і бялізна, і посуд.

Мала сказаць, што ў блоках было цесна. Людзі былі напіханы ў іх, як сардзіны ў банках. Тысячы брудных целаў, пакрытых ранамі і язвамі, стваралі нясцерпны смурод. І яшчэ людзей жэрлі блохі. Ніякія дэзінфекцыі і дэзінсекцыі не дапамагалі, і лагернае начальства даўно махнула рукою. Іншая рэч — вошы. З імі змагаліся штодзённа, бо баяліся эпідэміі тыфуса. Але эсэсаўцы і тут заставаліся эсэсаўцамі — яны вялі барацьбу не з прычынамі заўшыўленасці, а з вязнямі, у якіх ад бруду, ад страшэнных умоў побыту заводзіліся вошы. Каля ўваходу ў блокі вісела аб'ява: «Адна вош — твая смерць!» Ніякага пераноснага сэнсу ў гэтай аб'яве не было: чалавека, у якога знаходзілі вош, адразу ж адпраўлялі ў газавую камеру альбо ў крэматорый. Першую сваю ноч у Асвенціме я ніяк не мог заснуць. Людзі кругом спалі неспакойна, стагналі ў сне, плакалі, крычалі, і здавалася, што ляжыш у вялізнай брацкай магіле, дзе канаюць тысячы... Да таго ж у мяне разбалеліся пакалечаныя пальцы, і я заснуў толькі перад самым пад'ёмам. Выгукнулі «пад'ём», я расплюшчыў вочы і адразу адчуў, што маім нагам холадна — на іх ляжаў нябожчык...

Наш блок каранцінны, «выхаваўчы», вязняў з яго на работу не ганялі, толькі ў выключных выпадках бралі папаўненне ў каманды працуючых замест тых, хто памёр ці канчаткова знясілеў. На ранішнім апелі Паўль трымаў нас у страі да таго часу, пакуль усе рабочыя каманды не выходзілі за вароты лагера.

Так было і на гэты раз. Прыбег мардаты капо Адольф з нарукаўнаю павязкаю, на якой было напісана «штрафная № 1». Яшчэ здалёк ён закрычаў: «Паўль! Дзесяць хефтлінгаў, хутчэй!»

Плюгавы Вацак падаў каманду штрафнікам выйсці з шарэнгі. Мяне і яшчэ дзевяць чалавек з нашага блока Адольф пагнаў на цэнтральны апельпляц, дзе якраз фарміраваліся арбайтскаманды і дзе ўжо стаяла штрафная каманда № 1.

— Арбайтскаманды, па парадку нумароў на выхад марш!—скамандаваў рапартфюрар, і адразу ўсё заварушылася. Аркестр зайграў бравурны марш, да прахадной рушылі адна за другою арбайтскаманды. За варотамі іх прымаў канвой і вёў на работу.

Граў аркестр, трагічны асвенцімскі аркестр, створаны па загадзе самога Гімлера. У аркестр гэты ўваходзілі сотні музыкантаў-віртуозаў, вывезеных у Асвенцім з лепшых філармоній, кансерваторый і тэатраў акупаванай Еўропы. Аркестр граў штодзённа, калі арбайтскаманды выходзілі на работу і калі вярталіся з работы, граў у час экзекуцый і пакаранняў смерцю. Той жа Гімлер загадаў музыкантам стварыць унікальную мелодыю — «Танга смерці», якое выконвалася толькі ў дні масавай экзекуцыі, у дні, калі адбывалася масавае забойства.

На Нюрнбергскім працэсе над галоўнымі ваеннымі злачынцамі ноты «Танга смерці» былі адным з рэчавых доказаў нацысцкіх злачынстваў. Між іншым, каб перашкодзіць распаўсюджванню гэтай мелодыі ў пасляваенным свеце ў якасці танцавальнай

музыкі, ноты па рашэнні трыбунала былі знішчаны, ды, на жаль, знайшліся дзялкі ад музычнага мастацтва, якія пачалі ствараць падробкі пад «Танга смерці», і знайшліся людзі, якія танцавалі пад гэтую музыку...

Самі музыканты гэтага аркестра былі расстраляны ўсе да аднаго вясной 1945 года.

Нас прывялі на забалочанае месца, раздалі лапаты, вёдры і загадалі капаць канавы, а таксама рабіць шырэйшымі выкапаныя раней. Канавы былі поўныя балотнай вады, працавалі стоячы ў ёй па калені, накідалі лапатай у вядро балотную твань, а потым адносілі вядро метраў за пяцьдзесят. Каля канаў паходжвалі эсэсаўцы з аўтаматамі, мітусіліся капо з гумавымі дубінкамі, раз-пораз лупцуючы тых, хто працаваў «нядбайна».

Была сёмая гадзіна раніцы, работа толькі пачалася, а я ўжо не мог разагнуць спіну, у галаве гуло, кроў цяжка біла ў скроні. А наперадзе яшчэ быў чатырнаццацігадзінны рабочы дзень!..

— Лёз, лёз, тэмпо! — крычэлі паганятыя, але тэмпу не было і быць не магло. Гэта была бязглуздая праца, разлічаная на тое, каб знясіліць чалавека, ператварыць у змучаную жывёліну. Людзі не мелі ніякіх сіл, і за іх узяўся сам начальнік канвою. Ён загадаў капо, каб тыя далі яму добры друк, і пачаў гэтым друкам падганяць «гультаёў». Вязню, які працаваў побач са мною, ён праламаў чэрап. Гэта была першая ахвяра нашай каманды, першы забіты, а прайшло яшчэ толькі паўгадзіны, як прыступілі да работы. Што ж будзе за цэлы жудасны даўжэзны рабочы дзень!..

Я не думаў, што перажыву гэты дзень, думаў — загіну, але працаваў, як машына. Стараўся. Стараўся. Стараўся. Усё ж мне не хацелася ў крэматорый, у газавую камеру, не хацелася, каб мяне забілі тут, у канаве. Хацелася вярнуцца ў свой барак, і нары ў бараку былі адной надзеяй, адным светлым жаданнем — брудныя, цесныя, мулкія нары. Жыць было страшна, немагчыма, але і паміраць не хацелася.

Крадком пазіраючы ва ўсе бакі, я сачыў за эсэсаўцамі, што стаялі паблізу за капо, што паходжвалі ўздоўж канавы, і асабліва за унтэршарфюрарам, начальнікам канвою. Нейкае шостае пачуццё падказвала мне, што яго трэба сцерагчыся больш за ўсё. Вось ён прайшоў паўз мяне, спыніўся паблізу, прытуліўся спіной да сасны і закурыў, з лянотай пазіраючы на вязняў. Нарэшце погляд ягоны спыніўся на адным яўрэі. Унтэршарфюрар непрыкметна падкраўся да яго, сарваў з галавы ахвяры мютцэн—паласатую шапку асвенцімскіх вязняў. Вязень азірнуўся, і твар у яго збялеў. Чалавек ведаў ужо, што гэта значыць. Кат з хвіліну глядзеў на яўрэя моўчкі, потым адышоўся ўбок і далёка, метраў за дзесяць, закінуў мютцэн. Пасля лагодна сказаў яўрэю:

— Будзь ласкавы, прынясі свой мютцэн!..

Вязень, як нежывы, нібы ў нейкім гіпнозе, выбраўся з канавы, пайшоў. Унтэршарфюрар дастаў з кабуры парабелум, пачаў цэліцца ў патыліцу яўрэю, пачакаў, пакуль той наблізіцца да шапкі. І як толькі яўрэй паспрабаваў нагнуцца за мютцэнам, стрэліў. Чалавек пахіснуўся, павярнуўся да забойцы тварам, цяпер на гэтым твары не было ніякага страху. Грымнуў другі стрэл, і чалавек паваліўся. Кат пабег паглядзець, куды папала куля, за ім пабеглі і яшчэ некалькі эсэсаўцаў. Яны варочалі мёртвае цела нагамі, а начальнік канвою даводзіў ім, як ён трапна пацэліў — першы раз прама ў патыліцу, другі раз акурат у лоб...

Праз некаторы час эсэсаўцы прыдумалі сабе яшчэ адну забаву: прымусілі аднаго з вязняў залезці на дрэва і крычаць на ўсю ваколіцу: «Я малпа! Я малпа!» Потым унтэршарфюрар прыкончыў яшчэ аднаго чалавека, які звар'яцеў, адкінуў лапату, пачаў спяваць, смяяцца. Прыстрэлілі яго не адразу, спачатку доўга мучылі, падвесіўшы на дрэве ўніз галавою.

А рабоце няма канца. Я стараўся з астатніх сіл, бо разумеў: адзіны ратунак у тым, каб не звярнуць на сябе ўвагі начальніка канвою, быць непрыкметнай мурашкай у гэтым чалавечым мурашніку. Але мне не ўдалося застацца непрыкметным — увагу унтэршарфюрара прыцягнуў мой нумар, нашыты на куртцы.

— Ты паглядзі, Адольф,— звярнуўся ён да капо,— у гэтага хефтлінга нумар 131161. У нашай камандзе яшчэ не было вязняў з такімі вялікімі нумарамі.

— Гэта новенькі. Я ўзяў яго сёння з каранціннага блока,— адказаў Адольф.

— Кажаш, новенькі? А глядзі, як працуе! Мітусіцца, стараецца, хоць з гэтай мітусні ніякага толку, га? Няўмека, а яшчэ рускі!..

— Зараз я яго навучу!..

— Пачакай, я з ім сам пагавару...

Унтэршарфюрар наблізіўся да мяне і сарваў з галавы мютцэн. Сарваў і кінуў у бок, за лінію постэнкеттэ, гэта значыць, за лінію аховы, перасякаць якую вязням нельга. Перасек яе — значыць хацеў уцячы. Так толькі што было з тым яўрэем. Усё. Смерць. Скончылася, нарэшце, маё вандраванне па лагерах смерці. Канец.

— Ану, збегай, прынясі свой мютцэн!

«Усё адно ён мяне застрэліць, дык няхай страляе тут»,— падумаў я.

— Я не маю права пераходзіць постэнкеттэ. Правілы паводзін вязня ў лагеры для мяне закон. Я хачу працаваць!..

Яго ўразіла, што я загаварыў з ім па-нямецку. Гэты кволы рускі камарык размаўляе па-нямецку?!





— Ах, вось яно што!? Толькі-толькі трапіў у лагер, а ўжо ведаеш правілы паводзін!?.

— Я даўно ў лагерах і ніколі не парушаў парадку. Я хачу працаваць!

— За што ж ты, такі дысцыплінаваны, трапіў у штрафную каманду?

— Праз абмылку.

— Пойдзеш па шапку?

— Не. Я не маю права пераходзіць лінію постэнкеттэ.

— Альзо! — Унтэршарфюрар выцягнуў з кабуры парабелум.— У апошні раз пытаюся: пойдзеш?

— Не пайду, бо не маю права. Ваша права застрэліць мяне, маё права памерці, не парушыўшы ўстаноўленага законам парадку.

— Павярніся да мяне спіною!

Я павярнуўся і пачуў, як грымнуў стрэл. І пачуў, як куля прабіла мой чэрап, і праваліўся ў чорную бездань... А калі апрытомнеў, пачуў задаволены рогат, убачыў эсэсаўцаў, якія стаялі нада мной і аж заходзіліся ад смеху. Адзін з іх трымаў у руцэ ўчэпісты друк — гэтым друкам ён і ўлупіў мне па галаве ў той момант, калі унтэршарфюрар стрэліў. Эсэсаўцы вельмі любілі такія жарты — каб падумаў, што цябе ўжо забілі, што гэта куля разнесла твой чэрап на шматкі...

— Ты ўжо ў гіммелькамандзе, голубе, а мы прыйшлі цябе адведаць,— з рогатам сказаў унтэршарфюрар.— Ну, як на тым свеце?

Гіммелькаманда — значыць, нябесная каманда, каманда нябожчыкаў...

Нарагатаўшыся, яны вярнулі мне шапку. Загадалі працягваць работу. Капо ўштурхнуў мяне ў канаву, ды так, што я зваліўся тварам у твань. Падняўся ўвесь у твані з галавы да ног. Эсэсаўцы зноў зарагаталі, вельмі насмяшыў іх мой выгляд.

— Чорт! Рускі чорт з балота! Ой, не магу!.. Памру ад смеху!.. От цырк!

Чорт з імі, няхай рагочуць. Я, здаецца, сёння ўратаваўся. Застаўся жывы. Я яшчэ сустрэну вечар, ноч, раніцу. У мяне наперадзе яшчэ паўсутак жыцця. А там — пабачым!..

Ударыў гонг на абед. Прывезлі дзве бочкі баланды з бручкі. Дзве невялікія бочкі на дзвесце змучаных, знясіленых людзей. Аднак трэба ісці займаць чаргу, атрымаць свой абед проста ў шапку — штрафнікам не давалі ні міскі, ні лыжкі.

Выдаваў баланду капо Адольф. Убачыўшы мяне, ён весела сказаў;

— А, рускі! Балотны чорт! Падстаўляй свой мютцэн, дам табе самай гушчы.

Ён апусціў чарпак на дно бочкі, старанна зачарпнуў, падняў поўны чарпак. Я ўсхваляваўся: гэтулькі густой баланды! У мяне аж рукі затрэсліся. Але ў той жа момант капо плюхнуў баланду мне на галаву і крыкнуў:

— Прэч!

Я адышоўся ўбок, выцер твар, лёг на траву і заплакаў. Заплакаў, як дзіця. У той момант, калі мне пагражала смерць, калі мяне прымушалі бегчы за шапкай, мне не было так шкада сябе, як цяпер. Ды і праўду сказаць, зрабіць так, як зрабіў капо, горш чым забіць. Яны ведалі, як і чым давесці чалавека да поўнай роспачы...

Але вось нехта прылёг побач са мною, сказаў ціха:

— Плачаш?.. Разумею цябе... Колькі табе гадоў?

— Семнаццаць,— я павярнуўся тварам да чалавека, пажылога, з глыбокімі карымі вачыма, якія паглядзелі на мяне вельмі пільна.

— Скуль ты?

— Сквір, на Украіне...

— О, землякі!.. Я з Палтавы. На вось, падсілкуйся.— Ён даў мне кавалачак чорнага, што зямля, хлеба.— А плачаш дарэмна...

— Заплачаш,— сказаў я.— Год ужо бадзяюся з турмы ў турму, з лагера ў лагер... Колькі можа чалавек вытрываць?..

— Ведаеш, браце, у нас на Палтаўшчыне гавораць: на крывое дрэва і козы скачуць. Будзеш кіснуць — загінеш. Не румзаць трэба, а змагацца.

— Як тут можна змагацца!? Як? — спытаў я безнадзейна.

— Можна,— адказаў ён зусім ціха.— А як — пра гэта мы з табою ў лагеры пагаворым. Адпачывай пакуль, ды і я адпачну...

...Да канца змены ў нашай камандзе загінула яшчэ некалькі вязняў... І яшчэ чалавек дзесяць загінула назаўтра. Мяне ж смерць зноў абмінула, хоць на гэты раз, зноў трапіўшы на канавы, я быў упэўнены, што не вытрываю. Калі не пристрэляць на рабоце, памру сам, упаду на дарозе — і не ўстану. І не пристрэлілі, і не ўпаў... І пазнаёміўся з самім камендантам Асвенціма Рудольфам Гесам, убачыў яго за варотамі, калі каманды вярталіся ў лагер.

Гес быў падобны на «тату» фон Бодэншатца, каменданта Мыславіцкага лагера, але, як кажуць, далёка куртатаму да зайца. Бодэншатц быў дзіцяткам у параўнанні з Гесам, які меў кілаграмаў пад дзвесце. Гарыла з трайным падбародкам. Шыя, што ў быка. Вочы маленькія, нібы ў дзіка. А на галаве рыжая, чырвоная, што агонь, чупрына.

Якіх толькі мянушак яму не давалі! Свінаматка, кныр, бегемот, пітон, цыстэрна, бочка, цэпелін, мех з салам... Гросшвайнэ...

«Гросшвайнэ» сустрэў нас за варотамі і адразу абвясціў, пырскаючы слінай:



— Сёння адзін нягоднік паспрабаваў уцячы. Але я неаднойчы папярэджваў, што адсюль можна ўцячы толькі у гіммелькаманду! Зараз гэтага ўцекача павесяць, а каб іншым не карцела ўцякаць, разам з ім будуць павешаны ўсе трыццаць хефтлінгаў з яго каманды!..

Пад канец майго другога працоўнага дня ў Асвенціме было відовішча гэтага масавага пакарання смерцю. Усе павешаныя былі савецкія грамадзяне, палітычныя зняволеныя... Памерлі яны проста і мужна і заспявалі перад шыбеніцай нашу песню «Вставай, страна огромная».

За тое, што мы былі сведкамі гэтай мужнай смерці, за тое, што слухалі песню барацьбы, нам адпомсцілі: лагерфюрар загадаў вязням усю ноч стаяць каля баракаў. Усю ноч — і каб ні сесці, ні легчы. Стаяць усю ноч!..

І мы стаялі, непрыкметна падтрымліваючы сусед суседа, стаялі і слухалі, як недзе ў Біркенаў гудуць паравозы — у Асвенцім везлі папаўненне. Гэты ненажэрны молах фашызму патрабаваў усё новых і новых ахвяр. Над лагерам панавала чорная ноч няволі. У гэтую ноч памерлі ў страі пятнаццаць чалавек з нашага блока.

Ранішні апель прайшоў без усякіх здарэнняў, што нас вельмі здзівіла. У Аўфмейера быў цудоўны настрой. Як высветлілася, сёння быў дзень яго нараджэння. Паўль-Бандыт, Плюгавы-Вацак і астатнія праміненты лісліва віншавалі начальства і ўручылі яму дарагі падарунак — які іменна, мы не ведалі, бо зроблена гэта было не перад строем, а ўпотай. Вязням катэгарычна забаранялася рабіць эсэсаўцам падарункі.

З повада свайго свята надзвычай лагодны Аўфмейер дазволіў прамінентам да абеду спаць, усім астатнім вязням дазволена было бавіць час на пляцоўцы, дзе звычайна адбываўся апель. Паколькі апельпляц блока 2-А размечаны лініямі, якія ўтваралі забароненую зону, і паколькі вязням каранціннага блоку без спецыяльнага дазволу забаранялася хадзіць па лагеры, не толькі парушаць забароненую зону, дык мы адразу, як толькі Аўфмейер пайшоў, паваліліся на брук і паснулі. Ноч жа была бяссонная.

Перад абедам нас падняплі, і з'явіўся Аўфмейер. Ён быў «пад мухай» і пачаў даводзіць нам, які ён харошы чалавек, які ён чэсны, сумленны і што нам ён жадае толькі дабра.

— Наша мэта — перавыхаваць вас. Я лічу, што кожны вязень нашага лагера можа ўсвядоміць свае памылкі і стаць паўнацэнным чалавекам. Я сам калісьці быў вязнем, і вось бачыце — стаў чалавекам. Чаго і вам жадаю!..

Гаварыў ён доўга і, нарэшце, стаміўшыся, пайшоў з Паўлем у блок. А перад тым, як пайсці, дазволіў тым, каму трэба, схадзіць у туалетны пакой.

Як на грэх, мне дужа захацелася піць. Кажу «як на грэх» таму, што, нягледзячы на дазвол Аўфмейера, ніхто не спяшаўся ісці ў туалет, бо халуі блокавага старасты ўсе кішкі з цябе могуць выпусціць, калі ўбачаць, што ты без дай прычыны бадзяешся па штубе. Піць аднак вельмі хацелася, і я ўсё ж вырашыў пайсці.

Пайшоў, баючыся трапіць на вочы каму-небудзь з халуёў ці самому начальству. Прайшоў калідор, шлафзалы, зайшоў у туалетную. Ды напіцца мне на прыйшлося, бо краны былі перакрыты — у лагеры эканомілі ваду.

Праўда, вада была яшчэ ў бочцы, але ў ёй было столькі хлоркі, што нельга піць — атрута. Між скрыняй з хлоркаю і бочкай ляжалі чатыры трупы. Гэтыя людзі памерлі нядаўна, бо тых, хто памёр ноччу, адразу ж пасля ранішняга апеля адвезлі ў крэматорый. Я паглядзеў на мёртвых, і піць мне расхацелася, зрабілася жудасна і страшна. Дзіўна, але ніяк я не мог прывыкнуць да трупаў, хоць пабачыў іх столькі, што і не злічыць...

Я пайшоў назад, і ўжо ў штубе, у вузкім праходзе паміж нарамі наляцеў на Аўфмейера і Паўля. Аўфмейер быў п'яны ў дым, яго падтрымліваў яшчэ больш п'яны Паўль. Убачыўшы мяне, Аўфмейер захістаўся, яго эсэсаўская фуражка звалілася з галавы і пакацілася пад нары. І — не ведаю, што са мной сталася! — я, нібы які халуй, кінуўся за эсэсаўскай фуражкай, слізгануў пад нары. Тое, што я ўбачыў, уразіла мяне і напалохала. Больш напалохала, чым уразіла, бо я ўбачыў тое, што вязню бачыць не трэба, не трэба ведаць пра гэта, нават чуць — з фуражкі Аўфмейера выпаў залаты абруч, сплецены з залатога дроту і аздоблены каштоўнымі дыяментамі.

Пад нары, забыўшыся на сваю эсэсаўскую годнасць, кінуўся і сам Аўфмейер, і там, пад нарамі, я сунуў яму ў рукі гэты абруч. Калі мы выбраліся з-пад нараў, Аўфмейер быў ужо амаль цвярозы, бледны і нават разгублены. У разгубленасці ён паціснуў мне руку і сказаў Паўлю:

— Мне падабаецца гэты хефтлінг, хоць ён і штрафнік. Не пасылай яго на работу, глядзі яго. Зразумеў?

— Яволь, гер блокфюрар, зразумеў! — выгукнуў не Паўль, а Плюгавы Вацак, які знянацку выскачыў аднекуль. Паўль не мог і лыка звязаць.

Зразумеў і я: вось цяпер канчаткова ўсё. Яны мяне знішчаць сёння ўночы. Бо я — сведка. Сведка таго, што блокфюрар бярэ ад сваіх халуёў хабар золатам. І хіба ён дурны, каб пакідаць сведку жывым?

Божа-божа, думаў я, і чаму мне так не шанцуе? Не паспею выбавіцца ад аднаго няшчасця, як адразу ж на мяне навальваецца другое, уцяку ад агню — траплю ў полы-

мя. Што ж мне рабіць цяпер, з кім параіцца? Трэба было б знайсці таго вязня, які сказаў мне добрыя словы, які суцяшаў мяне, там, на канавах, калі я плакаў. Здаецца, ягоны нумар 125332. Я ліхаманкава шныраў сярод вязняў, углядаўся ў іхнія нумары, але не так гэта проста — знайсці яго, патрэбны табе нумар — тысячы шасцізнакавых нумароў стракацяць уваччу, і пачынае здавацца, што ты нешта наблытаў, забыў той нумар, які табе патрэбны...

Мне не верылася, што прайшло толькі чатыры дні, як я ў Асвенціме. Чатыры дні, а пакут столькі, столькі смерцяў, што хапіла б на тысячу трагедый. Чатыры дні, а ў маім целе згасалі апошнія іскаркі жыцця. Я з жахам чакаў канца. Калі не заб'юць, дык усё адно сканаю. Сканаю, як усе гэтыя людзі вакол мяне. Усе яны кандыдаты ў крэматорый, а на нешта яшчэ спадзяюцца. Чакаюць, што раптам прыйдзе нейкі цуд, і яны выйдуць на волю, будуць жыць. Так, думаў я, яны напэўна чакаюць, што будзе нейкі цуд, бо інакш яны не ляжалі б гэтак пакорліва на бруку апельпляца, а нешта б рабілі, каб ратавацца. Чаму яны не кідаюцца на сваіх катаў, покуль засталася хоць кропля сілы, чаму не змагаюцца?

Я не ўлічваў, што сама сістэма лагераў смерці перш за ўсё пазбаўляла людзей волі, ператварала іх у знясіленых робатаў. Да таго ж кантынгент вязняў увесь час мяняўся, ператасоўваўся, мала хто ведаў адзін другога, кожны быў асуджаны на поўную адзіноту сярод тысяч і тысяч. І гэта было ўлічана самой сістэмай лагераў смерці.

І ўсё ж цуд быў! Цуд, які адкінуў на нейкі час усе жахі безнадзейнага становішча, які прымусіў амаль кожнага робата-шкілета ўспомніць, што ён чалавек! І цудам гэтым была песня.

На гарачым бруку апельпляца ляжала груда знясіленых цел, мерцвякі, і раптам адтуль, з гэтай груды ледзь жывых шкілетаў, пачуўся дзіўны, нейкі срэбраны голас:

Вижу чудное приволье,
Вижу нивы и поля —
Это русская природа,
Это Родина моя...
Вижу горы и долины,
Вижу реки и моря —
Это русское раздолье, —
Это Родина моя...
Слышу пенье жаворонка,
Слышу трели соловья —
Это русская сторонка,
Это Родина моя...

Срэбраны юнацкі голас... І на тварах у людзей абудзілася думка, знікла тупая пакорлівасць, вочы, у якіх была адна толькі смяротная туга, напаўняліся слязьмі ўспамінаў, слязьмі надзеі. Не жаданнем проста неяк існаваць, не жыццёвым інстынктам жывёлы, а надзеяй і верай у чалавечае жыццё.

Праз некаторы час слава пра гэтага спевака прагрымела на ўвесь Асвенцім, спявак гэты зрабіўся жывой легендай, сімвалам неадольнасці чалавечага духу. Мне ж давялося прайсці з ім праз асвенцімскае пекла, Маўтхаўзен, Лінц-ІІІ і дажыць да перамогі. Але гэта — потым, а ў той дзень, у той момант я проста слухаў песню, слухаў і дзівіўся, як яе словы вяртаюць мяне да жыцця.

Побач са мной ляжаў цяжка хворы стары. Ён ужо ледзь дыхаў, але так-сяк падняўся, сеў, абапіраючыся рукамі на брук, сказаў амаль шэптам:

— Якая ў цябе прыгожая душа, сынку... Як ты спяваеш, божа... Цяпер можна і паміраць...

— А навошта вам паміраць, дзядуля,— мякка сказаў юнак.— Я яшчэ заспяваю. І ён заспяваў песню майго даваеннага дзяцінства, песню пра арляня, якога вялі на расстрэл, але ён і ў перадсмяротны час звярнуўся да неба, да волі, да птушкі свабоднага гордага палёту:

Орленок, орленок, мой верный товарищ,
Ты видишь, что я уцелел.
Лети на станицу, родимой расскажешь,
Как сына вели на расстрел.

О, воля мая, Радзіма мая!.. Маці мая!.. Ці дазнаешся ты, як вялі на расстрэл мяне?.. Ці я застануся ў спісах прапаўшых без вестак?..

А хлопец спяваў. Ён праспяваў украінскую «Чорныя бровы, карыя вочы», потым беларускую песню, потым чэшскую, потым французскую.

Я працiснуўся бліжэй да юнака, сеў побач і раптам заўважыў, што паблізу сядзіць вязень з нумарам 125332! Той самы, з кім я быў на канавах!..

Хлопец глянуў на мае пакалечаныя рукі, спытаў:
— Што ў цябе з рукамі?
— Пакалечылі на допытах...
— Гестапа?



— Гестапа...
— Даўно ў лагерах?
— Чатырнаццаць месяцаў...

Чалавек з нумарам 125332 таксама ўважліва паглядзеў на мае рукі, зазначыў ціха:
— Трэба неяк дапамагчы хлопцу. Загіне.
— Што-небудзь прыдумаем,— сказаў юнак.— Прыдумаем... Цябе як завуць?
— Уладзімір.
— А мяне Георгіем. А прасцей — Жора.— І ён пацiснуў мне руку.
— Ну, што ж, прымайце і мяне ў сваю кампанію,— сказаў чалавек з нумарам 125332.— Завуць мяне... ну, скажам, дзядзька Іван.

Ён усміхнуўся, ледзь прыкметна падміргнуў. А ў мяне горача закалацілася сэрца. Ці не падпольшчык гэты дзядзька Іван? Каб жа так! Каб жа ўвайсці ў лік тых, хто змагаецца тут, у Асвенціме! Змагаецца, а не чакае смерці!..

— Я вельмі рады, што пазнаёміўся з вамі,— сказаў я дзядзьку Івану.— Каб не вы, я мог бы загінуць, там, на канавах... Дзякуй вам, падтрымалі.

— Помню. Ты пра смерць пачаў думаць... А нам трэба думаць аб жыцці. Змагацца.

Мы і не заўважалі, што нас ужо слухаюць дзесяткі са тры вязняў. Ды раптам адзін з іх сказаў:

— Якое тут можа быць змаганне? Крэматорый побач — вось табе і ўсё змаганне.

Дзядзька Іван зірнуў на яго, потым на мае рукі, сказаў нягучна:
— Раскажы нам усім, за што цябе катавалі...
— Я сем разоў уцякаў,— сказаў я.— Вось і ўвесь расказ...
— Больш нічога і не трэба гаварыць,— заўважыў дзядзька Іван.— Зірніце: дзіця, бач, толькі-толькі ад зямлі адрос, а сем разоў уцякаў! Інакш кажучы, змагаўся!.. А ён жа ў Чырвонай Арміі не быў, прысягу не прымаў, мог бы сабе спакойна працаваць на якога баўэра...

Мы сціхлі, бо да нас падышоў штубавы і, падаючы Жору пайку хлеба, паведаміў:
— Вазьмі, гэта табе ад блокавага. Яму спадабалася, як ты спяваеш. Захочаш есці — заходзь да мяне, міска баланды і скібка хлеба для цябе заўсёды знойдуцца.

Жора падзякаваў, а калі штубавы пайшоў, сказаў:
— Гэта такі ж нягоднік, што і блокавы стараста, але ад хлеба адмаўляцца нельга.

Ён тут жа разламаў акраец на тры кавалкі, падзяліўся са мною і дзядзькам Іванам. Я глядзеў на яго і дзівіўся, што ў лагеры ёсць такія людзі. Ён і ў гэтым пекле захаваў жывы бляск вачэй, карых, дасціпных і пранікнёных. Прыгожы быў хлопец, стройны, зграбны, што таксама здзіўляла — як ён захаваў сваю юнацкую прыгажосць у гэтых умовах? Але ён выклікаў да сябе абсалютны давер, да яго цягнула, як магнітам.

Адпачынак на апельпляцы скончыўся. Прыбеглі халуі, пачалі ставіць нас у рады, па сто разоў выраўноўваць іх. Звычайная працэдура. Бясконцая муштра.
— Антрэтэн! — Станавіся!
— Вектрэтэн! — Разыдзіся!
— Мютцэн ауф! — Шапкі надзець!

На гэты раз муштра працягвалася чатыры гадзіны запар, да вечара. А вечарам зноў муштра — перад вячэрнім апелем. І ў час апеля — муштра.

Але вось на апель прыйшоў Ауфмейер, цвярозы. Усё на ім блішчэла, пачынаючы ад лакавых туфляў і канчаючы гузікамі, рамянямі і спражкамі. На ідэальна адпрасаваным касцюме красаваўся жалезны крыж.

Дакладваў Ауфмейеру Паўль, які зусім апух ад гарэлкі і не гаварыў, а сіпеў.

Калі лагерная сірэна абвясціла канец апеля, Ауфмейер літасціва дазволіў нам ісці спаць. Я на хвіліну затрымаўся на апельпляцы, і да мяне падышлі Жора і дзядзька Іван.

— Трэба знайсці такую мясціну ў штубе, каб быць заўсёды разам,— сказаў Жора, але дзядзька Іван запярэчыў:

— Нельга ўсім разам. Стукачы засякуць адразу. Вы сабе будзьце ўдвух, а я сам. Галоўнае зараз — падтрымаць хлопца. Ён — нэндза, я бачыў на канавах, як начальнік канвою хацеў усадзіць яму кулю ў патыліцу.

— Яшчэ адна бяда,— сказаў я ціха.— Я выпадкова ўбачыў, што Ауфмейер хавае ў сваёй шапцы залаты скарб. Такі залаты абруч з дыяментамі. Ён пастараецца знішчыць мяне, як сведку.

Дзядзька Іван запэўніў мяне, што выйсце знойдзецца, а Жора сказаў, што зараз здабудзе харч. Як? Заробіць песняй. Пойдзе да штубавога і будзе яму спяваць.

Неўзабаве з акна штубы палілася песня пра Сцёпку Разіна, палілася над лагерам смерці, над агароджай пад токам высокага напружання, над змрочнымі хмарамі дыму з печаў крэматорыя... А калі праравула сірэна адбою, да нас выйшаў задаволены Жора.

— Дэбют удаўся на славу! Асвенцімская арыстакратыя прызнала мяне. Цяпер у нас будзе хлеб, будзе і да хлеба!.. А жывуць, гады!.. Новыя прасцірадлы, коўдры, пуховыя падушкі... Мяне слухалі дзесяць чалавек, усе немцы-крымінальнікі. Стол завалены ядою... Тое-сёе і нам дасталося. А заўтра я спяваю самому Паўлю. Кажуць, гэты звер вельмі любіць музыку, нават сам грае на губным гармоніку.

— Колькі ты ведаеш моў? — спытаў дзядзька Іван.— Нямецкую ведаеш, каб з Паўлем размаўляць?

— Я ведаю сем розных моў!.. Але пра гэта потым. Пакуль што пайшлі спаць, малеча! — І ён абняў мяне за плечы.— Пайшлі, хлопча!

Так скончыўся для мяне гэты дзень — нядзеля ў Асвенціме. Шчаслівая нядзеля...

Назаўтра я прачнуўся ад таго, што вельмі змерз. Мяне трэсла ліхаманка, у скроні стукалі вострыя малаточкі. Няўжо захварэў? Роспач адразу ахапіла мяне, бо хвароба ў лагеры смерці — гэта аўсвайс у крэматорый. Хворых тут не лячылі.

Пачулася сірэна адбою, і прачнуўся Жора. Я адразу сказаў яму, што, відаць, захварэў. Ён памацаў мой пульс і занепакоіўся, але выгляду стараўся не падаваць. Падумаўшы, сказаў, што пойдзе да Вацака і будзе прасіць, каб мяне сёння не пасылалі на работу. Ясна было, што жывы я не вярнуся. Аднак я запярэчыў: Вацак пад маркай медагляду можа паслаць мяне ў газавую камеру, а потым скажа, што я памёр «натуральнаю» смерцю.

Пакуль мы раіліся, што рабіць, сірэна паклікала на ранішні апель. Я ні жывы ні мёртвы стаў у строй... Ды шчасце ўсё яшчэ не адвярнулая ад мяне: ні Аўфмейер, ні Паўль не заўважылі, што я хворы. Зрабіўшы пераклічку, блокфюрар пайшоў аддаваць рапарт рапартфюрару, а капо Адольф прыбег браць вязняў з нашага блока — на канавы. На гэты раз патрабавалася дваццаць пяць хефтлінгаў, але штрафнікоў у нашым страі было толькі восем. Вацак загадаў ім выйсці са строю, і я — штрафнік — выйшаў таксама, стаў на левым фланзе шарэнгі. Тады Вацак сказаў Адольфу, каб той сам выбіраў каго хоча. Адольф так і зрабіў — набраў дваццаць пяць чалавек і павёў. Але сярод гэтых дваццаці пяці быў і дзядзька Іван... Хто ж мне дапаможа?..

Пасля адпраўкі рабочых каманд лагер апусцеў. Засталіся толькі тыя, хто працаваў у канцылярыях, на кухні, у лазні, а таксама вязні каранцінных блокаў.

Засталіся, зразумела, і праміненты, усе гэтыя халуі, прадажнікі. Большасць з іх клалася зноў спаць, а так званыя «арганізатары» ішлі на «паляванне». Пад выглядам электрыкаў, кваліфікаваных работнікаў яны распаўзаліся па лагеры з сумкамі на плячы. У сумках гэтых для адводу вачэй ляжаў розны інструмент — пласкагубцы, малаткі, маткі дроту. Яны шнырылі па ўсім лагеры, спекулявалі, здабывалі харч, цыгарэты, мянялі рэчы на рэчы — «чорны рынак» у Асвенціме быў багаты. На гэтым рынку былі і золата — тое, што ўтойвалі пасля «апрацоўкі» вязняў. Эсэсаўцы моўчкі патуралі праміненнтам, бо мелі ад іх хабар. Але сярод праміненттаў былі і ўдзельнікі асвенцімскага руху супраціўлення. Між іншым, толькі ў становішчы праміненнта можна было нешта арганізавана рабіць...

Што датычыць вязняў каранцінных блокаў, дык яны, калі рабочыя каманды пакідалі лагер, клаліся на брук апельпляца — у штубы іх не пускалі. Там штатныя прыбіральшчыкі за міску баланды наводзілі чысціню.

Я сядзеў на бруку і раптам убачыў Жору. Ён таксама ўбачыў мяне, падбег узрадаваны.

— Ты застаўся, малеча?.. Павязло!.. Але... я нічога пакуль што не знайшоў, ніякіх лекаў. Дробныя праміненты пахаваліся ў норы, спяць і «кіты». Трэба чакаць, пакуль прачнуцца.

— Жора,— сказаў я ціха.— Паслухай мяне, дружа... Я, мабыць, не дажыву да вечара... Думаю, што ў мяне заражэнне крыві... Таму запомні: калі ты выйдзеш з гэтага пекла, наведайся ў маю хату. Адрас — Сквіры, вуліца Стаханава, 22...

Заканчэнне ў наступным нумары.

# ПУБЛІЦЫСТЫКА



- Валянцін ЖДАНОВІЧ
- Ільдус АХУНЗЯНАЎ
- Канстанцыя БУЙЛО
- Яўген РАМАНОВІЧ
- Цімох ЛІЯКУМОВІЧ
- Вячаслаў РАГОЙША
- Ніл ГІЛЕВІЧ
- Віктар ВАЛОШЫН
- Эрнст СІДАРАЎ
- Вячаслаў ДУБІНКА
- Серафіма НІСНЕВІЧ
- Іван ЗАГРЫШАЎ





● ФОТАРЭПАРТАЖ ВАЛЯНЦІНА ЖДАНОВІЧА

# А НА РЭЧЦЫ НА АРЭСЕ...

**У 1933 годзе Янка Купала напісаў паэму «Над ракой Арэсай», хвалюючы твор пра першых беларускіх камунараў, якія гераічнай працай ператварылі Мар'іна балота ў квітнеючыя палеткі.**

**Амаль праз сорак гадоў давялося мне пабываць у тых мясцінах, якія ўславіў паэт, сустрэцца з людзьмі, пра якіх ён пісаў, з іх дзецьмі, унукамі. Убачыў вёску Камуну, якую вайна спаліла, а камунары зноў аднавілі. Там цяпер багаты калгас імя Чырванасцяжнай Беларускай Ваеннай Акругі. Пабываў у Соснах, дзе размешчаны цэнтр славутага саўгаса «10-годдзе БССР», у Любані і ў Сарачах, што пад Любанем, на другім беразе Арэсы — там самы вялікі ў раёне калгас «Чырвоная змена». І з кім бы ні гаварыў, усе як адзін успамінаюць Купалу і ганарацца тым, што пра іх край і справы напісана купалава паэма.**

**У гэтым рэпартажы — ветэраны камуны і іх нашчадкі. Радкі з паэмы «Над ракой Арэсай» дапамогуць асэнсаваць традыцыі камунараў і тыя змены, што адбыліся за 40 гадоў на Любаншчыне.**



**А на рэчцы на Арэсе
Многа, многа дзіва;
Жывуць сабе камунары
Весела, шчасліва.**





І сёння весела ўсміхаюцца камунары Уладзімір Барысавіч Дубовік, Раман Еўдакімавіч Васіленка і Дзмітры Еўдакімавіч Каленчанка.





**Шмат чаго зрабілі**
**Камунары ўжо:**
**Выраслі будынкі**
**Над балот мяжой.**

Балот на Любаншчыне амаль не засталося. А вось гэтыя будынкі выраслі ў калгасе «Чырвоная змена».

**Тут спаборніцтва ў пашане,**
**Ударніцтва так жа,**
**Кожны месца сваё знае,**
**Бо іначай — як жа?!**



Лепшая даярка саўгаса «10-годдзе БССР» Люба Ганчар у 1966 годзе была ўзнагароджана ордэнам Леніна. Яна і цяпер на правым фланзе сацыялістычнага спаборніцтва.

**Ад вясны вясёлай, ранняй**
**Да восені позняй**
**Пяе поле трактарамі**
**Весела, пагрозна...**



З той ранняе купалаўскае вясны жыве гэты трактар ХТЗ. А каб ён не грузнуў на тарфяніках, дбайныя сасноўцы паставілі яго на камбайнавыя колы.

Механізатар — пачэсная прафесія і ў Соснах, і ў Камуне. Адзін з іх, Мікола Давідовіч — механізатар патомны. Разам са сваім бацькам ён працуе на адным трактары...





**...То не жарт, то не смех.**
**Маюць на падмогу**

**У гаспадарцы сваю**
**Жалезную дарогу.**

Вузкакалейка ў трыццаць другім годзе здавалася цудам тэхнікі. А сёння і ўвагі ніхто не звяртае на самалёт, які робіць хімічную праполку на камунарскіх палетках.

**У саўгасе электрычнасць,**
**Віднаты без кошту.**

**Свая радыёўстаноўка,**
**Тэлефон і пошта.**

Трэба дадаць яшчэ саўгаснае тэлеатэлье, дзе тры майстры рамантуюць рабочым тэлевізары і прыёмнікі.







**...Пашыраецца камуна,**
**Пашырае яслі.**

І сапраўды, сасноўскі дзіцячы сад увесь час большае. Дзяцей выхоўваюць дыпламаваныя педагогі, такія, як Наталля Капусціна, што скончыла Магілёўскае педвучылішча.

**І камуна гэта,**
**І гэты саўгас**
**Будуць з лета ў лета**
**Расці ў добры час.**



У Любанскім музеі народнай славы сустрэліся першыя камунары Ісак Дзянісавіч Ламашка і Цімох Дзмітрыевіч Анісімаў.



# НЕЎМІРУЧЫ, ЯК НАРОД

Шырока і раздольна разлілася Волга пад старажытнай Казанню...

У гэты дзень я пакінуў горад рана, утульны рачны «Масквіч» самавіта спяшаўся ад прыпынку да прыпынку па гарадскім маршруце.

За бортам струменілася плынь, іскрылася, пералівалася бляскам сонца. Неба было крыштальна чыстае, звонкае. Здавалася, само паветра напоўнена музыкай. І—нібыта для таго, каб гэты нядзельны ранак стаў яшчэ больш памятны і зачараваў душу, з трохпалубнага цеплахода, які праплыў міма, данеслася, запаўняючы неба, знаёмая мелодыя.





Велічныя акорды першага канцэрта Чайкоўскага яшчэ доўга гучалі над прасторамі Волгі, і людзі, падначаленыя іх незвычайнай сіле, слухалі моўчкі, зачаравана...

Наогул, для мяне раніца з самага пачатку была не зусім звычайная. Мне трэба было пабыць у Печышчах — пасёлку, дзе правёў апошні год свайго жыцця народны паэт Беларусі Янка Купала, 90-годдзе з дня нараджэння якога адзначае сёлета ўся краіна.

І сонечная далячынь волжскай прасторы, і нечаканая сустрэча з Чайкоўскім у гэты ранак прадказвалі мне дзень новых уражанняў, роздуму і сустрэч з добрай памяццю паэта. Я гартаў часопіс з новымі перакладамі вершаў Янкі Купалы. На маёй роднай мове яны гучалі гэтак жа магутна і хараша, як гучаць вершы паэта па-беларуску.

...Паэзія і музыка! Як дзве сястры, яны нарадзіліся ад адной маці — вуснай народнай творчасці. Я думаў пра гэта, прыгадваючы вершы Янкі Купалы. Вытокі яго паэзіі — у беларускіх народных песнях, казках, паданнях. Я ўспомніў адну цудоўную легенду, якую расказаў мне Максім Танк.

У ёй апавядаецца пра тое, як па ўсёй зямлі пайшла гамонка пра выдатнага юнака-беларуса, які цудоўна іграў на сваёй жалейцы. Сонца свяціла весялей, дрэвы пакорна схілялі галіны, снапы кідаліся ў скокі, калі той юнак пачынаў іграць. Але колькі ні шукалі яго панскія паслугачы, каб схапіць і прывесці ў палац, усюды яны чулі толькі песню, а хто іграе — знайсці не маглі. Тады адзін з паслугачоў рашыў, што іх спакушае прывід, а другі сказаў: «Гэта шуміць трава». І так яны гадалі доўга, пакуль нарэшце трэці не прыклаў вуха да зямлі і не ўсклікнуў здзіўлена: «Браткі мае! Дык тут жа сама зямля спявае!»

Я падумаў, што гэта паэтычная легенда магла б паслужыць зачынам для ўсёй беларускай літаратуры. Шмат стагоддзяў прыгняталася песня беларусаў. Трохі нерашуча загучала яна некалі ў Паўлюка Багрыма. Але жалейка Паўлюка была паломана, песня яго заняволена, бо і сам паэт быў прыгонным. Больш смела і ўпэўнена спявалі свае песні Янка Лучына і Францішак Багушэвіч, творчасць якіх жывілася сокамі зямлі роднай. Але каб цудоўныя песні Беларусі, гэтак, як у легендзе, змаглі прагучаць моцна, на ўвесь свет, трэба было з'явіцца Янку Купалу, Якубу Коласу. У іх творчасці беларуская зямля сапраўды заспявала, асабліва пасля Вялікага Кастрычніка, які разняволіў народ і ягоныя песні.

Квітнеючым садам, дзе сабраны водар беларускай зямлі, назваў паэзію Янкі Купалы яго сябар і паплечнік Якуб Колас. Чытаючы вершы Янкі Купалы, адчуваеш гэты водар, і табе ўжо здаецца, што ты даўно ведаеш і любіш радзіму паэта, яе мінулае і сённяшняе, хоць табе нават не даводзілася там пабыць. І я зразумеў, чаму мне, татарскаму чытачу, вершы Янкі Купалы таксама блізкія і дарагія, як і вершы нашага народнага паэта Габдулы Тукая. У маім разуменні Радзімы — нашай вялікай сацыялістычнай краіны — гэтыя слаўныя імёны, мусіць, даўно ўжо стаялі побач.

Хацелася ўявіць воблік паэта. Мне дапамог пісьменнік Газі Кашаф, да якога я завітаў перад паездкай у Печышчы. Ён расказаў пра сваю сустрэчу з Янкам Купалам, якая адбылася яшчэ да вайны.

«Гэта было ў 1939 годзе,— апавядаў Г. Кашаф.— Тым годам усе народы нашай краіны сумесна з армянскім народам адзначалі 1000-годдзе народнага эпасу «Давід Сасунскі». На гэту ўрачыстасць у сонечны Аястан з'ехаліся пісьменнікі з усіх рэспублік і абласцей. Былі і замежныя госці. З Татарыі ў Ерэван паехалі паэт Хасан Туфан і я.

Тут і адбылася наша сустрэча з народным паэтам Беларусі Янкам Купалам. Хасану Туфану і мне вельмі хацелася пагутарыць са славутым паэтам, але, шчыра кажучы, зрабіць гэта было не так і проста. Янка Купала заўсёды з кім-небудзь гаварыў, імкнуўся быць незаўважным, любіў, па ўсёй верагоднасці, быць сярод старых сяброў. А нам, вядома, было няёмка падысці да яго і навязваць сваё знаёмства.

Але нам пашанцавала. Неяк мы з Туфанам пайшлі ў сталоўку і селі за свабодны стол. Побач з намі пасля былі Янка Купала і Сяргей Міхалкоў. Лепшага выпадку, бадай, і не знойдзеш. Неўзабаве мы пазнаёміліся. Пачалася шчырая размова. Гаварылі, вядома, пра літаратуру. Спачатку мы расказвалі пра татарскую паэзію, чыталі яе ў перакладзе на рускую мову. Янку Купалу было прыемна даведацца, што яго вершы перакладзены на татарскую мову. Мы гаварылі, што татарскі чытач любіць іх. Янка Купала асабліва зацікавіўся гэтым і пытаў, якія менавіта вершы былі выбраны для перакладу. Затым размова перайшла на «Дзядзьку Сцёпу» Міхалкова, з якім татарскія дзеці ў той час таксама ўжо былі знаёмы. Купала ўважліва слухаў, шчыра ўсміхаўся, але сам гаварыў вельмі мала. Мы запрасілі яго ў госці ў Казань. Купала абяцаў наведацца. Яму хацелася праехаць па вялікай Волзе, пабыць у горадзе, дзе вучыўся Ленін, дзе прайшоў свае ўніверсітэты Горкі...

І сапраўды, праз два гады ён прыехаў у Казань. Але радасць нашай сустрэчы на гэты раз азмрочылася не святочнымі клопатамі тых дзён — ішла Айчынная вайна.

Наш клуб імя Тукая быў тады перапоўнены эвакуіраванымі пісьменнікамі, сярод якіх былі і пісьменнікі-антыфашысты з многіх краін Захаду. Янка Купала карыстаўся ўсеагульнай павагай, але я не памятаю, каб ён чаго-небудзь прасіў ці на чым-небудзь настойваў. Трагічныя падзеі вайны ён перажываў глыбока, душой. Як заўсёды сціплы, ён імкнуўся быць непрыкметным і хутка перабраўся з горада ў вёску, на вялікую Волгу ў Печышчы».

...Вайна!

Яе суровыя дарогі прывялі Янку Купалу на маю радзіму, у Татарыю. І цяпер, пад'язджаючы да Печышчаў, да пасёлка, які назаўсёды цяпер звязаны з імем паэта, я быў заклапочаны адным: ці сустрэну людзей, што ведалі Купалу ў гады вайны, што цікавае раскажуць яны, ці знайду я хоць маленькія, але важныя рыскі, якія дапоўняць партрэт паэта?

Сыходжу на бераг. Амаль каля самага прычала ўзвышаюцца карпусы Печышчынскага млынкамбіната. Побач вялікі жылы дом, на якім устаноўлена мемарыяльная дошка. Яна паведамляе, што ў гэтым доме жыў народны паэт Беларусі Янка Купала.

Уваходжу ў кватэру з двух невялікіх пакояў. Тут, як успамінала жонка і сябар паэта Уладзіслава Францаўна, напружана працаваў Янка Купала. «Ён з вялікай увагай чытаў газеты, разглядаў геаграфічныя карты, слухаў радыё. Кожная падзея на фронце, геразм Чырвонай Арміі, мужная барацьба беларускіх партызанаў глыбока хвалявалі яго. Гэтым ён жыў...»

Тут, у гэтым пакоі, Купала напісаў вялікі даклад «Айчынная вайна і беларуская інтэлігенцыя», з якім выступіў на сесіі Акадэміі навук Беларускай ССР. Тут ён падрыхтаваў сваю прамову для радыёмітынгу прадстаўнікоў беларускага народа, які адбыўся 18 студзеня 1942 года ў Казані. Згадваючы шлях, пройдзены беларускім народам, Купала гаварыў у гэтай прамове: «Героі, вядомыя нам і невядомыя, з пакалення ў пакаленне пракладвалі нам шлях да сонца і зорак. У цяжкія хвіліны нашага жыцця мы мужна пераносілі бяду і гора, але не згіналі пакорна плечы...»

У той час, калі Янка Купала жыў у Печышчах, казанскія паліграфісты выдалі славуты верш Янкі Купалы «Беларускім партызанам». Гэта невялікая блакітная лістоўка. Над вершам — чырвоная зорачка, па абодвух баках яе надпіс: «Чырвоным партызанам ад працоўных Татарыі...» Гэтую лістоўку — знак сардэчнай дружбы беларускага і татарскага народаў — Янка Купала бярог і захоўваў сярод сваіх кніг і рукапісаў. Гэтую лістоўку скідвалі з самалётаў, і вершы Купалы, якія абляцелі ўсю акупаваную Беларусь, пераходзілі з вуснаў у вусны, іх перапісвалі ад рукі, расклейвалі на платах і ствалах дрэў:

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны,
За няволю, за кайданы
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны!

Усё гэта мне прыгадалася ў пакоі Янкі Купалы. Але мяне цікавілі і падрабязнасці яго побыту, людзі, з якімі ён сустракаўся.

І вось знаёмлюся з Аляксеем Іванавічам Масленнікавым і з Кузьмом Аляксеевічам Антонавым. Кузьму Аляксеевіча ўсе тут завуць проста дзядзькам Кузем. Ён добра памятае свае сустрэчы з Янкам Купалам. Толькі заве ён яго па-жыцейску Іванам Дамінікавічам. Дзядзьку Кузю часта даводзілася бачыцца з паэтам і таксама па самых звычайных будзённых справах. Гэта ж у лазню дзядзькі Кузі, звычайную сялянскую лазню, любіў хадзіць Іван Дамінікавіч з добрым бярозавым венікам.

— Цяжкі тады быў час,— гаворыць Кузьма Аляксеевіч.— Самі разумееце, накont тытуню ці цукру тугавата было. Дык вось я і не помню выпадку, каб Іван Дамінікавіч, убачыўшы мяне, не запрасіў бы папіць у яго дома чайку, пазабаўляцца тытунём.

Аляксей Іванавіч Масленнікаў таксама з вялікай цеплынёй расказвае пра паэта. Ён жа раіць мне пазнаёміцца з Сагабам Салехутдзінавічам Салехутдзінавым, які працаваў тады галоўным тэхнолагам Печышчынскага млынзавода. Вось што расказаў Сагаб Салехутдзінавіч:

«Іван Дамінікавіч прыехаў да нас з жонкай у лістападзе 1941 года. Яму падабалася ў нас у Печышчах. Ён вельмі любіў рабочых, часта гутарыў з імі, захапляўся мужнасцю і працоўным геразмам простых людзей, якія ў той час працавалі па дванаццаць гадзін у суткі, добраахвотна адмовіўшыся ад выхадных дзён.

На заводзе працавалі тады пераважна жанчыны. Яны замянілі сваіх мужоў, братоў і сыноў, якія пайшлі на фронт абараняць Радзіму ад нападу фашыстаў. Нягледзячы на вялікія цяжкасці, завод паспяхова выконваў вытворчыя заданні. Іван Дамінікавіч часта прыходзіў да рабочых на сходы, гутарыў з імі. Я як зараз помню — гэта было ў канцы лютага 1942 года,— на мітынгу зачытвалася тэлеграма, у якой урад віншаваў калектыў завода з датэрміновым выкананнем плана двух месяцаў і дзякаваў рабочым за збор двухсот тысяч рублёў на пабудову танкавай калоны. У гэтай высакароднай справе Янка Купала прыняў самы актыўны ўдзел.

Неяк напачатку мая 1942 года ён запрасіў мяне ў гараж, дзе стаяў ягоны аўтамабіль.

— Я хачу, каб вы паглядзелі маю аўтамашыну,— сказаў мне паэт.

Як аматар шафёрскай справы, я хутка разабраўся ў непаладках матора, заліў радыятар вадою і запрасіў Івана Дамінікавіча сесці ў машыну. Ён здзівіўся, што я так хутка справіўся з рамонтам, і незвычайна ўзрадаваўся. Напэўна, ён вельмі любіў свой аўтамабіль. Пасля я даведаўся, што ён скалясіў на ім тысячы кіламетраў па нашай краіне.





На гэтым аўтамабілі мы пасля часта выязджалі на Волгу. Іван Дамінікавіч заўсёды прасіў, каб я спыніўся на ціхім месцы, адкуль добра бачна Казань. Гледзячы на горад, ён часта распытваў пра гістарычныя мясціны, пра яго мінулае і сённяшняе; сам расказваў пра Мінск, пра Палессе. Гэтыя сустрэчы запомніў я на ўсё жыццё».

...Дзякую Сагабу Салехутдзінавічу, потым іду на бераг Волгі, да высокага яру. Сюды, як гавораць, любіў прыходзіць Янка Купала і падоўгу думаць-марыць.

Аб чым былі яго думы? Магчыма, гледзячы на волжскія хвалі, ён згадваў берагі іншай ракі, берагі Нёмана, дзе шмат гадоў назад, у дні чорнай рэакцыі пасля першай рускай рэвалюцыі, ён упершыню сустрэў свайго сябра Якуба Коласа. Можа ён прыпамінаў тыя далёкія часы, калі яны разам бедавалі над горкай доляй селяніна, складалі песні, у якіх чуліся стогны і журботныя напевы беларускай жалейкі.

І тут, на берагах Волгі, тым напевам тады падпявалі пералівы курая, несамавітага інструмента, які выказваў свой боль і тугу па свабодзе. І тут да напеваў курая чуйна прыслухоўваўся паэт. Гэта быў Тукай.

Яны былі сучаснікамі — Янка Купала і Габдула Тукай. Яны не ведалі тады адзін аднаго, але ішлі адной дарогай. І юнацтва, поўнае нягод, у іх было наўздзіў падобнае, і першыя песні на рэдкасць сугучныя. І там, на Нёмане, і тут, на Волзе—паўсюль панавала адно гора — бяда народная. Ёю журыўся Тукай, працуючы над адным з першых сваіх твораў — вольным перакладам кальцоўскага верша «Што ты спіш, мужычок?» Тым жа пачуццём прасякнуты і верш Янкі Купалы «Мужык». Адным з першых у беларускай паэзіі апеў Янка Купала дружбу з вялікім рускім народам. Расію ён лічыў краем, адкуль узыдзе сонца свабоды. Пра свабодную Расію марыў і Тукай, і калі татарскія нацыяналісты спрабавалі завабіць татарскі народ у султанскую Турцыю, ён даў ім гнеўную водпаведзь:

Не пойдзем мы туды!
Пайсці не могуць гарады і рэкі!
Пражытыя стагоддзі
Будуць з намі тут навекі!
Тут свет мы ўбачылі,
Сустрэне кожны смерць, дзе рос.
Нас з рускаю зямлёй
Зрадніў навекі лёс.
Пачвары, прэч!
Вам мары не зацьміць святыя,
Адна ў нас мэта —
Бачыць вольнаю Расію.

Так, яны не ведалі адзін аднаго. Але іх здружыла горкаўская песня, якая смела і весела заклікала да рэвалюцыі. Знамянальна, што Горкі першым яшчэ ў 1907 годзе высока ацаніў верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?» Вялікі пісьменнік пераклаў яго, гэтым самым пазнаёміўшы рускага чытача з беларускім паэтам. Прыкладна ў той жа час па ініцыятыве Горкага на рускай мове ўпершыню друкуецца верш Габдулы Тукая. Так дзякуючы Горкаму беларускі і татарскі паэты сталі пабрацімамі ў вачах рускага народа.

І, магчыма, шмат гадоў пазней, седзячы на беразе Волгі пад Казанню, Янка Купала думаў пра лёс свайго татарскага сабрата, пра якога яшчэ нядаўна расказвалі яму пісьменнікі Хасан Туфан і Газі Кашаф пры сустрэчы ў Ерэване. А творы Габдулы Тукая Янка Купала добра ведаў і любіў.

Ішла вайна, і тут, у Печышчах, перажываючы падзеі на фронце, чытаючы пісьмы сяброў і сустракаючыся з мясцовымі жыхарамі, Янка Купала асабліва востра адчуў вялікую сілу братэрства народаў нашай краіны. Вядома, што ён сам расказваў пра гэта мастаку Елісееву. «Шпацыраваў я аднойчы па беразе Волгі,— апавядаў Купала,— іду, а насустрач мне прахожы, тутэйшы чалавек, татарын. Падышоў да мяне, пакланіўшыся, прывітаўся. Я прывітаў яго ў адказ і пайшоў. Іду назад, а ён зноў мне насустрач і зноў аддае паклон. Я спыніў яго і кажу: «Выбачайце, калі ласка, скажыце, дзе мы з вамі сустракаліся — не прыпомню штосьці». А ён гаворыць: «Мы з Вамі нідзе не сустракаліся, і Вы мяне не ведаеце, а я Вас пазнаў па партрэце ў нашай газеце. Вы — Янка Купала». «Так, кажу, я — Янка Купала». «Ну, вось, гаворыць, я не памыліўся і адразу пазнаў Вас, а аддаў паклон таму, што чытаў Вашы вершы і ў нас ёсць яны ў перакладзе на татарскую мову. Значыцца, Вы, я лічу, мой знаёмы, і як свайму знаёмаму, якога я вельмі паважаю, я і пакланіўся»...

Тое, што мае вершы перакладаюць на іншыя мовы, у тым ліку і на татарскую, гэта я ведаў, вядома, але што чытачы—татарын, і ўзбек, і армянін, і чуваш—лічаць мяне сваім асабістым знаёмым, гэта я неяк асабліва адчуў менавіта тады, на беразе Волгі. Мне яшчэ больш зразумелым стала, чаму сібірак і ўралец з такой упартасцю абараняюць маю Беларусь. З такой упартасцю ён абараняў бы сваю родную зямлю: уся савецкая краіна з'яўляецца для нас Радзімай, і кожны з нас пойдзе на любыя ахвяры, каб адстаяць яе кожны куток. У гэтым наша сіла і ўпэўненасць, што хутка я ўбачу сваю Беларусь свабоднай і квітнеючай, як раней...»

Гэты хвалюючы ўспамін паэта, пра які ён некалі расказаў мастаку, змусіў мяне

**прыгадаць татарскіх воінаў, што змагаліся за вызваленне Беларусі, радзімы Янкі Купалы. Іх было шмат, адважных патрыётаў. Сярод іх быў і малады татарскі паэт Закі Нуры. Ён ваяваў тады з акупантамі ў беларускіх лясах, будучы разведчыкам у брыгадзе Канстанціна Заслонава.**

**І нібы ў адказ на заклік Янкі Купалы да беларускіх партызанаў няшчадна граміць ворага, Закі Нуры пісаў у тым жа 1941 годзе:**

Зваліла дрэвы бураю,
Пабіла кветкі сцюжаю.
Ідзём са зброяй хмурыя —
Нягоды мы адужаем.
Баі, баі бясконцыя.
І страты — незваротныя.
Радзімы абаронцы мы,
Таму і несмяротныя...

**А ў другім вершы паэт запэўніваў:**

Адгрукоча, нібы навальніца,
Час адплаты, і мірны наш тол
Здрыгане і лясы, і крыніцы,
Абуджаючы ўсё навакол.

**Пра гэта ж самае марыў і пісаў Янка Купала ў суровы час вайны на берагах вялікай рускай ракі:**

Зірнуць зноў нашы ўвысь палацы...
Святочна прыбяруцца людзі.
Як красаваўся, красавацца
Чырвоны сцяг над намі будзе!

**І цяпер, праз трыццаць гадоў, на тым жа беразе, у пераклічцы двух паэтаў розных нацыянальнасцяў і розных пакаленняў мне адкрылася «сувязь часу», сувязь вялікіх традыцый, дружба народаў нашай краіны. Карэнні гэтых традыцый у далёкай мінуўшчыне, яны хораша квітнеюць сёння, у нашы дні, ім наканавана даваць ураджай і ў будучым... Яны вечныя і несмяротныя, як і несмяротныя народы.**

**...Познім вечарам на апошнім цеплаходзе я пакідаў Печышчы. Сонца схавалася за небакраем, над вадою гусцеў змрок. У такі час у прыродзе ўсё маўчыць, нібыта перад сном. Але музыка, цудоўная музыка Чайкоўскага, якая з ранку падаравала мне цудоўны настрой, здавалася, усё яшчэ гучыць над неаглядпай шырынёй Волгі.**

**І ва ўнісон яе ўрачыстым акордам нараджаліся словы звароту да паэта: «Натхнёны і мудры, ты ведаў, што ў служэнні народу — сэнс жыцця. Такое жыццё не забудуць удзячныя нашчадкі. Мы помнім пра гэта. Тваё слова жыве сярод нас. І за ўсё гэта рахмат — дзякуй і нізкі паклон табе, Янка Купала,— вялікі чалавек і паэт, слаўны пясняр беларускага народа!»**

**г. Казань.**

**Ільдус АХУНЗЯНАЎ.**

# НАСТАЎНІК

Успамінаючы самае ранняе дзяцінства, я не магу ўявіць сабе з'явы майго жыцця ў нейкай стройнай паслядоўнасці. Паўстаюць у памяці паасобныя абразкі, ярка, выпукла.

Вось адзін з першых, яшчэ не вельмі выразных успамінаў. Шырока льецца вада ля парога дома і праз парог. Дрэвы ў вадзе. На ўзгорках каля дрэў туляцца сарны, іх шмат. Алені бегаюць па вадзе, іх толькі два. Бацькі выносяць усе рэчы на другі паверх вялізнага старога палаца, дзе на гарышчы гучна крычалі совы і пішчалі, нячутна лятаючы, нетапыры. Гэта паводка на Іслачы ў Звярынцы, дзе працаваў мой бацька аб'ездчыкам у графа Тышкевіча. Тады я была зусім малая.

Другі, больш выразны ўспамін — гэта сасновы бор, які пачынаўся адразу за нашым домам. Маці пагнала карову да статку, а я пабегла за ёй. Яшчэ не ўзыходзіла сонца, і мне было трошкі страшна бегчы адной па высокім насыпе, на якім ляга дарога ў лес. Абапал насыпу стаялі дрэвы. Злева цягнулася балота, там раслі дрэвы дробныя і было шмат моху, на якім рассцілаўся журавіннік — дробненькія лісточкі на тоненькіх, як ніточкі, сцяблінках. Справа стаялі высокія чырванастволыя сосны з шырокімі густазялёнымі вяршалінамі. І раптам стрэліў першы прамень сонца, асвятліўшы гэтыя вяршаліны. Я аслупянела, зачараваная цудоўным відовішчам: на вяршалінах усімі колерамі вясёлкі загарэлася густая раса. Шырокія палотны павуціння, развешаныя на дрэвах, зіхацелі і пераліваліся казачнымі ўзорамі. Гэты незабыўны вобраз роднай прыроды глыбока запаў мне ў памяць. Я і сёння ўяўлю яго сабе ва ўсіх найдрабнейшых дэталях. Было гэта ў Барсуковіне, куды перавялі майго бацьку на больш аб'езд.

І ўжо зусім выразна помню Сугвазды — маленькі домік ля садку з разваленым плотам і каламутнай сажалкай з карасямі. І наводдаль вёска, дзе была школа, куды я пайшла ў першую восень. У садку раслі яблыні, грушы, слівы. Было вельмі цікава раніцой па халоднай расе выбегчы босай у сад падбіраць падалікі, збіраць сыраежкі, якіх там было шмат.

У школе я адчувала сябе добра. Але ўразіў мяне першы экзамен. Я добра ўмела пісаць, чытала таксама. Настаўніца паслухала, як я чытаю. Потым дала мне аловак і сказала: «Напішы два словы — «агонь гарыт». Я так і напісала. А калі яна падкрэсліла памылкі, я заплакала. Я ж напісала так, як яна гаварыла! Настаўніца засмяялася. «Не думай,— сказала яна,— што ты ўсё ўмееш. Дзеля таго, каб шмат ведаць, трэба многа і доўга вучыцца, а ты яшчэ зусім малая». Так скончылася маё бесклапотнае дзяцінства. Школа была не блізка. Зімой намятала снегу, і мы груззлі ў гурбах, дабіраючыся да школы.

Мы ўсе — Стася, я, Эдзік, Іна і Віця (мае сёстры і браты) — вельмі любілі чытаць кнігі. Бацька, заўважыўшы гэта, стараўся даставаць кнігі. Ён выпісваў дзіцячую літаратуру з Вільні, браў кніжкі ў суседзяў, купляў, дзе толькі мог. Мы чыталі шмат. Аднойчы ён прынёс беларускую газету «Наша ніва». Там былі надрукаваны вершы Якуба Коласа і Янкі Купалы. Нам яны вельмі спадабаліся. Помню, як мы чыталі і перачытвалі іх без канца. І неяк прыйшло нам у галаву самім напісаць вершы. Было гэта ў 1909 годзе. Я напісала верш «Лес». Кароценькі, вельмі просты вершык:

Ой ты, лес зялёны,
Чаго ты шуміш,
Ці жыць табе трудна,
Чаму не маўчыш?
Ці якое гора
Усё цябе гняціць,
Ці якая пошасць
Над табой вісіць?
Ой, то і не пошасць,
Не цяжар то дум,
Бура мне наводзіць
Гэты страшны шум.
Страшыць мяне бура,
Што ідзе здалёк
І вярхі сасонак
Сцеле ўпапярок.

Эдзік параіў паслаць гэты верш у «Нашу ніву». Але я помніла свой няўдалы дэбют у школе і сказала, што пасылаць баюся. Эдзік падахвоціўся зрабіць гэта сам і падпісаў верш: «Э. Буйла». І якое ж было наша здзіўленне, калі рэдакцыя прыслала «Нашу ніву» з надрукаваным вершам. Я напісала яшчэ некалькі вершаў, яны змяшчаліся ў газеце, а рэдакцыя пачала прысылаць нам газету рэгулярна. Потым я стала пісаць шмат вершаў, якія часта друкаваліся ва ўсіх часопісах, што выходзілі на беларускай мове ў Вільні і ў Пецярбургзе.

У Вішневе жыла маці Уладзіславы Францаўны Луцэвіч, тады яшчэ Уладзі Станкевічанкі. Я пазнаёмілася з Эміліяй Станкевіч яшчэ дзяўчынкай. Мы моцна здружыліся — малая дзяўчынка і ўжо старэючая жанчына. Яна давала мне кніжкі, а потым стала маёй настаўніцай. Я штодзень прыходзіла да яе на заняткі пасля школы, і яна больш дапамагала мне ў вучэнні, чым найлепшая школа. Яна была вопытным педагогам і, апрача школьнай праграмы, вучыла чытаць і пісаць па-французску. У яе доме я і сустрэлася з Уладзяй. Між намі завязалася такая сардэчная дружба, што яе нам хапіла на ўсё жыццё, да самай смерці Уладзі.

Кім была для мяне Уладка, нават нельга акрэсліць: яна была і шчырай, сардэчнай сяброўкай, і клапатлівай, добрай, патрабавальнай сястрой, і любячай маці. Я ў яе адчувала сябе лепей, як дома, яна давала мне парады ў самыя цяжкія хвіліны жыцця, заўсёды была са мной.

І тады, калі я імкнулася да самастойнага жыцця, ведаючы, як цяжка бацьку забяспечыць усім неабходным вялікую сям'ю, Уладка забрала мяне да сябе ў Вільню, дзялілася са мной апошнім кавалкам, пакуль я не знайшла работы ў тым жа дзіцячым доме, дзе працавала і яна. У Вільні я паступіла на настаўніцкія курсы, пазнаёмілася з Купалам, Бядулем, Коласам і іншымі беларускімі пісьменнікамі. Адбылося гэта надта ўрачыста. Калі я першы раз з Уладкай прыйшла ў рэдакцыю «Нашай нівы», мяне абступілі ўсе прысутныя, вельмі ветліва знаёміліся, размаўлялі. Над сталом рэдактара была шырокая паліца, раздзеленая на квадратныя гнёзды, у якіх ляжалі папкі з рукапісамі вершаў розных аўтараў. Была там і мая папка, і папка Янкі Купалы. У ёй, на самым версе, ляжала эпіграма М. Багдановіча, які прыязджаў у Вільню якраз тады, калі там не было Янкі, і пакінуў у яго папцы свой сяброўскі экспромт.

Я Купала — не малое,
Ды благое, наравістае дзіця.

Трэба, каб яго давесці да пуцця,
Паліваць часцей халоднаю вадою.
М. Багдановіч.

Мы ўсе смяяліся з такога дасціпнага жарту; у гэты час нехта ззаду, узяўшы мяне за плечы, павярнуў да сябе. Я ўбачыла даволі высокага, сталага хлопца з сінімі вачыма, задумлівага і сур'ёзнага. «Ты, мусіць, Буйлянка,— лагодна сказаў ён.— Ну, а я — Купала, дык давай знаёміцца». І ён паважна пакланіўся. Яшчэ да знаемства Я. Купала прысвяціў мне свой верш «Мая думка» (1910 г.), які пачынаўся цудоўнымі радкамі:

Як вецер, як птушка, дзе сонца, дзе зоры,
Так рвецца, нясецца ўдаль думка мая...

Помню, прыехаўшы ў Вільню, калі ўсе знаёмыя былі на дачах, мне давялося заначаваць у рэдакцыі. Я. Купала, які ў гэты час працаваў у рэдакцыі, прынёс сшытак з рукапісам камедыі «Паўлінка», і мы чыталі яе цэлы вечар. Крыху пазней (працавала я тады настаўніцай у вёсцы Чаўшклі) Я. Купала напісаў мне, каб я прыслала ўсе вершы, якія ў мяне ёсць. З вялікім захапленнем працавала я над зборнікам, па частках адсылаючы творы Я. Купалу, які быў рэдактарам кніжкі. Часта прысылаў ён мне лісты, прасіў даць больш вершаў, каб кніжка «была найтаўсцейшая». Раіўся, як размясціць творы, быў задаволены назвай «Курганная кветка». Пісаў, што працуе над маёй кніжкай з такім жа замілаваннем, як над сваёй. Гэта акрыляла мяне, памагала пісаць. Я. Купала ставіўся так да ўсіх паэтаў, якія працавалі пад яго кіраўніцтвам. А ён ужо тады быў вялікім майстрам слова. Вельмі асцярожна, умела папраўляў ён рукапісы, каб не сцерці індывідуальнага стылю аўтара. У гэтым можна пераканацца па чарнавіках «Курганнай кветкі». Памятаю, ён пісаў у сваёй аўтабіяграфіі, што яму, вядома, даводзілася папраўляць рукапісы, але некаторых аўтараў (сярод іх была і я) амаль не папраўляў зусім.

Прыгадваецца такі выпадак. Я. Купала і З. Бядуля працавалі ў рэдакцыі над рукапісамі, калі я прыйшла туды з кніжкай «Абразкі», якая мне вельмі спадабалася. З. Бядуля адарваўся ад рукапісаў і пачаў чытаць урыўкі са сваіх імпрэсій. «Не бяжы за кветкай сіненькай, што на дрыгве расце...» — пранікнёна дэкламаваў ён. Іскрыстыя, маркотныя вобразы, надзвычай паэтычная мова ў майстэрскай чытцы З. Бядулі ўсхвалявалі мяне да слёз. Я горача паціснула яму руку і запыталася: «Слухай, Змітрок, што адчуваў ты, калі пісаў гэтыя цудоўныя абразкі?» Але чулая душа Бядулі ўжо схавала свае рожкі ў шкарлупку, і ён гарэзліва адказаў: «А ў мяне тады балеў жывот!» Адказ яго абражаў самае святое пачуццё павагі да мастацтва, і я стукнула рукой па кучаравай галаве Змітрака. Я. Купала сардэчна смяяўся, а Змітрок, каб улагодзіць мяне, тут жа сеў пісаць прысвячэнне мне на тытульным лісце сваіх «Абразкоў». Перадаю гэты надпіс па памяці, бо ні кніжка, ні надпіс, на жаль, не захаваліся.



**Янка Купала. 1919 год.**

«Задумаў бог стварыць беларускіх пісьменнікаў К. Буйлу і З. Бядулю. Дзеля гэтага ўзяў ён жменьку зямлі, трошкі крыві звярынай, пасмачку сонечных праменняў і частку свайго вялікага духу. Але, здурнеўшы ад старасці, бог не змяшаў усёй гэтай субстанцыі разам і стварыў К. Буйлу толькі з праменьчыкаў сонца і свайго вялікага духу, а З. Бядулю — толькі з зямлі і крыві звярынай. Пагледзеў бог на гэтых цацак, пачухаў патыліцу. «Разам густа, разам пуста»,— мармытаў ён, нездаволены, і не ведаў, што рабіць. Ён са злосцю штурхануў К. Буйлу. Тая, будучы вельмі лёгкай, адскочыла ўбок, замахала рукамі і замалола языком. Такой яна засталася і па сённяшні дзень. Штурхануў бог і З. Бядулю, ды так, што ў таго вочы палезлі на лоб і ад крыўды надуліся губы. Такім ён і застаўся назаўсёды. Паклікаў бог анёлаў на раду: «Што рабіць з гэтымі няўдалымі істотамі?». «Трэба іх пажаніць,— раілі анёлы,— тады ўсё перамяшаецца і добра будзе». Бог пакалупаўся ў барадзе, не ведаючы, што рабіць, а чэрці лопаліся ад смеху».

Цётка і Я. Купала ўгаварылі мяне паехаць у Полацк, заняцца асветнай працай сярод беларускай моладзі. Чамусьці гэта разглядалася, як нейкі подзвіг. Помню, калі я згадзілася, парывістая Цётка схапіла маю руку і пацалавала яе. Паехала я ў Полацк. Працавала ў беларускай кнігарні. Вакол мяне сабраўся гурток моладзі. Мы чыталі кнігі, рабілі рэфераты. Матэрыяльныя сродкі на гэтую работу даваў продаж кніг, якія мне прысылалі з Вільні.

З дзён дзяцінства да старасці год
Нас гарачая дружба з'яднала.
І у шчасці і ў суме нягод
У твой дом я прыходжу — Купала!
Дом твой быў мне адкрыты заўжды,
Ты спрыяў мне з пачуццем глыбокім,
Мо таму — што на шлях твой шырокі
Я драбнюткія клала сляды...
Як вясёлкі яскравай дуга,
У паэзіі шлях твой адзначан,
Ну — а побач ступала нага
Маей скромнае музы дзіцячай...
Яе мары ты сціпла зьбярог
У букецiку «Кветкі курганнай»...
Бляск пялёсткаў у росах духмяных
Ты заўважыў, цвісці ім памог...
Дні прайшлі... Прамінулі гады,
Сівізна маю скронь заснавала...
Ты ж душы маёй блізкі заўжды,
Шчыры дружа мой, Янка Купала.

**Канстанцыя БУЙЛО.**



# Ад «Паўлінкі»...

*НЕЗАБЫЎНЫЯ СУСТРЭЧЫ*

Я гляджу на невялікі бюст Янкі Купалы, што стаіць на маім пісьмовым стале, углядаюся ў тонкія, вельмі знаёмыя, інтэлігентныя рысы яго твару. Ажываюць успаміны аб сустрэчах з Іванам Дамінікавічам, вялікім паэтам нашай сучаснасці, на дзіва простым, даступным і прывабным чалавекам. З кожным успамінам аб ім усё шырэй раскрываецца свет яго душы.

Вось, абапіраючыся на свой славуты кіёк з манаграмамі, Купала самавіта ўваходзіць у «Беларускую хатку» і садзіцца за доўгі стол у бібліятэцы-чытальні. Адразу ж каля яго збіраюцца людзі, закіпае жвавая гутарка.

Паэт Андрэй Александровіч, які пачынаў свой шлях у хоры Тэраўскага ў «Хатцы», так апісвае свае ўражанні ад сустрэчы з Янкам Купалам:

«Было гэта ў 1919 годзе. Першыя дні стварэння Беларускай ССР. На грудзях у публікі і харыстаў ірдзелі чырвоныя стужкі, значкі з сярпом і молатам. Настрой узняты, урачысты. Раптам пранеслася чутка:

— Прыйшоў Янка Купала!

У зале доўга не сціхалі воплескі. Радасць сустрэчы з родным песняром надала вечару яшчэ большую святочнасць.

Праціснуўшыся праз натоўп, які шчыльна абкружаў Купалу, я ўбачыў любімага паэта. На ім была белая сарочка, гальштук цёмна-чырвонага колеру, адкрыты суконны фрэнч з чатырма нашытымі зверху кішэнямі, штаны галіфэ, а замест ботаў — жоўтыя крагі і чорныя чаравікі з шнуркамі.

Я быў вельмі здзіўлены, што Янка Купала гаварыў з людзьмі як зусім просты чалавек, што, вітаючыся са сваімі знаёмымі, паціскаючы іх рукі, пачціва схіляў галаву.

Я адчуў нават нейкае расчараванне.

Мне, падлетку, здавалася, што той, хто стварае такія цудоўныя творы, у каго словы складаюцца так трапна і прыгожа, не павінен быць падобны да простых людзей. А перада мной быў просты, звычайны чалавек. Я тады яшчэ не разумеў, што ў гэтага простага, сціплага чалавека такое вялікае незвычайнае сэрца».

●

Купала быў часты госць у «Беларускай хатцы», і не толькі таму, што там у тыя часы ішлі яго п'есы. Ён любіў калектыў акцёраў, сябраваў з іх мастацкім кіраўніком Фларыянам Ждановичам, з Уладзіславам Галубком, Уладзімірам Тэраўскім, Усеваладам Фальскім — старшынёю «Хаткі». Вядомую салістку хора Алесю Александровіч называў сваёй дачкой. З Купалам заўсёды прыходзіла яго жонка Уладзіслава Францаўна — «цётка Уладзя», якая мела і сваю вядомасць у Мінску, бо кіравала выхаваннем дашкольнікаў у Наркамасвеце. Яна, да таго ж, апрацоўвала для дзяцей народныя песні, казкі, стварала сцэнарыі розных дзіцячых гульняў і карагодаў. У часопісе для дзяцей «Зоркі», які рэдагаваў Змітрок Бядуля, Уладзіслава Луцэвіч змяшчала літаратурныя матэрыялы, якімі карысталася дзіцячая самадзейнасць. Па яе просьбе Змітрок Бядуля і Міхась

Чарот напісалі п'ескі для дзяцей, якія былі пастаўлены на сцэне «Беларускай хаткі» і мелі трывалы поспех у камароўскай дзятвы.

Вакол «Хаткі» ў той час групаваліся аматары тэатральнага мастацтва, якія пазней сталі шырокавядомымі ў народзе прафесіяналамі. Сярод іх — Антук Крыніца, Лідзія Ржэцкая, Аляксандр Ільінскі, Стэфанія Станюта, Генрых Грыгоніс, Кацярына Міронава, Канстанцін Саннікаў, Мікола Міцкевіч.

Не кажучы пра Янку Купалу, які быў «хросным бацькам» «Хаткі», у ёй вельмі часта можна было сустрэць і Якуба Коласа. Яго п'еса «Антось Лата» ішла на сцэне «Хаткі». Змітрок Бядуля, Цішка Гартны, Міхась Чарот у тыя гады зараджэння беларускага савецкага тэатральнага мастацтва прымалі самы жывы ўдзел у рабоце гэтага гасціннага і ўтульнага клуба.

Пасля вызвалення Мінска ад белапольскай акупацыі ў лепшым тэатральным будынку ў цэнтры горада быў адкрыты Першы дзяржаўны тэатр рэспублікі. З першых дзён адкрыцця і на працягу многіх гадоў Купала быў адданым сябрам гэтага тэатра і яго шэфам, а ў часе работы над яго п'есамі праседжваў тут цэлымі днямі, горача абмяркоўваючы праведзеную рэпетыцыю альбо прэм'еру. Купала лічыў Першы тэатр сваім родным домам і ў яго стварэнні браў самы жывы ўдзел разам з даўнімі сваімі сябрамі Фларыянам Ждановічам, Уладзімірам Тэраўскім, першым дырэктарам тэатра драматургам Алесем Ляжневічам.

Успамінаецца: ...Гарацць газоўкі. Электрычнасць дадуць толькі вечарам, на спектакль. На сцэне людна — ідзе рэпетыцыя другога акта «Паўлінкі». Апрача штатных, запрошаны статысты з клуба, з самадзейнасці — вечарынка ў Крыніцкіх павінна быць, як на вялікай сцэне. Паўлінка — Ліда Навахацкая, зухаватая дзяўчына, пяе, танцуе, здзекуецца з фанабэрлівага пана Быкоўскага — Фларыяна Ждановіча. Крыніцкі — Антук Крыніца стараецца ўлагодзіць іх: трэба ж дачку неяк замуж выдаць. Сусед Пустарэвіч — Генрых Грыгоніс — пасмейваецца з аднаго і другога, у яго — свой розум ёсць спрытны.

Гоман, песні, танцы, пагулянка выходзіць адмысловая.

...Зала палае агнямі — прэм'ера «Паўлінкі» на вялікай сцэне. Гледачоў поўна, рыпяць крэслы — людзі сядзяць па двое. У цэнтральнай, былой губернатарскай, ложы, абабітай малінавым аксамітам,— аўтар камедыі Янка Купала. Жонку, цёцю Уладзю, пасадзіў наперадзе, а сам з-за яе плячэй прыглядаецца да публікі.

Гледачы спачувалі прывабнай Паўлінцы, ад душы смяяліся з фанабэрлівай пыхі Быкоўскага, апладзіравалі Пустарэвічу за яго трапныя жарты. У канцы спектакля наладзілі авацыю, выклікалі аўтара, але Купала не выйшаў.

Пасля спектакля, па дарозе дадому, ён гаварыў:

— Я ж не акцёр, што мушу выходзіць на апладысменты...

Мяркуючы па настроі, Купала быў задаволены пастаноўкай. Ён лёгка ступаў у палатняных, на вяровачных падэшвах, чаравіках, памахваючы тонкім прыгожым кійком з манаграмамі. Кожны яго блізкі сябар прыбіваў на гэты кіёк сваю срэбную памятку-манаграму: гэта было ў модзе, таксама, як і шырокі пояс з металічнымі спражкамі і нашытымі скуранымі кішэнькамі для гадзінніка і цыгарыка. Пояс зграбна падбіраў у таліі парусінавыя штаны і часучовую кашулю пад сінім пінжаком.

Была сярэдзіна верасня. Мы ішлі па зялёнай зацішнай вуліцы (цяпер імя Янкі Купалы), і з усіх бакоў ад пахучых агародчыкаў курэў лёгкі водар.

Купала запрасіў усіх да сябе «на шклянку гарбаты».

Паглядзець спектакль прыехала многа сваякоў Купалы і цёці Уладзі, і, як водзіцца, не з пустымі рукамі. На стале з'явіліся і вэнджаныя кілбасы, і падсушаны сыр, і яечня са скваркамі, і гарачая бульба, і нават бутэлька польскай «вудкі выбаровай». Фларыян акуратна разліў усім па чарцы і крыху пакінуў у бутэльцы, як ён казаў, на пахмелле Янку. Купала запратэставаў:

— Разлівай да канца! Не за тое бацька сына біў, што піў, а за тое, што пахмяляўся!

Усе былі радасна ўзбуджаныя. Гаманілі, спявалі і — гаварылі, гаварылі, гаварылі... Ждановіч расказваў Купалу пра новую пастаноўку «Раскіданага гнязда», у якой не будзе ні містыкі, ні сімволікі, а Незнаёмы стане ўсім знаёмым. Усе пазнаюць у ім рэвалюцыянера, які прыйшоў падымаць сялян на барацьбу за волю.

У невялічкай зале было цесна. Я выбраў момант і ціха вышмыгнуў за дзверы, але ў сенцах наткнуўся на сабаку. Я спалохаўся і ўціснуўся ў кут. Дзверы з хаты адчыніліся, высвятліўшы сенцы, і Купала крыкнуў:

— Рэкс, на месца! Хто тут? Ты куды, хлопча?

— Хачу дахаты, пара і меру знаць.

— Як дахаты, калі на стале яшчэ талеркі не прыбраныя. Ты мне ўсіх гасцей да пары падымеш...

●

Была вясна дваццаць першага года. Не кідаючы «Хаткі», якую вельмі любіў, я адначасова, на разавых, працаваў акцёрам у Першым тэатры, у які неўзабаве перайшоў канчаткова, бо «Хатка» самаліквідавалася: там зрабілі манеж падшэфнаму каўэскадрону.







Янка Купала. 1923 год.

Ідучы красавіцкай раніцай у тэатр, я па дарозе зайшоў па Купалу (аб гэтым папрасіў мяне Фларыян Ждановіч). Ён хацеў, каб аўтар абавязкова быў на апошняй рэпетыцыі «Раскіданага гнязда».

Час быў ранні, але ў тэатры кіпела ўжо работа. У фае спяваў хор, настройваўся аркестр. Паўтараючы ролі, хадзілі заклапочаныя акцёры. На сцэне ўстанаўлівалі дэкарацыі, ішла манціроўка спектакля. Цыбаты, як гонкая сасна, з пышнай кронай даўгіх гамлетаўскіх валасоў над арліным носам хадзіў па сцэне мастак Марыкс, даваў каманду манціроўшчыкам. Ён часам спыняўся і, стоячы, як чапля на купіне, угледаўся ў хату Зяблікаў, ці ўсё ў ёй па-сапраўднаму, як на вёсцы. З яго прысмактанай люлькі курэў і бянтэжыў пажарнікаў сівы махорачны дым. Афармленне «Раскіданага гнязда» было дэбютам Марыкса ў Першым тэатры, і ён стараўся, каб было ўсё як належыць, тым больш, што на рэпетыцыю меўся прыйсці сам аўтар.

Купала ўвайшоў у партэр і падсеў да Канстанціна Елісеева. Елісееў наглядаў за сцэнай, рабіў сваім сябру Аскару заўвагі па афармленні — у яго ўжо быў пастановачны вопыт, у Першым тэатры ён аформіў не адзін спектакль.

Грымелі малаткі, стары машыніст сцэны Бубер абмацваў адкосы, каб упэўніцца, што дэкарацыі не паваляцца ў часе дзеі. Раскладаючы небагаты рэквізіт у Зябліковай хаце, бегаў шустры яшчэ на той час дзядзька Зелянкевіч, падганяючы сваю жонку, памочніцу, цётку Соню. Адным словам, ішла тая звыклая мітусня, якая красамоўна даводзіла, што прэм'ера блізка.

Купалу і яго даўняга сябра Канстанціна Елісеева акружылі акцёры, апранутыя і загрыміраваныя для генеральнай рэпетыцыі. Чуўся заўсёды гарэзлівы і вясёлы голас Грыгоніса, ужо добра вядомага і папулярнага ў Мінску першага коміка тэатра. Але ў «Раскіданым гняздзе» яму давялося іграць Лявона Зябліка. Рэжысёр запэўняў яго, што ад камічнага да трагічнага — адзін крок. Так яно і атрымалася. Грыгоніс вельмі драматычна раскрыў вобраз старога селяніна. Па авансцэне хадзіла заклапочаная Зоська — Ліда Ржэцкая, якая толькі што вярнулася з эвакуацыі і ўзялася за сваю ролю маладой гераіні, якую некалі іграла ў «Беларускай хатцы». У сваім парыку, з доўгай белай барадой, у шэрай світцы хадзіў, круцячы ручкі леры, Старац — Антук Крыніца. З самаробнай скрыпачкай круціласа ля яго зусім юная Ірына Ждановіч — яна выконвала ролю хлопчыка Данілкі. Хадзілі, абняўшыся, Паніч — Барыс Дольскі і Сымон — Кастусь Саннікаў. Хутка яны сыдуцца на сцэне ў непрымірымай варожасці, гатовыя раздзерці адзін аднаго на кавалкі, а пакуль што дружна размаўлялі пра нешта свае.

Купала моўчкі глядзеў на акцёраў, не жадаючы, як ён казаў, умешвацца не ў сваю справу і збіваць з тропу. Толькі запытаўся:

— А дзе ж Фларыян?

— Грыміруецца, зараз прыйдзе,— адказаў Антук Крыніца.

Фларыян Ждановіч выконваў ролю Незнаёмага, ён жа і рэжысіраваў спектакль.

У аснову «Раскіданага гнязда» Купала, як вядома, паклаў гісторыю яго дзеда, які арандаваў у памешчыка кавалак зямлі. Расшыраючы сваю гаспадарку, пераводзячы яе на капіталістычны лад, памешчык сагнаў з зямлі дзеда Купалы, разбурыў яго хату. Гэтае панскае самавольства і жорсткасць глыбока абурылі юнага Янку, тым больш, што суд, куды падаў скаргу дзед, несправядліва вырашыў справу на карысць памешчыка.

Купала добра ведаў, як адносіліся памешчыкі да арандатараў, бо і яго бацька Дамінік Луцэвіч арандаваў маёнтак у мінскага губернскага пісара Стэфана Дастаеўскага ў вёсцы Сенніца. Вялікае ўражанне на яго зрабіла таксама і самагубства іхняга суседа, беднага беззямельнага селяніна, які, каб пракарміць мнагадзетную сям'ю, арандаваў невялічкі кавалак зямлі ў памешчыка. Змучаны вечнай нястачай і голадам, селянін гэты не стрываў і павесіўся ў пуні. Калі пра гэта сказалі памешчыку, ён даў упраўляючаму тры рублі, каб... купіць вяроўку вісельніка — на шчасце...

Падзеі, якія адбываюцца ў п'есе «Раскіданае гняздо», абапіраюцца на жыццёвыя факты, аднак факты гэтыя маюць у аўтара шырокае мастацкае абагульненне. Нездарма царская цэнзура не дазволіла паказваць драму Купалы са сцэны. Яна ўбачыла свет толькі пасля рэвалюцыі. Першы яе паставіў Фларыян Ждановіч у «Беларускай хатцы».

Дзяржаўны тэатр рэспублікі меў непараўнальна большыя мажлівасці для пастаноўкі «Раскіданага гнязда», чым «Беларуская хатка». Ждановіч разам з драматургам вырашылі паказаць гісторыю сям'і Зяблікаў не як прыватны выпадак, а як сацыяльную драму беларускага сялянства. Мелася сцэнічна падкрэсліць выспяванне гневу народнага супроць панскага ўціску, падняць спектакль да ўзроўню народнай драмы, тым больш, што падзеі п'есы адбываюцца напярэдадні першай рускай рэвалюцыі 1905 года. Яе подых прыносіць на сцэну Незнаёмы. Хоць ён гаворыць з сялянамі алегарычнай мовай, але ўсе разумеюць, чаго ён да іх прыйшоў: каб арганізаваць сувязі з сялянамі, накіраваць іх стыхійны рух у рэчышча ўсенароднага паўстання. Такім чынам, спектакль павінен быў мець пэўную гістарычную аснову.

Цікава ўспомніць, што Незнаёмы ў «Беларускай хатцы», якога выконваў Фларыян Ждановіч, з'яўляўся на сцэну ў доўгім чорным паліто і шыракаполым капелюшы, з-пад якога напалову быў відзён нейкі таямнічы твар з доўгімі вусамі і вострым носам. Ён нагадваў народніка, які прыйшоў на вёску з асветніцкімі мэтамі, і быў цалкам у традыцыях паказу розных таямнічых асоб у тагачасных спектаклях. У Першым тэатры Незнаёмы выходзіў на сцэну ў звычайным чорным пінжаку, ботах з высокімі халявамі, у якія запраўлены штаны. У яго адкрыты твар гарадскога рабочага чалавека. Па ўсім адчувалася, што гэта рэвалюцыянер-прафесіянал, які прыйшоў у вёску заклікаць сялян да арганізаванай барацьбы з панамі і царскім самаўладствам, хоць і гаворыць ён асцярожна, намёкамі.

«Раскіданае гняздо» Купала ствараў у жорсткі час Сталыпінскай рэакцыі, лютай царскай цэнзуры, таму вобраз Незнаёмага быў напісаны той эзопаўскай мовай, якая, на думку Леніна, была неабходна ў літаратуры, калі яна хацела паказаць са сцэны рэвалюцыянера.

Не мяняючы нічога ў тэксце, Фларыян Ждановіч вельмі тонка і глыбока паказваў вобраз рэвалюцыянера, яго ўменне гаварыць з людзьмі, знаходзячы з імі агульную мову. Гледачу было зразумела, што толькі так можна размаўляць у абставінах паліцэйскага нагляду, шпіёнскага сыску. Сымон жа таксама не гаворыць адкрыта аб рэвалюцыйнай барацьбе з панамі, ён заклікае: «Трэба ладзіць косы і вілы да вялікай касьбы»...

Хоць у п'есе сялянскае абурэнне паказана ў яго стыхійных праявах, але праз вобразы Незнаёмага і Сымона глядач добра адчувае, адкуль сыплюцца іскры, якія распальваюць вялікае полымя, хто накіроўвае народны гнеў.

Не ўсяго, што мелася на мэце, удалося дасягнуць Першаму тэатру ў спектаклі «Раскіданае гняздо». Малы яшчэ быў сцэнічны вопыт акцёраў, яны не прывыклі глыбока разбірацца ў філасофскім змесце п'есы — рэпертуар тых часоў складаўся пераважна з меладрам ды вадэвіляў. Але ўсё ж работа над спектаклем «Раскіданае гняздо» разам з аўтрам п'есы падняла яго на новую мастацкую ступень і, што самае галоўнае, паказала тэатру шлях, па якім трэба ісці, каб ствараць сапраўднае, сучаснае, высокаідэйнае мастацтва.

Музыку да спектакля напісаў Уладзімір Тэраўскі. Былі ў ёй цудоўныя харалы, якія ў аркестры выконваў хор. Значную ролю мела асвятленне спектакля і многае іншае, што сведчыла аб новым, больш глыбокім, чым раней, падыходзе рэжысуры да пастаноўкі.

Спектакль пачынаўся з невялічкага музычнага ўступу, у якім гучала лера. На фоне гэтай народнай музыкі, круцячы ручку леры, падарожнік-старац гаварыў пра бяду, гора народнае, якое бачыў усюды, вандруючы па гарадах і вёсках з торбай. У яго словах была аднак вера, неабходнасць змагацца за лепшае жыццё.

На сцэну выходзіла знявечаная, знеслаўленая панічом Зоська, з'яўляўся прыбіты крыўдай Лявон. Ён прайграў справу ў судзе, дом будуць разбураць панскія гіцлі, а сям'ю высяляць. Бяда з усіх бакоў ахапіла Зяблікаў, уварвалася ў іх хату.

— Куды ж мы дзенемся? — пытаецца Марыля, лежачы на ложку.

— Нікуды! У чыстае поле!..— гаворыць знясілены крыўдай Лявон.

Глуха стукаюць сякеры, сыплецца пясок са столі на галовы Зяблікаў, нібы на іхнюю труну.

Панскія слугі разбіраюць хату. Усе паніклі. Толькі разумны і дужы Сымон не можа сцярпець гвалту, ён хапае сякеру, каб абараняць свой кут, сваю праўду. Самагубства бацькі яшчэ больш распаляе яго.

На папялішчы разбуранай хаты Сымон сустракаецца з Незнаёмым, слухае яго. Паступова разумее, куды, на які сход кліча гэты чалавек.

Падпаліўшы панскі маёнтак, Сымон разам з Зоськай ідзе ў людзі, каб змагацца за народную волю, за святую праўду, справядлівасць на зямлі.

Разам са старцам пацягнуліся з руінаў у свет і Марыля з дзецьмі. На сцэне засталася пустая разбураная хата, дзе некалі гарэў агеньчык, было змрочна, але ўтульна і цёпла, было жыццё.







Янка Купала, Платон Галавач і акадэмік Шчарбакоў у Харкаве ў 1935 годзе на адкрыцці помніка Тарасу Шаўчэнку.

Нягледзячы на цяжкую драму, якая ў ім раскрылася, спектакль «Раскіданае гняздо» гучаў аптымістычна і выклікаў бурную рэакцыю ў гледача, бо заклікаў да барацьбы і веры ў будучыню. Я помню, як зала на прэм'еры то заціхала ў нямым жаху, то пачынала шумець у гнеўным абурэнні. Трэба ўлічыць, што «Раскіданае гняздо» ішло ў першыя паслярэвалюцыйныя гады і гледачы былі наэлектрызаваны падзеямі толькі што перажытага. Здабытая ў барацьбе свабода напаўняла людзей пачуццём справядлівай перамогі над крыўдай, над спрадвечным ворагам — царызмам і пад'ярэмшчынай.

Фінал спектакля, у якім гучалі магутныя харалы Тэраўскага на словы Купалы «На вялікі сход! Па Бацькаўшчыну!!!», узрушваў эмоцыі гледача. Ярка бушуе полымя: Сымон падпаліў панскі маёнтак. На гэтым фоне з віламі і косамі ў руках прабягаюць узбуджаныя сяляне. Гэта рэвалюцыйнае пано выклікала такія апладысменты, якіх яшчэ не ведала глядзельная зала Першага тэатра. Усплёскі іх пераходзілі ў авацыі.

Спектакль «Раскіданае гняздо» доўга ішоў у Першым тэатры, яго глядзелі мінчане, мінскія госці, прыязджалі сяляне з навакольных вёсак. Ён стаў падзеяй у тэатральным жыцці рэспублікі.

●

З кожным годам наш тэатр усё шырэй разгортваў сваю творчую дзейнасць. Патрэбны былі свежыя сілы, і ў тэатр шырокай плынню пайшла моладзь. Яе неабходна было выхоўваць. Тэатральнага інстытута тады яшчэ не было. Вядомы ў Мінску драматург і рэжысёр Еўсцігней Афінагенавіч Міровіч і Фларыян Ждановіч знайшлі, як кажуць, агульную мову. Дагаварыліся, і Міровіч стаў на чале Першага тэатра. Фларыян Ждановіч, які паставіў усе п'есы Купалы, пазнаёміў новага мастацкага кіраўніка з Купалам, і з таго часу трохкутнік — Ждановіч, Міровіч, Купала — стаў мазгавым цэнтрам тэатра.

●

Аўтар многіх п'ес, якія ішлі на рускай сцэне, Міровіч зацікавіўся беларускім фальклорам, літаратурнай гісторыяй народа. У выніку з'явіліся яго п'есы: «Машэка», «Кастусь Каліноўскі», «Каваль-Ваявода», якія ён сам жа і паставіў на сцэне тэатра. «Машэка», першая яго п'еса на беларускай сцэне, мела вялікі поспех. Аўтара і рэжысёра, мастака Марыкса, Тэраўскага, акцёраў-выканаўцаў доўга не адпускалі са сцэны, выклікаючы гарачымі апладысментамі.

На другі дзень пасля прэм'еры «Машэкі» Купала зайшоў у тэатр. Ён яшчэ раз павіншаваў Міроша (так, разам з акцёрамі, называў Міровіча і Купала). Размова пайшла аб прэм'еры «Машэкі», якая Купалу вельмі спадабалася. Ігра Крыловіча ў ролі Машэкі яго проста захапіла. Купала, памятаю, сказаў тады, што вобраз народнага змагара і мсціўца, які стварыў Крыловіч, яму куды больш падабаецца, чым яго Машэка ў паэме «Магіла льва». «Там у мяне ён паказаны зверам-разбойнікам,— гаварыў Купала,— а ў вашым выкананні Машэка — рамантычны герой, гэта цікавей. Каб я пісаў паэму цяпер, то напісаў бы яе інакш. Можа знайду час — перараблю. Але не ведаю... Не люблю вяртацца да старога, а пісаў жа я яе дзесяць гадоў назад, калі гістарычныя даследаванні рабілі буржуазныя вучоныя. Міровіч хітрэйшы, ён пачакаў рэвалюцыі...»

Еўсцігнеей Афінагенавіч усміхнуўся і, крыху падумаўшы, адказаў:

— Я чытаў вашу паэму «Магіла льва», Іван Дамінікавіч, яна мяне натхніла на п'есу.

— Але вы зрабілі ўсё па-свойму, у вас нават імёны, апрача Машэкі, іншыя.

— Ну, вядома, драма ёсць драма,— адказаў Міровіч,— для сцэны патрэбны другія калізіі, тэатральныя. А Машэка — герой, ён мсціевец народны. Хоць і рабаваў купцоў і паноў на скрыжаванні гандлёвых шляхоў на Дняпры каля Магілёва, але здабытае аддаваў беднякам і стаяў за іх правы, таму і насыпалі яму курган. Але апошнюю сцэну будаваў па вашай канцэпцыі: Наталка помсціць Машэку за згубленае раскошнае жыццё з баярынам.

— Толькі ў мяне Машэка жыве,— заўважыў Купала,— у звычайнай бярлозе ў лясным гушчары, а ў вас там — цэлы падземны палац, з дыванамі ды свяцільнямі.

— На гэта мяне штурхнуў разбойны раманс, які я чуў ад аднаго спевака ў Піцеры,— адказаў Міровіч.— Валодзя,— да Крыловіча,— прынясі гітару, я вам праспяваю гэты раманс.

Міровіч, больш рэчытатывам, чым уголас, напеў нам раманс, у якім гаварылася аб тым, як разбойнік пакахаў прыгожую дзяўчыну і спакушаў яе, абяцаючы, што яна ў яго будзе спаць на залатым ложку, на дыванах з пахучых кветак і накрывацца пярынай з лебядзінага пуху.

Купала сябраваў з Міровічам, ён яму вельмі падабаўся і як творца, і як чалавек з вясёлым, жывым характарам, вельмі чалавечным і добразычлівым. Купала не раз нам гаварыў: «Вы знайшлі сабе сапраўднага кіраўніка. Фларыяну аднаму не ўправіцца, ды і ён больш акцёр, чым рэжысёр».

І сапраўды, маючы багаты вопыт работы ў петраградскіх тэатрах побач з выдатнымі майстрамі сцэны Давыдавым, Савінай, Варламавым, Стрэльскай, Міровіч добра засвоіў школу рускага рэалістычнага тэатра. Ён хацеў паставіць п'есу Купалы «Тутэйшыя», але яго не задавальняла тое, што ў цэнтры яе — галоўны герой — мешчанін і абывацель Мікіта Зносак, а не сучасны станоўчы вобраз. Купала спрачаўся, даводзіў Міровічу, што сімпатыі гледачоў будуць на баку Янкі Здольніка, аб якім нават Зносак гаворыць, што ад яго «бальшавіцкім духам пахне».

— Вось Янку Здольніка і трэба паставіць у цэнтры п'есы,— гаварыў Міровіч.— Пакуль што ён палітычна няпэўны, хоць і жыве ідэямі сацыяльнай рэвалюцыі, нацыянальнай свабоды. У той жа час Здольнік баіцца, што маладую беларускую рэспубліку могуць пакрыўдзіць больш моцныя сілы з Захаду і нават з Усходу.

Купала згаджаўся, што вобразы вучоных Заходняга і Усходняга крыху карыкатурныя, але, даводзіў ён, сатыра без мастацкага перабольшання адмоўнага не будзе сатырай.

Помню, Міровіч гаварыў нам, акцёрам: «Браточкі, я вельмі хачу паставіць купалаўскую камедыю. Я адчуваю палітычную мэту аўтара, яго жаданне не проста, а па-філасофску паказаць герояў нашай сучаснасці. Мне вельмі блізкі і жанр п'есы. Ён правільна назваў яе «трагічна смяшлівымі сцэнамі з жыцця». Гэта п'еса — сапраўдная драматургія, але ці дарэчы сёння яе палітычны гратэск...»

Жадаючы ўсё ж, каб «Тутэйшыя» пайшлі на нашай сцэне, я пазнаёміў з п'есай рэжысёра Папова. Ён быў запрошаны ў наш тэатр і паставіў ужо некалькі спектакляў: «Жорж Дандэн» Мальера, «Вясковы суддзя» Кальдэрона, «Эльга» Гаўптмана і свае п'есы «Ноеў каўчэг» і «Шамякін суд».

Вядомы рускі рэжысёр Мікалай Аляксандравіч Папоў, чалавек высокай тэатральнай культуры, зацікавіўся п'есай Купалы і паставіў яе ў нашым тэатры. Вось перада мною друкаваная праграмка сезона 1926—27 гадоў. У ёй пералічаны акцёры-выканаўцы, якія ўдзельнічалі ў першым паказе «Тутэйшых». Гэта: калежскі рэгістратар Мікіта Зносак — Генрых Грыгоніс, яго маці Ганула — Лёдзя Скржэндзіеўская, дачка Алёнка — Рыта Новік, настаўнік Янка Здольнік — Уладзімір Крыловіч, селянін Лявон Гарошка — Адам Цэрах, Насця Пабягунская — Кацярына Замешына, Усходні вучоны — Уладзімір Уладамірскі, Заходні — Сцяпан Мышко, спраўнік — Антук Крыніца, пан — Пятро Злотнікаў, немец — Эдуард Шапко, начальнік патруля — Барыс Платонаў, абарванец — Усевалад Былінскі.

Як бачыце, у «Тутэйшых» былі заняты лепшыя акцёры тэатра. Мастак Канстанцін Ціханаў зрабіў цікавыя дэкарацыі, якія вельмі вобразна і ярка паказвалі Мінск часоў





грамадзянскай вайны. Але рэжысёр строга акадэмічнага плана Папоў паставіў «Тутэйшых» у вельмі ўжо статычнай манеры, без пачуцця часу і сацыяльных эмоцый. Няяснасць і нават двухсэнсоўнасць трактоўкі вобразаў вучоных выклікалі непаразуменне, і спектакль не быў выпушчаны на шырокага гледача.

Купала хадзіў знешне спакойны, ён толькі папракаў сябе за тое, што не спыніў работу калектыву, калі і самому стала ясна, што з пастаноўкай не ўсё ў парадку. Жадаючы яго супакоіць і зноў наблізіць да тэатра, Міровіч узяў і паставіў «Паўлінку». Праўда, і тут узніклі спрэчкі. Міровіч прасіў Купалу, каб ён перарабіў канцоўку камедыі, дзе Паўлінка, пачуўшы пра арышт свайго любімага Якіма, траціць прытомнасць і пад заслону падае на падлогу. Ён гаварыў Купалу, што ў сітуацыі п'есы роспач Паўлінкі не зробіць сцэну драматычнай, а можа выклікаць непаразуменне і знізіць пад канец вясёлы тонус гледача, а гэта непажадана.

— Можа зрабіць эксперымент,— падказаў Ждановіч, які браў удзел у гутарцы,— паставіць трэці акт Аляхновіча...

— Што ты, Фларыян, гэты палітычны авантурыст хоць і быў спрактыкаваным драматургам, але і тут без авантуры не абышоўся! — усклікнуў Купала.

— Гэтага не трэба,— сказаў і Міровіч.— Мы паставім «Паўлінку» так, як яна напісана. Але ўсё ж тэатр — не грамафон, тут жывыя акцёры, і мы маем права на сваю трактоўку. Ды інакш яно і быць не можа. Акцёры не пячатка, не штамп. У жывым, творчым працэсе нараджаецца пачуццё псіхалагічнай праўды. Вядома, у кожнага на свой лад. Адным словам, паглядзіце...

Купала кіўнуў галавою: стаўце, як ведаеце, усё роўна глядач зразумее, што Якім Сарока і Паўлінка — людзі перадавыя і ўпартыя, яны свайго даб'юцца. У іх ёсць мары, ёсць будучыня. А Крыніцкі — чалавек цёмны, аднак не звер жа які-небудзь. Ён па-свойму любіць дачку і жадае ёй шчасця. Праўда, яго погляды на жыццё старыя. Яго дзяга больш смешыць, чым пужае Паўлінку, а ўпартасць выклікае яе супраціўленне.

Прэм'ера «Паўлінкі» адбылася на сцэне філіяла Першага тэатра ў памяшканні Чырвонай залы па вуліцы Карла Маркса. Камедыя ставілася і на сцэне летняга тэатра «Чырвоная зорка». Лёгкі драўляны будынак гэтага тэатра месціўся некалі на беразе ракі Свіслач, у старым ценістым садзе, паблізу ад цяперашняга цырка. Там было вельмі ўтульна і прыемна, асабліва ўлетку свежым вечаркам. Мінчане любілі гэты тэатр і часта яго наведвалі.

У «Паўлінцы» бралі ўдзел: Уладзімір Крыловіч — Сцяпан Крыніцкі, Генрых Грыгоніс — Пранцысь Пустарэвіч, Фларыян Ждановіч — пан Быкоўскі, Кацярына Міронава — Агата, Ліда Навахацкая — Паўлінка, Барыс Дольскі — Якім Сарока, Лёдзя Скржэндзіеўская — Альжбета.

У параўнанні з «Паўлінкай» Фларыяна Ждановіча пастаноўка Міровіча вызначалася больш глыбокім рэалістычным раскрыццём характараў, большай жыццёвай дакладнасцю. Гэта адчувалася не толькі ў выкананні роляў, але і ў дэкарацыях Марыкса, вопратках, якія адпавядалі побыту дробных фальваркоўцаў. Ва ўсім было пачуццё мяккага гумару пастаноўшчыка і акцёраў. Хоць Паўлінка, даведаўшыся пра арышт Якіма, разбівала аб падлогу бутэльку «гары» і нікла ў роспачы на руках маці, але Крыніцкі і дзядзька Пранцысь весела рагаталі — мауляў, адкупім. Агата, схапіўшы за каўнер пана Быкоўскага, вытрасала з яго душу, праклінаючы за зладзейскую спробу звесці з дому Паўлінку.

Наколькі помніцца, Купала быў задаволены спектаклем, ён віншаваў акцёраў, часта прыходзіў у «Чырвоную зорку», тым больш, што летні тэатр знаходзіўся недалёка ад яго дома.

Бег час. Калі выйшла ў свет паэма Купалы «Над ракой Арэсай», я неяк спытаў Івана Дамінікавіча, чаму б не напісаць яму п'есу аб тым, як мяняецца твар беларускай зямлі, як людзі ідуць на будоўлі. Ездзячы па Беларусі індустрыяльнай, ён назапасіў шмат матэрыялаў.

— Зводзіш? — са сваёй заўсёднай тонкай усмешкай запытаў Купала.— Ты ўжо аднойчы падвёў мяне, хлопча, тутэйшы ты баламут! — глянуў ён у мой бок.— Ну, добра, добра, не бянтэжся, памяркуем. Ідзем вось да мяне, Уладзя мачанне недзе гатуе, памачаем бліноў, пасядзім, пагаворым у садку...

Раптам не стала ні купалаўскай гасціннай хаціны на беразе Свіслачы, ні зямлі беларускай. Зламаўшы нашы пагранічныя слупы, руйнуючы ўсё на сваім шляху, фашысты рушылі праз Беларусь на Маскву. Жах агарнуў усё жывое.

Мы былі з тэатрам на гастролях у Адэсе. У горадзе дыміліся іскрыстыя фантаны. Над клумбамі выгіналіся пярэстыя вясёлкі. Вясёлыя прадаўшчыцы кветак каціці па прыморскім бульвары свае лёгкія двухколкі.

І раптам...

З боку станцыі Раздзельная, што каля Адэсы, пачуўся глухі гром, і з маўклівых да гэтага рэпрадуктараў раптам прагучэў устрывожаны голас:

— Вайна!..

Надрыўна, нейкім на дзіва непрыемным голасам, заенчылі трывожныя сірэны супрацьпаветранай абароны, забурчэлі зеніткі.

У нас, артыстаў Першага тэатра, стала вельмі цяжка на сэрцы: у Мінску засталіся нашы сем'і і блізкія. Першыя ж радыёзводкі абвясцілі свету аб тым, што сталіца Савецкай Беларусі падверглася цяжкаму налёту варожых бамбардзіроўшчыкаў.

Як ні дзіўна, а гастрольныя спектаклі ішлі пры поўнай зале. Артысты акуратна прыходзілі на работу. Улічыўшы свае эстрадныя мажлівасці, тэатр падрыхтаваў адпаведны рэпертуар і выязджаў у чырвонаармейскія лагеры, на вакзал — праводзіць байцоў на фронт. Жыццё ішло па-ваеннаму напружана. Тым часам з Масквы прыйшло распараджэнне — эвакуіравацца ў сталіцу.

У Адэсе мы пакінулі ўсю сваю тэатральную маёмасць і ў двух класных вагонах рушылі на поўнач. Ехалі паволі. Станцыі былі загрувашчаны эшалонамі бежанцаў. З усходу на захад ішлі воінскія эшалоны. Станцыі бамбілі, даводзілася падоўгу стаяць на раз'ездах, а то і на пуцях у полі.

На вялікіх вузлавых пунктах мы бегалі па бежанскіх эшалонах, пытаючыся, ці няма каго з Мінска. Нечаканай і проста неверагоднай была сустрэча Глебава са сваёй жонкай Надзеяй і дваімі дзецьмі на бранскім вакзале. Расхваляваная спатканнем, Надзя плакала і смяялася, запэўняючы нас, што была цвёрда ўпэўнена: мы выедзем з Адэсы на Маскву і не мінем Бранска. Сышоўшы з бежанскага эшалона, яна цярпліва чакала на бранскім вакзале і дачакалася, хоць мы маглі і праехаць міма. Глебаў бегаў па станцыі ў пошуках бежанцаў з Мінска. Нехта з чыгуначнікаў сказаў яму, што каля камеры захоўвання багажу сядзіць жанчына з двума дзецьмі з Беларусі.

Шчаслівую Надзею засыпалі пытаннямі пра Мінск, але яна мала што магла расказаць, яна толькі прайшла праз палаючы горад, вярнуўшыся з вёскі, дзе адпачывала са сваімі дзяўчынкамі Оляй і Галенай, чакаючы, калі тэатр вернецца з гастроляў. У цэнтр горада, дзе жылі Глебавы, ужо нельга было прайсці, ён гарэў. І Надзея ішла каля Свіслачы, дзе было не так горача. Яна бачыла, як гарэў дом Купалы, як чадзіла дымам магутная таполя, што адзінока ўзвышалася над купалаўскай хацінай.

Паветраны налёт выгнаў нас з Бранска. Да самай Масквы за намі следам ішоў вогненны шквал няспынных бамбёжак.

Масква сустрэла нас ваенным напружаннем, але нечаканай цішынёй. Нас памясцілі ў гасцініцы «Якар» («сталі на якар»). Камітэт па справах мастацтваў адразу ж даў нам пляцоўку для выступленняў у летнім тэатры «Эрмітаж». А мы самі ўжо наладзілі сувязі з воінскімі пунктамі процілаветранай абароны, са шпіталямі, сталі выступаць з канцэртамі ўсюды, дзе была ў гэтым патрэба.

Нас вельмі ўразіў спакой масквічоў, хоць па горадзе няспынна ішлі калоны добраахвотнікаў, наганялі смутак сірэны белых аўтамашын з чырвоным крыжам. Супакойвалі вялікія шэрыя аэрастаты, якія, нібы аблокі, віселі ў маскоўскім небе. Нам здавалася гэта надзейнай аховай ад варожых налётаў. І сапраўды, пакуль мы жылі ў Маскве, не было ніводнай бамбёжкі. Баі ішлі на захадзе краіны, дзе нашы войскі гераічна стрымлівалі шалёны націск фашыстаў, знішчаючы іх жывую сілу і тэхніку.

Дні ішлі, а ў армію з тэатра нікога не мабілізоўвалі, казалі, што ўрад вырашыў захаваць Першы Беларускі тэатр у поўным складзе, але дакладна аб гэтым у тыя першыя дні вайны яшчэ ніхто не ведаў.

У Маскве мы таксама не спынялі пошукаў сваіх, мінчан. Упэўнены, што я там абавязкова каго-небудзь сустрэну і ўжо напэўна тое-сёе пачую, я пайшоў у Саюз пісьменнікаў СССР. І не памыліўся. Па асфальтаванай дарожцы невялічкага скверыка перад белым домам з класічнымі калонамі ціха ішлі Янка Купала, цяжка абапіраючыся на свой славуты кiёк з манаграмамі, і мастак Канстанцін Елісееў з неразлучнай люлькай у зубах. Убачыўшы мяне, Купала спыніўся.

— Адкуль ты, хлопча? Няўжо з Мінска выбраўся?

— Не, мы з Адэсы. Былі там на гастролях.

— А-а, чуў, чуў. А я, браце, з Мінска...

— Раскажыце, Іван Дамінікавіч. Там жа ўсе мае засталіся. Усё, што любіў, бярог...

— Не ўбярог, значыць...— горка ўсміхнуўся Купала.— Усе мы не ўберагл і,— і цяжка апусціўся на лаўку.

Свяціла ліпеньскае сонца. На гарачым асфальце мітынгавалі вераб'і, па зялёным газоне бегалі дзеці. Было ціха і мірна. Цяжка было нават уявіць сабе, што ў гэты час недзе каля Смаленска грымяць баі, льецца кроў, гінуць людзі.

— Я адыходзіў з салдатамі,— гаварыў Купала, задыхаючыся ад хвалявання.— Яны былі злыя і непрымірымыя. Агрызаліся агнём сваіх аўтаматаў. Кідаліся на танкі — і гінулі самі, але падрывалі іх гранатамі.— Купала закурыў, задумаўся.— Бяда ў тым, што іх многа, вельмі многа, танкаў і самалётаў. Ад агню і бамбёжак чорнай стала зямля, чорным стала неба...— Купала падняўся з лаўкі і крыху пахадзіў па дарожцы, потым зноў сеў.— Мы з Уладзяй ехалі на машыне, я часта выходзіў на поле, ляжаў у белых рамонках, на маіх вачах яны чырванелі, наліваліся крывёю... Я чуў, як стагнала зямля... Недзе грукацелі танкі. На грудзях маіх ляжаў камень, цяжкі, як гора людское.— Купала зноў







**Янка Купала і Павел Малчанаў. 1936 год.**

падняўся. Яму, відаць, было цяжка сядзець нерухома. Ён паглядзеў на нас поўнымі слёз вачыма.

— Чаго вы маўчыце? Можа думаеце, што мы іх не паб'ём? Паб'ём! Дайце веры, паб'ём і дадому вернемся. Што нам, прывыкаць ваяваць хіба? Уся наша гісторыя — вайна! З кім толькі не даводзілася! Білі мы тэўтонаў, білі хана Койдана, і караля шведскага, і Напалеона французскага, і кайзера нямецкага. Нават шэльму гэтую, пана Пілсудскага!.. І Гітлера паб'ём, дальбог, паб'ём!

Купала гаварыў грозна, як пракурор. Яго заўсёды такі спакойны, задумлівы твар гарэў ад гневу і нянавісці.

— Калі фашыст увойдзе да нас у дом — ён абваліцца на яго галаву! Калі ён сарве яблык у нашым садзе — ён разарвецца ў яго руках гранатаю! Калі паплыве па нашых рэках — яны патопяць яго! Дайце веры!

Мы сядзелі моўчкі і слухалі, і ўсё больш і больш святлелі нашы душы.

— А што маеш тут рабіць у Маскве? — раптам запытаў мяне Купала.

— Што і ўсе. Я тут не адзін, тэатр тут. Кажуць, нас хутка эвакуіруюць на ўсход. Панамарэнка клапоціцца аб гэтым.

— Панамарэнка тут пра ўсіх нас дбае. А чаго сюды, у Саюз, прыйшоў? Мабыць, дапамогі прасіць?

— Ды не, Іван Дамінікавіч, якой дапамогі,— здзівіўся я.— Думаў, каго з нашых мінчан сустрэну. І вось не памыліўся.

— Ну, з мяне карысць малая. Я сам як стаю. А табе сёе-тое арганізую. Ідзем,— ухапіў ён мяне за руку.— Ты ж з поўдня, відаць, налегцы?

— Усё маё пры мне,— сказаў я разгублена.

— Ну вось бачыш. Ідзем, ідзем. Кастусь нас тут пачакае,— кіўнуў ён на Елісеева.— А мы пойдзем, заяву напішаш. Схаджу да кіраўніцтва. Хто цябе тут ведае. Паедзеш на край свету, зіма насунецца...

— Як?! — ускрыкнуў я ўсхвалявана.— Няўжо да зімы фашыстаў не выганім?

— Не, хлопча, не разлічвай.

(Купала па звычцы называў мяне «хлопча», не зважаючы на мае сівыя скроні).

Зусім нечакана мне далі досыць вялікую грашовую дапамогу, і я змог закупіць у Маскве ўсё неабходнае да зімы. (Як я ў лютыя сібірскія завірухі благаслаўляў Купалу і маскоўскіх таварышаў, ідучы па заснежаных вуліцах Томска, дзе мы ўсім тэатральным калектывам знайшлі бежанскі прытулак!)

Гнеў Купалы, яго паэзія ваенных гадоў, патрыятычныя вобразы партызанаў ажывалі ў нашых выступленнях перад рабочымі абаронных заводаў, калгаснікамі таежных глыбінь. Купала сваёй паэзіяй узнімаў настрой у людзей, што цярпелі нягоды ваеннага часу. Баявая паэзія Купалы была ў кожнай партызанскай кулі ў лясах Беларусі. Усё было на абарону Радзімы, на яе перамогу, і перамога прыйшла. Ды не было ўжо Янкі Купалы. Трагічны выпадак забраў яго жыццё. Імя вялікага песняра Беларусі стала сімвалам любві і адданасці народу.

Яшчэ ішла вайна пад Берлінам, а мы ўжо адкрылі свой першы мінскі сезон. Адкрылі чым? Ну, вядома, «Паўлінкай».

У вокны майго кутка свеціць яркае сонца. Я ўглядаюся ў маленькі хатні манумент Купалы, у яго бюст, і цёплыя думкі асвятляюць маю пасівелую ўжо душу.

Яўген РАМАНОВІЧ.

# КУПАЛА ПЕРАКЛАДАЕ НЯКРАСАВА

Някрасаўскую «музу помсты і журбы» можна з поўным правам назваць старэйшай сястрой купалаўскай лірыкі. Пад яе непасрэдным уплывам праходзіла станаўленне і развіццё літаратурнага таленту беларускага паэта. Многія з дарэвалюцыйных твораў Янкі Купалы пераклікаюцца з някрасаўскімі (паэмы «Зімой», «У піліпаўку», вершы «Зіма», «Над калыскай», «Град», «З песень мужычых», «Поле роднае», «Даўней і цяпер», «Мой пагляд і мэта», «Якія» і інш.).

М. Някрасава і Я. Купалу радніла блізкасць ідэйна-эстэтычных пазіцый. Беларускі паэт паспяхова развіваў багатыя традыцыі свайго літаратурнага папярэдніка. Што ж датычыць матываў, якія супадаюць у творчасці М. Някрасава і Я. Купалы, то ўсе яны «прапушчаны праз прызму купалаўскага паэтычнага ўспрыняцця і абвеяны своеасаблівасцю яго чароўнага таленту» (Я. Колас).

Я. Купала, як ніхто да яго, зблізіў беларускую паэзію з жыццём народа, адлюстраваў народны пункт гледжання на важнейшыя пытанні сваёй эпохі, падкрэсліў вастрыню непрымірымых класавых супярэчнасцяў. «Я ліру прысвяціў народу свайму»,— гаварыў М. Някрасаў. «Я аддаю сваю душу свайму няшчаснаму народу!» — гаворыць Купала ў вершы «Слугам алтарным».

Многае пераняў Я. Купала з рознабаковай і гнуткай паэтыкі М. Някрасава, якая, па словах М. Рыленкава, не мае сабе роўных у сусветнай паэзіі па рытмічным багацці і разнастайнасці выяўленчых сродкаў. Абапершыся на някрасаўскую паэтыку Купалу ў многім дапамаглі пераклады вершаў паэта-дэмакрата, якія былі зроблены ў пачатку літаратурнай дзейнасці. У 1905—1907 гадах Я. Купалам перакладзены шэраг песень з паэмы «Каму на Русі жыць добра» і вершы «Што ні год, памяншаюцца сілы...», «Агароднік», «Нязжатыя гоні» і інш. Творы, якія перакладаў Купала, невыпадкова спынілі на сабе яго ўвагу. У іх М. Някрасаў з бязлітаснай праўдай расказваў пра жахлівы лёс прыгнечанага мужыка, паказваў горкую долю сялянкі-маці, з болем пісаў пра зняважу чалавечай годнасці.

Наша крытыка адзначала, што, перакладаючы някрасаўскія творы, Я. Купала імкнуўся наблізіць някрасаўскія вершы да разумення беларускага селяніна. Купала знайшоў яркія вобразы і фарбы, каб перадаць на роднай мове тую страшэнную карціну голаду і адчаю абяздоленага селяніна, якую адлюстраваў М. Някрасаў у сваёй песні «Галодная». У адпаведнасці з арыгіналам беларускі паэт узмацніў асобныя дэталі твора:

С коры его
Распучило,
Тоска-беда
Измучила.
Темней лица
Стеклянного
Не видано
У пьяного.

У перакладзе:

Жыццё яму
Дакучыла,
Бяда яго
Замучыла.
Глядзіць вачмі
Слязлівымі,
Сапе грудзьмі
Удушлівымі.

З падобнай з'явай мы сустракаемся і ў іншых месцах перакладу. У М. Някрасава селянін «идет-пыхтит», у Я. Купалы— «ідзе, як цень». У арыгінале: «Прибрел туда, где рожь шумит», у перакладзе — «Прыйшоў, дзе шнур з жытцом стаіць». У М. Някрасава селянін «стоит, поет без голосу», у Я. Купалы — «І хрыпла так завыў, запеў».

Больш суровай і разам з тым больш мяккай зрабіў Я. Купала някрасаўскую песню галоднага мужыка. Зварот селяніна да поля, просьба да жыта вырасці хутчэй зроблены на дзіва пранікнёна і ўражліва:

Паспей бардзей,
Жытца зярно,
Я жду цябе
Даўно, даўно!

Неяк асабліва па-беларуску прагучала прызнанне селяніна ў тым, як ён прагоніць голад з новага ўраджаю:

Хоць бы з гару
Акраец з'ем
Ды й праснакоў
Адразу сем.

У М. Някрасава:

Ковригу съем
Гора горой,
Ватрушку съем
Со стол большой!

У перакладзе раскрылася не толькі любоў Я. Купалы да паэзіі М. Някрасава, але і глыбокае яе разуменне.

Я. Купала ўмеў удыхнуць жыццё ў пераклад, зрабіць так, каб не адчувалася, што верш перакладны. «О божа мой, глядзі, памрэ!» («Меньшой сынок, гляди умрет!»), «А солі той няма ані» («А соли нет, хотя бы щепоть!») — гэта прыклады перакладу песні «Соленая». Чуццём вялікага мастака ён улаўліваў і натхнёна перадаваў асаблівасці някрасаўскай манеры пісьма, не губляючы пры гэтым уласнай індывідуальнасці. Яго пераклады вызначаюцца майстэрствам і дасканаласцю.

Я. Купала імкнуўся не толькі да таго, каб някрасаўскія вершы натуральна загучалі на беларускай мове, але стараўся, каб яны адпавядалі беларускай рэчаіснасці, далучаў іх да з'яў жыцця беларусаў. Дастаткова звярнуцца да перакладаў вершаў «Нязжатыя гоні», «Агароднік», каб пераканацца, што Я. Купала адмаўляўся ад даслоўнай перадачы нават там, дзе без усялякіх змен лёгка можна было перадаць адпаведныя вобразы і радкі арыгінала. Аднак купалаўскія змены нельга назваць адвольнымі. Далучаючы творы М. Някрасава да беларускай рэчаіснасці, ён рабіў рускага паэта блізкім і родным беларускаму чытачу. І ў той жа час пераклады Купалы захавалі нацыянальныя асаблівасці арыгінала. Справа ў тым, што перакладчык канкрэтызаваў толькі асобныя дэталі, пакідаючы без змен агульны дух верша, яго атмасферу. Гэта была філігранная работа, якая патрабуе вялікага мастацтва і тонкага густу. Пераклады Я. Купалы заслужана «ўпісаліся» ў беларускую літаратуру, стаўшы яе састаўной часткай.

Да перакладаў Я. Купала адносіўся з вялікай адказнасцю і патрабавальнасцю. З перакладзеных ім някрасаўскіх твораў толькі «Агароднік» быў надрукаваны да рэвалюцыі, а астатнія не ўключаліся ў зборнікі паэта і з'явіліся ў друку ў савецкі час значна перапрацаваныя і ўдасканаленыя.

Я. Купала — першы перакладчык Някрасава на беларускую мову. У яго асобе някрасаўская паэзія набыла ўдумлівага, добрасумленнага і таленавітага тлумачальніка. Я. Купала закладваў асновы беларускай школы перакладчыкаў. Яго вялікая патрабавальнасць да сябе, творчыя адносіны да перакладчыцкай работы ў далейшым служылі дабратворным прыкладам для беларускіх паэтаў-перакладчыкаў.

Цімох ЛІЯКУМОВІЧ.

# ЗА РАДКАМІ АДНАГО ПІСЬМА

Лета 1913 года было асабліва плённым для Янкі Купалы. Ззаду засталіся гасцінны, хоць сыры і халодны Пецярбург, чатырохгадовыя курсы Чарняева, шумныя студэнцкія сходкі, неспакойнае гарадское жыццё. Нарэшце, у матчыных Акопах, на ўлонні роднай прыроды можна ўволю памарыць. Знаёмства з невядомымі яшчэ народнымі песнямі і казкамі, доўгія гутаркі з роднымі, сваякамі, навакольнымі сялянамі... Яны «падзараджалі» пісьменніцкую ўяву, давалі новыя тэмы для твораў, стваралі тую атмасферу адначасовага ўздыму думкі і пачуцця, што называецца натхненнем. Надта падабаліся беларускія песні ў выкананні Уладзі Станкевічанкі (пазней — Уладзіславы Францаўны Луцэвіч), якая прыехала на лета да свайго брата ў суседнюю вёсачку...

За адно толькі «акопаўскае лета» Янка Купала напісаў (або дапісаў) паэмы «Яна і я», «Магіла льва», «Бандароўна», драму



На Волзе.



Янка Купала ў маім сэрцы з самых ранніх дзіцячых гадоў. А прайшлі яны ў сям'і Купалы, майго роднага дзядзькі. Мне даводзілася бачыць паэта і за рабочым сталом, і ў час адпачынку, і тады, калі да яго заходзілі сябры і госці—настаўнікі і артысты, рабочыя і калгаснікі, камсамольцы і піянеры—людзі самых розных прафесій, самага рознага веку.

Успамінаючы пра Янку Купалу, простага абаяльнага чалавека і вялікага мастака, загарэўся я жаданнем паказаць яго такім, якім застаўся ён у маёй памяці.

Янка **РАМАНОЎСКІ.**



Хата, у якой нарадзіўся Купала.



У Пецярбурзе.

«Раскіданае гняздо», вадэвіль «Прымакі», шмат вершаў. Сапраўды цудадзейны час! Але надыходзіла восень. Трэба было недзе ўладкоўвацца на працу. На кароткі час паэт едзе зноў у Пецярбург, нават прыпісваецца на кватэры ў свайго пецярбургскага дабрадзея, беларусазнаўцы Б. І. Эпімаха-Шыпілы. Але кліча родны край, вабіць Вільня, дзе выдаецца «Наша ніва», дзе 1 ліпеня 1913 г. стваралася «Беларускае выдавецкае таварыства».

Звестак пра жыццё Купалы ў Вільні ў канцы 1913 г. захавалася вельмі мала. У самай поўнай і падрабязнай біяграфіі паэта толькі адным, ды і то ўскосным, фактарам даказваецца праца Янкі Купалы ў «Беларускім выдавецкім таварыстве»: «Аб тым, што ўжо ў лістападзе 1913 г. Купала працаваў у гэтым выдавецтве, ускосна сведчыць той факт, што верш «А ты, сіраціна, жыві», датаваны 6 лістапада 1913 г., быў напісаны паэтам на бланку гэтага таварыства» (Я. Шарахоўскі. Пясняр народных дум. Мінск, 1970). Залішне рызыкоўная здагадка, ці не так? Рызыкоўная, аднак, як мы пераконваемся, правільная.

У Дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва БССР захоўваецца дагэтуль не вядомае нашым купалазнаўцам пісьмо Янкі Купалы. Напісанае на бланку «Беларускага выдавецкага таварыства», яно не толькі дае, нарэшце, падставы катэгарычна гаварыць пра ўдзел Купалы ў рабоце гэтага Таварыства, але і паказвае пасаду, якую займаў там аўтар «Жалейкі». Пісьмо адрасавана вядомаму дзеячу беларускай культуры Браніславу Тарашкевічу (надпіс на канверце: «Его милости Клавдию Степан. Душевскому. СПетербург. В. О., 14-я линия, д. 21, кв. 16». З просьбай перадаць дзядзьку Б. Тарашкевічу):

**Дзядзька Тарас!**

**Што чуваць у Вас з беларускай граматыкай? Ці што-небудзь зрабілі ў гэтым напрамку? Калі маеце ўжо яе нарыс, то будзьце ласкавы прысланць нам яго, калі не, то будзьце такімі добрынькімі і спрытнымі ды як хутчэй гэта зрабіце. Просіць аб гэта Вас п. Іваноўскі, старшыня Беларускага Выдавецкага Таварыства ў Вільні. Граматыку Вашу хоча Таварыства выдаць і пусціць у свет у «назіданіе» маладому беларускаму пакаленню. Дык варушыцеся, дзядзька, і ў шапку не спіце. Чакаем хуткага ад Вас адказу. Шчыра Вам адданы**

**Сакратар Выдавецтва Ів. Луцэвіч.**
**Вільня, 4.IX. 1913 г.**

Такім чынам, пісьмо неабвержна сведчыць, што Янка Купала восенню 1913 года працаваў у «Беларускім выдавецкім таварыстве», працаваў на клопатнай і адказнай пасадзе сакратара выдавецтва. Ужо аднаго гэтага было б дастаткова, каб звярнуць увагу на невядомы аўтограф Купалы. Аднак рэдкі пісьма вядуць і да яго адрасата...

У канцы трэцяга сшытка літаратурнага альманаха «Маладая Беларусь», што выйшаў у Пецярбургу ў 1913 г., змяшчаліся, як звычайна ў тагачасных выданнях, шматлікія аб'явы. Адна з іх, вылучаная шрыфтам, асабліва кідалася ў вочы: «Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Вільні, прыступаючы да выдавецкай працы, паведамляе ўсіх, каму дорага справа беларускага адраджэння, аб тым, што Таварыства ставіць сабе ў першы чарод выпускаць у свет па сіле магчымасці такія кнігі:... 2) Граматыку беларускую, Геаграфію, Слоўнікі, Арыфметыку, Кнігі для навучэння ў школах, Кнігі папулярныя аб гаспадарцы, і розныя другія. Выдавецтва звяртаецца з просьбай да шаноўных пісьменнікаў прысылаць як можна хутчэй свае ракупісы вышэй азначаных кніжак. Адрас: Вільня, Каштанавая № 5, кв. 4. Беларускае Выдавецкае Таварыства».

Заўважым, што дата пісьма Купалы да Тарашкевіча і дата публікацыі аб'явы супадаюць. Не выключана, што і аб'яву напісаў ніхто іншы, як Янка Купала,— па тым жа абавязку сакратара выдавецтва. Але хочацца звярнуць увагу на іншае. І пісьмо, і аб'ява праліваюць дадатковае святло на гісторыю стварэння першай навуковай граматыкі беларускай мовы. Прыгадаем: яшчэ Францішак Багушэвіч марыў пра граматыку і слоўнік роднае мовы, сам збіраў матэрыял для слоўнічка. Асаблівая ж патрэба ў адзіным, навукова абгрунтаваным беларускім правапісе з'явілася на пачатку XX стагоддзя, калі пачалі выдавацца нацыянальныя газеты і часопісы, узніклі шэраг кніжных выдавецтваў. 1906 год. Цётка ў пісьме з Львова пытаецца ў Б. Эпімаха-Шыпілы: «Я хачу даведацца ад Вас, што чутно з букваром, ці ўжо гатоў, ці ў нас будзе фанетыка наша беларуская. Гэта вельмі важна, бо буду цяпер выдаваць папулярныя рэчы для народу, ды не ведаю, як чаго трымацца». 1910 год. Максім Горкі, жадаючы дасканала авалодаць беларускай мовай, каб чытаць творы беларускіх пісьменнікаў у арыгінале, звяртаецца ў рэдакцыю «Нашай нівы» з просьбай: «Я атрымаў пасланыя вамі кнігі і газету — вельмі кранугы вашай ласкавасцю і сардэчна дзякую вам! Вельмі прашу вас: вышліце мне, калі гэта вам не цяжка — Слоўнік Насовіча, Граматыку беларускай мовы»... На вялікі жаль, выканаць просьбу Горкага беларусы так і не змаглі. Граматыкі беларускай мовы ў той час яшчэ не было. І ці ж не пякло пачуццё нацыянальнага сораму лепшых дзеячаў беларускай культуры? Ці не клікала яно да пэўных, канкрэтных дзеянняў?

Задачу гістарычнай важнасці, як вядома, вырашыць узяўся студэнт гісторыка-філалагічнага факультэта Пецярбургскага ўніверсітэта Браніслаў Тарашкевіч. Знаем мы і вынік яго працы: «Беларуская граматыка для школ» выйшла ў Вільні ў 1918 годзе. Аднак да сёння невядома, калі Тарашкевіч пачаў працаваць над падручнікам. Той-сёй з біёграфаў толькі канстатуе факт пра першыя крокі навуковай дзейнасці Браніслава Тарашкевіча. Другія ж (Арсень Ліс) называюць занадта познюю дату — 1916 год. Пісьмо Янкі Купалы да Тарашкевіча, датаванае 1913 годам, дазваляе, як мы бачым, яе істотна ўдакладніць, «амаладзіць»...

Цяпер пра тое, адкуль мог Купала даведацца аб навуковых планах «дзядзькі Тараса» (так сябры і добрыя знаёмыя жартам называлі Тарашкевіча). Прыехаўшы ў канцы 1909 г. у Пецярбург, паэт пасяліўся на кватэры ў прафесара Б. Эпімаха-Шыпілы. Калі ж у 1911 г. арганізаваўся Беларускі навукова-літаратурны гурток студэнтаў Пецярбургскага ўніверсітэта, то гурткоўцы (а сярод іх быў і Тарашкевіч) пачалі па суботах збірацца (спачатку нелегальна, а пасля і адкрыта) у свайго паважанага прафесара. Гаварылі пра долю роднага народа, яго гісторыю, культуру, мову. Аднойчы (у 1912 г.) студэнт Браніслаў Тарашкевіч выступіў з дакладам пра фанетычную транскрыпцыю беларускіх твораў — гаварыў, па сутнасці, пра беларускі правапіс. І ці не тады прыйшла думка заняцца, стала і сур'ёзна, навуковай распрацоўкай правіл беларускай граматыкі?

І зусім магчыма, што думку гэту падказаў яму Янка Купала, які звычайна прысутнічаў на пасяджэннях гуртка. Купала, які ведаў пра клопаты Цёткі, блізка да сэрца прыняў просьбу Максіма Горкага, Купала, які, турбуючыся пра хутчэйшае развіццё роднага пісьменства, будзе неўзабаве настойліва падганяць маладога вучонага: «Варушыцеся, дзядзька!..»

*Вячаслаў* **РАГОЙША.**



**На Першым усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў. Янка Купала, Жан Рышар Блок, І. Качэрга. 1934 год.**



# ВАЛАДАР РОДНАГА СЛОВА

Паэт пачынаецца са слова, з адчування слова як сродку выказаць сябе, свае адносіны да навакольнага свету, з адчування сэнсавых і гукавых магчымасцяў слова.

Здольнасць да авалодання словам даецца паэту ад прыроды. Але кожны сапраўдны творца гэтую здольнасць няспынна і нястомна развівае. Развівае, вучачыся ў народа. Прыглядаючыся і прыслухоўваючыся да таго, як народ абыходзіцца са словам — у жывой гутарцы, у песнях, у казках і прыказках. Імкнучыся спасцігнуць моватворчы вопыт народа. Вядома, у таленавітага паэта, чуйнага да слова, гэта вучоба як бы ідзе сама сабой — без нейкіх спецыяльных заняткаў, урокаў, лекцый. Але пры адной катэгарычна-абавязковай умове: калі паэт жыве з народам і жыццём народа, яго справамі, яго думамі і клопатамі.

У беларускай паэзіі ніхто не валодаў такой магутнай здольнасцю да словатворчасці, як Янка Купала. І ні ў кога іншага не выявіўся так ярка моватворчы геній народа, як у

Янкі Купалы. А. В. Луначарскі адзначаў, што Купала прынёс у беларускую літаратуру «свой слоўнік, свае звароты, сваю паэтычную музыку проста з сялянскіх глыбінь, з цаліны народнай моватворчасці...»

Але каб так вольна і ўпэўнена абыходзіцца са словам, як абыходзіўся з ім Купала, трэба моцна верыць у свае сілы, трэба быць перакананым, што слова падуладна табе, і не баяцца, што яно не дасца, што ты яго не знойдзеш або не справішся з ім.

А што трэба, каб верыць, быць перакананым і не баяцца?

Мабыць, адчуванне выбару слова, магчымасці такога выбару.

Трэба, каб было з чаго выбіраць.

Трэба мець багаты — як мага багацейшы — уласны слоўнік.

Да гэтага часу не складзены, на жаль, слоўнік Купалы, і ніхто не ведае, колькі ў ім слоў. Але і без падліку бачна, што паэтычная мова вялікага песняра — гэта неабсяжны акіян-мора — увесь жывы, рухомы, неспакойны, бурлівы, магутны. Лексіка і фразеалогія Купалы (як, зазначым дзеля справядлівасці, і Коласа) найлепшым чынам выяўляе глыбока самабытны дух беларускай мовы, непаўторна-адметны характар і лад думак свайго народа, нацыянальнае аблічча яго душы.

Слушна было некім заўважана, што званне «народны паэт» у нашым уяўленні лучыцца перш за ўсё з вобразам Янкі Купалы — паэта народнага ў самым поўным і дакладным значэнні гэтага слова. Гаворачы аднак пра народнасць паэзіі славутага песняра, мы звычайна ў першую чаргу маем на ўвазе сацыяльна-грамадскі змест яго твораў, іх ідэйную накіраванасць. А варта было б больш гаварыць і пра паэтычную мову Купалы, як пра мову народа, выразнікам дум і настрояў якога паэт з'яўляўся. Варта часцей запыняць увагу на купалаўскім слове і фразе.

Колькі ні чытай і ні перачытвай неўміручыя радкі яго вершаў і паэм — ніколі не перастанеш здзіўляцца і захапляцца той смеласцю, з якой Купала сцвярджае сваю асобу ў слове, сваё права гаварыць так, як умее і можа гаварыць ён. Яго смеласць і свабода ў абыходжанні са словам не можа быць растлумачана нічым іншым, як геніяльным чуццём духу мовы, разуменнем (а можа быць, перш за ўсё — інтуітыўным адчуваннем) законаў і заканамернасцяў яе развіцця.

Звернемся да некаторых прыкладаў.

У Купалы мы сустрэнем безліч слоў, якія можна сустрэць... толькі ў Купалы. Гэта словы, утвораныя ім самім, у працэсе работы над радком, з неабходнасці выказаць, выкласці на паперу тое, што просіцца з душы і сэрца. Гэта словы-наватворы. Магчыма, што некаторыя з іх былі падслуханы недзе ў народзе. Але мы гэтага не ведаем. Ды, відаць, і сам паэт не заўсёды адказаў бы, ці вось гэтае слова — яго, ці яно ўзята ім ад людзей. Калі і не ўзята — то магло быць узята, бо такое слова — у такой форме — магло быць у людзей, магло быць пачута. І менавіта гэта важней за ўсё.

Скурганіў бы душу чырванцом тваім я;
Гуслям, княжа, ня пішуць законаў.

Што значыць: **скурганіць душу?** Відавочна, дзеяслоў утвораны ад назоўніка **курган** і азначае: **амярцвіць, загубіць жывую душу,** у больш шырокім сэнсе — **загубіць, страціць сумленне.** Слоўца здалося паэту ўдалым, і ён як бы знарок для таго, каб засведчыць яго жыццездольнасць,— выводзіць ад гэтага дзеяслова яшчэ адзін наватвор — дзеепрыметнік **скурганены,** які ўжывае як мастацкае азначэнне ў тым жа сэнсе **амярцвелага, нежывога, нячулага:**

Песня мая не шукае прывету,
Ласкі ў **скурганеным** сэрцы чым.

Ад дзеяслова **глядзець** Купала ўтварае аж некалькі новых слоў: неўглядзь, няўгледны, нязгледны, прагледзіста. Першае — сінонім да прыслоўя **непрыкметна, незаўважана, тым часам:**

**Неўглядзь** за поўнач наспела часіна,
Сон на пакоі паў ройма...

Эпітэт **няўгледны** — сінонім да азначэння **нябачны,** што нельга ўгледзець, улавіць позіркам. Утвораны, безумоўна, ад **не ўгледзець:**

І пасмай **няўгледнай** да зорак на ўсходзе
Плыве і мяняецца ў **кветным** крышталі.

Другі, блізкі па гучанні да папярэдняга, эпітэт — **нязгледны** — выступае ў кантэксце сінонімам да слоў **неаглядны, бязмежны, бясконцы, неабсяжны:**

Недзе-недзе губляюцца **нікла** са мной
**Задуманыя** вочы ў **нязгледным** прасторы.

Здавалася б, у рытмічную схему верша лёгка і хораша маглі б легчы іншыя, ужо гатовыя эпітэты: у **бязмежным прасторы** або **ў бясконцым прасторы.** Паэт іншага маштабу і таленту, напэўна, так і зрабіў бы. Але Купалу гэта задаволіць не можа, ён як бы нутром адчувае, што лепш за ўсё тут падыдзе азначэнне, выведзенае ад дзеяслова **глядзець,** бо ў гэтым жа радку ёсць **вочы** ды яшчэ **задуманыя.** Такі эпітэт — ад дзеяслова — эмацыянальна і сэнсава больш актыўны і таму больш адпавядае маральна-псіхічнаму стану лірычнага героя. Успомнім, што радкі ўзяты з верша «З вячэрніх дум» — твора зусім не простага філасофскага зместу і досыць ускладнёнай паэтычнай стылістыкі. Магчыма, я





**Рускія і беларускія пісьменнікі на Маскоўскім аўтазаводзе. 1939 год.**



памыляюся, але мне нават хочацца думаць, што Купала, ставячы ў радок гэты эпітэт **нязгледны,** укладаў у яго адначасна і яшчэ адзін сэнсавы нюанс: прастор **непраглядны, ацямрэлы, цёмны.** Адбываецца ж усё вечарам, ноччу, «як нябеснае згасне за лесам святло, а ноч крылле распусціць па ўсёй Беларусі...» Такі нюанс зусім лагічна можа асацыіравацца з пэўным сацыяльна-грамадскім падтэкстам, мець алегарычны характар.

Такім чынам, **нязгледны** ўзнікла ў Купалы на стыку двух вельмі блізкіх па гучанні, але семантычна розных азначэнняў: неаглядны і непраглядны.

Апошняе слова гэтага кораня — эпітэт **прагледзіста:**

Вокам начніцы **прагледзіста**
У тайнаў сягнуў бы заставы...

Гэтае незвычайнае **прагледзіста** — нейкае казачнае, старажытнае, язычаскае, асабліва ў спалучэнні з начніцай — адразу ж выклікала ў маёй памяці заключныя радкі адной нашай абрадавай песні, лепш сказаць — абрадавага песеннага заклінання.

Каб у асеці было **накладзіста,**
Каб на таку было **ўмалоціста,**
Каб у арудзе было **насыпіста,**
Каб у млыне было **намеліста,**
Каб у дзяжы было **падыходзіста,**
Каб у печы было **падросціста,**
На стале кроем, людзям на здароўе!

Мы не ведаем, ці даводзілася Купалу чуць такую песню, ці звярнуў ён увагу на гэтую дзівосна ёмкую форму — **накладзіста, умалоціста, насыпіста, наме́ліста, падыходзіста, падросціста,** і ці не па яе ўзоры ўтварыў ён сваё — таксама дзівосна ёмкае — **прагледзіста.** Але калі нават і не чуў — мы ўсё роўна можам не сумнявацца, што Купала і ў гэтым выпадку (як і ва ўсіх іншых) ішоў ад вопыту народнай моватворчасці — інтуіцыя генія вяла яго і падказвала яму слова.

Крытык Р. Бярозкін, адзначаючы ў паэта «яго непаўторную схільнасць да назоўнікаў, створаных са згустка дзеяслоўнай энергіі», вельмі слушна падкрэслівае, што многія з іх Купала прыдумваў сам, але што «заўсёды ў такіх выпадках адыгрываў сваю незаменную, сапраўды вырашальную ролю шматвяковы калектыўны вопыт народа ў галіне мовы» і што «ад гэтага вопыту Купала не адключаўся ніколі...»

Па нашых назіраннях, не менш, чым назоўнікаў ад дзеясловаў, Купала ўтвараў дзеясловаў ад назоўнікаў і іншых часцін мовы. Спашлюся толькі на два-тры прыклады.

Спёка ў аднайменным вершы «**звугліла** высі — загоны, **звугліла** долы — лагі». Нам вядомы дзеяслоў **абвугліць, абвугліцца** і ёмкі народны фразеалагізм **счарнець на вугаль.** У Купалы ў гэтым жа значэнні — **звугліць.**

Два дзеясловы ўтвораны паэтам ад назоўніка крыло: **крыліцца** і **ўскрыліцца.**

Стогнуць пад мурам халодным таполі,
**Крыліцца** ў ветках начніца.

Світы, захады **крыляцца,**
На адной таўкуцца кладцы.

Ляжа крушняю там вежа, звон і я сам,
Арол-птушка **ўскрыліцца** пад небам.

Цікавым наватворам з'яўляецца дзеяслоў **відніць** у значэнні **асвятляць, рабіць відна, развейваць змрок.** Міфічная лясная царэўна ў вершы пад гэтай жа назвай — знябытая і зняможаная ад адзіноты — ускліквае:

Хто чуе, як голасам долю кляну?
Хто бача, як **віднію** вачамі я цьму?

Верш «З вячэрніх дум», у якім мы ўжо адзначалі арыгінальны эпітэт **нязгледны,** дае нам яшчэ адзін характэрны купалаўскі наватвор — дзеяслоў **сваіўся:**

Гледзячы, як загон наш калоссямі спеў,
А сявец яго радасна з сонцам **сваіўся,**
Песню далі і неба таксама я пеў...

Сявец **сваіўся** з сонцам — радніўся з ім, уступаў у блізкія сваяцкія адносіны. Як хораша па сэнсе, як смела і як па-беларуску гэта сказана.

Адзначым яшчэ такія дзеясловы, як **харашыць** і **ахарашыць** — сінонімы да **ўпрыгожыць, аздобіць, прыбраць.**

Годзе, **жытцо** мае, годзе, **наспелае,**
З хмарамі, з бурамі **знацца, дружыць;**
Годзе **шумеці думкі** нясмелыя,
Годзе загоны сабой **харашыць!**

Слёз нап'ецца сваіх даадвалу,
Кроў **свая ахарошыць** квяціста.

Смелай вынаходлівасцю характарызуюцца і створаныя Купалам прыметнікі, дзеепрыметнікі, прыслоўі, якія ў вершах з'яўляюцца мастацкімі эпітэтамі — свежымі, каларытнымі, запамінальнымі. Мы ведаем, напрыклад, прыметнік **адвечны** — Купала не баіцца нарасціць суфікс і атрымаць **адвечністы:** у вершы «Над Іматрай» хвалі «**адвечністым** шумам калышуць прастор». Агульны сэнс азначэння не змяніўся, але ў самім гучанні ўлаўліваецца нешта новае — як бы прыбавілася нейкай важкасці, урачыстасці,— таго мікраэлементу, які ў сукупнасці з такімі ж іншымі і ўтварае паэзію.

Па ўзоры **адвечністы** ўтвораны эпітэты **святлісты:** лясная царэўна «твар мела **святлісты,** як неба узор»; **лісцясты:** «Паслухай музыкі **лісцястай»; пакоцісты:** «Шум **пакоцісты** нясецца» і інш. Характэрнымі для Купалы з'яўляюцца такія нязвыклыя формы прыметнікаў, як **перагібны:** «мяне стан звабіў **перагібны»; негадзівы:** «суд **негадзівы** жаласць-гадзюка судзіць над шчырай слёзаў малітвай»; **нядольныя:** «вырвіце думкі «**нядольныя»; грайкія:** «жальцеся, **грайкія** струны»; **жыўчыя:** «асыпае з сябе **жыўчых** росак ваду»; **саколія:** «мець бы мне крыллі **саколія»;** «Гэй, вольныя птахі, **саколія** дзеці; **жалязяная:** «ён рыдлёўку сваю **жалязяную** кавалю пацягнуў, паказаў»; **бунтаўнічая:** «для свята волі **бунтаўнічай»; цямняцкае: «цямняцкае** ігрышча з сухотніцай вядзе»; і інш.

Іх даволі многа, падобных эпітэтаў, і ў паэтычнай стылістыцы Купалы і яны адыгрываюць вельмі істотную ролю. Паспрабуйце замяніць гэтыя азначэнні звыклымі, агульнапрынятымі, літаратурнымі формамі — і вы адразу адчуеце, як паблекне, збяднее непаўторны каларыт купалаўскага радка.

Сказанае цалкам стасуецца і да вялікай колькасці самабытных купалаўскіх назоўнікаў, утвораных самымі рознымі спосабамі і ад самых розных часцін мовы. Падаць тут іх усе няма ніякай магчымасці, таму абмяжуемся толькі некалькімі прыкладамі, якія, на наш погляд, у дастатковай ступені вызначаюць кірунак і характар моватворчых пошукаў паэта ў галіне назоўніка.

Пачнем, можа быць, з самага арыгінальнага і цікавага. У вядомым вершы «Адцвітанне» — поўным чароўнай музыкі і якогасьці таямнічага, дзівосна-казачнага хараства — чытаем:

Не іскрыцца **небазор,**
Не цвіце трава-чабор,
Не цыгліць птушыны стан.

Адчуваем, што слова **небазор** у вершы вельмі дарэчы, на сваім месцы. Але што яно азначае? І як утворана? Ці тут другая частка «зор» — ад зоры, зоркі, і тады небазор





Янка Купала і Якуб Колас на сесіі Акадэміі навук БССР. Казань. 1942 год.

трэба разумець як зорнае неба (неба ў зорах), ці «зор» выведзена ад азіраць (супастаўце — зрок, зрэнка, белазоры — у значэнні: чалавек з вялікімі бялкамі ў вачах), і небазор трэба разумець як небасхіл, небакрай (па аналогіі з далягляд, краявід, дзе маюцца карані слоў глядзець, відзець — сінонімаў да азіраць). Нам асабіста больш верагодным, больш лагічным здаецца іменна гэты, другі — падсвядомы, спантанны — «выбліск» мысліцельнай энергіі паэта. Хаця зусім мажліва — (падобная сітуацыя ўжо адзначалася намі і раней),— што і «зоры» тут былі «пры чым»: і яны — самім сваім гучаннем — падштурхнулі думку аўтара ў гэтым кірунку і падмацавалі вывад (неба і зоры — у нашым уяўленні нераздзельныя).

Вельмі цікавымі здаюцца нам такія купалаўскія наватворы, як **узгор, розгалас, дзяніна, сасніна, выклічына, прасветач, прыселле, вечнабыт, праяснасць, яснавіца, спрадлетаў, туляч, мазольнік, чужыншчына, дармажэрца.**

**Узгор** («І як жа міл дзірванчык цішы, спакою дзіўнага узгор»,— усечаная форма назоўніка ўзгорак, сінонім да гэтага слова, як і да слоў пагорак, прыгорак, горка. Але ў самой форме ўзгор заключана — прынамсі, нам так здаецца — трохі іншае эмацыянальна-сэнсавае адценне: узгор успрымаецца і ў больш шырокім і больш абстрактным, пераносным значэнні, як узвыш, узвышша (узгор — узвыш), як нейкае духоўнае і маральнае ўзвышэнне. Гаворка ж ідзе пра сельскія могілкі, дзе лірычнаму герою хаця і горка, але так чыста і высока думаецца, «дзе крыж і страшыць і галубіць, слязой дзе кожны дол абмыт», дзе «агул жыцця ўсяго абыймеш, друзы пагод і непагод, зямлю і неба ў рукі возьмеш,— і ў гэты край зляціць паглёд». У такім кантэксце узгор — а не канкрэтнае, звыклае ўзгорак, пагорак — несумненна больш адпавядае ўсяму зместу і настрою верша.

Аж ад рук і ад хмур вежы рухне **падмур.**
Толькі **розгалас** пойдзе па полі.

Наўрад ці магчыма растлумачыць чаму, але зусім відавочна, што ніякі з сінонімаў не можа ў гэтым радку замяніць слова розгалас. «Толькі розгалас пойдзе па полі...» Ну, паставім, напрыклад, водгулле. Але ж водгулле — гэта тое, што адгукнулася, адазвалася недзе далёка, гэта — рэха. А розгалас — гэта як бы і рэха і сам голас, гук адначасова, і мы ўяўляем, як ён шырока, раскаціста ідзе па полі. (Звярніце, дарэчы, у прыведзеных радках увагу на **падмур,** утвораны ад падмурка гэтак жа, як узгор ад узгорка).

Ад назоўнікаў дзень, сасна, вокліч Купала свабодна ўтварае **дзяніна** («а быў дзяніны тает скон»), **сасніна** («вырасцеш, дзіцятка, сасніне па вуха»), **выклічына** («выклічыны жуды») — па аналогіі з назоўнікамі тыпу мачына (адно каліўца маку), расіна, хваіна, дубіна (у значэнні — дуб), яміна. (У Купалы: «Гэй, капайце, далакопы, яміну-магілу...»).

Арыгінальным купалаўскім наватворам з'яўляецца складаны назоўнік **вечнабыт.** У вершы «Суды», дзе створаны надзвычайнай мастацкай сілы алегарычны вобраз Беларусі, у заключнай страфе чытаем:

Як была, будзе так непакорнаю
Адпраўляць **вечнабыту** імшу...

Не здалеюць суды цемнатворныя
Ей спаганіць і вырваць душу.

Вечнабыт тут — у значэнні вечнасці жыцця, яго бясконцага існавання ў няспынным руху, у пастаянным адміранні і нараджэнні. Думаецца, што слова вельмі ўдалае, асабліва калі ўлічыць недастатковую распрацаванасць у нашай мове ўласнай беларускай лексікі для абазначэння абстрактна-філасофскіх паняццяў.

Наватворы **праяснасць** і **яснавіца** паходзяць, як бачым, ад аднаго кораня. Першы з'яўляецца сінонімам да назоўнікаў яснасць, ясната, пагода: «І ўбачылі засмучаныя нашы вочы, як дні праяснасці змяніліся на ночы». Больш арыгінальны другі назоўнік: ён азначае ў Купалы святло зорак — іх спакойнае, роўнае, вечнае ззянне, што залівае зямлю. Дзякуючы сваёй крыху архаічнай, фальклорнай форме гэта слова добра, на наш погляд, гарманіруе з агульным былінна-урачыстым ладам верша: «І галубіць шлях бледны зямлю яснавіцай, сочыць вочак мільёнамі долю людскую».

Сінонімам да назоўнікаў чужына, чужбіна з'яўляецца купалаўскі наватвор **чужыншчына:** «Або за царскія чыны ў прымакі плылі ў чужыншчыну сляпой паводкай». Дзякуючы суфіксальнаму нарашчэнню слова загучала больш важка — яго адмоўны эмацыянальны зарад набыў нейкую падкрэсленасць, выявіўся з яшчэ большай сілай. Трэба думаць, што ўзорам для паэта ў гэтым выпадку былі такія назоўнікі, як паншчына, разбойшчына і інш.— вельмі характэрныя для народнага беларускага словаўтварэння.



**А. Упіт, А. Кірхінштэйн, Ж. Спурэ, А. Фадзееў, А. Пельшэ, В. Лацiс, Янка Купала, А. Карняйчук.**

У нашай літаратурнай мове бытуе слова спрадвеку — Купала знаходзіць да яго свой сінонім **спрадлетаў:** «Пры ўзгорку лесу пры лагчынцы, між кустоў, спрадлетаў на пустым дзірване...» Спрадлетаў па семантычнаму аб'ёму вузейшае, чым спрадвеку, і ў даным кантэксце, на наш погляд, падыходзіць лепш. (Звернем заадно ўвагу на сінтаксічныя канструкцыі «пры ўзгорку лесу» і «пры лагчынцы пашы» — якія цікавыя народныя вызначэнні, якая эканомія слоў! Не ўзгорак, зарослы лесам,— а проста ўзгорак лесу, не лагчынка, адведзеная пад пашу, а — лагчынка пашы.

Наватвор **прасветачы** ўжыты Купалам у значэнні паходні, якія свецяцца, прасвечваюць змрок ночы: "Покі не згаснуць **прасветачы** зводныя, покі не згасне жыццё!..» Пераносны сэнс вобраза ў вершы — спадманныя, непраўдзівыя, нерэальныя ідэалы. **Прыселле** азначае ў Купалы прытулак, прытулле, месца, дзе можна пасяліцца: «Ляжам, як ляжа ранены сокал, знойдзем нарэшце прыселле». **Мазольнік** — бедны, бяздомны і бяздольны мужык, што жыве з мазаля: «Пад якой страхой, мазольнік, бадзяўся?». У гэтым жа значэнні ўжывае Купала і **туляч:** «А калі ты гаротнік, **туляч** беззямельны...» **Дармажэрца** — сінонім да дармаед, але — з большай эмацыянальнай экспрэсіяй: «Грай жа, музыка! Рэж, дармажэрца!»

З агромністай колькасці купалаўскіх наватвораў (па прыблізных падліках — іх колькі сот) мы адабралі ўсяго дзесяткі тры-чатыры і абмежаваліся толькі дзеясловам, назоўнікам і прыметнікам, не закранаючы іншых часцін мовы. Але і гэты абеглы аналіз дае магчымасць пераканацца, наколькі магутны быў у Купалы вобразатворчы пачатак (кажу вобразтворчы, таму што вобраз выяўляецца і жыве ў слове), наколькі дасканала ён адчуваў дух мовы, законы народнага словаўтварэння і словаўжытку. У нашай літаратуры ёсць паэты, у багатым наогул слоўніку якіх мы знаходзім узоры, я сказаў бы, падкрэслена нацыянальнай лексікі. Аднак жа дзіўная рэч: гэтыя нібыта самабытна-беларускія, рэдкія, свежыя, па-свойму каларытныя словы ў іх вершах чамусьці часам выпіраюць, тырчаць — уласна, на іх звяртаеш увагу, на іх спыняешся, запыняешся, як на незнаёмых, на незразумелых... Нічога такога няма ў Купалы: хоць і новае слова, і незнаёмае, а — зусім зразумелае, сэнс яго схопліваеш лёгка, з ходу, і яно толькі радуе (а не раздражняе), бо паспявае мільгануць думка: «як гэта ўдала, як гэта ёмка, як гэта трапна сказана!». Уся справа ў тым, што ў Купалы кожны наватвор гучыць зусім натуральна, ён — такі ж жывы, як і ўсе астатнія словы, і неразрыўна вяжацца ў радку са словамі-суседзямі ў адно жывое, арганічна-цэлае. Ён з той векавечнай кузні, з той перапла ўкі, у якой перапла ўляюцца, абнаўляюцца, фармуюцца нанова тысячы і дзесяткі тысяч слоў — моўны скарб народа.

Словатворчасць Купалы — з'ява выключная ў гісторыі беларускай літаратуры. Ды і не толькі ў беларускай: можна смела меркаваць, што такіх з'яў не вельмі багата і ва ўсёй сусветнай літаратуры. Вось чаму ўрокі Купалы ў гэтых адносінах не трацяць і ніколі не страцяць для нас і для ўсіх наступнікаў свайго павучальнага сэнсу і значэння. Можна толькі горка шкадаваць, што купалаўскай смеласці ў галіне словатворчасці мы не бачым у нашай сённяшняй паэзіі, што мы так недаравальна мала звяртаемся да яго вопыту работы са словам і над словам, да яго — скажам высокім стылем — вялікага запавету. Наўрад ці можна чакаць багатага плёну, там, дзе ў пошуках слова звяртаюцца не да душы народа, а да куцых, «жалезна» адрэдагаваных слоўнікаў і пакорна слухаюцца тых, для каго слоўнік — альфа і амега ўсёй нацыянальнай мовы.

Праз словаўтварэнне, праз сінаніміку, праз гібкасць сінтаксісу, рухомасць фразеалогіі і многае іншае Купала змог найлепшым чынам паказаць жыццездольнасць мовы свайго народа. Мова, якая можа так служыць чалавеку, быць такой паслухмянай для выяўлення самых розных думак і пачуццяў — гэта мова жывучая, жыццездольная і таму — неўміручая, вечная.

У вершы «Мая навука» Янка Купала з поўным правам і з законннай гордасцю сказаў пра сябе: «Цяпер беларускай я песні ўладар». Не толькі песні, але і роднага слова,— з поўным правам дабавім мы.

**Ніл ГІЛЕВІЧ.**

# *Словы любові і ўдзячнасці*

## (З кнігі запісаў у Купалаўскім доме-музеі)

**Пабываўшы ў цудоўным музеі, дзе сабрана ўсё з найвялікшаю любоўю, дзе вобраз цудоўнага паэта Янкі Купалы паўстае ва ўсёй сваёй народнасці і велічы, спадзяюся, гэта не адзінае маё наведанне — будуць і іншыя. І думаю, голас Івана Дамінікавіча, якога я памятаю па кароткіх сустрэчах у Маскве ў 1942 годзе,— што голас яго ўвойдзе ў пласцінку «Гавораць пісьменнікі», на якой загучыць паэзія савецкая на ўсіх мовах нашых народаў.**

**Дзякуй Вам, стваральнікам і захавальнікам музея.**

*Іраклі АНДРОНІКАЎ.*

**Рэдка я бываю ў Вашым доме. Відаць, таму, што цяжка і балюча ўспамінаць... Экспазіцыя як бы маланкай асвятляе мінулае. Устаюць у памяці людзі, падзеі, час...**

**Асабліва хвалюе вобраз самога Янкі Купалы, якога я ведаў з 1923 года. Ну, і вядома — цёця Уладзя, намаганнямі, энергіяй і любоўю якой быў створаны гэты помнік Купалу.**

*Народны артыст СССР*
*Павел МАЛЧАНАЎ.*

**Здавалася, усё да драбніц ведаем пра беларускага песняра Янку Купалу. І вось мы ў яго музеі... Слухаем... Па-новаму адкрываем свайго беларускага паэта, разумеем як чалавека. Па-новаму загучалі для нас яго вершы, словы беларускія.**

*Студэнты Мінскага медвучылішча.*

**Ніколі ў жыцці не забудзем светлы вобраз дарагога пісьменніка.**

*Мантажнікі з Новалукомльскай*
*ДРЭС.*

**...Ад'язджаю да сябе на радзіму, у Н. Р. Балгарыю, з новымі, абагачанымі думамі і пачуццямі да вялікага паэта Беларусі, з вялікаю любоўю да беларускага народа.**

*Вера Ангелава ВАЧАВА,*
*выкладчыца рускай мовы*
*ў Балгарыі.*

**Вялікіх сыноў народа трэба помніць, славіць. Гэтым самым праслаўляецца народ. Шчырае дзякуй за гэта беларускім таварышам, якія стварылі музей Янкі Купалы.**

*Кінематаграфісты Казахстана.*

**Янка Купала — гэта сумленне беларускага народа, гэта — энцыклапедыя беларускай літаратуры. Вось чаму я ішоў у музей з заміраннем і вялікай цікавасцю. І не памыліўся! У музеі сабраны ўнікальныя дакументы і матэрыялы аб гэтым цудоўным чалавеку, якія літаральна ўзрушылі мяне.**
**Вялікае дзякуй!**

*І. ЦІХАНОВІЧ, прафесар ВПА*
*імя Ю. А. Гагарына.*

**Мы, львоўцы, нізка схіляемся перад памяццю вялікага паэта Беларусі Янкі Купалы. Выказваем шчырую падзяку ўсім, хто так клапатліва захоўвае ўсё, звязанае з яго цудоўнай творчасцю.**
**Неба беларускай паэзіі настолькі бязмежнае, што кожны раз адрываеш для сябе новыя зоркі. Сягоння мы адкрылі для сябе Максіма Багдановіча і Янку Купалу. Няхай павялічваецца колькасць гэтых зор, няхай яны будуць такімі ж яркімі, як зорка — Купала.**
**Сучасная беларуская паэзія, адлюстроўваючы святло Купалы, рассейвае промні дабра і прыгажосці. Мы шчаслівыя, што гэтыя промні саграваюць і ўкраінскія сэрцы.**

*Р ЛУБКІЎСКІ,*
*М. СТАРАВОЙТ.*




## 1972

### ЖНІВЕНЬ

**7**

40 гадоў назад (1932) Сакратарыят ЦК КП(б) Беларусі прыняў рашэнне аб выданні часопіса «Партыйны работнік».

**8**

60 гадоў з дня нараджэння (1912) А. З. Чарнышэвіча, беларускага пісьменніка. *Памёр у 1967 годзе.*

**14**

75 гадоў з дня нараджэння (1897) С. Н. Гусева, беларускага пісьменніка.

**15**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) П. А. Харкова, пісьменніка.

**19**

60 гадоў з дня нараджэння (1912) Б. М. Мікуліча, беларускага пісьменніка. Памёр у 1954 годзе.

**31**

50 гадоў з дня нараджэння (1922) У. М. Шыціка, беларускага пісьменніка.

**Жнівень — снежань**

50 гадоў з часу выхаду (1922) часопіса «Беларускі партызан», які выдавала кіраўніцтва партызанскіх атрадаў у заходніх паветах Заходняй Беларусі.



Аркадзь Чарнышэвіч.



Барыс Мікуліч.

Уладзімір Шыцік.







Дэлегаты Магілёўшчыны на праполцы саджанцаў.



Сакратар ЦК ЛКСМБ Г. П. Анціпаў і начальнік рэспубліканскага штаба «Зарніцы-72» генерал-маёр Ф. Г. Жаваранкаў уручаюць узнагароды юнармейцам.

# ПІЯНЕРЫЯ РАПАРТУЕ

У Інстытуце арганічнай хіміі.

У гасцях у мінскіх трактаразаводцаў.







Віцэ-адмірал Г. Н. Халасцякоў сярод дэлегатаў злёту.





# МАСТАЦТВА—НЕ ДЛЯ ВЫБРАНЫХ

**ДАРАГАЯ РЭДАКЦЫЯ!**

**Раскажыце, калі ласка, што ўяўляюць сабою такія спецыяльнасці, як мадэляванне вырабаў тэкстыльнай і лёгкай прамысловасці, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, мастацкае афармленне, інтэр'ер і абсталяванне, якія рыхтуе Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут.**

**Света.**

Бярэзінскі раён.

На мастацкім факультэце Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, апрача станковых аддзяленняў, чатыры прамыслова-прыкладныя аддзяленні. Некаторыя з іх маюць некалькі спецыяльнасцяў.

Аддзяленне мастацкага афармлення тканін тэкстыльнай і лёгкай прамысловасці рыхтуе мастакоў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Мастацкае афармленне тканін спосабам ткацтва, роспісу і фотафільмдруку — адна спецыяльнасць; мадэляванне швейных і трыкатажных вырабаў, мастацкае афармленне трыкатажнага палатна — другая. Той, хто збіраецца набыць гэтыя спецыяльнасці, павінен добра адчуваць колер, форму, рытм, прапарцыянальна-гарманічную падпарадкаванасць частак цэламу і праявіць здольнасць да творчага мыслення ў практычнай рабоце па кампазіцыі.

На аддзяленні дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва можна набыць наступныя спецыяльнасці: мастацкая кераміка, мастацкае шкло, мастацкі метал. Будучыя мастакі па кераміцы для сучасных прамысловых прадпрыемстваў вывучаюць пытанні кампазіцыі керамічных мастацкіх вырабаў з фарфору, фаянсу, масцікі і іншых керамічных матэрыялаў. Яны знаёмяцца з праектаваннем керамічнай пластыкі і роспісам у архітэктуры, вывучаюць тэхналогію керамічных матэрыялаў, практычна скарыстоўваюць яе пры вырабе сваіх твораў.

Студэнты, якія рыхтуюцца стаць спецыялістамі па мастацкім шкле — мастакамі на шкляных заводах па стварэнні новых відаў мастацтва са шкла, грунтоўна вывучаюць пытанні кампазіцыі мастацкіх вырабаў са шкла і крышталю. Яны знаёмяцца з праектаваннем мастацкіх вырабаў для архітэктуры: свяцільнікаў, вітражоў, пано і г. д., а таксама займаюцца шкляной скульптурай — як выдзімной, так і літай. Вывучэнне тэхналогіі шкла сумяшчаецца з вытворчай практыкай у майстэрнях інстытута і на адпаведных прадпрыемствах.

Будучыя мастакі па мастацкім метале, якіх рыхтуе наш інстытут, пойдуць на прадпрыемствы па выпуску мастацкіх вырабаў з металу, ювелірных вырабаў. Яны вывучаюць кампазіцыю мастацкіх вырабаў з бронзы, латуні, сталі і іншых матэрыялаў, знаёмяцца з прыёмамі апрацоўкі металу (чаканка, выкалатка, кавальская справа), вучацца праектаваць мастацкія вырабы з металаў для архітэктуры: скульптура, дэкаратыўнае пано, асвятляльная арматура і г. д. Вучоба сумяшчаецца з вытворчым працэсам вырабаў з металу.

Аддзяленне «Інтэр'ер і абсталяванне» ўключае ў сябе дзве спецыяльнасці: праектаванне інтэр'ераў — будучыя мастакі па праектаванні інтэр'ераў жылых, грамадскіх і прамысловых будынкаў, іх абсталяванні і аддзелцы; праектаванне мэблі — будучыя мастакі па мастацкім канструяванні мэблі і іншага абсталявання для жылых дамоў, грамадскіх і вытворчых будынкаў. Тут вялікая ўвага ўдзяляецца асновам кампазіцыі, праектаванню і мадэляванню, канструяванню, тэхналогіі аддзелачных матэрыялаў і драўніны, каларыстыкі, кветазнаўству і авалоданню матэрыялам.

Аддзяленне «Прамысловае мастацтва» з'ўляецца спецыфічным і дае адукацыю, якая дапамагае мастаку асэнсаваць рэчы, іх прызначэнне, ствараць зусім новыя аб'екты з наборам новых форм, што прымушаюць нас па-новаму бачыць свет прадметаў, творча і актыўна засвойваць яго. Выпускнікі атрымліваюць дыплом мастака-канструктара, які ўдзельнічае ў распрацоўцы машын, станкоў, інструментаў кіна- фота- і электроннай тэхнікі.

Для рашэння такіх шырокіх задач будучы мастак-канструктар набывае інжынерныя веды па тэхнічнай механіцы, супрацiўленні матэрыялаў, інжынернай псіхалогіі. На гэтым аддзяленні вывучаюцца спецыяльныя дысцыпліны — праектаванне і мадэляванне, архітэктоніка і кампазіцыя. Яно і зразумела, бо да будучага мастака-канструктара прад'яўляюцца вялікія патрабаванні — ён павінен добра разбірацца ў пытаннях эстэтыкі і функцыянальнага прызначэння ўсяго, што ён сканструяваў, ведаць канструкцыйныя асаблівасці сваіх рэчаў. Ён павінен умець мысліць і як мастак, і як інжынер.

У сувязі з гэтым аддзяленне прамысловага мастацтва арыентуецца ў асноўным на выпускнікоў школ, якія маюць добрыя веды па фізіцы, геаметрыі, любяць гэтыя дысцыпліны і разумеюць іх значэнне пры рашэнні канструктарскіх задач, умеюць маляваць.

На ўсіх прамыслова-прыкладных аддзяленнях, апрача агульнаадукацыйных і спецыяльных дысцыплін, вядуцца заняткі па малюнку, жывапісе і скульптуры. Тэрмін навучання пяць гадоў.

Нашы выпускнікі працуюць у навукова-даследчых і праектных інстытутах, у канструктарскіх бюро фабрык і заводаў. Займаюцца графічнымі работамі ў выдавецтвах і рэдакцыях, у мастацка-вытворчых камбінатах і іншых прадпрыемствах краіны.

Некалькі слоў пра ўступныя экзамены. Абітурыенты здаюць у аб'ёме сярэдняй школы экзамены па гісторыі СССР, беларускай ці рускай мове і літаратуры (сачыненні і вусна) — згодна выбару паступаючага. Апрача гэтага, здаецца экзамен па спецыяльнасці, уключаючы малюнак. Малюецца аголеная фігура, галава з плечавым поясам; жывапіс — пішацца нацюрморт; скульптура — лепка галавы з плечавым поясам (гэты экзамен здаецца пры паступленні на спецыяльнасці па мастацкай кераміцы і прамысловым мастацтве). Экзамены па кампазіцыі ўключаюць у сябе выкананне эскіза кампазіцыі на зададзеную тэму зыходзячы з патрабаванняў спецыяльнасці. Кампазіцыя — гэта складанне з частак адзінага цэлага, г. зн. пабудова прапарцыянальна-гарманічнай супадпарадкаванасці частак цэламу, размяшчэнне і ўзаемасувязь яго частак, якія абумоўлены ідэйнай задумай і прызначэннем кампазіцыі. Асаблівасці кампазіцыі для кожнага аддзялення выяўляюцца ў час кансультацый.

Вядома, што для паспяховай здачы ўступных экзаменаў па спецыяльнасці патрэбны пэўныя навыкі ў галіне малюнка і жывапісу зыходзячы з патрабаванняў той або іншай спецыяльнасці. Для паступаючых праводзяцца кансультацыі. У інстытуце адкрыты падрыхтоўчыя курсы.

Перад экзаменамі з кожным абітурыентам абавязкова праводзіцца субяседаванне, а таксама патрабуецца прад'яўленне самастойных работ.

**Віктар ВАЛОШЫН,**
**в. а. дэкана мастацкага факультэта**
**Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.**

# ТВАЁ НАКІРАВАННЕ

**Права, закон, законнасць. З гэтымі словамі часта даводзіцца сутыкацца ў жыцці. Асабліва моладзі—на пачатку жыцця, калі складваюцца працоўныя і сямейныя адносіны, калі адбываецца працэс маральнага, прававога і грамадзянскага станаўлення. Для маладых людзей вельмі важна ведаць свае правы і абавязкі—як чалавека і грамадзяніна. Бо часта можна пачуць: «Гэтага магло б не адбыцца. Магло, калі б малады чалавек ведаў закон».**

**Канечне, размова ідзе не пра тое, каб з кожнага маладога чалавека выхаваць юрыста. Аднак бясспрэчна і тое, што кожны юнак і дзяўчына абавязаны мець неабходны мінімум прававых ведаў. З гэтай мэтай мы і пачынаем друкаваць матэрыялы пад новай рубрыкай «Чалавек і закон».**

Накіраванне маладых спецыялістаў на працу рэгулюецца «Палажэннем аб персанальным размеркаванні маладых спецыялістаў, якія скончылі вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы». Гэты дакумент быў апублікаваны ў друку 18 сакавіка 1968 года. Ім кіруюцца спецыяльныя камісіі, якія займаюцца размеркаваннем маладых спецыялістаў непасрэдна на вытворчасць, найбольш важныя прадпрыемствы і будоўлі, арганізацыі і ўстановы, дзе ёсць патрэба ў кваліфікаваных кадрах.

Пры размеркаванні абавязкова ўлічваецца ступень падрыхтоўкі кожнага маладога спецыяліста, здароўе і сямейнае становішча. Так, напрыклад, калі малады спецыяліст мае інваліднасць, то ён накіроўваецца на работу з улікам пастаяннага жыхарства сваёй сям'і. Па ўласнай згодзе ён можа ехаць працаваць і ў адно з месцаў, прапанаваных камісіяй.

Калі ў маладых спецыялістаў бацькі інваліды першай ці другой групы і няма ў сям'і іншых працаздольных, то яны накіроўваюцца на працу, дзе пастаянна жывуць іх бацькі.

Маладыя спецыялісты жаночага полу (цяжарныя або калі маюць дзіця ўзростам да аднаго года) едуць працаваць па месцы жыхарства мужа ці бацькоў. Па ўласнай згодзе яны могуць быць накіраваны і ў адно з месцаў, прапанаваных камісіяй.

Выпускнікам варта памятаць, што муж і жонка, якія скончылі інстытуты адначасова, накіроўваюцца на працу ва ўстановы ці прадпрыемствы, што размешчаны ў адным горадзе ці раёне. Калі ж адзін з маладажонаў канчае навучальную ўстанову раней, то ён накіроўваецца на працу на агульных падставах, калі ж пазней—то туды, дзе працуе муж ці жонка.

Калі ж выпускнікі жэняцца пасля накіравання камісій на працу, то месца іхняй работы вызначаецца па дамоўленасці з міністэрствамі ці ведамствамі, у распараджэнне якіх яны накіраваны. У выпадку незадаволенасці маладажонаў прапанаваным месцам пытанне вырашае міністэрства ці ведамства, якому падпарадкавана навучальная ўстанова.

Выпускнікі, якіх пасылалі на вучобу прадпрыемствы, будоўлі, саўгасы, калгасы і іншыя арганізацыі і ўстановы, едуць працаваць на гэтыя ж прадпрыемствы і ўстановы. Праўда, часам яны накіроўваюцца працаваць і ў іншыя месцы, але са згоды тых, хто пасылаў іх на вучобу.

Маладыя спецыялісты, якія скончылі навучальныя ўстановы, абавязаны не менш трох гадоў працаваць непасрэдна на вытворчасці, куды іх размеркавала камісія.

На працягу гэтага тэрміну кіраўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў не маюць права скарыстоўваць маладых спецыялістаў не па прызначэнні, перамяшчаць на працу, якая не звязана са спецыяльнасцю, а таксама звальняць без дазволу міністэрства, ведамства, у падпарадкаванні якога знаходзіцца прадпрыемства, арганізацыя, установа. Калі малады спецыяліст прызваны ў шэрагі Савецкай Арміі, час службы залічваецца ў тэрмін абавязковай працы па месцы накіравання.

Кіраўнікі вышэйшых навучальных устаноў не маюць права прымаць на вучобу на дзённае аддзяленне маладых спецыялістаў, якія скончылі сярэднія спецыяльныя ўстановы. У інстытут паступаюць з тэхнікумаў тыя, хто мае дыплом з адзнакай і ўключаны ў лік 5%.

Калі адміністрацыя не можа даць працу па спецыяльнасці, якую набыў выпускнік інстытута ці тэхнікума, то па жаданні маладога спецыяліста адпаведнае міністэрства можа накіраваць яго на работу па спецыяльнасці на іншае прадпрыемства ў іншай мясцовасці.



Маладыя спецыялісты з пераездам у другую мясцовасць забяспечваюцца жылплошчай прадпрыемствамі, на якія яны пасланы працаваць. Накіраваныя на працу ва ўстановы асветы, культуры, аховы здароўя, гандлю, бытавога абслугоўвання, суда і пракуратуры атрымліваюць жылплошчу ў ведамстве. Калі ж яна адсутнічае, то па хадайніцтве адпаведных устаноў і арганізацый жыллё ім прадастаўляюць выканкомы мясцовых Саветаў дэпутатаў працоўных.

Пасля заканчэння інстытутаў і тэхнікумаў да пачатку працы ўсім маладым спецыялістам даецца месячны адпачынак незалежна ад таго, калі ў іх былі апошнія канікулы ў навучальнай установе. Маладым спецыялістам, якія атрымалі стыпендыю, выплачваецца за кошт прадпрыемства, арганізацыі, куды яны накіраваны на працу, дапамога ў памеры месячнай стыпендыі. Заработная плата за час адпачынку не аплочваецца. Выпускнікам, якія атрымалі магчымасць на самастойнае працаўладкаванне, такі адпачынак не аплочваецца.

Маладым спецыялістам, накіраваным пасля вучобы працаваць у іншую мясцовасць, выплочваюцца:

кошт праезду самога спецыяліста і членаў яго сям'і і кошт правозу маёмасці. Пры праездзе па чыгунцы аплочваецца кошт білета і плацкарта ў жорсткім вагоне, па водных шляхах—кошт білета другога класа. Праезд па шасейных і грунтовых дарогах аплочваецца па існуючым у данай мясцовасці тарыфе. Калі праезд па чыгунцы больш адных сутак, то па згодзе бакоў можа аплочвацца кошт білета ў мяккім вагоне. Калі сям'я ляціць самалётам, то аплочваецца білет толькі самога спецыяліста. Правоз маёмасці аплочваецца ў межах 240 кілаграмаў на самога спецыяліста і да 80 кілаграмаў—на кожнага члена ягонай сям'і;

сутачныя за час знаходжання ў дарозе ў памеры $^1/_3$ усяго акладу (тарыфнай стаўкі) па новым месцы работы, але не болей аднаго рубля ў суткі. Прытым дзень выезду і прыбыцця лічыцца за адзін дзень;

аднаразовая дапамога на маладога спецыяліста ў памеры паловы ўсяго яго акладу (тарыфнай стаўкі) на новым месцы працы, а на кожнага члена яго сям'і ў памеры $^1/_4$ дапамогі маладога спецыяліста.

Накіраваным на працу ў раёны Крайняй Поўначы і ў мясцовасці, прыроўненыя да гэтых раёнаў, аднаразовая дапамога выплочваецца ў памеры аднаго акладу (тарыфнай стаўкі) па новым месцы працы, а пры ўмове заключэння працоўнага дагавору на тэрмін не менш трох гадоў з часу прыбыцця да месца працы—двух акладаў ад будучай пасады.

Грашовыя сродкі маладому спецыялісту выплочвае навучальная ўстанова за кошт таго прадпрыемства (арганізацыі), куды ён накіраваны на працу. Канчатковы разлік спецыяліст атрымлівае тады, калі прыбудзе ў прызначанае месца.

Аднак маладыя спецыялісты абавязаны помніць, што калі яны не з'явіліся на месца працы без уважлівых прычын, звольніліся па ўласным жаданні ці былі звольнены за парушэнне працоўнай дысцыпліны раней трохгадовага тэрміну працы, то яны абавязаны поўнасцю вярнуць суму грошай, выплачаную ім у сувязі з пераездам. Калі ж малады спецыяліст не з'явіўся на працу ці адмовіўся прыступіць да яе па ўважлівай прычыне, то выплачаная сума вяртаецца з вылічэннем панесеных дарожных выдаткаў. Грошы, выплачаныя маладым спецыялістам, якія не прыступілі да працы з прычыны прызыву ў шэрагі Узброеных Сіл, не вяртаюцца.

Выпускнікі прафесійна-тэхнічных вучылішчаў таксама размяркоўваюцца. Іх накіроўваюць на працу па спецыяльнасці, і яны абавязаны працаваць на адным месцы вызначаны тэрмін: выпускнікі прафесійна-тэхнічных вучылішчаў—тры гады, выпускнікі чатырохгадовых горных прафесійна-тэхнічных вучылішчаў металургаў—два гады. А тыя, хто скончыў вучылішчы, якія рыхтуюць кваліфікаваных рабочых будаўнічых і мантажных прафесій з тэрмінам навучання да паўтара года, павінны адпрацаваць па накіраванні не менш двух гадоў, а з больш працяглым тэрмінам навучання—не менш трох гадоў. Рабочыя-будаўнікі, якія скончылі навучальныя камбінаты з тэрмінам навучання да шасці месяцаў, абавязаны адпрацаваць на будоўлях два гады.

Выпускнікі вучылішчаў перад працай атрымліваюць адпачынак за кошт прадпрыемства, на якое яны накіраваны. Аплочваюць ім адпачынак з разліку тарыфнай стаўкі па кваліфікацыйным разрадзе ці адпаведна будучага акладу. У залежнасці ад узросту выпускнікоў прафесійна-тэхнічных і тэхнічных вучылішчаў заканадаўца вызначае працягласць адпачынку. Выпускнікам, якія маладзей васемнаццаці гадоў, даецца месячны адпачынак, старэйшым васемнаццаці гадоў—адпачынак той працягласці, якая прадугледжана для гэтай прафесіі ці спецыяльнасці.

**Эрнст СІДАРАЎ,**
**юрыст.**



# У КРАІНЕ ГОР

## З ТАДЖЫКСКАГА БЛАКНОТА

Уражанне ад знаёмства з гэтымі мясцінамі засталося на ўсё жыццё. Ланцугі гор, люстэркі азёр у міжгор'ях, багаты раслінны і жывёльны свет. Гэта Памір. Тут знаходзяцца землі аднаой з рэспублік-сясцёр — Таджыкскай ССР. Пра свой край добра сказаў пісьменнік Айні: «Адукаваныя людзі трапляліся ў дарэвалюцыйным Таджыкістане гэтак жа рэдка, як дрэвы ў саланчаковай пустыні». Дзіўна, што народ, які даў свету вялікіх гуманістаў Рудакі, Фірдаусі, Авіцэну, да Вялікага Кастрычніка заставаўся цёмным, бясправўным.

Некалі часопіс «Вестник воспитания» заняўся падлікамі, калі Туркестанскі край зможа дасягнуць усеагульнай адукацыі, і прыйшоў да вываду: праз 4600 год! Савецкая ўлада, як вядома, намнога скараціла гэты тэрмін. Сёння Таджыкістан — адна з адукаваных краін свету: у рэспубліцы на 10 тысяч жыхароў — 130 студэнтаў...

Новае бачыш усюды. Вежавыя краны пад снежнымі шапкамі гор, новыя вуліцы, шчодрыя дарункі на стале таджыка...

У сталіцы Горна-Бадахшанскай аўтаномнай вобласці — горадзе Харогу нам прыгадалі такі выпадак. Пры царызме па загадзе атамана Сямёнава ўзвод казакаў нёс на руках піяніна для яго дачкі. З горада Оша ў горад Харог: 726 кіламетраў! Амаль усё лета цягнуўся гэты караван па вузкай горнай сцежцы цераз перавалы, леднікі, бурныя рэкі. Тады адзіная сцежка звязвала сталіцу горнага Бадахшана са знешнім светам. Мы бачылі гэтае піяніна, якое амаль дзевяноста дзён вандравала на руках казакаў. Цяпер у музычнай школе Харога на ім дзеці таджыкаў і бадахшанцаў вучацца музыцы.

У гарах Паміра звіняць песні на роднай мове, гучыць напеўная музыка таджыкскіх кампазітараў. А тая вузкая сцежка, на якой пралёг цяжкі шлях казакаў, стала магістраллю даўжынёй у 726 кіламетраў. Дарогу можна назваць трасай дружбы, бо яе пракладвалі прадстаўнікі многіх народаў СССР. Пры пракладцы Усходне-Памірскага тракту ў 1940 годзе ўдзельнічала 20 тысяч чалавек — жыхары кішлакоў Рушан, Дарваз, Шугнан і многіх іншых. Руку дружбы працягнулі ўсе рэспублікі. Перамагла працавітасць, настойлівасць, дружба.

Заліты асфальтам Памірскі тракт чацвёртае дзесяцігоддзе служыць людзям. І ўжо не па вузкай сцежцы вязуць піяніна ў Харог, а ў кузаве МАЗа, і не за дзевяноста, а менш як за два дні. За суткі праходзіць тут некалькі тысяч аўтамашын. Са станкамі Ленінграда, з прыборамі Кішынёва, трактарамі Беларусі, камбайнамі Растова... Па тракце дастаўляюцца падручнікі для дзяцей Харога, пральныя машыны для гаспадынь Алайскай даліны, радыёпрыёмнікі для пастухоў Уюга...

Там, у Харогу, жартуюць: кожны жыхар горада — альпініст. Мяркуйце самі. Схадзіць у госці да сваяка ці пабываць на вяселлі ў сябра або завітаць у свой Палац культуры — пераадольвай горныя кіламетры. Харог размешчаны на вышыні 3.320 метраў вышэй узроўню мора. Усё здзіўляе тут. Вяршыні Паміра, адзетыя ў срэбны панцыр леднікоў, арыкі на вуліцах, буйная квецень уруку ў садах, шчодрае сонца і дзівосныя гасцінныя людзі. Калі ты пераступіў граніцы кішлака — ты госць усяго кішлака. Калі ласка, частуйся! Табе наперабой прапаноўваюць урук ці мяса архара (так завецца горны казёл). Мяса яго вельмі смачнае. У піялах частуюць айранам — кіслым авечым малаком. Гэта сапраўдны бальзам у трыццаціпяціградусную спякоту.

Гасцінным гаспадарам мы пакідалі нашы сувеніры, а няўрымслівай і цікаўнай дзетвары — значкі...

...Падарожжа па Паміры ішло ўсяляк. Са сталіцы Таджыкістана Душанбэ мы ляцелі на самалёце «Як-40», які лёгка адолеў вышыню васьмікіламетровых гор. Ад такой вышыні кружылася галава. Здавалася, самыя фантастычныя казкі ажылі тут, на Паміры. А пасля мяккага крэсла самалёта давялося прымасціцца на бавоўне, якую везлі ў Ош.

На бездаражы ратаваў нас ішак. Маленькі, з кароткімі нагамі, ён упарта нёс нашы рукзакі па кручах гор. Праз бурныя рэкі пераплывалі на вярблюдах. Павага да гэтых жывёлін на Паміры асаблівая.

Пра дзівосы і характво Паміра пісаць цяжка — іх трэба адчуць сэрцам. Што ні крок — захапленне і здзіўленне. Зачароўвае возера Яшыль-Куль. Блакітнае люстэрка на далонях Зямлі. Горы ў смузе. У возеры шмат рыбы. Не кожны рыбак пажадае пераадольваць транспартныя перашкоды і трохтысячную вышыню. Рыбу мы лавілі... кашуляй. Звязвалі рукавы, і нічога сабе, лавілася рыбка, якую тут называюць марынка. Хапіла на трайную юшку!..

На перавале Лянгар-Куталь, далёка ад гарадскіх муроў, за 400 кіламетраў ад Харога, сустрэлі мы чабаноў. Сем'і братоў Наза-



Геолагі Таджыкістана вядуць разведку багаццяў рэспублікі. У Гісарскай даліне знойдзены вялікія запасы газу.



Хлапчук з Харога.

ра і Айдара Марадмамадавых пасвілі тут, у даліне, вялікі статак авечак, якаў і коз.

Напрадвесні пакідалі яны родны кішлак Батчор, што ў Харогскім раёне, і, сабраўшы калгасны статак — да трох тысяч авечак, ішакоў, коз і вярблюдаў, — праз некалькі тыдняў цяжкага пераходу дабіраліся сюды, у даліну. Тут найлепшая паша, чыстае паветра. Цэлае лета сем'і жывуць у юртах, пасвяць жывёлу; мужчыны займаюцца яшчэ і паляваннем, а жанчыны — гаспадаркай і вязаннем.

У праўленні калгаса «Памір», дзе працуюць самыя паважаныя чабаны краю, пра Айдара і Назара расказваюць цёпла і з павагай.

...Нас запрашаюць у юрту. На агні смажыцца плоў. Уся сям'я ў зборы: так прынята сустракаць гасцей. Мы частуемся айранам, зацікаўлена аглядаем убранне юрты, а дзетвара — нашу фотаапаратуру, біноклі, рукзакі...

...Стары Айдар маўчыць. Доўга глядзіць на агонь, на каленях спачываюць вялікія жылістыя рукі... Стары Айдар думае. Ціха ў юрце. Тут, на Паміры, ведаюць цану чалавечага маўчання. Твар у Айдара ўвесь у шрамах. Нам расказвалі, што на Айдара некалькі разоў нападалі ваўкі, і толькі выключная мужнасць выратоўвала яго. Айдару пераваліла на дзевяты дзесятак. Тут, сярод гор, прайшло яго вялікае жыццё.

— Сваю першую калгасную атару я вёў разам з бацькам, — расказвае яго брат Назар. — Былі провады ў вёсцы. Маўчанне матулі. У нас праводзяць ціха, без слёз... Шлях на летаўку, у даліну, пралягаў праз непакорную раку Гунт. Колькі авечак забірала яна ў нас кожны год... А той год нечакана ўлетку ўдарыў мароз. На Паміры здараецца рознае, і не прыдумаеш, што ўрыхтавана табе заўтра. Пастухі ведаюць, што азначае мароз улетку. А начамі вецер шалёна сыпаў снегам. Дапамагала песня. Праўда, песня была сумная і неабсяжная, як горы... А пасля выпаў снег. Даліна пакрылася скарынкай лёду. Адзіны выхад — ісці цераз перавал. Амаль тры тысячы авечак было, а дамоў прыйшла палова... І тата мой не вярнуўся дамоў. Там, у вялікай цясніне, яго магіла. У тую ноч напалі ваўкі. Галодныя памірскія ваўкі. Тата паліў кастры, бегаў ад аднаго вогнішча да другога, шпурляў галавешкі ў воўчыя морды.

На высакагорнай гідраметэаралагічнай станцыі «Сарэз».





У аэрапорце горада Душанбэ. Сабраліся ў дарогу...

А пасля заржалі коні, тата кінуўся туды, а кругом тварылася такое, што не раз пасля з'яўлялася мне ў сне... Тата... Дзікае ржанне коней... Воўчыя пашчы...

...Цэлы дзень мы былі гасцямі знатных чабаноў, чулі іх паданні, песні... Час і развітвацца. Як і цяпер, перад вачыма дзесяткі постацяў на фоне бліскучых вяршыняў гор, твар старога Айдара, яго моцныя загарэлыя рукі.

— Вы ведаеце, што ў нас расце бульба не горш за слуцкую ці ўрэцкую? — запыталі ў нас у Харогу.

Мы пазнаёміліся.

— Васіль Мікалаевіч, біёлаг. Жыву ў Харогу колькі гадоў. А родам сам з Урэчча, на Любаншчыне. Пасля вайны прыехаў сюды. Удзельнічаў у баях за Прагу, Берлін, а цяпер вось на Паміры. У навукова-даследчым інстытуце. Вядома, сумую па Беларусі. А ка-





Стары Айдар — чабан калгаса «Памір».
Брат Айдара — Назар.



Нурэкская ГЭС—будучае сэрца Паўднёва-Таджыкскага прамысловага комплекса.

лі ў адпачынак еду — на Палессі душу адводжу...

Тут у братняй сям'і дружна жывуць і нашы землякі. Яны пякуць смачны хлеб у пякарні Ішкашыма, вучаць дзяцей у Харогу, працуюць у геалагічных партыях, вывучаюць леднікі, кіруюць самалётамі...

Мне прыгадаліся сустрэчы з таджыкамі ў Беларусі: на Салігорскім калійным камбінаце, на Бярозаўскай ДРЭС. Жыхары горнага краю адчувалі сябе гаспадарамі сярод будаўнікоў Лукомльскай ДРЭС, Наваполацкага хімкамбіната, у аўдыторыях навукова-даследчых інстытутаў беларускай сталіцы. Як сімвал нашай дружбы, нястомна працуюць нашы МАЗы на дарогах Паміра, трактары «Беларусь» на палетках бавоўнаводаў...

Бадай, самым незабыўным было дзесяцідзённае падарожжа да дзіўнага возера, якое завецца Сарэзскім. Наша маленькая група, у складзе якой мінчане інжынер Канстанцін Лепяціла, тэхнік аднаго з заводаў Міхаіл Бука, настаўніца Галіна Ракіцкая і аўтар гэтых радкоў, пераадольвала пад'ёмы, пераходзіла горныя рэкі. Пры спякоце, з двухпудовымі рукзакамі. І ўзнагародай за гэты пераход было Сарэзскае возера.

Расказваюць, што да 1911 года тут было спакойна, у глыбокіх абрывістых берагах, вышэй узроўню мора, цякла памірская рака Мургаб, што азначае «белая вада». Па даліне ракі пралягаў у даўнія часы гандлёвы шлях паміж краінамі Паўднёва-Усходняй Азіі і Кітаем. Маленькія кішлакі Усой, Ірхт, Сарэз былі апошнімі верхнімі таджыкскімі кішлакамі даліны Мургаба. У ноч на 19 лютага 1911 года схіл гіганцкай гары на тры кіламетры даўжынёй раптам рушыў з месца і са страшэнным грукатам, сатрасаючы зямную кару ў раёне Паміра і Афганістана, пасунуўся ў даліну Мургаба. Гэты грандыёзны абвал не меў роўных у свеце. 2 мільярды дзвесце мільёнаў кубічных метраў каменю абсыпалася на маленькі кішлак Усой. Толькі







Нялёгкі хлеб горных турыстаў.

цудам застаўся жывы адзін жыхар кішлака Міршаіб Гургаліеў. Там, пад усойскай плацінай, яго сям'я: чацвёра дзяцей, дзед, жонка...

На Сарэзскім возеры мы сустрэліся з сынам гэтага чалавека Мірназарам. Ён расказваў: «З таго дня вялікая вада Мургаба не пайшла далей — яе не пускала плаціна завалу. Узровень вады падымаўся з кожным днём. Затапляліся ўрадлівыя даліны, кішлакі, дарогі. Мы з татам часта бывалі там, на плаціне. Тата, праязджаючы возера, гадзінамі сядзеў на завале, плакаў...»

А зараз Мірназар разам з таварышамі працуе на гідраметэаралагічнай станцыі, вывучае незвычайнае возера: клімат яго дзейнічае на вялікі горны раён. Праз кожную гадзіну ў эфір ідуць звесткі аб тэмпературы, ціску, узроўні вады.

— А тут ваш зямляк Міца



Гэтую дзяўчыну-джыгітку мы сустрэлі на горнай сцяжыне ў гарах Паміра.



**Пейзаж высакагорнага калгаса «Памір» Харогскага раёна.**

Шаловіч з Гомельшчыны, — расказвалі нам на гідраметэаралагічнай станцыі «Сарэз». — Шкада, што не сутрэнецеся з ім. Ён на некалькі дзён пайшоў за перавал у кішлак Саўноб, на паштамт...

Пра Міцю мы пачулі цёплае слова. Расказалі пра тое, як ён, рызыкуючы, адзін пайшоў за перавал і праз некалькі дзён прынёс лякарствы для хворага радыста Алчыбету, як ён хараша спявае песні і наогул які ён надзейны таварыш...

Возера Сарэзскае — грознае, суровае і надзвычай прыгожае. Велічныя бухты пад наглядам волатаў-скал, вадаспады вышынёй да ста метраў, фіёрды з рознакаляровымі схіламі. У люстраную гладзь возера глядзяцца пікі сівых-сівых вяршынь Паміра...

Пра Памір можна расказваць бясконца. Нельга не ўспомніць пра многакіламетровыя дываны цюльпанаў у далінах гор, пра самы магутны ў свеце ляднік Федчанкі, вадаспады Варзобскай цясніны, пра будаўнікоў Вахана, снежныя лавіны, палац культуры ў Ішкашыме, пра возера паблізу Душанбэ, пра слаўных людзей гэтага краю. Тых, хто водзіць аўтамашыны па Усходне-Памірскім тракце, вырошчвае бавоўну, водзіць караваны, вывучае леднікі, пакарае горныя вяршыні, пракладвае лініі электраперадач...

Такая ява, народжаная Вялікім Кастрычнікам, дружбай братніх народаў СССР.

**Вячаслаў ДУБІНКА.**
Фота **аўтара.**

■■■



# ГЕНРЫХУ ВАГНЕРУ — ПЯЦЬДЗЕСЯТ ГАДОЎ

Пачатак творчага шляху Генрыха Вагнера звязаны з франтавым тэатрам. З 1943 года былы студэнт фартэпіяннага факультэта Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, які стаў музычным кіраўніком тэатра, пачынае пісаць музыку да прадстаўленняў. Слухачамі былі воіны і насельніцтва прыфрантавых гарадоў і вёсак. У той час пачынаючаму музыканту, а цяпер вядомаму кампазітару—заслужанаму дзеячу мастацтваў БССР Генрыху Матусавічу Вагнеру—толькі пераваліла за 20. Франтавы тэатр быў для яго не толькі месцам, дзе пачаў абуджацца кампазітарскі талент,— тут ён таксама пазнаў савецкіх людзей у час цяжкіх выпрабаванняў, іх рашучую мужнасць, высакароднасць душы і дабрату. Тут была ўсвядомлена веліч народнага подзвігу. Грамадзянскае станаўленне кампазітара, які прайшоў праз горан вайны, і вызначыла ўвесь яго далейшы творчы шлях. Шчырасць, таварыскасць—вось характэрная рыса Вагнера. Яго можна сустрэць усюды, дзе толькі любяць музыку: у піянерскім лагеры і на пагранічнай заставе, на семінары самадзейных музыкантаў і ў падшэфным калгасе, на новабудоўлі і на з'ездзе кампазітараў. Ён знаёміцца з жыццём народа, для якога піша сваю музыку.

Г. Вагнер—майстар буйных форм. Ён аўтар балетаў «Падстаўная нявеста» (1958) г.), «Святло і цені» (1962 г.), «Пасля балю» (1967 г.). Першы з названых балетаў быў першым беларускім лірыка-камедыйным творам гэтага жанру. Жыццерадаснасць, аптымізм, арганічная сувязь з беларускім фальклорам, сапраўдная танцавальнасць—такія характэрныя рысы твора. Аднак адным з істотных недахопаў яго з'явілася некаторая дывертысментнасць, фрагментарнасць. Далейшыя пошукі кампазітара былі накіраваны не толькі на ліквідацыю гэтых недахопаў, але і на драматызацыю твораў, на раскрыццё ўнутранага свету герояў, на сімфанізацыю музычнай тканіны.

Балет «Святло і цені», створаны па рамане П. Броўкі «Калі зліваюцца рэкі»,— першы твор у харэаграфіі, прысвечаны антырэлігійнай тэме. Няма нічога дзіўнага, што менавіта пра гэты твор пасля яго паказу на сцэне Крамлёўскага палаца з'ездаў у 1964 годзе гаварылася, што ён дапамагае партыі і народу ў выхаванні новага чалавека, у фарміраванні яго светапогляду.

Далейшая псіхалагізацыя жанру балета ў беларускім мастацтве выражана ў творы на сюжэт Л. Талстога «Пасля балю». Тут арганічна спалучаюцца глыбокі псіхалагізм і жанрава-драматычная насычанасць, лірыка і гратэск. Сімфанічная музыка Г. Вагнера атрымала вядомасць не толькі за межамі рэспублікі— у Савецкім Саюзе, але і за рубяжом. Так, яго «Беларуская сюіта» (1957 г.) гучала ў Сафіі, Ясах, Любліне. Папулярнасць атрымалі таксама яго «Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам», Першая сімфонія і шэраг іншых сімфанічных твораў, у тым ліку і «Піянерская сюіта». Асабліва хочацца спыніцца на вакальна-сімфанічнай паэме «Вечна жывыя» (1959 г.)—своеасаблівым рэквіеме ахвярам фашызму і гімне невядомым героям. Музычная драматургія твора заснавана на канкрэтных супрацьпастаўленнях: успаміны мінулага—вайна, вобразы сучаснасці—мір. Гвалтоўны вываз людзей у фашысцкую няволю, гнеўны пратэст нявінных ахвяр і іх гібель у няроўнай барацьбе супраць фашыстаў—мінулае. Сучаснае асацыіруецца з пяшчотнымі вобразамі вечна жывой прыроды. Злавеснаму маршу фашыстаў у паэме супрацьстаяць інтанацыі паэтычнай беларускай народнай песні «Павей, ветрык», якую спявае жаночы хор без слоў. Паэма Г. Вагнера, якая прагучала на

канцэртных эстрадах Беларусі, Літвы, Масквы, Украіны, Польшчы, атрымала вышэйшае прызнанне ў 1967 годзе: яна трансліравалася па Цэнтральным тэлебачанні ў час жалобна-трыумфальнай цырымоніі адкрыцця архітэктурнага ансамбля на Мамаевым кургане ў Валгаградзе. Да 50-годдзя Узброеных Сіл Савецкага Саюза Усесаюзнае радыё стварыла спецыяльную кампазіцыю па гэтым творы.

Дасягненні Вагнера-сімфаніста выявіліся і пры рэдагаванні ім оперы памёршага кампазітара А. Туранкова «Яснае світанне», і пры стварэнні тэлеоперы «Раніца» (1967 г.). Вобразы беларускага народа, які змагаецца за Савецкую ўладу, рамантычны вобраз Раніцы знайшлі яркае адлюстраванне ў музыцы тэлеоперы, экранізаванай беларускім тэлебачаннем.

Вялікае месца ў Г. Вагнера займае фартэпіянная музыка. Асновай музычнай мовы яго фартэпіяннай творчасці галоўным чынам з'яўляецца беларускі фальклор. Творы, якія прызначаны для юных музыкантаў, не толькі дапамагаюць авалодваць фартэпіяннай тэхнікай, але і абуджаюць любоў да беларускай народнай песні. Яркую старонку кампазітар упісаў і ў жанр харавой песні. Гэта творы пра жыццё піянерскіх атрадаў—меладычныя, поўныя запалу і аптымізму.

Харавы жанр прадстаўлены ў Г. Вагнера і апрацоўкамі беларускіх народных песень класічнай традыцыі і апрацоўкамі народных песень самадзейных кампазітараў.

Яшчэ ў 1943 годзе ў праграму Дзяржаўнага джаз-аркестра РСФСР пад кіраўніцтвам Л. Уцёсава ўвайшоў «Студэнцкі вальс» Г. Вагнера—яго першы вакальны твор. З таго часу кампазітар напісаў нямала твораў гэтага жанру. Сярод іх і «Тры дубы»—пра садружнасць трох братніх народаў: Беларусі, Украіны і Расіі; «Песня пра добрых таварышаў» (выдадзеная і на польскай мове ў Варшаве) і цыкл рамансаў «Настроі».

Шмат музыкі стварае Г. Вагнер да спектакляў тэатраў імя Янкі Купалы, Максіма Горкага, Якуба Коласа, Тэатра юнага гледача і інш. Ён удумліва ўвасабляе вобразы герояў Шэкспіра, Лопе дэ Вега, Сафронава, Лаўранёва, Шамякіна, Гайдара... Ён актыўна працуе і ў жанры кінамузыкі, музыкі для радыёпастановак і эстрадных прадстаўленняў.

Г. Вагнер поўны творчых сіл і самых разнастайных задум. У дзень юбілею пажадаем яму творчага ўвасаблення ўсяго задуманага.

**Серафіма НІСНЕВІЧ.**

*Жнівень* | **НА КІНАЭКРАНАХ РЭСПУБЛІКІ**

# «Камітэт 19-ці»



Так называецца новы каляровы двухсерыйны шырокаэкранны мастацкі кінафільм, створаны на «Масфільме» па сцэнарыі С. Міхалкова і С. Шлепянова.

Пастаноўку карціны ажыццявіў рэжысёр Сава Куліш, які заваяваў прызнанне гледачоў сваім фільмам «Мёртвы сезон».

У новым фільме Куліша расказваецца пра барацьбу прагрэсіўных сіл міру супраць тых, хто выношвае агрэсіўныя планы, хто ў цішыні лабараторый і кабінетаў рыхтуе жудасную зброю масавага знішчэння. У цэнтры апавядання — высакародная дзейнасць савецкага вучонага і дыпламата Смаленцава. У яго ролі здымаўся акцёр Куйбышаўскага драматычнага тэатра Мікалай Засухін. Ён увасобіў яркі і шматгранны характар чалавека, які выконвае свой нялёгкі, але ганаровы абавязак перад Радзімай. Акрамя М. Засухіна, у галоўных ролях здымаліся Ю. Ярвет, А. Вокач, В. Пансо, Ю. Стрэнга, С. Ландграф, І. Данской і іншыя. Дачку Смаленцава — Наташу — іграе выпускніца сярэдняй школы Святлана Смяхнова. Для ўдзелу ў здымках былі запрошаны таксама балгарскі акцёр Навум Шопаў і артыст з Францыі Башыр Турэ.



# «Кропка, кропка, коска...»

Фільм створаны на кінастудыі «Масфільм» па сцэнарыі Міхаіла Львоўскага рэжысёрам Аляксандрам Мітаем, якога глядач ведае па карцінах «Сябар мой, Колька!», «Звоняць, адчыніце дзверы», «Гары, гары, мая зорка».

Новая работа рэжысёра прысвечана жыццю сённяшняга юнага пакалення. Гэта камедыя, але сур'ёзная, якая расказвае пра самы галоўны момант у жыцці падлетка — пераўтварэнне яго ў асобу. У фільме іграе выдатны акцёр Юры Нікулін.

## «Развітанне з Пецярбургам»



У аснове сюжэта гэтай каляровай шырокаэкраннай мастацкай кінастужкі, выпушчанай «Ленфільмам», — нявыдуманая гісторыя, звязаная з гастролямі ў Расіі славутага аўстрыйскага кампазітара і дырыжора Іагана Штрауса. Трынаццаць сезонаў выступаў Штраус у Паўлаўску, тут ім былі створаны многія творы, тут Штраус перажыў асабістую драму.

Фільм паставіў заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР кінарэжысёр Ян Фрыд па сцэнарыі Анатоля Грэбнева.

У ролі Штрауса здымаўся артыст Латвійскага акадэмічнага тэатра драмы Гірт Якаўлеў, якога мы не так даўно бачылі ў фільме «Горад пад ліпамі». Гірт па-сапраўднаму музыкальны, у фільме ў яго не было дублёра, ён сам іграе на скрыпцы, дырыжыруе. У ролі Вольгі Смірніцкай знята маладая актрыса Ленінградскага тэатра юнага гледача Тацяна Бедава, якая паспяхова дэбютавала ў кінематографе ў ролі Сонечкі ў фільме «Злачынства і пакаранне».

## «Каралі для маёй каханай»

Гэтая новая грузінская кінакамедыя знята на аснове аповесці А. Абу-Бакара «Карáлі для маёй Серміназ». Здымкамі кіраваў народны артыст Грузінскай ССР Тэнгіз Абуладзе. Гледачы добра знаёмыя з яго фільмамі, якія не раз атрымлівалі прэміі на міжнародных кінафестывалях: «Чужыя дзеці», «Я, бабуля, Іліко і Іларыён», «Маленне». Пераказаць змест новай карціны нельга, як нельга пераказаць верш. Галоўная яго думка пра тое, што чалавек *можа і павінен рабіць дабро.*

У галоўных ролях здымаліся Р. Геаргабіяні, Э. Манджгаладзе, Р. Чхіквадзе, Г. Гегечкоры, Л. Енгібараў і іншыя.

## «Апошні форт»

Мір... Доўгачаканы, заваяваны дарагой цаной мір. Цішыня першай мірнай вясны. Невялікае нямецкае паселішча Таненвальд. Тут воляю лёсу аказаліся чатыры савецкія салдаты. Рускі, казах, малдаванін і беларус. Яны — прадстаўнікі народа-пераможцы. Насцярожана адносяцца да іх мясцовыя жыхары — немцы. Як будуць сябе паводзіць савецкія салдаты?

Фільм будуецца на псіхалагічнай аснове: ёсць савецкі чалавек, ёсць яго мараль, яго прынцыпы, яго духоўны свет. Гэтым ён моцны.

*Сцэнарый напісаны па рамане малдаўскага пісьменніка Самсона Шлаху «Пасля вайны».* Аўтары сцэнарыя — Самсон Шлаху і нядаўні выпускнік інстытута кінематаграфіі Сяргей Тарасаў. Паставіў фільм на кінастудыі «Малдова-фільм» рэжысёр Васіль Брэскану.

У галоўных ролях здымаліся папулярныя кінаакцёры Валянцін Зубкоў, Балот Бейшаналіеў, Эла Ляждзей, Ліна Бракнітэ.

■■■



# РАСКАЗВАЮЦЬ ГРОШЫ

**У Дзяржаўным музеі Беларускай ССР сабрана вялікая калекцыя грашовых знакаў. Асаблівую цікавасць маюць грошы, якія выходзілі ў час Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны.**

**Розныя абшчыны, «рэспублікі», рэжымы, якія ўсплывалі на арэну палітычнага жыцця і знікалі ў завірусе падзей, адлюстраваны ў грашовых знаках.**

«За фунт стэрлінгаў — пуд керанак!» — так Часовы ўрад у 1917 годзе шчодра растрачваў паперу на выпуск грошай. Салдаты, якія пакідалі фронт, не знаходзілі ім іншага прымянення, як «рэзацца ў дзевятку» і «дваццаць адно», «гнаць на бочку». Расплачваліся неразрэзанымі лістамі дваццаці- і саракарублёвых керанак, не лічачы іх, а адмерваючы чвэрцямі.

Грошы сталі рабіць усе: і вінна-гастранамічныя магазіны ў правінцыі, і белыя банды...

Вось яны, грошы, на гербавай паперы — цэнтральныя і некаторыя ўскраінныя, на шоўку — хівінскія, на шэрай паперы — бухарскія, на кардоне і амаль на тытунёвых этыкетках — з розных куткоў краіны.

Разнастайныя боны, гэтыя грашовыя сурагаты... Чырвоныя, белыя, жоўтыя, зялёныя, карычневыя... Пярэсты ўзор малюнкаў, лічбаў, надпісаў, зялёныя вянкі Украіны, мудрагелістая вязь Усходу — якіх толькі не было грошай! А на іх — царскія партрэты, Георгі Пабеданосец, помнік Ермаку, германскі крыж. І ўсе... «забяспечваюцца ўсім здабыткам» або маёмасцю якога-небудзь Крыжопаля, Сосніц, Глухава, Слуцка...

Крэдытныя білеты Савета Бакінскай гарадской гаспадаркі, кароткачасовае абавязацельства французскага банка ў Омску, Сібірскага часовага ўрада, атамана Антонава, таварыства Уладзікаўказскай чыгункі і іншыя.

Не засталася ўбаку і тэрыторыя Беларусі. Вось кароткачасовая бона слуцкага павятовага земства вартасцю 5 рублёў з подпісам старшыні земскай управы. Шэрая з блакітнаватай сеткай папера, аддрукавана ў звычайнай друкарні.

На поўначы «народны сацыяліст» Чайкоўскі дэкларавала свой «сацыялізм» копіяй царскіх крэдытак з поўным царскім арлом і надпісам: «Паўночная Расія». Нават саюзнікі-англічане сканфузіліся і на свой кошт замазалі арлоў на крэдытках, якія яшчэ не ўбачылі свету, густой чорнай фарбай. Так і выйшлі крэдыткі з чорнымі кругамі замест герба.

На поўдні быў свой «правіцель» і выпускаў свае грошы. Гэта былі дзянікінскія тысячныя «званы» з намалёваным маскоўскім «цар-звонам». Атаман Шкуро на некалькі дзён захапіў Кіславодск і паспеў выпусціць шэраг бон, якія Дзянікін хутка зняў з абароту.

У Кіеве ў час улады Дырэкторыі на чале з Пятлюрам выйшлі масавыя пятлюраўскія асігнацыі — карбаванцы і шагі. Калі ў крамах сталі даваць рэшту пятлюраўскімі асігнацыямі, людзі з недаверам разглядалі шэрыя паперкі, на якіх ледзь-ледзь праступалі цьмяныя плямы жоўтай і блакітнай фарбы, і думалі: грошы гэта ці не. Фальшывых грошай было так многа, што людзі моўчкі згадзіліся не рабіць паміж імі ніякай розніцы. Фальшывыя грошы хадзілі свабодна і па тым жа курсе, што і сапраўдныя.

Не было ніводнай друкарні, дзе наборшчыкі і літографы не друкавалі б пятлюраўскія карбованцы і шагі. Шаг быў самай дробнай адзінкай. Ён каштаваў паўкапейкі.

Некаторыя рабілі грошы дома пры дапамозе акварэльных фарбаў і тушы.

«Зялёныя» з Чарнамор'я ўзялі ў палон мастака і прывезлі яго ў Сочы, каб ён стварыў эскіз новых грошай. Махно таксама трымаў пры сабе такіх «мастакоў».

У грудах бон кур'ёзна выглядаюць экземпляры, выпушчаныя грэчаскай абшчынай пры царкве св. Мікалая ў Батуме, вінна-гастранамічнай крамай у Іркуцку, пякарняй яўрэйскага дабрачыннага таварыства ў Звянігарадску і іншыя.

Кіеўская вытворча-спажывецкая арганізацыя выпусціла мала каму вядомыя «натуральна-разліковыя знакі для безграшовага абмену ўсяго лішняга, што прымалася ад кожнага па яго здольнасцях на ўсё неабходнае па яго патрэбах». У цэнтры боны — цана: 10 пудоў аржаной мукі.

На Далёкім Усходзе ў 1919 годзе паявіліся грашовыя знакі, якія прызначаліся для калчакоўскага белагвардзейскага ўрада. Яны яскрава сведчаць, на каго арыентаваўся і кім падтрымліваўся гэты ўрад: грошы былі аддрукаваны ў ЗША і разам са зброяй і амуніцыяй прывезены ў Омск. Праўда, «вярхоўнаму правіцелю Сібіры» не ўдалося выкарыстаць

гэтыя грошы, за выключэннем ярка-аранжавых паўрублёў: яго пагналі з Омска, а грашовыя знакі потым скарыстоўваліся часовай земскай управай Прыбайкалля.

Калі Прымор'е і, у прыватнасці, Уладзівасток, занялі партызаны, бальшавікі на чале з Сяргеем Лазо юрыдычную ўладу ўручылі земскай управе і сфарміравалі часовы ўрад Прыморскай земскай управы. Новай уладзе давялося весці барацьбу з запаланіўшымі прыморскі рынак калчакаўскімі «абавязацельствамі Дзяржаўнага казначэйства», ці, як іх называлі, «сібіркамі», а таксама японскай іенай.

Больш чатырох месяцаў змагаўся з чужымі грашыма прыморскі рубель. І яму ўдалося зняць з абароту калчакоўкі і іены.

І яшчэ адзін, з светла-карычневай сеткай, рубель нёс на сваіх плячах цяжар стабілізацыі фінансавага становішча Далёкаўсходняй рэспублікі, створанай па ініцыятыве У. І. Леніна. Той рубель — узор ужо новай геральдыкі. Калі на большасці тагачасных грашовых знакаў, нават на першых савецкіх грашах, мы бачым традыцыйнага арла (праўда, без кароны), то на гэтым — сноп калосся, якар і каса. У такой грашовай мешаніне Савецкай Расіі цяжка было праводзіць фінансавую палітыку. На пачатку прыходзілася карыстацца грашовымі знакамі, што былі выпушчаны пасля Лютаўскай рэвалюцыі. У 1918 годзе былі распрацаваны мерапрыемствы па правядзенні грашовай рэформы, але здзейсніць яе не ўдалося з-за грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі.

У 1919 годзе выйшлі разліковыя знакі Расійскай сацыялістычнай Федэратыўнай рэспублікі з подпісам народнага камісара фінансаў. Намінальная вартасць іх дасягала астранамічных лічбаў. Над касай, дзе атрымлівалі зарплату рабочыя і служачыя, часта можна было прачытаць аб'яву: «Таварышы! Суму пішыце прапісам і не турбуйце касіра рэзаннем грошай. Рэжце самі!» Касір атрымліваў грошы вялікімі лістамі і траціў шмат часу на тое, каб разрэзаць іх на купюры. Да нас дайшлі такія неразрэзаныя лісты. У залежнасці ад кошту купюр лісты з надрукаванымі на іх грашыма ацэньваліся па-рознаму. Напрыклад, тысячарублёвак было аддрукавана на лісце 20 штук, таму ліст каштаваў 20 тысяч, а дзесяцірублёвак — шэсцьдзесят штук, і ліст адпаведна каштаваў шэсцьсот рублёў. Тысячныя асігнацыі называліся «кускамі», мільёны — «лімонамі», мільярды — «ліманардамі». Гэта пра іх спяваў малады Уцёсаў:

Эх, лімончыкі,
Мае чырвончыкі...

Калі гаварыць пра мільянераў і мільярдэраў, дык іх было больш за ўсё ў часы грамадзянскай вайны: служачы атрымліваў зарплату ў сотні тысяч і мільёны рублёў. Праўда, карабок запалак каштаваў тады 100 тысяч рублёў.

Часта, атрымаўшы грошы, прыходзілася рабіць з імі наступную аперацыю: прыціскаць да фанеры грашовы ліст, накладваць паверх кавалак паперы і з ўсёй сілы церці па ёй, каб зняць з грашовага ліста лішнюю фарбу. Пасля гэтага грошы адбіваліся на фанеры з такой выразнасцю, што, як пераконвалі жартаўнікі, з іх можна было рабіць адбіткі і пускаць у абарот.

У 1922 годзе У. І. Ленін, ацэньваючы фінансавае становішча маладой рэспублікі Саветаў, гаварыў: «Што сапраўды важна, гэта — пытанне аб стабілізацыі рубля».

У 1922—24 гадах Савецкая дзяржава правяла грашовую рэформу, пачаткам якой з'явіўся выпуск крэдытных білетаў Дзяржаўнага банка — чырвонцаў. Паралельны абарот чырвонцаў і старых абясцэненых знакаў працягваўся з 1922 па 1924 год. Ранейшыя грошы былі прыроўнены да грошай узору 1923 года па суадносінах 1 000 000 : 1.

Завяршылася грашовая рэформа выпускам у 1924 годзе казначэйскіх білетаў і зняццем старых савецкіх грошай узору 1923 года. Новы савецкі рубель пачынаў наводзіць парадак у стварэнні сацыялістычнай эканомікі.

**Іван ЗАГРЫШАЎ,**
**намеснік дырэктара**
**Дзяржаўнага музея БССР.**

■■■

## усмешкі маладосці

● **Уладзімір ЛЯВІЦКІ**




### ШТАТНЫ НУЛЬ

**Быў нуль —**
**Цяпер ён чорту брат:**
**Быў нуль, пакуль**
**Не ўзялі ў штат.**



### БОТ

**Быў галёш калісь пад ботам —**
**Скончыў лёс пераваротам.**
**І цяпер наадварот —**
**У галёш сеў гэты Бот.**



### СЫЧ

**— Хабару**
**Не бяру,—**
**Кажа Сыч.—**
**Але... можаце даць**
**Магарыч.**

● **Павел ШЫБУТ**




### МУХА

**Хваліла мёд, як села есці.**
**Калі ж уліпла — стала бэсціць.**

Мал. **С. Волкава.**

# нашы аўтары

**БАРАДУЛІН Рыгор** нарадзіўся ў 1935 годзе на Ушаччыне. Скончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў. Цяпер — старшы рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».
Выдаў паэтычныя кнігі: «Маладзік над стэпам», «Рунець, красаваць, наліваццa!», «Нагбом», «Дойны конь», «Неруш», «Адам і Ева» і інш.

**ВІТКА Васіль** (Цімох Васільевіч Крысько) нарадзіўся ў 1911 годзе ў вёсцы Еўлічы Слуцкага раёна. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў. Зараз—галоўны рэдактар дзіцячага часопіса «Вясёлка». Узнагароджан ордэнамі і медалямі.
Выдаў кнігі: «Гартаванне», «Поўдзень», «Вернасць», «Ружа і штык» «Паверка» і інш. Аўтар п'ес «Прамень будучыні» і «Шчасце паэта».

**БОНДАР Таіса** нарадзілася ў 1945 годзе ў Рудзенску. Скончыла Дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў. Зараз настаўнічае ў Малдавіі.

**ЗАКОННІКАЎ Сяргей** нарадзіўся ў 1946 годзе ў Бешанковіцкім раёне. Скончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Працуе на камсамольскай рабоце.

**КАРПАЎ Уладзімір** нарадзіўся ў 1912 годзе ў г. Хвалынску Саратаўскай вобласці. Скончыў Мінскі педінстытут імя Горкага. Удзельнік партызанскай барацьбы на Беларусі. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў.
Выдаў кнігі прозы: «Без нейтральнай паласы», «За годам год», «Вясенніія ліўні», «Нямігі крывавыя берагі», «Сотая маладосць» і інш.

**МАЛЯЎКА Мікола** нарадзіўся ў 1941 годзе ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна. Скончыў філфак БДУ імя У. І. Леніна. Настаўнічаў, працаваў у раённай газеце. Цяпер працуе ў рэдакцыі літаратурна-драматычнага вяшчання Беларускага радыё.
Выдаў зборнікі паэзіі «Едуць маразы» і «Жалеза».

**МАЛЬЦІНСКІ Хаім** нарадзіўся ў 1910 годзе ў г. Панявежыс Літоўскай ССР. Вучыўся ў Віцебскім педтэхнікуме, у Кіеўскім інстытуце народнай асветы. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.
Выдаў кнігі вершаў: «Як жыццё, дарагое», «Бадзёрым крокам», «Без ценю», кніжкі апавяданняў і вершаў для дзяцей.

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 7**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ**. Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА**.
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ**.

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854—сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592—аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзела інфармацыі.

АТ 16538. Здадзена ў набор 29/V-1972 г. Падпісана да друку 27/VI-1972 г.
Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 15 066 экз. Зак. 977. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Мінск, Ленінскі прасп., 79.**

**• ЧЫТАЙЦЕ • ЧЫТАЙЦЕ • ЧЫТАЙЦЕ •**

## У БЛІЖЭЙШЫХ НУМАРАХ

**новыя аповесці**

Сцяпана **АЛЕКСАНДРОВІЧА**
Васіля **БЫКАВА**
Сяргея **ГРАХОЎСКАГА**

**апавяданні**

Паўла **МІСЬКО**
Івана **НАВУМЕНКІ**
Міхася **ПАРАХНЕВІЧА**
Васіля **ХОМЧАНКІ**

**вершы**

*Алеся **БАЖКО***
*Петруся **БРОЎКІ***
*Анатоля **ГРАЧАНІКАВА***

**• ЧЫТАЙЦЕ • ЧЫТАЙЦЕ • ЧЫТАЙЦЕ •**

**ЧЫТАЙЦЕ • ЧЫТАЙЦЕ • ЧЫТАЙЦЕ • ЧЫТАЙЦЕ • ЧЫТАЙЦЕ**

**ЧЫТАЙЦЕ • ЧЫТАЙЦЕ • ЧЫТАЙЦЕ • ЧЫТАЙЦЕ • ЧЫТАЙЦЕ**